# Змест

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**



# Кацярына Ваданосава

паэтка, музыка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Лаўрэат конкурсаў бардаўскай песні: «Пецярбургскі акорд — 2008», «ОРРА — 2009» і «Бардаўская восень — 2009». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дзікае паляванне

***

Забыцца. Пазбыцца. Змыць
Каханне, нібы атруту.
Ачысціцца. Зноўку жыць.
Глушыць у душы пакуты.

Забыцца. Пазбыцца. Зняць
Любові былой адзенне.
Быць вольнаю. Акрыяць.
Паверыць у летуценні.

Забыцца. Пазбыцца. Быць
Русалкаю бесклапотнай.
Не плакацца. Не маліць.
Смяяцца. Спяваць свабодна.

Забыцца. Пазбыцца. Стаць
Самою сабой. Вар'яткай.
Вучыцца наноў кахаць
Таго, хто кахання варты.

Забыцца. Пазбыцца. Жыць.
Расправіць шырока крылы.
Любіць. На ўсю моц любіць
І быць без цябе шчаслівай.

***

Ты пакажы мне, дзе мой дом,
Куды ісці мне праз гароту?
Дзе я знайду спакойны сон,
Каханне, гонар і пяшчоту?

Не да вакон пайду пустых
І не да зальных гулкіх нетраў,
Бо дом мой — проста там, дзе ты,
Дзе буду я слабой і светлай...

***

Маладзік узышоў над зямлёю,
Раскрычаліся жабкі ў балотах,
Я красуюся перад табою
Ў белым шаліку, новенькіх ботах...

А ты раптам цыгаркаю пыхнеш —
І адразу зробіцца млосна
Ад вачэй тваіх хціва-блакітных,
Ад маёй невыказнай мілосці.

***

Я кахала цябе, я чакала цябе
І ў сцюжу, і ў восеньскі змрок...
Прыбіралася сцежкамі, ў косы свае
Уплятала стужкі дарог.

Я нязгасным агнём аздабляла свой дом,
Каб у вокнах гарэла святло...
А за вокнамі — ноч і кастрычніцкі дождж
Біўся мокрымі крыламі ў шкло.

За дажджамі — імжа, за вятрамі — смуга,
Завірухі шляхі замялі...
Ты ішоў нацянькі, кожны крок — як іспыт
На заснежаным целе зямлі.

Сотні тысяч сцяжын ты прайшоў сам адзін,
Зведаў холад, нястачу, палон...
Зблякла памяць твая: на мой голас і твар
Ты забыўся, нібыта на сон.

Я кахала цябе, я чакала цябе,
Як ніколі ніхто не чакаў!..
Ты вярнуўся сюды, як пасланнік вясны,
Ў час, калі крыгаход рагатаў.

Бегла я да цябе... Ты ж... мяне не пазнаў...
Не ступіў да мяне на парог...
І зялёным дажджом заплаціла вясна
За табою няпройдзены крок.

***

Быццам у чыстых падлеткавых снах,
Я размаўляю з табой цішынёю,
І адбіваюцца блікі ў вачах,
Як у калодзежы з цьмянай вадою.

***

Злаві мой позірк у момант неспакою,
Калі імкнуся ўсім я даказаць,
Што не ўладарыць мроям нада мною,
Што не хачу нікога я кахаць,

Чакаць даверу, ласкі ды пяшчоты,
Пра ззянне зор бязглуздай балбатні,
Пісаць санеты ў прытарнай самоце —
Ты ў мае вочы пільна зазірні...

Убачыш ты сталёвы подых мора,
Свавольны вецер, ноч, халодны снег
І крык, што хоча вырвацца на волю:
«Каханы мой! Я гіну без цябе!..»

## Русалка

...Змеі белыя паўзуць
З-пад маіх змарнелых у дарозе ног...
Птушкамі чырвонымі ўспаміны пралятуць —
Не ўзгадаць мне, колькі ўжо адолена дарог.

Я ўпрыгожу валасы
Попелам халодным з вогнішчаў тваіх...
Адгукнуцца рогатам паўночныя лясы,
Рэха стогалоснае твой растрывожа слых.

З попелу мне паўставаць —
Белым дымам над ракой,
Знічкаю барвовай на пажарышчах згасаць,
Ветрам паміраць, і ў смерці здабываць спакой.

У кароне з сон-травы,
У строі з папараці я ў твой дом прыйду:

Заскуголіць нема твой сабака вартавы,
І дажджы атруцяць у калодзежы ваду.

Любы, не ўпускай мяне,
Не давай мне хлеба ў прагную далонь:
Мой прытулак — пустка, дзе крываўнік заінеў,
Дзе гарыць заклятай кветкай чэрвеньскі агонь.

Пабудзі мяне хутчэй —
Я блукаю ў чорных снах...
Кветкі прарастуць з маіх знясіленых грудзей,
Зоры загарацца ў белых стомленых руках.

## Санет

Прыходзіць ноч у мой спусцелы дом,
Кладзецца ціха на падлогу, сцены...
А для мяне ўсё звыкла і нязменна,—
Застылы свет ахутаны ільдом.

Спыніў гадзіннік мой хвілінам лік...
Я змену дзён не адчуваю болей...
Ўсіх клічу на зімовае застолле —
У адзіноце патанае крык.

Не прачытаць табе маіх санетаў,
І не кранае музыка мая
Тваёй душы, такой чужой і светлай...
О перарві ж ты мой ланцуг жыцця,
І я прыму дарунак запаветны —
Пустэчу сноў і холад забыцця.

## Калыханка для дачкі

Слухай, маё дзіцятка,
Як вецер пяе за сценамі,
Слухай, мая зязюлька, —
Кудзелю зіма прадзе...
Зімовыя казкі-згадкі
Халоднымі злымі ценямі
Няхай застаюцца звонку,
Без права спужаць цябе.

У непаслухмяных ручках,
Пяшчотных слабых абдоймах
Трымай свае лялькі-цацкі
Ды іх барані ад зла...
Усё, што завея ўзрушыць,
Я сцішу ды супакою,
Бо кожны твой лёгкі подых —
Мой цёплы промень святла.

Прывіды зімы ды ночы
Не змогуць сюды пралезці,
Не змогуць да нас дабрацца
Нястача, мароз ды страх,
Бо незлічона моцы
У мацярынскім сэрцы,
І незлічона сілы
Ў жаночых худых руках.

Вечным не будзе холад,
Цемру прагоніць сонца,
Кладу я ў твае далонькі
Нізку чароўных сноў...
Спі, мой заступнік кволы,
Наіўны мой абаронца,
Не бойся, маё дзіцятка,
Мой мілы слабы анёл.

## Калыханка для сына

Спі, мой сынок,
Прэч сыдзе змрок,
Месяц узышоў над зямлёй.
У Шчодры вячор,
У добры вячор
Зоры падораць спакой.

Спі, любы мой,
Ціхай зімой
Я залюляю цябе.
З марай у руцэ,
У зорнай рацэ
Месяц, бы човен, плыве.

Як на Раство,
У зорную ноч
У небе лятае анёл.
Ён пакрысе
Сон прынясе,
Снегам засыпле дол.

Дзеткам усім
Добрыя сны
У люлькі анёл пакладзе,
Казак вянок, песняў клубок,
Сонечных дзён і надзей...

У небе начным
Нам далячынь
Зоркай каляднай гарыць...
Новых нябёс,
Новых дзівос
Дай жа нам, Божа, здабыць.

## Калыханка для каханага

Засынай, каханы мой,
На маім плячы.
Я нядоўгі твой спакой
Буду берагчы.

Зоры свецяць з вышыні,
Ўнізе спіць зямля,
Ціхім снегам лягуць сны
На далёкі шлях.

Заўтра будзе новы дзень,
Згасне Арыён...
Апавіў пяшчотны цень
Наш халодны дом.

У нябыт адыдзе страх,
Не кране бяда,
Будуць зноў ў тваіх вачах
Сонца ды вясна.

Засынай, каханы мой,
На маім плячы,
Сціхне вецер над ракой
І ў тваёй душы.

***

Пабудзі мяне цішынёй,
Набяры маўчанне ў далоні,
Хай восень празрыстай вадой
Нашыя вокны запоўніць.

Хай час перапыніць бег,
Хай сціхнуць вятры ў спакоі,
І верасень, як каўчэг,
Нас забярэ з сабою.

Пабудзі мяне цішынёй,
Упляці ў мае косы неба...
Нам гэтак мала з табой
Для існавання трэба.

Белыя-белыя дні
Адбіваюцца ў мокрых вокнах,
Сны ад вясны да вясны
З песняй дажджу адзінокай.

***

Непрадказальны мой анёл,
Гарачым золатам душы
Мяне адорыш,
Ці проста спаліш?..
Што будзе заўтра, адкажы?..

Ў тваіх напружаных руках
Я сёння бачыла агонь:
Ён разгараўся
Чырвонай кветкай
Ды апякаў тваю далонь.

Ляці ж у неба,
Няхай пад ветрам
Звініць лязо твайго крыла...

Я не хачу, каб ты ішоў са мной
Там, дзе вечная імгла.

Над галавою —
Мільёны зорак,
А пад нагамі — горкі пыл...
Свабоду волі я дару табе,
Каб жыў ты. Бясконца жыў.

У доўгіх цёмных валасах
Мільгнула срэбрам сівізна —
Узнагарода
Твайму служэнню,
Харобрасці ды болю знак.

За мной ты крочыў сотні дзён,
Ты саграваў мяне ўначы,
Абдоймы крылаў
Абаранялі
Ад жорсткіх слоў ды рук чужых.

Калі жадаеш,
Я буду смелай,
Я працягну сваю далонь:
Нібы пялёсткі ружаў трапяткіх,
З рук тваіх вазьму агонь.

Я адпускаю
Цябе на волю —
Не варта быць маім слугой:
Таму, хто з крыламі народжаны,
Патрэбна лётаць над зямлёй.

## Хваля

Стаю ды яе чакаю —
Бездань вады і змроку..
Бачу, як ахінае
Неба, святло, аблокі...

Над галавой завісне
Цьмянай глухой сцяною,

Хутка задушыць, сцісне
Шумам і цішынёю.

У імгненні — мільёны песняў,
Тых, што ламаюць косткі...
Памерці ды зноў уваскрэснуць
Зараз здаецца простым.

Заспакаенне.
Замілаванне.
Хутка насцігне.
Зараз паўстане.
Перад ударам
Рукі раскіну —
Крылы над пенай...
Мора па венах...

Яна насцігае.
Яе заклінаю.
Захлынаюся
Хваляй.

## Касінерскі баль

Як на баль сёння мы сабраліся
Пры дарозе, ад снегу сівой,
Станчыць польку, душой узвесяліцца
І мазуркаю ўсцешыць канвой.

Не насілі ніколі камзолаў,
Але сёння заместа сярмяг
Апранулі шляхетныя строі,
Годна выйшлі на гжэчны парад.

Як фацэтна ў манжэтах кайданаў,
У новым гальштуку моднай пятлі!..
Быць жывымі нам больш не да твару,
Бо жывых не так шмат на зямлі.

Кожны быў для яе верным сынам,
Ды для шчасця чагось не стае:

Яшчэ раз паслугуем Радзіме —
Абаронцамі станем яе:

Верна службу нясуць касінеры,
На дарогах пільнуюць спакой,
Дапамогуць адлегласці мераць —
Гэткі роўны тут шыбеніц строй.

Як далёка відаць з эшафота!..
Промні сонца кладуцца на дол,
На зямлю, што крывёю і потам
Палівалі мы сотні гадоў,

Дзе мы шчасця ніколі не зналі,
Дзе за волю патрэбна сканаць,
Дзе сякеры і косы кавалі,
Каб крывавае збожжа збіраць.

Ад калысак да шыбеніц строгіх
На паверку нядоўга ісці.
Мы загінем нямарна, панове,
Бо прыспелі нямала ў жыцці.

Цесна душам ў
грудзёх без свабоды,
Прагнуць удалеч хутчэй паляцець,
Каб над роднай зямлёй назаўсёды
Жаўрукамі застацца звінець,

Каб набаты ўжо больш не грымелі,
Некрывавай была сенажаць,
Каб галовы маглі касінеры
Не людзям — канюшынкам сцінаць.

## Раманс

Не падавайце мне надзей,
Не абяцайце мне кахання,
Дазвольце звыкла надалей
Нясці, што мне наканавана.

Я не хачу мяняць спакой
На трапяткія летуценні:
Не заставайцеся са мной —
Я гэтай долі не хацела.

Вы — толькі лёгкі дзіўны сон,
Што мне прысніўся на світанні,
Я не хачу да Вас ў палон
І не хачу шукаць спаткання.

Мяне Вы ўзрушыць не змаглі,
Мне перад Вамі не скарыцца,
Вы вечным сонцам не былі,
А толькі хуткай бліскавіцай.

Нам не глядзець ў люстэркі зор,
Не сумаваць пры развітанні,
І не для нас пляце узор
Лісцё дарогай палымянай.

Я не хачу пустых пакут,
Пустога смутку і адчаю,
Я сэрцу вынесла прысуд,
І Вас кахаць я не жадаю.

Не падавайце мне надзей,
Не абяцайце мне кахання.
Дазвольце звыкла надалей
Нясці, што мне наканавана.

## Вясна

Аднойчы на досвітку, ціхай парой
Па вуліцах, плошчах, садах
Яна пройдзе маршавай цвёрдай хадой,
І горад абудзіць яна.

Яна не дазволіць нам спаць і сядзець,
Раптоўна ўвесь свет скалыхне,
І вуліцы здзіўлена будуць глядзець
На лёгкую постаць яе.

Бо гэта вясна, яе не стрымаць
І не падзецца нідзе
Ад сонечных промняў, ад думаў і мар,
І сентыментальных надзей.

Бо гэта вясна, яе не спыніць,
Ёй трэба паўсюль паспець.
І хочацца верыць, і хочацца жыць,
І сонцу насустрач ляцець.

І людзям надоўга спакою няма
Без сну ад відна да відна.
А як жа іначай? Іначай ніяк,
Бо гэта, вядома, вясна.

І як і раней, у статысячны раз
Яна прайграе ізноў
І марш навальніц, і сонечны вальс,
І «Марсельезу» дажджоў.

## Дзікае паляванне

Чую аднекуль, нібы здалёк
Доўгі самотны покліч!
Гэта трубіць старажытны рог,
Гараць знічкі згаслых вогнішч.

Восеньскі вецер зашуміць,
Зноў ажыве паданне,
І над балотамі праляціць
Дзікае паляванне!

Не пакідаючы слядоў,
Чорныя коні скачуць,
Коні без цugляў і без падкоў,
Ценяў іх не ўбачыць,

А вершнікаў твары схаваны ўначы,
Яны — маўклівыя здані,
Ззяюць смяротным святлом мячы
Дзікага палявання.

Наперадзе постаць мінулых дзён —
Кароль ў залатой кароне,
Не зможа ніколі спыніцца ён
Ў адвечнай сваёй пагоні.

Месяц між хмар і лапы ялін,
Багна пад капытамі,
Сівая легенда глухіх мясцін —
Дзікае паляванне.

Наміткай белай туман ляжыць
Над рэкамі і палямі,
Змрочнай маўклівай хмарай ляціць
Дзікае паляванне.

Вялікага Княства ваяры
За далягляд імкнуцца,
Каб захавалася на зямлі
Легенда аб Беларусі.




# Аляксей Курэтаў

паэт, празаік. Студэнт Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Аўтар эсэ «Яма ў небе», адзначанага стыпендыяй імя Міхася Стральцова. Нарадзіўся ў 1994 годзе ў Мінску. Жыве ў Вільні.

# Мая малітва

## Не варта

Не варта словам слаць дакор паэту
За моўч яго бясспынных сціплых думак.
Паэт маўчыць. Напэўна, гэтак трэба...
Напэўна, ён сам-насам разам з сумам.

Яго турзаюць дзіды вечных здзекаў,
Яго турзае горыч страшнай страты,
А ён бязмоўна льецца злосным смехам
І новы покліч піша свой стракаты.

Не варта снам паэта слаць прысуды,
Ў правіну й ганьбу ставіць творцу мроі.
Паэт не спіць — ён проста сном крануты,
Ён проста зараз ад запалу ў стоме.

Яму скарыцца свет няісных фарбаў,
Ды слова ўстане, як жаўнер, у шэраг.
Паэт, магчыма, больш лагодным стаў бы,
Але сядзіць у ім шчэ крыўда зверам.

Праклёны вязню музы слаць не варта —
Не варта гэта столькіх цудаў зніклых.
Паэт ляжыць...Аднойчы, ён паўстане,
Аднойчы, возьме карны меч Феміды!

***

Свабода мая раскідана
Карцінамі на сцяне.
Узоры, абрысы й выгляды
Малююцца ўва сне.
Калісьці за рамай партрэтнаю
Адчыніцца новы свет,
І стануць жывымі аб'ектамі
З паперы макеты планет,
І тонкаю лапкаю пэндзаля
Напішацца новы гук,

За бачнымі розуму крэсамі
Ў абдымках знаёмых рук.
І я нечакана і ветліва
Сустрэну аб'ёмны век!
Карціны вісяць адметныя
Свабодаю на сцяне.

***

**В**еліч сабраў з атрамантавых ніцяў,
**Е**днасць і волю даў ім, каб з'явіцца.
**Р**эшткаў няма — існуе ён сістэмна,
**Ш**эпатам розуму гучна ў этэры.

***

Тэрмічная смерць Сусвету —
Усё загінае навокал!
У скрусе зірнуў Архітэктар
На калапс цэлай зорнай эпохі.

Напэўна, занадта часта
Ў пытаннях мы ставілі кропкі
Ды мабыць сваёй цёмнай масай
У небе закрылі ўсе зоркі.

Планеты скаваныя смерцю —
Нічога не грэе іх болей.
Арбіты спаганены смеццем,
Сістэмы здранцвелі ў няволі.

Быццё гадавала вечнасць
Ды гэтую вечнасць згубіла.
Канец надышоў зорнай эры —
Эпоха прыйшла чорных дзіраў...

## Мая малітва

Я
ёсць
жыццё.

Зараз
і
тут,
на Зямлі,
у думках,
і на паперцы,
светам эмоцый,
рухам сігналаў нярвовых,
крывёю ды сэрцам.
Пакуль
на шляху
Я
да смерці,
на жаль,
нескаронай,
маю
досыць
запалу
ў Знічы
маім
чалавечым.
І крэйдай лёсу
па
стомленых
ад зорак
нябёсах
пішу оду,
малітву
сабе
і гімн,
каб у Сусвеце
застацца
вечным!..
Назаўжды і аднойчы
Аз есмь!

Амін...



# Вікторыя Смолка

паэтка. Студэнтка 3 курса Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Вершы друкаваліся ў калектыўным зборніку «Паэзія мегаполіса». Нарадзілася ў 1996 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

# На нябесных скрыжалях...

***

Калі белы снежань загляне ў акно твае хаты
І коўдру халодную ў садзе ружовым пасцеле,
Няхай прыляцяць да цябе мае вершаняты,
Бы птушкі, што ў Вырай за мною не адляцелі.

Няхай іх сустрэча з табою бывае штогодняй...
Зноў птушкі-радкі залунаюць у вечар растання,
На крылах табе прынясуць не паштоўку з Гародні,
А сэрцабіццё маёй мары, надзеі дыханне...

***

Не буду плакаць, — я скажу...
Скажу, але на самай справе
Суцешыць не магу душу,
Якая плача на вакзале.

Вясенняй птушкай прыляці,
Парадуй музыкай гаючай,
Калі мне зробіцца ў жыцці
Ці адзінока, ці балюча.

Ты прыляці увосень, як
Паснуць шыпшынавыя ружы —
І сэрца вершаваны птах
На крылах кожную закружыць...

***

У пакоі, ў якім фартэп'яна жыве,
Не гляджу на гадзіннік ніколі.
Там пад пальцамі музыка-вечнасць плыве,
Сэрца будзяць дыезы, бемолі...

Раскідае мелодыя ў думках спакой,
Як зярняты жытнёвыя колас.
Дакрануся да клавіш чароўных рукой
І пачую здалёку твой голас.

І акорды заплачуць, як дождж у вакне,
З той танальнасцю сумна-лірычнай...
Твой сапранавы голас абдыме мяне
У апошні дзяцінства кастрычнік...

***

Не адгучыць, не памрэ твая песня —
Яна з душы-аблачынкі льецца.
Мне нарадзіцца яшчэ раз увесну,
Табе — улетку, а ўвосень сустрэцца

Нам, птушанятам — кастрычніцкім дзецям,
І як пара залатая, нявечным.
Няхай яшчэ раз нас злучыць на свеце
Твая прыгожая песня сустрэчы...

***

Гарадзенскага сэрца пасланне
Вершанятка ў дзюбцы прынесла.
Перадайце маё прывітанне
Ў ціхі вечар бясснежнаму Менску.

Што сняжынкаю-знічкай бязважкай
Над Гародняю неба сумуе
Раскажыце яму, калі ласка.
Хай над вуснамі Бог апякуе.

Хай сняжынка душы заіскрыцца,
Над музейнай Максімавай хаткай,
Калі там, у бясснежнай сталіцы,
Залунае маё вершанятка...

***

Ён Госпадам пацалаваны
Быў перад сустрэчай з матуляй —
Той светлы маленечкі тварык,
Прапахлы Хрыстовай кашуляй...

Паплачце ад шчасця, бо трэба,
Каб слёзы заззялі вясёлкай,

Увосень паслала вам неба
Дзіцятка — святога анёлка...

***

На нябесных скрыжалях не цёмна:
Вочы сэрца святло заўважаюць...
Пакалышуць сыночка анёлы,
Тваю песню яму праспяваюць.

Хай прысніць залатое дзіцятка
Залатую усмешку матулі
У пару, калі сумныя браткі
На акне лістападным паснулі...

Лёгка неба над Свеціцхавэлі
Абудзіла нячутная песня —
Бо не змоўклі ў душы, а сцішэлі
Успаміны святога маленства...

***

Не адпускай маёй рукі
З далоняў цёплых тваіх думак,
Любі дзіцячыя радкі —
Любі як Божы падарунак...

Няхай аддушынай табе
Яны паслужаць колькі трэба.
Заўжды малюся за цябе,
Калі дажджом спявае неба.

Прыедзь ці ў госці запрасі,
Каб разам Богу заспяваці.
І пры сустрэчы абдымі,
Як абдымае дзетак маці.

Зімой расстайнай ўспамінай...
Цягнік жыццёвы вельмі хуткі —
Ў душы тваёй цвітуць няхай
Заўжды святыя незабудкі...



# Марыя Магдалена Палхоўская

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Чорная Панна

## Падарожны партрэт

Высокія скулы
Хваля валасоў
Паслухала
Павяла брывом
Тонкія рукі
Сплятаюць косы канатам
Б'е па скронях
З думак салата
Прыбралася
Сабралася
Валіза на плячы
Сышла ў начы

*01.02.2014*

***

Перажыць зіму
Дачакацца вясны
Ухапіць лета
Патануць у восені

*2013*

***

Напаўняюся
Раствараюся
Ачышчаюся
Буду новая я
Буду нанава жыць

*01.02.2014*

## Я толькі кропля

І няхай я толькі кропля
Я больш не дам сябе разбіць
Я разаб'юся аб дол сама
І напэўна, стану вадой
І мне будзе балюча ад промня сонца

Што стралой праб'е маё срэбнае сэрца
Але я заіскруся
І ніхто не ўбачыць
Што сонца мяне забівае цяплом
Я больш нікому не дам сябе разбіць
І няхай мяне стане невыносна шмат
Калі я ўпаду на дол
І тысячы маіх кавалкаў
Стануць травой
Я не дам сябе больш разбіць
Я буду выбіраць
Стаць мне дажджом ці россыпам сонца

*03.02.2014*

***

Я ведаю,
Што ты сыдзеш
З майго жыцця
Ірвучы мяса
З майго цела
Ну што ж..
Ідзі...
Гэта зіма была надта халоднай

*03.02.2014*

## Радзіма

Як цела ёсць домам душы
тут у зямным жыцці
Так мая краіна
ёсць домам для дома
маёй душы
тут на зямлі
Так важна..!

*25.03.2014*

## Мой казачны свет

Я правярала свае межы па перыметру сценаў
Свае ўмацаванні з акуляраў і валасоў, і чорнай вузкай спадніцы
паркалёвыя гмахі

павуцінныя дахі дамоў
мой нерэальны казачны свет
з сонечных шляхоў і зорных разблытанных сцежак
пад музыку-звон маленькіх срэбных кольцаў
на доўгім ланцужку ад гадзінніка і срэбных пярсцёнкаў
на тонкіх пальцах
іду-іду па мармуровых сходах свайго празрыстага замку
дзе кожны вечар і ранне
я правяраю свае межы і ўмацаванні

*27.03.2014*

## Верш

Я скончыла цябе мой верш
Ты праціснуўся скрозь пальцы доўгімі радкамі
Я пацалую ліст белай паперы
На якой ты нярвова ўладкаваўся
Зачаплю за цябе танклявы клічнік
і цікаўны знак пытальніка
усё што нясказана
запоўню таемным трохкроп'ем
ці кропкай адной
калі бегчы ўжо
не будзе куды

*28.03.2014*

## Самотны трыялет

На сон яшчэ не цягнецца
Хоць неба ў фіалет
Магчыма яшчэ й напішацца
Самотны трыялет
Дрыжачую ад холада
У пух прымае плед
Магчыма яшчэ й напішацца
Самотны трыялет
Здалёку дзесь даносіцца
Няскончаны куплет
Магчыма яшчэ й напішацца
Самотны трыялет
У руцэ звініць-трапечыцца

З металу бранзалет
Магчыма яшчэ й напішацца
Самотны трыялет
У прыцемках пад раніцу
З'яўляецца паэт
Магчыма яшчэ й напішацца
Самотны трыялет

*05.06.2014*

## Чорная Панна

Ты — памяць
Ты цень, што блукае па парку
старым, недагледжаным,
амаль што лесе
Ты кроўю сваёй заняла гэта мейсца
на выцвілых партрэтах
ды старонках бацькоўска-дзедавых запаветаў

Тваё каханне сталася тваёй паўнатой
Соладка ўварвалася
праз таемныя калідоры палаца
Адарыла цябе пяшчотай
Твой род — каронай
Узвысіла і зняславіла
І забіла, урэшце, Боны рукой

Той, хто быў вінен і нявінны
захаваў у памяці вашыя абяцанні
і смак тваіх вуснаў на вуснах
Мітусіўся ў начы і клікаў «Барбара!»
Ты не магла прыйсці.
Кароль кахаў цябе. Кароль быў закаханы.
Кароль быў як у насланні

Межы пяройдзены, правіла парушана
Галоўнае цяпер не дакрануцца!..

Хто ведае, ці ты радавалася гэтаму спатканню?
За позірк каханых вачэй, ты змушана
Блукаць навечна Чорнай Паннай

Па старым недагледжаным парку
амаль што лесе,
абмінаючы сажалкі ды альтанкі
і таямніча з'яўляцца на калідорах ды сходах
Радзівілаўскага замку

*19.09. 2014*

***

Не ведаю большага захаплення,
Чым убачыць мужчыну на каленях
Вялікі і моцны
Такі сучасны
Схіліўся прад Богам — захапленне ў кантрасце
Не чула нічога прыгажэйшага
За малітву мужчыны
За сябе, за сям'ю, за зямлю, за Радзіму!

*30.08.2014*



# Дар'я Дарошка

паэтка, бард. Лаўрэат шматлікіх паэтычных і песенных конкурсаў. Аўтар кнігі паэзіі «В Начале» (2012 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Чароўнае кола

***

З самага ранку скамечаны дзень,
Быццам сукенка з чырвонай фланэлі...
Недзе пад поўняй згубіўся твой цень.
Што ты без ценю? — Дзіця без арэляў,
Шчасце без суму, бяссонны спакой,
Месяц без зорак, пярсцёнак без шлюбу,
Снежань без снегу, і мова, якой
Слоў не хапае «каханы» і «любы».

## Надвячорак

На світанку ночы — на зыходзе дня —
Месячык пяшчотна цешыў кацяня:
Казытаў жывоцік, плямкі ўздоўж спіны,
Мармытаў ледзь чутна між аблокаў сны,
Баяў сон пра татку — добрага ката,
Размалёўваў казку ў колер малака.
Я сяброў частую цёплым малаком,
Запрашаю шчасце ў мой утульны дом!

***

Калі ўжо ўсё закончыцца,
Калі ўжо ўсё адбудзецца
І вершы ўсе напішуцца,
І мары адцвітуць,
Напэўна нам захочацца
Хоць крышку замарудзіцца
І нават неяк сцішыцца,
Каб затрымацца тут.

***

Жывыя мы жніўнямі,
Ліўнямі сінімі дыхаем мы.
Зоркамі з неба, міглівымі, верым мы, марым мы.
Сонцамі летнімі, чулымі, мілымі крочым мы.
За небасхілам схаванымі мроямі снім.

Шчасцімся ветрыкам і апельсінамі рыжымі з рынка вакзальнага.
Цешымся берагам, белым сняжком прыцярушаным.
І навальніцамі жоўта-мядовага колеру, спелымі, спім...

***

Мінулыя звычкі, мінулыя рыскі —
Усё, што бруіла, цяпер толькі нізка
Народжаных вершаў пра свет і жалобу.
І будуць камусьці яны да спадобы,
І будуць камусьці яны, як атрута —
Пранізлівым ветрам у восеньскі смутак.

## Чароўнае кола

У светлым коле родных і сяброў
Утульна, цёпла, радасна і лёгка.
У карагодзе досвіткаў і сноў,
У танцы на паверхні свету крохкай
Яно абараняе ад зімы —
Ад ледзяного подыху навалы,
Ад груганоў унутранай турмы,
Што на пустэчы страху панавалі.
Чароўным колам агароджу свет:
Цяпер маёй любові дастаткова,
Каб ад зімы пазбавіць сто планет!
Мне дорыць сілы сонечнае кола
Маёй сям'і.

## Сапраўдны мужчына

Месяц зорку абдымае
На прасціне неба сіняй.
Прыгажосць, аж дух займае!
Толькі хутка зорка згіне.
Будзе месяц у самоце
Цалаваць яе сястрычак —
Пагражаць іх зорнай цноце.
Месяц не мяняе звычак —
Бо сапраўдны ён мужчына!

***

Яблык спелы, працяты сонцам,
Закаханы ва ўвесь сусвет,
Па глыточку, да сэрца, да донца
Вып'еш як паратунак ад бед.
І закончацца хвілі знямогі,
І вясёлкі пачуеш уздых.
І паклічуць у далеч дарогі
Ў гэты сонечны, яблычны міг.

***

Ізноў памылілася. Я меркавала,
Каханню твайму і ста зім будзе мала,
Каб згасла яно. А што адбылося? —
Памерла каханне ў першую ж восень...



# Алена Масцерава

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1983 годзе ў вёсцы Лагаза на Лагойшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Зарапад мараў...

## Сябру ў дарогу

Збіраеш пачуцці ў валізу —
Спагаду, любоў, дабрыню.
Далёка, дзе пашпарт і віза,
Кладзеш успамін пра сям'ю.

Распіхваеш зноў па кішэньках
Усмешкі і словы сяброў,
Падтрымкі, прачуласці жменькі
Хаваеш да лепшых часоў...

Калі табе здарыцца часам
Прамовіць: «Усё. Не магу...»
З такім пачуццёвым запасам
Ты зможаш адолець тугу.

***

Што ты, месячык, маркоцішся сягоння?
Горка нос павесіў на страху?
Зразумеў, што красна лета не дагоніш?
Што згасае жнівень на бягу?

Не сумуй, мой мілы месячык, не трэба
Наганяць тугу на спелы сад,
Што глядзіць у захапленні ў неба,
На імклівы мараў зарапад.

Час раскошы для яго зусім кароткі:
Хутка восень, а за ёй — зіма...
Не сумуй, сябрук!
Вось яблычак салодкі —
З'еш, агрызак запусці ў туман!

Разгані хутчэй самотныя трызненні
І лаві апошняе цяпло,
Што нам дорыць жніўны подых разамлелы...
Прэч тугу! Шчэ лета не прайшло!

## След Багародзіцы

Кажуць, гэта Багародзіца ступала.
Пакладзі ў слядок сваю далоньку:
Камень сілы дасць табе,
Усё ж нямала
Праляцела ўжо стагоддзяў, донька,
Як прыдумалі легенду беларусы
Аб нябесным, светлым, добрым цудзе.
Ахвяруюць і цяпер, не па прымусе,
Кветкі, грошы і малітвы людзі.
Дакраніся — і пры дотыку адчуеш
Сілу думак, мараў, спадзяванняў,
Бо маліліся тут вернікі прачула,
Іх надзеі мелі тут прыстанне.
Памаліся ты таксама, мая донька,
Папрасі, чаго душа жадае,
І няхай твая маленькая далонька
Цеплыню стагоддзяў адчувае.

***

Не катуй ты мяне, не катуй
Жарам гневу, маўчання холадам...
Абдымі, прытулі, пашкадуй
І пяшчотным прылашчы поглядам.

Ты забыў, што ў нас сэрца — адно,
Што жыццё паасобку — марнае,
І глядзіш адзінока ў вакно,
На свінцовае неба хмарнае.

Хопіць марыць, што будзе пасля,
Што пазней зажывём напоўніцу...
Каб любоў не згубіць спакваля,
Раскатурхай душу-нявольніцу.

***

Прыляцелі сорак саракоў,
Столькі ж маю і ў сабе грахоў...

...Сум, нянавісць, шал, распуста, гнеў,
Роспач, зайздрасць, злосны д'яблаў спеў...
Я малюся, каюся — дарма,
Бо і ў сэрцы, і ў душы — зіма...
Жаўранку! Прашу, званчэй спявай,
Грэй маю душу і родны край!

***

Я жыла у роспачы і скрусе,
І душа самотна вандравала,
покуль слова пра жыццё Ісуса
зоркай веры ў сэрцы не заззяла.
І не стала страху і сумненняў,
Да цябе з пакораю малюся,
Ты прыносіш нам усім збавенне,
Слаўлю я імя тваё, Ісусе.

Ісус — у небе.
Ісус — у сэрцы.
Ісус — з табою
мы ідзём па жыцці.
Дзякуй за надзею
І за міласэрнасць,
За любоў і ласку,
За святло ў душы.

Часам мы таго не разумеем,
Як малітва нам дапамагае.
Думаем, нічога не здалеем,
і ў адчаі рукі апускаем...
Калі стане цяжка жыць на свеце,
калі свет здаецца сумна-горкім —
паглядзіце — ў небе ярка свеціць,
ззяе вера Віфлеемскай зоркай.

***

Дзень учарашні ўтапіла ў слязах,
Сённяшні дзень акрапіла надзеяй.
Што будзе заўтра? Трывога і страх...
Так і мінае жыццё сумнай дзеяй...

## Душа

Белая цёплая супніца
З духмяным гарбузовым супам
Стаяла на ўскрайку стала
І малілася:
«Родныя вы мае, дарагія!
Вазьміце мяне ды ў рукі,
Пасуньце ад страшнага краю
У больш бяспечнае месца,
І я накармлю смакатою,
Як кожны дзянёк вас заўсёды карміла.
Пачуйце мае вы просьбы,
Няўжа гэта цяжка так?»
Аднак за сталом сядзелі,
Смяяліся і чакалі.
Малодшыя забаўляліся:
Разаб'ецца ці не разаб'ецца.
Яны адчувалі бяспеку
І бесклапотнасць, бо ўсё вакол
Стваралася толькі для іх...
А вось сярэдні — філосаф —
Думаў: «Калі і зваліцца,
Дакладна, не разаб'ецца,
Як заўсёды яна вытрымлівала
Ўсе хваляванні і ўдары».
І, не адчуваючы сувязі,
Цеснай гармоніі з ёй,
Такі ўвесь спакойны і чысты,
Стараўся ўдаваць абыякавасць,
Хаця ў сэрцы звінела трывога...
Самы старэйшы — злаваўся:
«Уздумала стаць на ўскрайку,
Ніколі ёй не сядзелася,
Заўсёды кудысьці імкнулася!
Супніца павінна карміць,
І нічога болей.
Яе галоўная функцыя —
Падтрымліваць сытасць у страўніку.
А яна, у марах летуценніца,

Нават страву прапануе далікатную —
Гарбузовую, французскую, нясмачную.
Карацей, мая бядотная ты супніца,
А трымай сама сябе ў руках!
Звалішся — твае праблемы...»
І стаяла так у вільгаці супніца
(усе думалі — то пара, а не слёзы),
Адчувала яна толькі два шляхі:
Патрэскацца і страціць прыгажосць і моц,
Але сябе ад краю перасунуць.
Ці...
Сметніца заўсёды будзе рада
Бялюткім парцалянавым аскепкам...



# Сяргей Сурыновіч

паэт, святар. Магістар тэалогіі. З 2014 года — дактарант кафедры Біблістыкі Варшаўскага ўніверсітэта імя Стэфана Вышынскага. Аўтар кніг паэзіі: «Летуценнік» (1999 г.), «Пакліканне»( 2000 г.), вершаванай містэрыі «Батлейка»(1998 г.). Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Лугамавічы на Іўеўшчыне. Жыве ў Друі на Браслаўшчыне.

# Вяртаецца Край мой да Бога...

***

Мне цяжка зараз без цябе —
Чакаю, сціснуўшы ад болю
Наперакор маёй журбе,
Ашчэпкі сілаў, моцы, волі...
Надзею рву, крамсаю час
Жыву сустрэчай, раставаннем,
Каб зберагчы цябе і нас
Я ахінуў свой лёс змаганнем.

## Калыханка

Пішчыць закінуты асвер,
Там-сям пуклее брукаванка.
Знямеў ваколіцы бязмер —
Струхлела старасцю альтанка.
Апараніўся ў хату цень,
Трашчыць на ясені буслянка.
Ссівеў ад стомы летні дзень —
Ляціць з ваколіц калыханка.
На небе чырвань. Сонцапад,
Гарыць нябёсаў вышыванка.
Дабранач — шэпча сонны сад —
Бывай, мой край.
                    Пакуль.
                              Да ранку.

## На прысвятак дня

Падалеў ночы змрок,
Павышэла святло —
Зараніца за крок
Галам высветліць дно.

Ачуняе сяло,
Што хавае сліўняк —
Адшукае вясло
Недаспаны рыбак.

У кустах над ракой
Птушкі вытвараць спеў —
Пабялеюць імглой
Кроны стомленых дрэў.

Між цыб'я дзіўны цвет
Парасіла зара —
Дыяментаў букет
Дорыць сонца пара.

Разнасцяжыў прастор
Для вятрыска гульні,
Што падрапаўшы бор,
Паласкаў камяні.

Смела ўдарыў вадзе
У запужаны твар,
Што на поле прадзе
Белым покрывам мар.

Бы вясёлкі дугой
Палавее пара —
Сцемеў змрок над зямлёй,
Змоўкла ў лесе сава.

Перасціхнуў скавыш,
Што згрымзаліў дзірван.
Пазакінуты крыж
Рассякае туман.

На крыжы тым ручнік
Саматканы з ільну —
Ў ім узораў бязлік
Абвяшчае вясну.

Пад крыжом васількі
Бы люструнак нябёс —
На крыжы без рукі
У распяцці Хрыстос.

Пад бусліным крылом
Ён пакідзішчам стаў —

Аксамітным плашчом
Зеляніць медны сплаў.

Між стагоддзяў камет
Ён не спалены лоўж —
Скрыжаваў запавет
Папярок і ўздоўж.

Прытуліў да сябе
Горам стомлены люд —
Абвяшчаў аб вясне
Абяцаў з неба цуд.

Зломак мокры расой,
Сімвал новага дня —
Па-над грэшнай зямлёй,
Як крыніца святла.

І на прысвятак дня,
Што завецца Вялік —
Сонцамззяе зямля,
Змрок зласнеючы знік.

***

Мне патрэбны арлінiя крылы,
Каб лунаць над маёю Літвою:
Наталіўшы крыніцамі сілы,
Золкам раны скрапіўшы расою,
Узляцеўшы імгненна ў сусветы,
І сабраўшы сузор'і ў далоні, —
Непагасным святлом абагрэтым,
Іх змясціць у радзімы ўлонні.
Каб яна спарадзіла фальваркі,
Ўваскрасіла крыжы і капліцы,
Камяністыя замчышчаў каркі
І магутныя сцены сталіцы.
Мой Наваградак стромкі паўстане,
Пагатоў свіст заціхне скавышу.
Затаіцца абшар у тумане,
Увабраўшы адхланне і цішу.

Заблукае чужак дзесь у полі,
Нібы хлуд, што стаптала дарога,
Застанецца пустым ён, без долі —
Бо вяртаецца Край мой да Бога.
Не іскрыце варожыя вочы,
Што радзіму маю спапялілі...
Чорным дымам і покрывам ночы
Скрозь дыханне шапталі, глумілі:
Не ўваскрэснуць муры анігаткі —
Твайго ўзлёту тандэтная рата:
Азярышчам схаваны забыткі,
Ўся Літва, бы абдзертая шата.

***

Не перайсці мне даўні брод,
Што ў повадзі зглыбеў нямой слязіны; —
Закамяніў у жылах, сціснуў лёд
Пачуццяў гронкі палкія каліны.

Не пераскочыць праз імглу,
Што зрок спякла на дзірванах надзеі, —
Непераборліва дабру і злу
Струшыла крок пяшчынкамі ў веі.

Нязможна ўперад — толькі стаць:
Закрыцца, адхіліцца ад люструнку,
Што накідала, начапіла гвалтам гаць, —
Маліць у неба моцы паратунку...

***

Зайшоў ужо над рэчкаю
Круг сонца залаты,
І шэпчуць казку даўніх дзён
У жоўцені лісты.
Далёкі голас чутны стаў,
Далёкі чутны спеў,
Калыша на траве расу
Лагоднасці павеў.
Казыча промень ночы дол,
Трывожыць сон лясоў,

А пах мядовы траў сухіх
Завіс вакол палёў.
У водары цвітучых зёл
І цьмяных зор балад
Паэзіяй пячэ душу
Радзімы далягляд.
Паўцень зямліцу ахінуў,
Настаў час дзіўных мар,
На фарбы дня махнаты цень
Сцягнуў сівізну хмар.
Раскінуў крылы скрозь свае,
Як свету бы знарок,
Спяшыць зашыць ад дня сляды,
Каб заўладарыў змрок.

***

Я хачу паміраць для Айчыны,
За яе быць распятым з Хрыстом —
У цярновых іспытаў часіны
Быць яе непагаслым святлом.

У сузор'ях далёкай Венерай
Асвяціць да нябёсаў ёй шлях
Праз святыню, дзе нашаю верай
Ў неба ўзносіцца ладану пах.

Там шапочуць спрадвечныя словы
Да Бажышча нябёсаў, зямлі
Шчырым подыхам сціплае мовы,
Звонам чыстай крынічнай вады.

Ўвесь мой край ахінула малітва:
Бляск вазёраў, трымценне лясоў.
Анямела няспынная бітва —
Згаслі крыўды ганебных вякоў.

След на снезе чырвонай каліны,
Пах хлябоў, напаўняючы дом —
Я хачу паміраць для Айчыны,
За яе быць распятым з Хрыстом.

***

Абадрала пялёсткі,
Агаліла цыб'ё
Золкам сліва ля вёскі,
А за ёю жыццё
Адхінула заслону,
Расчыніла прастор, —
Жарсна вочы з палону
Разлівалі дакор,
Спапялелыя веі,
Бы з туману начы,
Расплятал надзеі:
Не дыхні,
не ўрачы.
Паўстрымаць назаўсёды,
Ахінуць і схаваць
Некранутым,
без шкоды
У жыццёвую гаць
Прамінальнасць бы вечнасць,
Бы часціну сябе, —
І агідная спрэчнасць:
Будзе жыць?
Ці ж памрэ?..

***

Нарцысы беглі да Нявы.
Ад Кацярынінскай царквы,
Прашыўшы жоўценню масты,
Пятра абдзёршы рукавы,
Крануўшы Спаса галавы,
Прабіўшы ў Зімнім дзірваны —
Ад сонца ў вільгаць, да вады;
Нарцысы беглі да Нявы.

***

Астатні пакецік гарбаты —
Але ж не астатні дзянёк...
Дажджу перастук глухаваты —
Гародню ахутвае змрок.

А думкі ўцякаюць у засень
Надзеяў і казачных мар:
Шапоча падказкаю ясень,
Прамоклых будынкаў абшар.
Пах з кубка духмянае мяты,
У думкі прыбраны лісток;
Астатні пакецік гарбаты —
Але ж не астатні дзянёк...

***

Там, ля Ярдана, шэпча голас:
Хадзем за Мною,
Я — твой Бог,
У Галілеі спее колас,
Жніво надходзіць...
Між дарог
Мае слядочкі пратапталі
Да сэрцаў чалавечых шлях —
Суцешвалі, аздараўлялі
У часе тым і ў гэтых днях;
Праз гарады і праз мястэчкі
Прыйшлі й сягоння.
Чуеш, Я
Шукаю згубленай авечкі
Пакуль не спыніцца зямля.
Не бойся!
Я заўжды з табою —
А між дарог тваёй зямлі
Мае слядочкі пад расою
Нябеснай славай праляглі,
Пакінулі адметную сцяжыну:
Каля Нявы і ля Дняпра,
Паклікалі ў Святую Палесціну —
Прайсці праз цемру да Святла
Адважных.
Чуеш, спее колас...
Не пашкадуй не рук, не ног.
Палёў радзімых чуеш голас?
Спяшай, бо клічу Я —
Твой Бог.



# Наталля Галавач

паэтка. Аўтар кнігі паэзіі «На возеры Белым» (2011 г.). Нарадзілася ў 1961 годзе ў вёсцы Русілкі на Віцебшчыне. Жыве ў Бешанковічах.

# На дахах віцебскіх Шагала...

## Белы рыцар

Як гукаў мяне зацяты крык,
Як палохаў восеньскае ранне.
Ці то крык быў гэта, ці то рык
Звера перад сконам на світанні?

Ці то гэта белы рыцар зноў
Дужыцца з той цемраю праклятай?
Ці то покліч прашчураў, дзядоў
Чую па-над нашай старай хатай?

Хто ён?
Я не ведаю адкуль
Той ваяр, зыходзячы крывёю.
Толькі ён жывы яшчэ пакуль
Праўдаю бясконцаю сваёю.

Выцягну з маўклівага прадоння
Я душу скалечаную тую,
Што мае знямоглыя далоні
Моцаю апошняю ратуе.

*27.07.2012.*

## Блакітнае

***(З нізкі «Вясёлка»)***

Ну што ж, заходзь...
Не будзем на парозе
З табой маўчаць разгублена.
Вядома — твае змярцвелі рукі на марозе.
Няхай адыдуць.
А тады дадому.

Дый дому у цябе няма, магчыма.
Такім, як ты, належыць жыць у замку.
І хто ты — незнаёмы мне мужчына?
Чаму стаіш разгублена на ганку?

Быць можа, я сама цябе з блакіту
Стварыла, як анёла незямнога,
З празрыстага маўклівага нябыту,
На Бога так падобнага замнога?

Мо вып'еш кавы горкай?
Ці гарбаты?
На жаль, вось толькі цукру я не маю.
Хоць і жыву, як бачыш, небагата,
Але ж знаёмым грошы пазычаю.

...Мне ветлівай, руплівай гаспадыняй
Цябе сустрэць хацелася з дарогі.
Калі ж тваёй я сталася рабыняй?
Рабоў не любяць велічныя Богі.

*20.09.2012.*

## Зялёнае

***(З нізкі «Вясёлка»)***

Я дастаю, нібы з нябыту,
З куфэрка памяці нямой
Твае каралі з малахіту,
Падараваныя вясной.

Зноў вечаровую сустрэчу
Люстэрка ладзіць мне з табой,
На аксамітавыя плечы
Кладзе каменьчыкі журбой.

Яны у вочы б'юць сафітам,
Душу пякеляць мне яны.
...Твае каралі з малахіту
На шыі, быццам валуны.

*16.09.2012.*

## Зоры

Калі вечар запальвае зоры,
Каб уночы мне з вышы свяціць,

Нехта велічны з лёгкім дакорам
На мяне невымоўна глядзіць.
Галаву апускаю з пакорай,
Ды вышыняў мне тых не стае.
Бо здаецца, што зоры — не зоры,
А узнёслыя вочы твае.
*23.03.2012.*

## Мама

Са сваімі нажытымі пыхамі
Аж да ранння да самага
Перамерваю, перадыхваю
Я усё сваёй мамаю.
Перахожваю кіламетрамі
Я кватэру у два пакоі.
У вітальні берэцік фетравы
Прытаміўся ад супакою.
Плямай сціплаю светла-ліловаю,
Нібы лямпаю сцены асвечвае.
Назапашваю яе словы я,
Як на нітку каралі навешваю.
Я іх чую праз дні і праз месяцы,
Праз гады, што пякуць без джала.
Мама, мама, тваёй равесніцай
Я табе непрыкметна стала.

## Ноч

Я так люблю ноч.
Яна цешыць надзею,
Што заўтра адбудзецца шчаснае штосьці,
І месяц-дзівак завітае на госці,
Пра зоркі свае, як заўжды завядзе ён...
І я ад таго пакрысе маладзею.
*12.07.2012.*

## Паштовая скрынка

Дзіўна быць да дзівосаў гатоваю,
Не зважаючы на гады.

Ды ўсё сніцца скрынка паштовая,
А у скрынцы — твае лісты.
*06.07.2013.*

***

Свечка.
Агонь.
Пажар.
Недзе Шапэн рыдае.
Душы.
Абдымкі.
Жар.
Веру.
Хачу.
Жадаю.
Высі.
Касцёл.
Арган.
Я ўжо амаль святая.
Мроі.
Палын.
Дурман.
Богу цябе вяртаю.
*03.03.2012.*

## Скрыпач

Ты той, каго няма даўно,
Гадоў са сто, а можа й, болей.
Кафэ «Марозіва». Кіно.
Канец семестра. Лета!
Воля!
Абутак новы. Мазалі.
Я басаножу па асфальце,
А ён гарачай ззяе смальтай,
І ногі просяцца зямлі.
Няма яшчэ ніякіх страт.
Я па-над Віцебскам, як Бэла,
Лунала, бегала, ляцела,
Не азіралася назад.
І ты са скрыпкай побач плыў

Такім анёлам кучаравым,
Не звыкшыся да крыку «брава!»
Ніхто яшчэ нікім не быў.
Яшчэ не счэзлі праз гады,
І душы адкрывалі свету.
Калі б я ведала тады,
Што восень будзе пасля лета,
Што так квітнець не зможа сад,
А ён і быў найбольшым скарбам —
Усё зламае час, як кат,
З пагляду змые шчасця фарбы,
Або нябачна, пакрысе
Старой масніцай злосна рыпне...
Ды ўсё ж праз горад панясе
Юнак і туфлі мне, і скрыпку.
А калі сціснуць халады,
І часу застанецца мала,
Я ўбачу скрыпача сляды
На дахах віцебскіх Шагала.

*20.11.2014.*

## На дасвецці

Прачынаюся лёгка ад вуснаў тваіх,
Абуджаюць што ціхім крананнем.
І смакую гаючае зелле я з іх
Гэтым сонным кастрычніцкім раннем.

Называеш мяне ты няўцямным дзяўчо.
Ды і праўда, я розум губляю,
Калі ціха цалуеш з радзімкай плячо,
Што у жмуркі з табою гуляе.

Неўпрыкмет слізганеш пад прасціну рукой,
Лёгкім шоўкам прыляжаш на грудзі.
Я не ведаю, тое было ўжо са мной,
А ці, можа, яшчэ толькі будзе?

*11.10.2013.*



# Уладзімір Сіўчыкаў

пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» ( 1992 г.), кніг прозы: «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Жыве ў Мінску.

# Залатая яшчарка

## Адзіная і неацэнная

Маму родную шаную,
І люблю, і паважаю,
І цалую, і мілую —
Бо яна ў мяне такая!

Гэткай добрай, слаўнай мамы
Не купіць ні ў якай краме,
Не знайсці ва ўніверсаме,
Не набыць і ў «Панараме».

Аб сваёй любові словы
Паўтараю зноў і зноў,
Ранкам іх казаць гатова
І як зычу добрых сноў.

## На картадроме

Быццам бы па хвалях кацер,
Разганяюся на карце.

— Не дагоніш мяне, брацік,
Ты й на новым самакаце!

Ты на ровары, сястрычка?
Ды і ён — не электрычка!

Бо за мною ў гэты вечар
Можа ўгнацца толькі вецер.

## Рыбалоўцы

Падымуся з братам Янкам
Вельмі рана, на світанку.
Возьмем мы сваё начынне,
Бо на тое ёсць прычына:
Каля сажалкі абое
Сядзем поруч пад вярбою.

Там прынаджанае месца —
Карасі бяруць на цеста.
А калі ўжо акуня я
Раптам падчаплю на вуду,
Столькі радасці спазнаю
І такі шчаслівы буду!

## Словы-блізняты

Паджартоўвае Святлана
Ці гаворыць усур'ёз?
Для мяне цяжкіх пытанняў
У сястрычкі — цэлы воз.

— Птушкі з шэрым апярэннем,
Што буркочуць на гаўбцы
І дзяўбуць тваё пячэнне, —
Галубы ці галубцы?

А мой любы брацік Франак —
Маладзік ці маладзец?
Што яму даць на сняданак —
Халаднік ці халадзец?

## Вавёркі

У вавёркі кажушок
На сасне,
Каб назнарок
Там хаваць на зімні час
З жалудоў,
Грыбоў прыпас.

У Раіны закуток,
Дзе хавае пад замок
Ад сябе яна халву,
Печыва, зефір, хурму,
Пасцілу і мармелад,
Белы й чорны шакалад,
Каляровае дражэ —
Для сябровак беражэ.

## Паляўнічы

Натапырыць коцік вушкі,
Углядацца стане,
Ці не сядзе блізка птушка,
Мышка не прыстане?

Пад кустом сядзіць на дачы,
Ціхенька варкоча —
Спадзявацца так на ўдачу
Паляўнічы хоча.

## Залатая яшчарка

Разамлела яшчарка на сонцы,
Ззяла,
Бесклапотная,
Луской...
Котка Тайга цопнула,
Бясконца
Цешылася забаўкай такой.

Каб ад кіпцюроў уратавацца,
Што маглі прычынай скону стаць,
Больш не стала яшчарка хавацца —
Скінула амаль што паўхваста!

І пакуль збянтэжаная котка
Разглядала,
Нюхала канчар,
Хітраванка залатая порстка
Шуснула ў півоневы гушчар!

## Сяброўкі

Я люблю сяброўку-котку,
Неўгамонную варкотку.
Ў Тайгі бяленькі лапкі,
Рыжая на носе крапка,
Вочы зыркія,
як знічкі,

Язычок,
як з запальнічкі.
Вусы ж у любімай кісы
Называюцца вібрысы.
Наліваю ёй вадзічкі,
Корм сухі даю з палічкі
І паштэту не шкадую.
Калі драпне,
не крыўдую,
А цалую ў нос і броўкі...
А чаму?
Бо мы сяброўкі!

## Ласуха

— Мілая матуля,
Дай жа веры —
Смажанай з цыбуляю пячонкі
Не жадаю сёння на вячэру,
А хачу глыбоцкае згушчонкі
І пячэння з мёдам,
Ды ў прыдачу —
Кубачак малінавай гарбаткі!
Сны тады салодкія пабачу,
Лягу і засну...
Хутчэй за татку.

## Мотальскі кажушок

У красуні,
У Ілонкі
Вышываная дублёнка.

Па дарозе з Серабранкі
Не дае замерзнуць ранкам.

З вёскі Моталь кажушку
Аж зайздросцяць у садку.

З выхавацелькай дзяўчаткі
Дружна пляскаюць у ладкі.

Цэлы дзень Ілончын смех
Гоніць прэч
мароз і снег.

## Цяжкое рашэнне

З-пад балкона —
«Эма! Эма!» —
Голасна завуць сяброўку
На дзіцячую пляцоўку,
Ставяць перад ёй праблему:
Пры кампутары застацца
У матулі ў кабінеце
Вандраваць па інтэрнэце?
Выйсці ў хованкі гуляцца?

## Багоўка

Божая кароўка,
Паляці на неба —
Там твае сяброўкі
Захацелі хлеба.
Аднясі ім дранік —
Будзе сытны ранак.
Любым сваім дзеткам
Аднясі катлеткі,
Клапатлівай маме —
Торцік смачны самы,
Дарагому тату —
Пернік да гарбаты,
Міламу дзядулю —
Спелых грушаў-дуляў,
А бабулі-пані —
Хатніх марцыпанаў!



# Надзея Філон

празаік, паэтка. Аўтар паэтычнай кнігі «Кроплі святла». Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Мой алфавіт

**А**

АНЁЛ. Слуга Божы, ахоўнік чалавечага жыцця , нярэдка папярэджвае чалавека аб чым-небудзь.

**Б**

БОГ. Усемагутны, Творца Сусвету, Уладар чалавечага лёсу.

**В**

ВЕЧНАСЦЬ. Бясконцая прастора, іншае вымярэнне.Прываблівае чысцінёй і невядомасцю.

**Г**

ГОДНАСЦЬ. Чалавечая годнасць — адна з каштоўнасцей, якая сярод сучаснікаў усё часцей прыніжаецца ці ўвогуле адсутнічае.

**Д**

ДАРОГА. Неад'емная мая спадарожніца. Люблю падарожнічаць. Вельмі часта задавальненне прыносіць ужо сама дарога, асабліва, калі далёкая. Але ў такіх выпадках з'яўляецца яшчэ і хваляванне.

**ДЖ**

ДЖАЛА. Нярэдка людзі падобны да пчол, але не працавітасцю, а джалам. Шкода такіх, яны губляюць чалавечую годнасць.

**ДЗ**

ДЗІВА. Кажуць, што дзіва часцей сустракаецца ў жыцці тых, хто ў гэта верыць. А я веру. І, праўда, сустракаецца, галоўнае ў час заўважыць .

**Е**

ЕВАНГЕЛЛЕ. Добрая Вестка з неба на зямлю. Біблія — кладзень мудрасці, ведаў. Адкрывае дзверы ў вечнасць.

**Ё**

ЁСЦЬ. Дзеяслоў існавання. А чалавек існуе, калі мысліць.

**Ж**

ЖЫЦЦЁ. Самы каштоўны падарунак. А яшчэ — ардрэзак часу, які складаецца з імгненняў. Ад самога чалавека залежыць, як ён пройдзе дарогу пад назвай жыццё.

**З**

ЗОРКІ. Вельмі люблю ўглядацца ў зорнае неба, бо зоркі — маленькія ліхтарыкі сярод начной цемры.

**І**

ІСЦІНА. Яна заўсёды існуе адна. Кажуць, што ў кожнага яна свая, у мяне, напэўна, таксама...

**К**

КАЛІ... Гэты злучнік часта дазваляе марыць, выказаць спадзявання на будучыню. «Калі Бог дазволіць, то...» — гэты сказ у маім маўленні не для звязкі слоў існуе, а з'яўляецца часткай майго жыцця.

**Л**

ЛЮБОЎ. Любоў да Бога, любоў да Радзімы, да каханага, да бацькоў, да сяброў, да... Пачуццё светлае і яскравае.

**М**

МАЛІТВА. Праз яе я маю сувязь з нябёсамі, Богам і вечнасцю. А яшчэ — міласэрнасць, мова і маладосць.

**Н**

НАДЗЕЯ. Надзея і ёсць Надзея. Надзея — гэта ў нейкай ступені я сама.

**О**

ОПТЫМУМ. У матэматыцы існуе паняцце «кропкі оптымума». Так вось і ў маім жыцці ёсць такія кропкі, дзе я адчуваю сябе ўпэўнена.

**П**

ПАЭЗІЯ. Даволі вялікая частка мяне, люблю чытаць добрыя вершы.

**Р**

РАМАНТЫЧНАСЦЬ. Адна з рыс майго характару.

**С**

СЯБРОЎСТВА. Добрыя сябры — гэта вялікі скарб. І ў мянё, Дзякуй Богу, ён ёсць. А яшчэ СЛОВА. Кожнае слова матэрыяльнае, мае значэнне, і за кожнае чалавек нясе адказнасць.

**Т**

ТВОРЧАСЦЬ. Сябе лічу творчай асобай. Захапляюся многім, многае атрымліваецца, але ў залежнасці ад пары года.

**У**

УСМЕШКА. Яна нічога не каштуе, але шмат дорыць людзям.

**Ф**

ФАРТЭПІЯНА. Музычны інструмент, на клавішы якога час ад часу націскаюць мае пальцы.

**Х**

ХЛУСНЯ. Не магу цярпець хлусні і людзей, якія хлусяць, не паважаю.

**Ц**

ЦІШЫНЯ. Часам мне патрэбна цішыня, каб зрабіць перапынак і пераглedзець каштоўнасці ці проста адпачыць.

**Ч**

ЧАС. Час — адзінка вымярэння, з якой складаецца жыццё.

**Ш**

ШУМ. Гледзячы які. Шум леса, кропель дажджу ці шум марскога прыбою — супакойвае, натхняе на творчасць.

**Э**

ЭНЕРГІЯ. Не заўсёды яе хапае на тую колькасць спраў, якая запланавана на дзень.

**Ю**

ЮНАЦТВА. Гэта не пэўны ўзрост, гэта стан маёй душы.

**Я**

ЯЗЬМІН. Прыгожая кветка, белая, чыстая, з прыемным водарам. Шкада, што цвіце толькі увесну..., але добра, што хоць ўвесну магу атрымліваць асалоду.

# Выгнаннік

Малы па памерах, але густанаселены горад падаваўся Мікіту шумным і незнаёмым. Нават не верылася, што тут прайшло яго дзяцінства і маладосць, тут сустрэў першае каханне, трымаў сваё адзінае дзіцятка на руках. Адсюль ездзіў на Далёкі Усход працаваць, дзе правёў большую частку свайго жыцця... Праца, любоў да грошаў забралі ў яго ўсё — і любую жонку, і дачку, і бацькоў. Засталася толькі маленькая хатка, дзе ён жыў з бацькамі і куды заязджаў разы два на год, калі вяртаўся ў родныя мясціны. У гэтым куточку забытага маленства Мікіта зараз і спыніўся. Мужчына прыехаў, каб застацца тут назаўсёды. Сумленне за гэтыя дзясяткі год загрызла яго так, што ён не мог больш трываць ні дня — разлічыўся з працай, забраў зробленае і паехаў на радзіму. Дарога была складанай: аўтобус, самалёт, аўтобус , цягнік, некалькі сутак без нармальнага сну, але з шумам, час ад часу пахам цыгарэтнага дыму і абурэннем пасажыраў. І вось даўгачаканая родная зямля! Колькі год!

З таго моманту, як жонка кінула Мікіту, прайшло больш дваццаці год... Жонка. Любая Ганулька. За што ты ў той час толькі палюбіла мяне? Не ведаю нават і зараз. Сапраўды, ты не мела патрэбы ні ў чым. У цябе было ўсё, нават самыя рэдкасныя рэчы, якіх у краіне на той час не было. Наша двухпакаёўка была абстаўлена самай дарагой мэбляй, калі нашы знаёмыя не мелі свайго кутка. Марынка расла нам на радасць. Здавалася, што яшчэ трэба для шчасця? Трэба. Багацце ніколі не зможа замяніць чалавечыя пачуцці, адсутнасць роднага чалавека побач. Ты не вытрывала гэтай адзіноты душы? Родная.... А мне на той час здавалася, што ўсё добра. Які ж сляпы я быў! Грошы мне заслалі вочы нібыта смугою, праз якую ўжо нічога не было бачна. Праўду кажуць, што варта дадаць да шкла толькі крышку срэбра, і чалавек пачынае бачыць толькі сябе. Так і ў мяне атрымалася. Бедны я, што мне зараз рабіць? З такімі маркотнымі думкамі Мікіта ішоў па даволі шматлюднай вуліцы і нават не заўважыў, як апынуўся каля таго дома, дзе знаходзілася яго кватэра. Ногі самі прывялі яго да гэтага месца. Стаміўшыся, мужчына прысеў на лавачцы каля пад'езда і назіраў за дзяцьмі, што гулялі ў пясочніцы. Шчаслівыя! Усміхаюцца, весела перамаўляюцца паміж сабой, робячы з пяску горад. Там у іх і машынкі, і дамы, і лялькі. Вось што значыць не маюць клопатаў, не ведаюць, што такое праблемы. Бацькі згуртаваліся ў невялічкай альтанцы і абмяркоўвалі нешта для іх цікавае, час ад часу кідаючы позіркі на сваіх немаўлят. «Шчаслівыя», — пра сябе вымавіў чалавек і ціха ўздыхнуў. Яго сэрца аблівалася крывёю, што

дзяцінства яго дачкі было не такім. У яе было ўсё, акрамя бацькоўскай прысутнасці і пяшчоты. Толькі маці была побач. Маці, якая прыкладала ўсе намаганні, каб выгадаваць дачку. Думкі змянялі адна адну, і мужчына не заўважыў, як галава схілілася на рукі і салодкая дрымота ахапіла цела. Прачнуўся, калі ўжо цямнела. Падхапіўся, неўцяміўшы спачатку, дзе ён і што з ім, а пасля, ледзь перасоўваючы стомленыя ногі, пайшоў дадому.

Прайшло некалькі месяцаў. Цёплым восеньскім ранкам Мікіта нехаця падняўся з ложка. «Трэба збірацца на працу», — пранеслася ў думках, і ён пайшоў на кухню, каб засмажыць на патэльні сабе яешню і зварыць кубачак кавы — свой звыклы сняданак. За лета мужчына цалкам уладкаваўся ў бацькоўскай кватэры, зрабіў добры рамонт, не шкадуючы грошай, набыў новую мэблю. На працу ўладкаваўся не таму, што не было за што жыць, (грошай яму хопіць яшчэ на адно жыццё), а дзеля таго, каб не сядзець днямі ў чатырох сценах, бо гэта існаванне, а Мікіту хацелася жыць. Жыць, а не існаваць. Пасля працы ён імкнуўся ў дом свайго маленства, а зараз сталага пражывання. У двары мог сядзець гадзінамі. Успаміны і думкі пра хуткаплыннасць жыцця турбавалі яго сівую галаву і не давалі спакою. Толькі ў прыцемках мог пайсці ў хату, дзе, расхваляваны ўспамінамі, шукаў які-небудзь занятак.

Час ад часу Мікіта выбіраўся ў горад, наведаць «свой» двор, можа, нарэшце пашчасціць убачыць родных. Але безвынікова. Распытваць былых суседзяў пра жонку і дачку ён не хацеў, ці то баяўся, што пазнаюць, ці то па іншай якой прычыне...

Так прайшла зіма. З суседзямі Мікіта не меў ані якіх зносін. Не хацелася. З некаторымі спрабаваў час ад часу размаўляць, але яны не ішлі на кантакт і празвалі яго «выгнаннікам» .Было крыху крыўдна, але ў гэтым была і вялікая доля праўды. Мужчына сам быў вінны ў гэтым. Аднойчы ён прамяняў сям'ю на грошы, і цяжар гэтага павінен несці праз усё жыццё. Нехта нават крэйдай на плоце у дакор яму напісаў гэтае слова, але веснавыя дажджы зрабілі сваю справу, і надпіс паступова знік.

Вясна — гэта час абуджэння, час росквіту і ўздыму пасля завірух і лютавання зімы. Разам з прыродай здавалася абудзілася і сэрца Мікіты. Ён хацеў паспрабаваць яшчэ раз убачыць родных яму людзей. Для так званага «падарожжа» ў горад быў абраны Вялікдзень. Апрануты па-святочнаму мужчына выйшаў на вуліцу. Дзень быў сонечны, цёплы, адным словам, святочны. Усюды былі чуваць радасныя птушыныя спевы . Бо нават прырода адзначала свята Божага Уваскрасення. Людзі з усіх бакоў сцякаліся да царквы. Пайшоў туды і Мікіта. Вернікам ён сябе не лічыў, але на святы заўсёды наведваў царкву, бо так вучыла яго нябожчыца маці. Яна часта звярталася ў просьбах і малітвах да ўсемагутнага Творцы, размаўляла з Ім. Успаміны накаціліся з новай сілай, і ён ужо не чуў ні словаў святара, ні спеваў харыстаў. Раптам у галаве мужчыны прамільгнула нейкая думка, што нават твар яго змяніўся, прасвятлеў быццам. І ад усяго сэрца ўзмаліўся Мікіта да Таго, Хто ўваскрос, чыё імя сёння

паўтаралі ў вітаннях і дарослыя, і дзеці. Простымі словамі, як умеў, размаўляў чалавек з Богам, расказваў пра набалелае, прасіў аб сустрэчы з роднымі... Знешне цяжка было зразумець, што гэты чалавек маліўся, толькі скупая мужчынская сляза павольна сцякала па шчацэ...

І ён пайшоў. З надзеяй у вачах углядаючыся ў твары сустрэчных жанчын. Не яна... ізноў не яна. Мікіта верыў, што на гэты раз яму пашчасціць. Амаль каля свайго двара, які за гэтыя дзесяцігоддзі стаў чужым, сустрэліся яму дзве жанчыны. Адна з іх — прыгожая, струмкая, з зялёнымі вачыма, была вельмі падобная на яго Ганульку ў маладосці, другая, старэйшая, зусім сівая, але з прыкметамі былога жаночага хараства. Сэрца пачало біцца мацней, ледзь не выскоквала з грудзей, калі яны параўняліся, і сталая жанчына нешта сказала маладой.

— Ганулька! Любая! — прашаптаў Мікіта, і ўжо гучней прамовіў: — Хрыстос уваскрос!

Жанчына вельмі пільна ўгледзелася ў яго твар, пасля ледзь чутна прамовіла: — Сапраўды ўваскрос! І хутка пайшла, каб дагнаць спадарожніцу.

А Мікіта доўга яшчэ стаяў пасярод вуліцы, дзякуючы Богу за гэтую доўгачаканую сустрэчу...



# Павел Ляхновіч

**празаік, перакладчык, журналіст. Аўтар кнігі «Пачатак сезона» і шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.**

# Чароўная значка

## 1.

Мама зайшла ў пакой, зараз будзе папраўляць на мне коўдру. Потым пацалуе. Мне сорамна — што гэта за звычка цалаваць як маленькага! — таму раблю выгляд, што даўно і моцна сплю. Маміны рукі лёгкія, амаль бязважкія. І хуткія. Тата часам таксама папраўляе, але не цалуе, і рукі ў яго зусім інакшыя, чым у мамы. Задумлівыя і грунтоўныя.

Увечары я ціхенька праслізнуў у кватэру, у пакой, распрануўся і лёг. Нават не вячэраў. Нос распух і баліць, пад вокам свежы сіняк, не люблю допытаў — хто, ды што, ды за што...

Як скрыпнулі дзверы, я падбітым вокам прыціснуўся да падушкі, заплюшчыўся. Нібыта сплю ўжо. Будзіць на вячэру не павінны. Папраўляе. На твар падае сляза, і мне становіцца страшна: «Мама, ты плачаш?» — «Нічога, Тодарка, гэта я так... Абыдзецца, усё будзе добра...» — «Што будзе добра?» — «Тату міліцыя забрала. Арыштавалі, пятнаццаць сутак».

Кепска. Хоць гэта не першы раз. Тата мой праваабаронца. Іншых абараняе, а сам абараніцца не можа. Кожны раз, як садзяць на «суткі», — абвінавачваюць у нецэнзурнай лаянцы, хоць тата ніколі не брыдкасловіць. Тата кажа, што раз помсцяць, значыць ён сваю справу добра робіць.

Можа гэтая «чорная паласа» сапраўды з-за таго, што значку згубіў? Біўся з Колькам Акуловічам і Жоркам Салаўём і згубіў. Ужо амаль адбіўся, хоць яны ўдвох напалі, а тут значка адшпілілася і — «звяк»! У шчыліну паміж дошкамі трапіла. І адразу ў Колькі з Жоркам быццам другое дыханне з'явілася. Колька ўжо быў з бойкі маім трапным «хукам» выведзены, сядзеў і плакаў, я тым часам з Жоркам тузаўся. А як значка звякнула, дык усё і змянілася. Колька плакаць перастаў і ззаду схапіў мяне ў бярэмя. Рукі да тулава прыціснуў. Я толькі нагамі мог крыху адбрыквацца ад Жоркі. Наклалі мне. Нос разбілі і фінгал ля левага вока паставілі. Гэта не страшна, пройдзе. Мяне больш згуба значкі турбуе. Дзядзька Франак нездарма сказаў: «Пакуль насіцьмеш, усё добра будзе...» Сапраўды, як толькі згубіў — ворагі адразу верх узялі. І тату схапілі...

## 2.

Я тады сядзеў за кампутарам, у «стралялку» гуляў. А тут — ключ у дзвярах заскрыгатаў, тата прыйшоў з дзядзькам Франакам. Тата злуецца, калі я на кампе гуляю, кажа, каб я лепей друкаваць усляпую ўсімі пальцамі вучыўся, нават праграму адмысловую ўсталяваў, «Сола на клавіятуры». Я, як ключ у дзвярах пачуў, адразу гульню зачыніў, і песню ўключыў. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». На ўсю моц. Дзядзька Франак, як увайшоў,

заўсміхаўся на ўвесь рот: «О! Сапраўдны беларус!». І падараваў мне значку ў выглядзе сцяжка. На белым полі чырвоная паласа. Якраз пра такі ў прыпеве гэтай песні спяваецца. І сказаў, каб не згубіў, што значка чароўная, і ўсё такое... Я, натуральна, не паверыў, не маленькі ўжо — у чароўныя значкі верыць! Але ж тут задумаешся — варта было толькі згубіць, усё дагары нагамі пайшло.

Песня «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» мне падабаецца. Вельмі. Такая... мужная, рытмічная. Ажно мароз па скуры. Калі яе слухаеш, можна з гранатай пад танк...

На мінулым тыдні пасля заняткаў у нас класны сход быў. Прыйшла школьны педагог-арганізатар разам з класнай, Эвай Віктараўнай, і сказала, што трэба выбраць і развучыць марш класа, пад які можна будзе хадзіць шыхтом. Што хутка конкурс, і кожны клас будзе пець свой марш спачатку на месцы, а потым рухаючыся. Клас-пераможца летнімі канікуламі паедзе на экскурсію ў Камянец, дзе Белая вежа, і ў Каменюкі, у музей прыроды, гэта ў Белавежскай пушчы. А класная сказала, што марш будзем выбіраць дэмакратычна. Выслухаем прапановы — трэба праспяваць песню — а потым рэйтынгавае галасаванне. Якая песня больш галасоў набярэ, тая і стане класным маршам. У сэнсе — маршам класа.

Усе адразу зацiхлі, бо каму гэта хочацца аднаму тут спяваць. Знайшлі салістаў! Хорам, гэта яшчэ нічога, прыймальна, а самаму... Каб на смех паднялі? Ніхто нічога прапаноўваць не стаў, усе галовы ўгнулі і маўчалі. Тут мяне нешта за руку і тузанула. «Выйдзі да дошкі, — сказала класная, — і спявай. Паслухаем, што там у цябе...»

Я ўвогуле не вельмі люблю такія вось... Мастацкія выступленні. Але часам нешта ўва мне быццам пстрыкае, і тады ўсялякая сарамлівасць прападае. Гэтак і зараз пстрыкнула. Выйшаў я да дошкі, пракашляўся, потым як артыст — «ля-ля-ля-сі-сі...сі-ля-ля...» — прапеў. Усе засмяяліся, і мне зусім вольна стала. Счапіў пальцы перад сабою — бачыў такі жэст у нейкай спявачкі — аднакласнікі яшчэ мацней смяяцца пачалі. «Ты не дурэй, а давай, песню сваю паказвай!» — нахмурылася класная. Тады я замаршыраваў на месцы і запеў:

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

Тут мяне «закалодзіла», прыпеў забыўся. Таму, не перапыняючы крок на месцы, я зноў зацягнуў:

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі...*

«Хопіць! Сядай! — спыніла мяне педагог-арганізатар. — Яшчэ прапановы! Давайце-давайце!» Але больш ніхто пець не схацеў, і мая песня з найвышэйшым рэйтынгам стала маршам пятага «Б».

«Тодар напіша на дошцы словы, а вы ўсе перапішыце. І заўтра пасля ўрокаў будзем развучваць. Вывучыць на памяць!» — загадала класная, і яны з арганізатаркай пайшлі. Тодар — гэта я. Пакінулі мяне аднаго насупраць усяго класа. Усе адразу зашумелі, загаманілі, а я напісаў словы і таксама пайшоў. Хай перапісваюць, хто хоча...

## 3.

...А назаўтра, калі мы ўсім класам загарланілі песню, да нас забеглі дырэктар з завучам. Чырвоныя і злосныя. Дырэктар паклікаў класную ў калідор і там хвіліны са дзве нешта ёй тлумачыў напаўголаса. Вярнулася Эва Віктараўна з тварам плямістым, як скура ў жырафа. Клас спалохана змоўк, а дырэктар выцер насоўкай пот і спытаў: «Хто?». Класная паказала пальцам на мяне. Я нічога не зразумеў, але калі на цябе вось так глядзяць дырэктар з завучам ды класнай, ды ўвесь клас у дадатак, міжволі адчуеш сябе ніякавата. Я зрабіў на твары міну непаразумення і азірнуўся: «А я — што? Я — нічога...» Імгненна перабраў усе падзеі з раніцы. Ну, пакурылі крыху ў прыбіральні з Алегам і Уладзем, маімі сябрамі-аднакласнікамі. Але з-за гэтага такога б вэрхалу не было. Зацягнулі б у настаўніцкую, крыху павыхоўвалі, прыгразілі бацькоў выклікаць, прымусілі даць слова «больш ніколі...», і ўсё. Дырэктар бы па школе не галапіраваў, як мустанг.

Усе глядзелі на мяне, мне было вельмі няёмка, але я трымаўся. Чакаў — хутка павінна стаць ясна ў чым мяне абвінавачваюць і тады можна думаць, як абараніцца. Але — о, дзіва! — дырэктар уважліва паглядзеў на маю значку, хмыкнуў, і пайшоў, за ім зніклі і завуч з класнай. Класная толькі кінула: «Нікому не разыходзіцца, я праз пяць хвілінаў буду!» І сапраўды, хутка з'явілася, ужо крыху паспакайнелая — ад жырафавага малюнка на твары засталіся толькі плямы на шчоках. Як у драўляных лялек-«матрунак». Сказала, што мая песня не пойдзе, «не той танальнасці», і мы будзем спяваць вельмі старую і прыгожую — «Взвейцесь кастрамі сініе ночы». Клас незадаволена загуў. Бо каму гэта спадабаецца — ужо вывучылі, а тут без дай-прычыны вучы іншую?! Пагулі і новую песню запелі, што зробіш? Мне крыху крыўдна было. Навошта тады галасаванне? «Не той танальнасці»! Цікава — Эва Віктараўна сама разумее, што гэта за «танальнасць»? Была б настаўніцай спеваў, паверыў бы, дык фізічка! І песня гэтая — «..мы піонеры, дзеці рабочіх...»! У мяне тата праваабаронца, мама журналістка, а ніякія не рабочыя — чаму я павінен хлусіць? Перабраў у памяці — у нашым класе здаецца ніводнага вучня няма, каб «дзіця рабочых». Настаўніцкія дзеці, прадпрымальнікаў, двое міліцыянерскіх, Акуловіч і Салавей, ворагі мае, у Алега Піванюка — мама дырэктарка малаказавода, Уладзя Зарубіцкі — сын кіроўцы-«дальнабойшчыка»... Кіроўца — гэта ж не рабочы? Вучаць нас не хлусіць і тут жа прымушаюць гэткія песні спяваць. Педагогі!

## 4.

З Колькам Акуловічам і Жоркам Салаўём мы спачатку ворагамі не былі, проста ў іх свая кампанія, у нас — свая. «У нас» — гэта Алег, Уладзя і я. Мы ўтрох у адным доме жывем, а Колька з Жоркам — у суседнім. Перад Новым годам снегу намяло, гурбы навокал, машыны замеценыя, заторы на вуліцах — клас! Колька з Жоркам у сваім двары снежную крэпасць пабудавалі і з яе ўсіх снежкамі абстрэльвалі. Мы з Алегам і Уладзікам не ведалі нічога, ішлі тым дваром з лыжнай шпацыроўкі і трапілі пад абстрэл. Без аб'яўлення вайны, вераломны. Ім там латва, у крэпасці, ды яшчэ са снежкамі, загадзя нарыхтаванымі! Пакуль Колька з Уладзем адбіваліся, я пад іх прыкрыццём снежны шар зляпіў, вялікі, з добрага кавуна. Падабраўся да сценкі, і як Жорка высунуўся, надзеў гэты шар на яго. Смачна так — шух-х, і замест галавы ў Жоркі — шар. Разваліўся, праўда, адразу. Усе ў смех, нават Колька, а Жорка зароў, як тасманійскі д'ябал, выскачыў з крэпасці і біцца да мяне. Я ніякай прычыны да гэтага не бачыў, яны ж першыя нас абстралялі, але раз так, то — калі ласка!

Спачатку Жорка паспрабаваў мяне нагой дастаць, лоў-кікам. Я адскочыў крыху, Жорка на ўбітым снезе паслізнуўся, прамазаўшы, і бразнуўся. Вядомая справа, хто ж на слізкім нагамі б'ецца! Пачакаў, пакуль падымецца, і як другі раз на мяне кінуўся, сутрэў яго джэбам-хукам. Джэб дакладна ў нос прыпячатаўся, а хук міма прайшоў, пашанцавала Жорку. Тут Колька на падмогу выскачыў, але яго Алег з Уладзем перахапілі. Папырхаўся Коля крыху дзеля выгляду і супакоіўся. А Жорка, крывавячы снег з разбітага носа, канькаў, што бацьку паскардзіцца, што падловіць мяне, і тады я зазнаю...

«З таго часу варагуюць дзеці праваабароўнцаў з дзецьмі міліцыянтавымі...» — сказаў тата, як даведаўся. Гэта ён словы з нейкага летапісу перайначыў.

У класе Колька з Жоркам ні са мной, ні з Алегам ды Уладзем не размаўляюць, а на вуліцы ўсё пагражаюць па аднаму пералавіць і адлупцаваць. Паглядзім, хто каго... Напалохалі!

## 5.

Наш дом стары, і насупраць яго ў двары гаспадарчая пабудова — двухпавярховы барак, і ў ім за кожнай кватэрай замацавана кладоўка.Там процьма усялякага дабра. Тата кажа — хлуд, але я з ім не згодны. Там часам трапляюцца вельмі карысныя рэчы.

Апошнія два гады ўсё збіраюцца барак знесці, а на яго месцы дзіцячую пляцоўку пабудаваць. Жыхарам нашым загадалі кладоўкі вызваліць. Хто адразу паслухаўся, хто не, і частка кладовак зараз пустыя. Мы там гуляем. У вайну, у тэрарыстаў, у мянтоў-бандытаў, у Каліноўскага. Адну кладоўку пад штаб абсталявалі. Тапчан прыцягнулі, столік, матрац. Для назірання за навакольнай

абстаноўкай адмысловыя шчыліны прабілі. На дзвярах замок павесілі, каб усе думалі, што памяшканне не вызвалена пакуль.

Вось у «штабе» і падлавілі мяне Колька з Жоркам. І чаго мяне аднаго туды панесла, сам не ведаю. Зімою мы больш на лыжах-каньках. Зайшоў, там паўсюль снегу панамятала — на стол, на тапчан. Пачаў змятаць, тут дзверы скрыпнулі, стаяць у праёме: «Што? Не чакаў?» Відаць, па слядах на снезе высачылі.

Значка ў шчыліну на падлозе правалілася, на першы паверх. Там пад «штабам» — былая кладоўка нашага суседа з пятага паверха. Ён летась памёр, быў вучоным-фізікам. Тата з мамай на пахаванне хадзілі, шкадавалі вельмі. Казалі — харошы чалавек быў. Сапраўдны патрыёт Беларусі. «Патрыёт» — гэта, хто сваіх землякоў любіць. Мама сказала, што слова гэтае лацінскае. А я маме сказаў, што чым карыстацца чужымі словамі, лепей свае ўжываць. Напрыклад «суродзічалюбец». А яшчэ лепей «родалюбец». А мама зазлавала. Яна не любіць, калі я яе папраўляю.

Фізікаву кладоўку даўно ніхто не наведвае. Замок саржавеў зусім. Трэба неяк туды трапіць, значку знайсці. Можа ў цёткі Анэлі, удавы, ключ папрасіць?...

## 6.

...Ключ цётка Анэля дала, сказала толькі, што там брудна. Што наўрад ці я такую драбязу сярод хлуду знайду. Я нават быў абразіўся спачатку. Нічога сабе — драбяза! З-за яе згубы ў мяне адразу ўсё наперакасяк пайшло. Але адразу вырашыў, што яна відаць памеры на ўвазе мае...

Ключ у скважыну зайшоў туга і адразу засеў так, што ні павярнуць, ні выняць. Пакуль спрабавалі нешта зрабіць — я Алега і Уладзю ўзяў, не тое, што стаў баяцца Колькі з Жоркам, але вырашыў быць асцярожней — прайшло хвілін дваццаць. Алег і Уладзя былі ў рукавіцах, а я браўся за метал голымі рукамі і памарозіў пальцы, перастаў іх адчуваць. Пайшоў дадому адагравацца. Замерзлыя пальцы адыходзілі з болем, ад яго аж качаўся па падлозе і скуголіў. Добра, што ніхто не бачыў.

А Алег з Уладзем тым часам да Уладзевага таты ў гараж схадзілі, ён ім параіў у замок газы некалькі кропель заліць і пачакаць з паўгадзіны пакуль іржа «адкісне». Нават крыху газы наліў у бутэлечку. Ох і смярдзючая! Але сапраўды хвілін праз дзесяць (не хапіла ў нас цярпення паўгадзіны чакаць!) ключ у замку павярнуўся, і дужка замка адчынілася...

...Фізікава кладоўка цьмяна асвятлялася праз брудную шыбу маленькага вакенца пад столлю. Не было там ніякага хлуду, а была абсталявана майстэрня. Злева ўздоўж сцяны стаяў варштат з таўшчэразнай стальніцай і ціскамі з абодвух канцоў. На сцяне ў адмысловых прыстасаваннях ляжалі і віселі розныя невядомыя мне інструменты. Уладзя як убачыў, так і выдыхнуў: «Ух, ты-ы!».

Сцяна пад вакенцам была ўвешана рознымі палічкамі і ўстаўлена скрыначкамі з скруткамі дроту, радыёдэталямі, нейкімі гаечкамі-вінцікамі-шайбачкамі, клубкамі шпагату, рознакаляровымі шматкамі нейкіх незвычайных тканін. Ажно вочы разбягаліся.

Усю правую сцяну займала клетка, з пазелянелых, відаць медных, палос, злучаных заклёпкамі. Дзверы клеткі адсунуты ўбок, як у купэ вагона, над вузкім уваходам шыльдачка: «НЕ ЗАХОДЗІЦЬ!!!».

Няма нічога больш прывабнага, чым зайсці, калі над уваходам такая шыльда. Першы туды праціснуўся Алег. І пачаў з-за зялёных кратаў курчыць морду, быццам арангутан. Следам сунуўся Уладзя. У мяне не было намеру далучацца, але тут я заўважыў у дальнім куце клеткі маю значку — белы сцяжок з цёмнай паласой пасярэдзіне — і з палёгкай, што знайшлася, сунуўся да сяброў. Утрох там аказалася даволі цесна і я, нагінаючыся, каб падняць згубу, зачапіўся крысом курткі за нейкі рычаг. Ён падаўся, заскіргаталі тросікі і блокі, дзверы клеткі варухнуліся і паехалі. Звонка шчоўкнула клямка.

# 7.

...Я не паспеў яшчэ падняць з падлогі значку, як адчуў — нешта навокал змянілася. Скасіў вочы — цагляныя сцены кладоўкі, варштат, акенца пад столлю — усё бляднела і варушылася, быццам за патокам гарачага паветра, станавілася прывідным, як міраж, і знікала. Паўзмрок ператварыўся ў яркае святло, і замест цёмнай кладоўкі з'явіўся казачны пейзаж.

Блакітнае сонца вісела ў жоўтым небе над ружовымі гарамі. Мора смагардава-зялёнымі хвалямі накатвала прыбоем на чырвоны пясок. Паміж пляжам і гарамі рос лес, меднаствольныя дрэвы ў якім шапацелі серабрыстай лістотай. Рознакаляровыя птушкі, яркія, як неонавая рэклама, пераляталі з галінкі на галінку і спявалі. Галасы птушак былі падобныя на гукі флейты і кларнета. Усё навокал несапраўднае, як на карцінах сюррэалістаў, і адначасова зусім рэальнае — і «карцінка», і гукі, і пахі.

Наша клетка стаяла на ўзвышэнні з нейкага сіняга каменя, адпаліраванага да бляску. Уніз вялі прыступкі. Клетка, здаецца, была тая самая, з медных палос, але змянілася — з пазелянелай стала бліскучай, нібы залатая. І шыльды не было.

Усё гэта я паспеў ухапіць краем вока, стоячы напаўсагнуўшыся, каб падняць значку. Усяго на імгненне замарудзіў, уражаны. У гэты момант з-за стаўбура дрэва імкліва вылецела істота, мне здалося — варона. Вялізная, з індыка. Прасунула між палосамі клеткі нагу з двума пальцамі, падобную на клешню рака, спрытна, як фокуснік, выхапіла маю значку, сунула яе ў дзюбу і зляцела. Пакінула мяне стаяць дурнем — літарай «Г» з працягнутай рукой.

Я разагнуўся і страсянуў галавой. Нічога не змянілася. Алег і Уладзя маўчалі, прыгаломшаныя, і было зразумела, што гэта ў мяне не галюцынацыя. А ка-

лі галюцынацыя, дык прынамсі не ў мяне аднаго. Бо Уладзя гучна прашаптаў: «Дзе гэта мы?» А Алег голасам папугая Кешкі з мульціка раптам спытаў: «Вы бывалі на Гаіці?» Відаць убачанае нагадала яму трапічную выспу. Ад гэтых словаў у мяне здарыўся прыступ рогату. Я даўно заўважыў — калі чалавек спалоханы, расхваляваны, то яго вельмі лёгка рассмяшыць. Ад мяне «заразіўся» Уладзя, а потым і Алег. Мы з хвіліну курчыліся і штурхаліся, бо ўпасці ў цеснай клетцы, каб добра насмяяцца, не было куды. А калі адсмяяліся, Уладзя прасунуў руку мне за спіну, адчапіў крысо курткі ад рычага і асцярожна пачаў рухаць яго ў розныя бакі. Рычаг пайшоў уверх — шчоўкнула клямка, дзверы папаўзлі і адчынілі нам выхад.

Мы па аднаму вылезлі і сышлі з пастамента. Алег паглядзеў на нас з Уладзем, хіхікнуў і зноў прадэмаклаваў: «Стаю на асфальце я ў лыжы абуты...» У зімовым мы насамрэч выглядалі на гэтым курортным пейзажы смешна. Толькі смяяцца больш не хацелася. Было страшна — мне адразу захацелася змяніць гэты каляровы краявід на шэры зімовы дзень, адкуль мы толькі што сюды трапілі. І пад грудзямі з'явіўся ком. Уладзю, калі хвалюецца, хочацца есці, Алегу жартаваць, а ў мяне ком пад лыжачкай.

Станавілася горача і мы паскідалі вопратку, засталіся толькі ў майтках.

Уладзік пакруціў галавою, агледзеўся і прамовіў: «Слана б з'еў! Давайце ў лес сходзім, можа што ядомае знойдзем?»

«Паспеем у лес, — сказаў я. — Трэба думаць, як вярнуцца. Не заставацца ж нам у гэтым раі назаўсёды. Калі чалавек заблукаў, самае лепшае — вяртацца па сваіх жа слядах. Мы, можна сказаць, заблукалі. Гэты фокус адбыўся, калі я ненаўмысна на рычаг націснуў у клетцы. Дзверы паехалі...»

«...Можа давайце паўторым? Давайце — я зайду ў клетку, і зноў націсну? — перабіў мяне Алег. — А вы адсюль паглядзіце, што атрымаецца.»

«Ага... Ты дадому, а мы з Тодарам застанемся тут грэцца? — закрычаў Уладзя. — Без ежы, без жылля!»

«Табе толькі б пуза напхаць... Але сапраўды, разлучацца нам нельга. Усе гэтыя эксперыменты трэба разам рабіць», — згадзіўся Алег.

Зноў залезлі ў клетку, і я націснуў на рычаг. Дзверы плаўна паехалі, шчоўкнула клямка. І нічога не адбылося...

— А можа клетка голых нас не хоча вяртаць? Раз мы сюды па-зімоваму апранутыя трапілі, дык напэўна трэба гэтак жа і вяртацца. Уяўляеце — калі б мы зараз апынуліся ў ранейшым месцы, у той майстэрні, то на вуліцу выйшлі б у майтках. Ото б было дзіва: трое голых на снезе... — выказаў я сваё меркаванне.

...Апрануліся, залезлі, націснулі — ніякага эфекту. Зноў распрануліся. Горача.

Сядзелі на чырвоным пяску. Настрой быў кепскі.

«Можа — скупнёмся?» — прапанаваў я, каб нешта сказаць. Купацца зусім не хацелася. Я хацеў назад у свой двор, дом, у зіму. І каб не плакала мама, і

тату вызвалілі. Унутры я быў вельмі спалоханы, і ледзве стрымліваўся, каб не паказаць страх сябрам. Гэтае раптоўнае ператварэнне цёмнай каморкі з падслепаватым акенцам у шыкоўны пляж з нейкімі незямнымі колерамі і гукамі каго хочаш выведзе з раўнавагі.

«А ты ведаеш, што там, у гэтым моры? Можа — кіслата, або яшчэ якая халера? Залезеш, а выйдзеш без майткаў. І без скуры... — сказаў Уладзя. — Бачыце, якая там вада на ваду не падобная? Як «Тархун»!

«Ну, дык трэба разведаць! — Уладзевы словы прыдалі мне энергіі. — Тут мы нічога не выседзім. Трэба разведваць — што і як... Вы чакайце пакуль, а я гляну.»

Зблізу вада была як вада, ніякая не зялёная. Чырванаватая — відаць ад чырвонага пяску, што ўсцілаў дно. Накатвала на пляж прыбоем і шыпела. Пасля Уладзевых слоў пра кіслату было страшнавата. Я вельмі асцярожна крануўся яе самым кончыкам пальца, пачакаў. Не, не кіслата — скура на пальцы не мяняла выгляду. Паспрабаваў языком — звычайная марская вада! Прыходзілася адпачываць на моры — ведаю.

...Мы плавалі, пырскаліся і вішчэлі. Хвалі прыемна лашчыліся, і трывога мая неяк пакрысе знікла. Я ныраў і хапаў то Уладзю, то Алега за лыткі. У чарговы раз, калі ўхапіўся за Алегавы, ён раптам моцна задрыгаў нагамі і ўдарыў мяне ў плячо. Балюча! Я вынырнуў, хацеў сказаць, што так не гуляюць. Алег і Уладзя з немым крыкам уцякалі з вады. А нада мною схілілася пачварная галава на доўгай шыі. Чатыры чырвоныя вокі з кацінымі зрэнкамі-шчылінамі былі сур'ёзныя і пагрозлівыя. З прыадчыненай пашчы блішчэлі белыя, нібыта парцалянавыя зубы. Буйныя і роўныя, як у каня. І галава была падобная на конскую, толькі ў гузаках, як галава афрыканскага дзіка-барадавачніка. Па доўгай шыі пласцінчаты грэбень. Яшчар. Дыназаўр! Нэсі! Скура плямістая, зялёна-серабрыста-чырвоная. Мясцовы камуфляж?

Усё гэта я паспеў заўважыць мо за якое імгненне, а ногі ўжо выносілі мяне на бераг. Уладзя з Алегам падбягалі да клеткі — адзінага, што неяк звязвала нас з нашым светам і што здавалася бяспечным. Пясок ляцеў з-пад іх ступакоў. Ачомаліся мы толькі, калі шчоўкнула клямка. Мора па-ранейшаму накатвала на чырвоны бераг зялёныя хвалі, пачвара знікла. Відаць, нырнула.

## 8.

...У клетцы мы знаходзіліся даволі доўга. Але ўрэшце з-за цеснаты прыйшлося вылезці. На душы было так кепска, што спробы Алега нас развесяліць прывялі толькі да раздражнення.

— Знайшоў час дуркаваць! — плаксівым голасам заканькаў Уладзя. — Тут з голаду можна здохнуць, піць хочацца, страшыдла гэтае, самі ледзве ежай не сталі, а ён з дурнаватымі жартачкамі!

— Сапраўды, хлопцы трэба нешта рабіць. — Мне таксама хацелася піць. — Можа спачатку пашукаем прэсную ваду? Вунь горы — павінны ж адтуль сця-

каць ручаі... Трэба яшчэ нейкую зброю зрабіць — дубінкі там, можа, лук. Эх, нажа няма!

— Нож ёсць! — закрычаў Уладзя, і кінуўся да груды адзення.— Павінен быць! Я ўчора клаў у куртку!

— Вось дрот..., шнур..., а дзе ж нож?.., ён тут недзе ў кішэні павінен быць... — ліхаманкава шнарыў па кішэнях Уладзя. — Ёсць! Вось!

— Давайце паглядзім — можа яшчэ што карыснае знойдзем. — прапанаваў я. — Нажом можна зброю выразаць, шнур на цеціву да лука прыдасца, дрот... дрот — камень да палкі прывязаць, малаток будзе, або нават каменная сякера!

Аблазілі кішэні. У Алега толькі насоўка і мабільны тэлефон. А ў мяне нічога. Уладзя самы запаслівы.

— Мёртвы. — панура сказаў праз хвіліну Алег. — Батарэйка села. Я думаў — можа патэлефанаваць каму?

— Куды ты збіраўся тэлефанаваць? — раздражнёна спытаў яго Уладзя. — Якія тут тэлефоны? Першае, што зараз трэба — гэта шукаць, што можна есці і піць. Давайце пойдзем у лес, пашукаем, можа тут што ядомае расце? Праўда, страшнавата... Калі тут у моры такія пачвары, то і ў лесе могуць...

— Значыць, першае, што трэба зрабіць, — абзавесціся якойсьці зброяй. — зноў сказаў я. — Адбівацца, калі што якое...

— Адаб'ешся ты! — насмешліва заўважыў Алег. — Калі меркаваць па даўжыні шыі, то наш кракадзільчык павінен важыць не меней за слана. І што ты такому слану зробіш? Палачкай яго наб'еш?

— Хоць можна ў вока ткнуць. Або ў зяпу. — крыху памаўчаўшы, разважліва, сказаў ён. — Толькі здаецца мне, хлопцы, што тая пачвара, яна не мясаед. Па-першае, калі б яна хацела нас зесці, то ёй нічога б не перашкодзіла. А па-другое, вы памятаеце «Парк Юрскага перыяду»? Там усе мясаеды з вострымі зубамі. Ды і сучасныя — кракадзілы, удавы, вараны — усе маюць завостраныя зубы. А ў нашага вадаплаваючага — памятаеце? — зубы плоскія. Дык можа ён раслінамі харчуецца, а на нас толькі так, з цікаўнасці паглядзеў?

— Я не памятаю... — сказаў Уладзя і здрыгануўся. — Бр-р-р! Памятаю толькі, што бліскучая ўсмешка ў яго была. А ты ведаеш, што коні так кусацца могуць, мала не падасца! Хоць і зубы не завостраныя. Майму стрыечнаму ў вёсцы конь нос адкусіў! Ці вуха...

— Ты, як фантазію падключаеш, абдумвай крыху. То нос, то вуха... — пад'ялдыкнуў я Уладзю. — Я памятаю. Я найбліжай да яго быў. Насамрэч — у гэтага Нэсі зубы роўныя, белыя, як з парцаляны. І вочы чырвоныя. Чатыры. І навошта чатыры?.. Карацей! Ідзем зараз у лес, робім зброю! Згода?

## 9.

...Мы ўвайшлі ў лес, дзікі і амаль непралазны. Густыя шаты стваралі паўзмрок, і толькі там, дзе ўпалі старыя дрэвы, і сярод кронаў утварыўся

прагал, буяла святло. І там, дзе было светла, рос малады падлесак. Такіх прагалаў было шмат, і шмат дзе валяліся таўшчэразныя стаўбуры. Відаць гэтыя дрэвы памерлі ад старасці і ўпалі. Стаяў незнаёмы пах, даволі прыемны. Нічога агульнага з пахам разлажэння і цвілі. А фарбы! Якія тут колеры! Ніякіх прывычных для нас адценняў зялёнага, жоўтага і карычневага. Усё навокал блішчыць металам. Срэбнае і алюміневае лісце, медныя стаўбуры, нікелевы падлесак, залацістая падсцілка. І процьма незнаёмых птушак у яркім рознакаляровым убранстве. З нашых птушак нешта падобнае бадай што толькі ў зімарадка.

Я знайшоў куст роўных, як алешыны, дрэўцаў і разануў сцізорыкам ля камля. Хацеў зрабіць нешта накшталт пікі. Драўніна была цвёрдая, але рэзалася. З парэзу выступіў сок густа-чырвонага колеру. Такі падобны на кроў, што я зніякавеў. І болей рэзаць не здолеў. Жывых дрэваў болей не чапаў, з упалых галін зрабіў тры пікі, тры булавы і лук. Да лука пакуль не было стрэлаў, я спадзяваўся пазней знайсці падыходзячыя галінкі. Яны павінны быць ідэальна роўнымі. Уладзя і Алег тым часам знайшлі высока ў кронах плады і палезлі туды. «Гуп!», «гуп!» — падалі плады на зямлю. «Гуп!» і потым «а-а-а!, а-а-а!», «ба-бух!, ба-бух!» — абое з вырачанымі вачыма: «Там! Там — цмок!»

Лазілі па дрэве, зрывалі і кідалі на зямлю плады, падобныя на кавуны, толькі крыху мацнейшыя. Кавуны пасля такога ўдару разляталіся б ушчэнт, а гэтыя толькі трэскаліся. І тут проста перад тварам спачатку Алегавым, а потым Уладзевым узніклі змяіныя галовы. Абкруціўшыся вакол меднага стаўбура і таўсцейшых галін, на дрэве затаілася вялізная змяя. Колерам, як стаўбур дрэва, медная, у срэбныя плямы. Нізавошна не заўважыш, пакуль нерухомая. Алега і Уладзю пад яе позіркам ці позіркамі быццам нейкая сіла скавала. А потым, калі яна слізганула па галіне, распусціла вялізныя скураныя крылы і ўзляцела, іх адпусціла. Аказалася — змяя адна, з двума галовамі. Нібыта казачны цмок. Тут яны разам закрычалі і з дрэва саскочылі.

Уладзя тросся, а Алег мне пра «лятучага вужыка» распавядаў. Казаў — таўшчынёй, як «Шацькава сучка». Гэта ў нашым двары дзядзечка адзін сабаку раскарміў без меры, дык калі што, ці хто тоўсты, кажуць «як Шацькава сучка». Гумар такі дваровы.

Як Уладзя крыху супакоіўся, мы пачалі выпрабоўваць тыя плады на ядомасць. Бо Уладзя гатовы быў іх жэрці без праверкі. Тым больш, што пахла светла-ліловая мякаць смажаным мясам. Мне гэта адразу здалося падазроным. Як гэта — на дрэве і пахне смажаным мясам! Не памятаю, адкуль я гэта ўзяў, можа чытаў дзе, але спачатку я нацёр гэтай мякаццю скуру на унутраным боку локця. Хвілінаў пятнаццаць пачакалі пад скуголенне Уладзі і жартачкі Алега. Скура не змянілася, ніякіх непрыемных пачуццяў не было. Тады я адшчыкнуў каліва, разжаваў і выплюнуў. На смак яно мне здалося, як смажаны сом. Пачакалі яшчэ хвілінаў дваццаць, хоць у жыватах нашых

граў цэлы аркестр, зноў нічога непрыемнага. Наступны тэст прадугледжваў глытанне невялікай колькасці «матар'ялу» і вытрымку паўгадзіны. Гэты тэст зрабіць мне не даў Уладзя. Узяў на сябе. З'еў на мой погляд значна больш, чым патрабавалася з пункту гледжання бяспекі. І — ура! Прайшло можа хвілінаў сорак, а Уладзя быў жывы і здаровы. І нават канькаць, што, як са мной звяжашся, то заўжды трапляеш у непрыемнасці, перастаў. Урэшце мы наеліся той расліннай «кураціны», ці «самяціны», узброіліся і пайшлі шукаць прэсную ваду. Выйшлі з лесу і пайшлі па беразе. Меркавалі, што калі ёсць ручаі, то яны абавязкова будуць цячы да мора. Мы ішлі, і я распавядаў, што без ежы чалавек можа пражыць хоць месяц, а без вады ўсяго некалькі дзён.

— Хлопцы, колькі мы знаходзімся ўжо тут? Як на мой погляд, дык гадзіны чатыры, можа пяць. А сонца — гляньце во! — на ранейшым месцы. — заўважыў Алег. — Неяк дзіўна. Тут што — і ночы няма?

Сапраўды блакітнае сонца як вісела над гарамі, так і працягвала вісець, не ссунуўшыся ні на градус. Прынамсі так здавалася няўзброенаму воку. І ружовыя горы ніяк не змянілі свой колер.

...Ручай мы знайшлі хутка, кіламетры за паўтары ад клеткі, дзе лес выходзіў да самага ўрэзу мора. Крышталёва-празрысты, і гэтак жа крышталёва звонкі — бруіўся сярод сініх камянёў. Уладзя адразу кінуўся, каб напіцца, але Алег перахапіў. Сказаў, трэба неяк праверыць — што за ручай, ці вада гэта. Раз ужо правяралі мора, плады, то трэба і гэтую ваду...

Ён жа сам і правяраў. Спачатку я хацеў, але Уладзя закрычаў, што рызыкаваць трэба па чарзе, што ён і я ўжо рызыкавалі. Алег не пярэчыў. Асцярожна намачыў кончык мезенца, пачакаў. Нічога. Паспрабаваў на язык. Вада, здаецца... Набраў у прыгаршню, выпіў глыток. Яшчэ пачакаў. Уладзя нецярпліва таптаўся і ўсё пытаўся: «Ну як?» Хвілінаў праз дваццаць з Алегам нічога не здарылася, і мы напіліся. Вада. Халодная і смачная. Яшчэ я звярнуў увагу на каменні. З такога ж маналітнагна каменя быў і пастамент пад клеткай. Узяў два, памерам з гусінае яйка, стукнуў адзін аб другі. Выбіў іскру.

— Іскры дае, гэта добра, — сказаў я. — Паспрабуем здабыць агонь. Калі толькі тое меднае ламачча ў лесе можа гарэць. Бо выглядае яно як нешта такое, што не гарыць. Вось бы яшчэ гэты камень раскалоць, тады можна было б змайстраваць сякеру. Без сякеры нам зрабіць шалаш будзе цяжка...

— А то цябе ад монстра шалаш з галінак ды лісця абароніць! — закрычаў Уладзя. — Для гэтай мэты трэба фартэцыю з бетону выбудаваць! Або пячору знайсці такую, каб мы маглі ўлезці, а нешта вялікае — не.

Навошта нам агонь? — запытаў Алег. — Тут горача, як у тропіках. І мяса, ці што там, гатаванае на дрэвах расце... І шалаш не патрэбен — не падобна, што тут бываюць дажджы, прынамсі калі нават і бываюць, то зараз не сезон, а як абарона ад магчымых небяспечных жывёлаў, дык — тут Уладзік мае ра-

цыю — шалаш не абароніць. Нам трэба думаць, як назад трапіць, дадому. Нас ужо, відаць хапіліся, шукаюць.

Я аб гэтым і без Алегавага напаміну ўвесь час думаў. Ажно галава пухла. Але нічога прыдумаць не мог. Чаму клетка закінула нас сюды, а назад, ці кудысьці ў іншае месца патрапіць не можам? Можа, справа ўся ў значцы? Калі я зачапіўся за той кляты рычаг у клетцы была значка, а зараз усё тое ж самае, толькі без яе. Можа яна выконвае якую ролю. Нібыта сім-карта ў тэлефоне. Са значкай клетка працуе як праход між паралельнымі рэальнасцямі (бо гэта ж не Зямля, і на тутэйшым небе не Сонца), а без яе яна проста клетка. З іншага боку — ну якая сувязь паміж хітрым збудаваннем фізіка і падарункам дзядзькі Франака? Галава трашчэла, толькі нічога больш разумнага ў яе не прыходзіла...

## 10.

Уладзя, як пачуў пра дом, зноў пачаў скуголіць, пра тое, які ён дурны — і чаго палез у клетку, калі там напісана, каб не ўваходзілі, і што, як з намі, рызыкантамі, звяжацца, дык заўжды выходзіць бокам... Што нас шукаюць, і зараз, калі нават удасца вярнуцца, яму так перападзе, як ніколі не перападала...

Насамрэч, Уладзю яго тата часам выхоўвае дзягай. Нас з Алегам выключна словамі, Алега яшчэ могуць пазбавіць нечага. Напрыклад, як летась ён па школьным калідоры на ровары ганяў, ды разагнаўшыся Эву Віктараўну з ног збіў, не здолеў затармазіць, то бацькі яму абяцаныя ролікі не падаравалі. Дакладней падаравалі, але з «пралангацыяй» на паўгода.

А як па мне, дык хай бы нас як заўгодна жорстка налупцавалі за адсутнасць, толькі б вярнуцца. Мне нават думаць страшна, што нам наканавана назаўсёды тут застацца, у гэтым Эдэме, дзе лётаюць каляровыя птушкі, двухгаловыя цмокі, у моры плаваюць дыназаўры, дзе на дрэвах расце смажаная кураціна, ды на небе стаіць нерухомае блакітнае сонца, ці як яго...

## 11.

Гэтая краіна не была краінай суцэльнага дня! Блакітнае свяціла пачало пакрысе згасаць. Быццам ліхтар з рэастатам — адзначыў Уладзя. Ён з нас самы тэхнічна-электрычна-механічна прасунуты. Я дык не памятаю, што гэта за штука — рэастат. Слоўца знаёмае, а што значыць — не ведаю.

Карацей, яно пачало свяціць усё цьмяней і цьмяней, ажно пакуль неператварылася ў сіні дыск. А неба з жоўтага стала цёмна-карычневым. І без адзінай зорачкі! Акаляючы пейзаж тануў у прывідным сінім святле. Змоўклі ў лесе птушкі-флейты. Мы з Алегам, падклаўшы пад галовы скручаную вопратку, паляглі спаць каля сіняга пастамента, Уладзя залез у клетку і зачыніўся. Пасля ўсяго перажытага я ледзьве даткнуўся да «падушкі», як ужо прагна спаў...

# 12.

... «Вітаю! — прамовіў голас у маёй галаве. — Ну, як вам тут пачуваецца? Праўда — тут зусім няблага? Не холадна, не горача, працягнуў руку — сарваў ежу, нагнуўся — напіўся...Не трэба дбаць аб жытле, аб вопратцы...»

Я расплюшчыў вочы і ўбачыў яго. Ён сядзеў побач на пяску, абдымаючы сагнутыя ў каленях ногі. Напаўзварота адвярнуўшыся ад мяне, блукаў позіркам па хвалях прыбою. Вялізны, шыракаплечы, увесь зарослы серабрыстай густой поўсцю. Не валасамі, як часам бывае ў дарослых мужчынаў, а звярынай поўсцю. Валасы былі толькі на галаве і твары. Магутныя пукатыя грудзі, таўшчэзныя біцапсы выдавалі незвычайную сілу. Голыя далоні і ступакі, пакрытыя цёмнай скурай. Вакол таліі спаднічка з нейкіх чырвоных валокнаў, падобных да лубу. Відаць набліжалася «раніца», бо свяціла на небе разгарэлася ў дастатковай ступені, каб усё добра разгледзець. Падобны на гарылу, толькі з чалавечымі прапорцыямі паставы і спакойнымі разумнымі вачыма.

— Дзень добры! — адказаў я непаслухмянымі вуснамі. — А Вы — хто?

— Можаш не напружваць голас, я чую твае думкі. А ты мае. — усміхнуўся ён. І працытаваў, каб упэўніць: «...падобны на гарылу... з чалавечымі прапорцыямі». Дзякуй за «разумныя вочы», хоць ніхто не ведае — што гэта такое — «розум». Кожны разумее нешта сваё... На мой асабісты погляд, самыя разумныя вочы — у сабак.

Хто я? Твае супляменнікі называюць нас «лесавікамі», іншыя — «каптарамі», «гул-і-абанамі», «алма» і «алмастры», «йэці», «снежнымі людзьмі»... Ты кліч мяне, калі ласка, Дрор. Проста Дрор і на «ты».

— Добра, Дрор, — мне было зусім не страшна, здавалася я прачнуўся ў іншы сон. — А ты кліч мяне...

— ...Тодар...

— Я ведаю.

— Я зараз сплю, і мы бачымся ў сне?

— І так, і не, Тодар. Сну няма, ёсць падарожжа нашай энергетычнай субстанцыі па сусветах.

— Вельмі складана для мяне. Я не разумею. Здаецца, я зараз нікуды не падарожнічаю, ляжу на чырвоным пляжы, побач спіць Алег, у клетцы — Уладзя. Можа і тое, што мы сюды трапілі — сон? А насамрэч мы, нашыя целы, валяюцца без прытомнасці ў халоднай кладоўцы пасярод нашага двара?

— Цела таксама ёсць энергетычнай субстанцыяй, толькі нашмат шчыльнейшай за тую, што вы называеце душой. Калі вы адчынілі браму між рэальнасцямі, вы трапілі ў магутную энергетычную плынь, якая расклала вашы душы і целы на элементарныя складовыя часткі, перанесла сюды і сабрала зноў.

— Значыць, нашых целаў у той клетцы ў кладоўцы — няма?

— Няма. Вы тут цалкам.

— Крыху лягчэй. Бо калі б знайшлі нашыя целы, нашыя родныя вельмі пакутвалі б... А гэтая клетка... — я кіўнуў на сіні пастамент — Яна і ёсць той брамай, пра якую ты сказаў? І яна ж — у той кладоўцы ў бараку?

— Так.

Уладзя заварочаўся ў клетцы, заплямкаў вуснамі.

— А Уладзева «энергетычная субстанцыя», яна ж душа — зараз недзе не тут?

Дрор крутануў далонню, і ў паветры ўзнік круглы экран, нібыта вялізны плазмавы тэлевізар. На ім Уладзя сядзеў у зацемненай судавой рубцы за рагатым стырнавым колам, утаропіўшыся позіркам на круглую шкалу нейкага прыбора. Шкала павольна варухнулася, паехала ўправа, Уладзя павярнуў за «рогі» кола, і шкала гэтак жа плаўна вярнулася на ранейшае дзяленне.

— Бачыш? Ён вядзе лайнер праз акіян, праз цемру, праз хвалі і штормы. А цела ягонае тут. Падарожнічае толькі душа. Хочаш апынуцца побач з ім? — І не чакаючы адказу, Дрор двойчы дакрануўся пальцам да майго ілба. Быцца да сэнсарнай пляцоўкі ноўтбука.

Я адчуў, што ўзлятаю. Убачыў пад сабою бераг, пляж, шаты дрэваў, горы. Сябе і Алега, ляжачых на пяску. У вушшу зашумела, свет крутануўся і ўпаў змрок.

— На румбе? — спытаў я Уладзю. Я быў капітанам акіянскага лайнера і адчуваў, што ўсё так і павінна быць.

— На румбе дваццаць тры градусы! — зусім не здзіўляючыся майму раптоўнаму з'яўленню, адрапартаваў Уладзя.

— Права на борт! Класціся на курс восемдзясят! — Я быў упэўнены, што ўсё правільна, менавіта на восемдзясят.

— Так! — Права на борт, класціся на курс восемдзясят! — Замільгалі рогі стырна, варухнулася шкала, шпарка паехала. Спынілася на лічбе восемдзясят.

Між намі ўзнік Дрор, падняў рукі, двойчы «клікнуў» па нашых ілбах...

...Мы сядзелі на ранейшым месцы — Дрор і я. Алег падняў галаву, паглядзеў на нас бессвядомым позіркам. Дрор адгарадзіўся ад яго даланёй з выпрастанымі ўказальным і сярэднім пальцамі і шыкнуў: «Тш-ш!». Галава ўпала, і Алег нават пачаў крыху пахропваць.

— Тое-сёе прыходзілася чытаць пра вас, снежных людзей. Рознае. То вас бачылі ў Гімалаях, то на Алтаі, то пад Архангельскам, то ў Налібоках... Нават у Андах. І кожны раз рознае. У чорнай поўсці, у бурай, у «перцы з соллю», зусім белай... То пад тры метры ростам, то каля двух... Калі гэта вы, то чаму такія розныя? — Моўчкі «спытаў» я.

— Розныя — таму што розныя і ёсць. Моладзь — бурая, потым чарнеем, потым сівеем. А белыя, гэта ўжо зусім старыя. Як і ў вас. Вы ж таксама рознай «масці». І рознага росту. То чаму думаеш, што мы як з канвеера? — Адказаў Дрор, счапіў перад сабою пальцы ў замок і растаў. Быццам не было...

# 13.

...Блакітнае «Сонца» засвяціла на поўную моц. У клетцы заварочаўся Уладзя, пазяхнуў, мякка закруціліся блокі, і ад'ехалі ўбок дзверы. Выйшаў, соладка пацягнуўся, агледзеўся:

— Мне такі сон сніўся! Нават шкада было прачынацца.

— Зараз згадаю — што за сон. Ты кіраваў вялізным акіянскім лайнерам? Так? — з уданай абыякавасцю сказаў я.

— Та-ак... — здзіўлена прапеў Уладзя, вырачыўшы вочы. — Адкуль ведаеш?

— Дык я ж капітан таго лайнера!

— Ну, ты даеш! Экстрасэнс! Сапраўды — я руляваў, а ты даваў мне каманды! Як ты даведаўся? — Уладзя быў гранічна ўражаны.

— Проста — угадаў, і ўсё. Ляпнуў, што першае ў галаву прыйшло... — я вырашыў пакуль нічога не казаць пра Дрора. — А ты марыш працаваць на моры? Ніколі не казаў!

— Нічога я не мару, проста кніжку адну нядаўна чытаў, вось і прыснілася... — пазяхнуў Уладзя.

Разбуджаны нашымі галасамі прачнуўся Алег. Падняўся і пачаў вытрасаць пясок з валасоў.

Час цягнуўся павольна і нэндзна. Схадзілі да ручая, памыліся. Сабралі ламачча, і я доўга стукаў камнем аб камень — выбіваў іскры у спробах распаліць агонь. Урэшце драўняная труха-трут затлела і дала кволы дымок. Я раздзімаў-раздзімаў, але раздзьмуць у паўнавартаснае полымя не здолеў — дымок знік, пакінуўшы пасля сябе толькі прыемны пах. Працягваць гэты занятак у мяне ўжо не было цярпення, тым больш, што Уладзя з Алегам адгаворвалі, а Уладзя дык яшчэ і злаваўся. Лічыў, што вогнішча ў гэтых умовах нам не патрэбнае.

Потым лазілі па лесе і знайшлі яшчэ шмат ядомых пладоў. Адны нагадвалі ці то гатаванае мяса, ці то рыбу, іншыя — садавіну, хоць і невядомую, але смачную і духмяную. Голад і смага нам не пагражалі.

Хлопцы так захапіліся здабычай ежы, што здаецца на нейкі час зусім забыліся аб галоўнай нашай праблеме — вяртанні. А я — вінаваты ў гэтым нечаканым падарожжы немаведама куды — увесь час думаў аб тым, як нам вярнуцца назад.

«Іншай магчымасці, як з выкарыстаннем клеткі, пераскокваць з адной рэальнасці ў другую мы не маем, — думаў я. — Начная прыгода з Дрорам дае нейкую надзею, але не факт, што ён з'явіцца зноў, а калі і з'явіцца, то ці захоча, а калі захоча, то ці здолее дапамагчы нам вярнуцца ў свой свет. Так... Клетка... Зараз зразумела, што гэта партал для пераходу з рэальнасці ў рэальнасць... Дрор пацвердзіў. Як ён яе назваў? «Брама»? Ну, так, брама. Але чаму яна прапусціла нас толькі адзін раз і болей не пускае? Не можа быць, каб

яна была аднаразавай! Чаму не можа? Цалкам можа! Ну, можа, але пра гэта нават думаць не хочацца!»

Я спрачаўся сам з сабою, і ад гэтых думак і спрэчак у маёй душы пасялялася роспач.

«Адна і тая ж клетка-брама існуе і ў нашай рэальнасці, і ў гэтай, дзе мы зараз. — Каторы раз я «пракручваў» у галаве адно і тое ж. — Умовы амаль тыя ж самыя, апрача таго, што зараз адсутнічае значка. І брама не спрацоўвае. Значыць — уся справа ў значцы? Яна нібыта сім-карта ў мабільніку — можа так? Значыць — нам трэба знайсці значку. А як? — Трэба шукаць тую вялізную варону. Можа яна занесла значку ў гняздо? Нашы, зямныя вароны, — я чуў, — часта заносяць у гнёзды розныя бліскучыя, яркія рэчы».

— Хлопцы! Я тут думаў-думаў, і вось што прыдумаў. Мне здаецца, што клетка не спрацоўвае таму, што з яе знікла значка. Значыць, нам трэба знайсці тую варону, яе гняздо, ці дзе яна тут жыве, можа, значка там? Трэба прыдумаць — як знайсці тую варону! — аб'явасціў я.

— Дзе ты будзеш яе шукаць? — завёў сваю звычайную песню Уладзя. — Паглядзі навокал — лес непралазны, горы! Гэта як іголку ў стозе, нават складаней!

— Хопіць ужо канькаць! — цыкнуў на Уладзю Алег. — Ты хочаш на ўсё астатняе жыццё застацца тут? Калі ёсць хоць малая верагоднасць, што значка можа нам дапамагчы, трэба яе шукаць!

— Але як! — з ноткамі рыданняў усклікнуў Уладзя. — Глянь, якія джунглі! Іх абшукаць — сто гадоў трэба! А яшчэ тут цмокі і дыназаўры!

— Калі немагчыма абшукаць джунглі, трэба неяк падманіць варону да нас... — прамармытаў я. Увогуле я быў згодны з Уладзем наконт магчымасцяў абшукаць гэткія прасторы.

— Добра, ты падманіш і нават зловіш варону, — засмяяўся Алег. — Што далей? Думаеш — яна прычапіла значку на валяк і фарсіць перад тутэйшымі цмокамі? Хутчэй за ўсё яна хавае значку ў гняздзе, калі папросту не нагулялася і не выкінула невядома дзе... Слухайце! А калі падманіць варону, а потым прасачыць — куды яна паляціць? Нават калі далёка куды — усё роўна гэтак мы змяншаем аб'ём абшукваемага! Толькі як яе падманіць?

— А давайце пакладзем у клетку сцізорык! — прапанаваў Уладзя. — Прывяжам, каб не сцягнула, самі схаваемся... Можна ў пясок закапацца. Калі на значку спакусілася, то можа на бліскучы сцізорык таксама спакусіцца? Хоць тут бліскучага — цэлая тайга! Ці джунглі...

— Уявім, што варону мы падманілі. Вось схапіла яна сцізорык, тузанула, зразумела, што прывязаны, кінула і зляцела. Нырцанула ў лес і з канцамі... Эх, бінокль бы! — разважаў Алег. — Трэба не хавацца ў пясок, а залезці на дрэвы, на самыя вяршыні. Тады, калі яна да гнязда над лесам паляціць — можна будзе заўважыць, дзе яно. Але калі праз лес — марная будзе справа... Вунь лётаюць жа сярод дрэваў гэтыя, каляровыя... Мільг — і няма!

— Ага! На дрэвы! — зароў раптам Уладзя. — А нас змяюка гэтая, анаконда крылатая — гам!

— Ну, хто не рызыкуе... — разважліва прамармытаў Алег. — А што ты прапаноўваеш? Нават калі падманіць «варону» ўдасца, нават злавіць, то не факт, што гэта будзе тая самая. Можа іх тут процьма, і ўсе зладзейкі! Але ж нешта рабіць трэба! Проста сядзець тут — мы нічога не выседзім. Давайце дзейнічаць! Пачнем Уладзеў план, а там — як пойдзе. Можа абставіны што падкажуць? Ты, Уладзя, раз не хочаш на дрэва, закапаешся ў пясок, я — на дрэва, а ты, Тодар... На дрэвы дваім не трэба, лішняе...

— Я пастку зраблю з клеткі пакуль вы будзеце маскіравацца, — прапанаваў я. — Прывяжу за рычаг шнур, буду за пастаментам хавацца з боку мора. Дзверы адчыненымі пакінем, можа ўнутр залезе, то я тады за шнур... Значыць — калі зловім, то будзем думаць, што далей, калі проста пабачым, то будзем сачыць, куды дзенецца. Можа да гнязда прывядзе. Так?

Я зайшоў у клетку, унутрана зайздросцячы Уладзю, ягонай запаслівасці, старанна прывязаў поліпрапіленавы шнур, што знайшоўся ва Уладзевай кішэні, да рычага. Раскруціў і кінуў на пясок. Недалёка, крыху ўбаку Уладзя рукамі капаў акоп для схованкі.

— Уладзя! Тузані! Праверым, ці дзейнічае.

Уладзя ляніва пацягнуў за шнур, рычаг апусціўся, дзверы мякка паехалі, шчоўкнула клямка. Трапічны пейзаж заварушыўся, захістаўся быццам я глядзеў на яго праз гарачае паветра, усё навокал пацямнела, і я апынуўся ў кладоўцы з падслепаватым вакенцам. Цела адразу апякло холадам, я ж быў у адных майтках!

## 14.

Першым парывам было — кінуцца праз двор дадому, хай сабе босы і голы. Потым можна будзе сказаць суседзям, што займаюся закальваннем па сістэме Іванова, бегаю без абутку па снезе. Я адчыніў клетку, хацеў ужо было стартануць і спыніўся. Уявіў — як адчуваюць сябе там Алег з Уладзем. Вось Уладзя тузае, і я знікаю. Па-першае, страх за мой лёс. Яны ж не ведаюць, куды я раптам дзеўся. Можа я распаўся на атамы, знік назаўсёды. І страх за сябе — можа гэтак знікне па чарзе кожны з іх! Мне так стала шкада сваіх сяброў! І сорамна — я толькі што гатовы быў ім здрадзіць!

Але ж я вярнуўся ў сваю рэальнасць! Можа, зараз нешта там у сусвеце склалася такім чынам, што партал адчыніўся? Магчыма зараз і толькі зараз можна перакінуць не толькі мяне, але і Уладзю з Алегам! І я рашуча націснуў на рычаг. Блокі зарыпелі, дзверы паехалі...

...Я нават не паспеў замерзнуць. Я зноў быў у клетцы на беразе з чырвогана пяску. Уладзя спалохана глядзеў на мяне, і я зразумеў, што мой пераход на пару хвілінаў не быў незаўважны. Алег лез на самае высокае дрэва з краю джунгляў і маё кароткатэрміновае знікненне прапусціў.

План па ператварэнні клеткі-брамы-партала ў пастку для злову «вароны» мы часова прыпынілі. Мы спрабавалі перайсці ў родную рэальнасць утраіх, потым па аднаму. Атрымоўвалася толькі ў мяне. Мяне аднаго клетка перакідвала туды-сюды без ніводнага збою. А Уладзю і Алега паасобку, або разам, або ў пары са мной — не.

Хлопцы мае засумавалі. Засумуеш тут — адна справа трапіць у непрыемнасць утрох, і зусім іншая, калі адзін аказваецца прывіляваны.

Мне было сорамна. Быццам усіх пахапалі міліцыянты, а прыйшла, да прыкладу, мама, і мяне аднаго вызваліла. Было сорамна без віны. Хоць не. Калі шчыра, адчуваў віну. За той парыў стартануць праз заснежаны двор дадому.

...Не ведаю, колькі часу мы эксперыментавалі з клеткай, раіліся, выказвалі версіі, прапановы, але ўрэшце вырашылі вярнуцца да першага плана. Злавіць, ці хоць падманіць «варону».

Уладзя прывязаў медным дротам у клетцы сцізорык. Надзейна, я праверыў, хоць Уладзя быў гэтай праверкай незадаволены. Потым Уладзя закапаўся ў пясок. Галаву ягоную я прыкрыў курткай, а навокал параскідаў нашую вопратку. Алег залез на дрэва, а я схаваўся за пастаментам са шнурам у руках.

Прыйшлося пахваляваца за Алега. Прыкладна праз гадзіну над лесам з'явіліся цмокі. Ажно тры! Адзін быў адна- , другі двух- , а трэці — трохгаловы! Сапраўдныя казачныя цмокі!

Яны кружылі ў небе, падымаліся высока-высока, потым слізгалі ўніз, ганяліся адзін за другім, як самалёты, у паветраным баі. Відовішча было захаплянльнае! На Алега не звярнулі ніякай увагі, відаць не заўважылі сярод лістоты. А я, загледзеўшыся на цмокаў, прапусціў «варону». Алег потым каламбурыў: «Праваароніў варону!».

Ачомаўся я ад шыпення Уладзі: «Тузай! Тузай!» Вызірнуў з-за краю каменнага ўзвышэння, але нічога не ўбачыў, пастамент быў высокі, і я бачыў толькі верх клеткі. А Уладзя сарваўся на крык і зароў, як бугай: «Тузай, кажу!» Я тузануў за шнур, і тут з клеткі вылецела «варона» і ўзнялася над лесам. Мітуслівa замахала крыламі і знікла з вачэй. Заставалася толькі надзея, што Алег здолеў яе прасачыць даўжэй.

Адплёўваючыся, з пяску вылез Уладзя, і пачаў мяне клясці такімі словамі, якіх я, здаецца, яшчэ не чуў. Лаяўся, як расейскі боцман! Аказваецца, «варона» зляцела з бліжэйшага дрэва, залезла ў клетку, патузала крыху прывязаны сцізорык сваёй лапай-клешняй, а потым «пстрык!» — і перакусіла дрот дзюбай. Як абцугамі! А я што? Я — спудлаваў. І апраўдацца няма чым...

...Алег з дрэва здолеў прасачыць — яна над лесам папраставала да гор, і там нібыта нырнула ў нейкую дзірку. Далекавата, разгледзець цяжка, і Алег цалкам не ўпэўнены. Нейкая чорная пляма на скале. Уваход у пячору? Вырашылі заўтра ў горы ісці, шукаць тую пячору.

# 15.

— Дзень добры! — Дрор сядзеў на пяску абняўшы калені. Відаць, гэта была яго ўлюбёная пастава. — Мы ўчора не дагаварылі. Ты цікавіўся намі. Што — сапраўды цікава? Прыемна быць камусьці цікавым!

Алег з Уладзем дрыхлі на сваіх куртках. Уладзя нешта гаварыў скрозь сон, ойкаў і канькаў.

— Дзень добры, Дрор! Калі гэты час можна назваць днём. Так, цікавіўся. Ты знік так нечакана. Ці можна спытацца — хто вы такія, снежныя людзі?

— Найперш людзі, як і вы. Між іншым — у нас адзін продак. Мы з вамі нібыта стрыечныя браты. Толькі вы развівалі тэхналогію, а мы развіваліся самі. Цела і душу. Не хачу ганіць вашу цывілізацыю, вашыя дасягненні ўражваюць, асабліва што датычыць тэхналогіі забойства саміх сябе. — Дрор стрымана ўсміхнуўся. — Але самі па сабе, без вашых машынаў вы ўяўляеце вартае жалю стварэнне. Асабліва што датычыць свабоды...

— Вартае жалю? — Я быў абражаны. — Ты мабыць маеш на ўвазе маё безвалосае цела? Або малы рост і слабыя біцапсы? Ну і што з таго? У мароз я надзяваю цёплую вопратку, а замест сілы цяглiцаў у нас ёсць машыны... Дзякуючы высокім тэхналогіям, мы маем... ну, напрыклад,.. мабільныя тэлефоны!

— Мабільныя тэлефоны? — зноў усміхнуўся Дрор. — Учора я знік, бо ў складаную сітуацыю трапіў мой унук. Між іншым — ён у іншай паралельнай рэальнасці. Ты можаш звязацца адсюль пры дапамозе тэлефона з бацькамі? Не? А мой унук піскнуў, і я адразу пачуў... У некаторых вашых часам праяўляюцца здольнасці, якія з нашага пункту гледжання — ну зусім слабыя, але вы называеце іх экстрасэнсамі і лічыце іх «пацалаванымі Творцам».

Вашыя ж машыны — яны ўжо дайшлі да той мяжы, калі ствараюць умовы для знішчэння вашай расы. Яны атруцілі ваш свет, вы яшчэ не ўсведамляеце, што самі сябе загналі ў тупік...

— Дарэчы, ты сказаў «Творца». Мая мама лічыць, што ўсё з'явілася само, шляхам эвалюцыі, а тата — што сусвет створаны Богам. Што ты скажаш на гэта? — спытаў я і следам за гэтым падумаў, што я пытаюся не аб тым.Трэба вось што — як выцягнуць адсюль маіх сяброў?

— Існаванне Творцы, і тое, што ўсё існае стварыў Ён не адмаўляе тэорыі эвалюцыі. Вось і наш прыклад: Ён стварыў людзей, з якіх шляхам эвалюцыі з'явіліся вы і мы. Мы можам вольна перамяшчацца ў сусвеце, вам жа для гэтага патрэбны машыны. Накшталт гэтай — Дрор кіўнуў на клетку. — І то, вольна карыстацца ёй могуць толькі абраныя, з выпадкова захаваўшыміся здольнасцямі, як і вашыя «экстрасэнсы». Астатнім для карыстання гэтай брамай патрэбен пароль свабоды.

— Чакай-чакай, Дрор! — я пачынаў нешта разумець. Мае блытаныя здагадкі пра значку пачалі афармляцца ў больш стройныя. — Значка ў выглядзе

бел-чырвона-белага сцяга, яе ў нас выкрала чорная вялікая птушка, падобная да вароны, яна можа быць тым «паролем свабоды»?

— Так. Таму брама не рэагуе на спробы перамясціць тваіх сяброў. — Дрор паглядзеў на Алега з Уладзем. — А птушкі гэтыя вельмі хутка эвалюцыяніруюць. Калі вашая цывілізацыя ўрэшце не ачомаецца і не паверне на шлях зліцця з прыродай замест яе эксплуатацыі, цалкам магчыма, што яны зоймуць вашую нішу...

— Ага... — Мяне зараз больш цікавіў наш лёс, чым лёс чалавецтва. — Ты часам не ведаеш, як нам забраць у той вароны наш «пароль свабоды»? І яшчэ мяне брама перамяшчае і туды, і назад. Гэта значыць — што я «абраны»?

— Птушкі гэтыя жывуць калоніямі ў гарах. У пячорах. Туды і зносяць здабычу. Там і шукайце. Што ж датычыць цябе, то так, можна лічыць цябе абраным. Але асабліва не ганарыся. У цябе атавізм — ген свабоды. Гэтак жа можна лічыць абранымі, напрыклад, валасатых людзей, у якіх «выстраліў» ген валасатасці... Табе проста пашанцавала. Вольна перамяшчацца па сусвеце ты не можаш, а вось з дапамогай брамы — можаш без пароля. Ты — як кампутар з усталяваным у схему мадэмам, а твае сябры без мадэмаў, ім патрэбен знешні. — Голас Дрора гучаў у мяне пад чэрапам дзіўна — я б не мог сказаць якога ён тэмбру. Я дарэмна назваў яго голасам, гэта не голас, а словы і сказы, якія ўзнікалі ўва мне, але я дакладна ведаў — належаць Дрору.

Так, значыць я не памыляўся — уся справа ў значцы, у паролі свабоды. Свабоды перамяшчацца, карыстаючыся клеткай-брамай. Можа ёй уласцівыя яшчэ якія свабоды? Не, не буду тлуміць галаву сабе і Дрору. Трэба спытаць пра Творцу, гэта ж так цікава!

— Дрор, ты бачыў Творцу?

— У нейкім сэнсе — так, бачыў, — Дрор ледзь-ледзь усміхнуўся. Аднымі куточкамі вуснаў, толькі варухнуліся доўгія віслыя вусы. — Калі ты думаеш, што Творца — гэта такі дзядуля з белай барадой, што стаіць на воблаку, то ты крыху маеш рацыю, а крыху памыляешся. Ён такі, якім мы яго ўяўляем. Калі вернік уяўляе яго тым дзядулем і называе Богам, Ён дзядуля і Бог. Калі іншы вернік лічыць яго адной асобай, якая адначасова — тры асобы, і называе Яго Святой Тройцай, то так і ёсць. Нехта лічыць Творцам прыроду — і гэта таксама правільна. Нехта — Сусветным Розумам. І гэтыя маюць рацыю...

Творца — Ён усё, што ты бачыш навокал і чаго не бачыш. Самыя дробныя атамы і велізарныя галактыкі — ягоныя складовыя часткі. І ты, і я — мы таксама тыя пясчынкі, з якіх складаецца Творца, гэтыя дрэвы, мора, вунь свяціла — гэта ўсё Ён. Што? Незразумела?

— Не вельмі. — прызнаўся я.

— Тады паспрабую растлумачыць вось як... — Дрор сагнутым пальцам памасіраваў пераноссе. — Творца — Ён нібыта суперкампутар, а ўсё астатняе —

гэта розныя праграмы і файлы ў гэтым кампутары. Гэтыя праграмы могуць ствараць новыя праграмы — і Творца ўскладняецца, развіваецца. Разумееш цяпер? Ты — складовая частка Творцы, адна з шматлікіх самастойных праграмаў у Ім. Гэтая скала, — Дрор паказаў на сіні пастамент пад клеткай, — яна як файл у кампутары.

— А выслоўе, што чалавек створаны па Яго вобразу... — пачаў я, не варухнуўшы вуснамі. Я ўжо зусім прывык зносіцца з Дрорам думкамі, тэлепатычна.

— ...Азначае, што мы створаны, каб ствараць у сваю чаргу! — Дрор радасна ўскінуў на мяне вочы. — Вось, мне здаецца, ты пачаў разумець. Людзі — каб думаць, каб прыдумляць нешта такое, чаго да гэтага не існавала. Вось прыдумаў той чалавек гэтую браму, якая павінна звязаць вашу рэчаіснасць і гэтую. Але гэтай рэчаіснасці магло да ягонай прыдумкі не існаваць! А ён прыдумаў і новую рэчаіснасць, і як туды трапіць. Нехта прыдумаў цмокаў — і яны з'явіліся. Нехта прыдумаў, што дыназаўры зніклі ў паралельнай рэчаіснасці — і калі ласка — вашая сустрэча ў час купання!

— Здаецца, разумею... — я пачаў стамляцца ад намаганняў пераварыць новую інфармацыю. — Добра, Дрор, пакуль пакінем гэтую гутарку на будучыню. Ты мне вось што скажы — ты не мог бы адабраць значку, у сэнсе — пароль свабоды, у варон? А то я як уяўлю... Як мы прабіраемся праз лес, лезем у горы, шукаем гэтых птушак, лазім па іхніх пячорах... Мне проста млосна становіцца!

— Не, — цвёрда адказаў Дрор. — Пароль свабоды вы павінны здабыць сабе самі!

Ён правёў расстаўленымі пальцамі перад маімі тварам, у ваччу замільгалі ўспышкі, закруцілася ў галаве, і я праваліўся ў сон...

## 16.

...Горы, што здаваліся зусім блізка за лесам, аказаліся нашмат далей. Увесь час прыходзілася прадзірацца зарасцямі, пералазіць праз паваленыя таўшчэразныя стаўбуры, абыходзіць завалы. Хутка кінулі нашыя булавы і лук — моцна заміналі. Пакінулі толькі пікі, іх выкарыстоўвалі ў якасці кавенькаў. Алег перастаў жартаваць, а Уладзя пачаў скардзіцца на жыццё і сумнявацца, што наша экспедыцыя будзе паспяховай. Мне таксама было цяжка, і я злаваў на Уладзю ды і на Алега. Нават не ведаю — з якой прычыны злаваў. Пачаў думаць над гэтым і прыдумаў — злую таму, што цяжка. А на Уладзю з Алегам — таму, што яны побач. Быў бы хто іншы — злаваў бы на яго. Гэтыя развагі крыху супакоілі.

У пачатку дня адпачывалі прыкладна праз кожную гадзіну. Але чым далей, тым прыходзілася спыняцца часцей. Пот заліваў вочы, дыханне збілася, сэрца калацілася аб грудзіну быццам збіралася выскачыць. Уладзя ад стомы на-

ват перастаў канькаць. Захацелася піць — мы ж не ўзялі з сабою вады — не тое, каб лічылі, што падарожжа будзе лёгкім, як па гарадскім ходніку, але зусім не ўяўлялі наколькі гэта будзе цяжка і далёка. Нешта вялізнае пралятала над дрэвамі, з зарасцяў даносіліся пагрозлівыя гукі, падобныя на крык слана, нейкія істоты рухаліся каля нас, варушылі падлесак. Але мы дакладна ні разу нікога не здолелі пабачыць. І нават палохацца не было сілаў. Спачатку спыняліся і выстаўлялі нашыя пікі ў бок пагрозы, а потым прызвычаіліся і пераcталі звяртаць увагу. Здаецца, усё жывое саступала нам шлях.

Алег выказаў меркаванне, што мы збіліся з накірунку і ідзем паралельна гарам, таму так доўга не можам перасекчы лясную паласу. Але я нагадаў яму, што тутэйшае свяціла не рухаецца па небе, як наша Сонца, і адносна яго мы ідзем так, як і пачалі рух — яно ўвесь час праваруч. Значыць, мы ідзем правільна, гэта проста лес аказаўся шырэйшы, чым мы меркавалі. Мяне падтрымаў Уладзя, і Алег згадзіўся з нашымі аргументамі.

Урэшце лес расхінуўся, і перад намі ўзнікла шырокая камяністая даліна, парослая травападобнымі густымі раслінамі. Яны сцяліліся тоўстым кілімам па зямлі, спружынілі і блыталіся ў нагах, запавольваючы хаду. За далінай узвышаліся горы. Зблізу яны мелі не ружовы, а сіні колер. Вакол нас валяліся каменныя аскепкі. Сінія, падобныя структурай на нашы крамяні, з вострымі кантамі. Я знайшоў адзін, падобны на лязо нажа і ўзяў сабе. Пранёс крыху, ды кінуў. Уладзеў сцізорык знесла варона, але гэты эрзац-нож займаў рукі і замінаў.

Высокая гара, падобная на вулкан, з чорнай пашчай пячоры пасярэдзіне. Каля яе ўюцца ў паветры чорныя птушкі. Не тое, каб вельмі шмат. Выйшлі на гару даволі дакладна, Алег — малойца, правільна зарыентаваў. Бянтэжыла вышыня і стромкі пад'ём. І яшчэ — я не ўяўляў, як мы будзем шукаць пароль. Раптам птахі гэтыя агрэсіўныя? Нават нашы, зямныя вароны ці гракі даволі эфектыўна абараняюць свае гнёзды, нягледзячы на зусім малыя памеры. А гэтыя монстры! Я ўзгадаў, як лёгка перакусіла зладзейка дзюбай медны дрот, і пахаладзеў. Калі яны будуць гэтак жа паводзіцца, як і зямныя, у нас няма шанцаў. А-а! Спачатку трэба дабрацца, а потым паглядзім!

Накіраваліся туды, ледзьве перасоўваючы ногі, і набрылі на маленькае возера, амаль лужыну, у якую сцякаў ручаёк. Без усялякіх перасцярог напіліся, і доўга ляжалі ў вадзе, астывалі. Як дзікі, якія адарваліся ад ганчакоў.

...Свяціла пачало згасаць. Здаецца — колькі таго часу мы тут знаходзімся, а ўжо прывыклі, што яно не заходзіць за далягляд, а гасне. І да металічных колераў тутэйшых раслінаў прывыклі, і да анакондаў з кракадзілавымі лапамі і кажановымі крыламі... Прывыклі — у сэнсе, што перасталі здзіўляцца.

На хлопцаў цяжка глядзець. Схуднелі, счарнелі, падрапаныя, стомленыя. Відаць, я гэтаксама выглядаю. Шукаць якой схованкі не сталі, расчысцілі ад камянёў невялікую пляцоўку і пападалі спаць. Заснулі імгненна, нават голад не зашкодзіў. І цвярдое пад бакамі зусім не муляла.

## 17.

— Здароў, Тодар, — Дрор сядзеў улюбёнай манерай — абняўшы калені — на абломку скалы, губляючыся на фоне карычневага неба, а за галавою яго блішчэў прывідны сіні дыск. Калматая, дзікая галава з німбам! Мне стала весела.

— Здароў, Дрор! Рады цябе бачыць! Твае супляменнікі, яны рэлігійныя? — Пацікавіўся я. Галава Дрора на фоне дыска нагадала мне пра абразы, што вісяць і стаяць ля татавага ложка.

— Рэлігійныя, але не гэтак, як твае. У нас няма ніякіх абрадаў. Наша рэлігійнасць у тым, што мы размаўляем з Творцам. А размова з Ім — гэта малітва.

— Чакай! Калі мы ўсе, ды і ўсё існае ёсць складовымі часткамі Творцы, то як гэта вы можаце размаўляць з ім? Нешта мне не вельмі даходзіць! Мае рукі-ногі, ці там клеткі майго арганізма — яны ж не размаўляюць са мною! — паспрабаваў заспрачацца я. Я насамрэч не вельмі разумеў.

— Чаму не размаўляюць? Размаўляюць! Дэманструюць сваё мысленне. Натуральна — у межах магчымасцяў. Вось ты, да прыкладу, засвойваеш «Сола на клавіятуры». Калі засвоіш — адчуеш, што твае пальцы нібыта паразумнелі, сталі жыць уласным жыццём. Ты толькі падумаў надрукаваць нейкае слова ці літару, а пальцы ўжо самі знайшлі патрэбныя клавішы... І ты адчуеш ад гэтага задавальненне. Гэтак і Творца — адчуўшы, што мы, ягоныя мікраскапічныя «цаглінкі» думаем, размаўляем з ім, таксама будзе задаволены...

— Дрор, а чаго ты з'яўляешся да мяне? — гэтае пытанне даўно спела ўва мне. Дрор з ягонай тэлепатычнай здольнасцю ведаў аб ім, але пакуль не паўстала «адкрытым тэкстам», не лічыў патрэбным адказваць.

— А што — ты супраць? — Дрор хітра скасавурыўся на мяне і прыплюшчыў левае вока. Быццам цэліўся. — Я табе абрыд?

— Ну, ты ж ведаеш, не можаш не ведаць, як я да цябе адношуся! — шчыра ўсклікнуў я і пашкадаваў аб пытанні. Халера яго ведае, можа Дрор вельмі крыўдлівы. А я ўжо прывязаўся да яго, і калі ён знікае, з нецярпеннем чакаю наступнага з'яўлення. — Ты мне надзвычай цікавы і прыемны!

— Ну... З'яўляюся таму, што і ты мне цікавы. Асабліва тваім атавізмам — ты народжаны з паролем свабоды. Магчыма твае нашчадкі атрымаюць у спадчыну гэты твой ген, і ты з'явішся пачынальнікам новай галіны развіцця людзей — ад цябе народзяцца тыя, для каго каштоўнасць свабоды ў розных яе праяўленнях, не толькі свабода перамяшчацца, пераважыць каштоўнасць фізічнага камфорту. Мы жывем шматкроць даўжэй за вас, і я здолею прасачыць за тваімі прапра...унукамі. Хоць магчыма, што ген не перадасца... Так што лічы — гэта мая асабістая прыхамаць і цікаўнасць.

— Неяк не прыходзіла ў галаву спытаць аб тваім узросце, Дрор. Колькі табе год?

— Калі лічыць зямнымі гадамі, то чатырыста трыццаць шэсць. Бачыш — я ўжо пачаў крыху сівець. А ўвогуле прадстаўнікі нашай расы жывуць недзе каля тысячы вашых гадоў. Вы б маглі жыць столькі ж, калі б імкнуліся развіваць сябе, а не тэхніку.

— Дрор, а ты можаш... Ну, да прыкладу — прысутнічаць, але каб я цябе бачыў, а Алег з Уладзем — не?

— Гэта настолькі лёгка, што магчыма нават для некаторых вашых... Для «гіпнатызёраў». Дасягаецца не вельмі складанымі тэхнікамі.

— Няўжо мы ў параўнанні з вамі зусім нікчэмныя? — У ва мне падымалася крыўда за чалавецтва і зайздрасць да «снежных».

— Не, Тодар, — Дрор уздыхнуў. — Ёсць адна рэч, што ўласціва толькі вам... Мы... Мы не маем мастацтва. Калі б не наша рэлігійнасць, мы былі б проста размаўляючымі жывёламі. Ты ж, мабыць ведаеш, што людзей ад жывёл адрознівае рэлігійнасць і мастацтва? А яшчэ — людзі заўсёды прыкрываюцца знізу... Жывёлы не маюць сораму.

— Дагэтуль не ведаў, зараз ведаю, — засмяяўся я. — Мы з хлопцамі не зганьбілі чалавецтва. Усё паздымалі, а майткі пакінулі! Толькі мяне больш цікавяць вашыя здольнасці. Накшталт тых, як ты паказваў мне сон Уладзі. Пакажы яшчэ штосьці такое!

— Давай, я навучу цябе перамяшчацца. Не цалкам — толькі тваёй духоўнай субстанцыяй. Хочаш? Тады так: кладзіся на спіну, расслабся, заплюшчы вочы. Уяві, што з неба да цябе звісае канат. Цяпер уяві, што ты зусім лёгкі. Як пёрка! Ты бярэшся рукамі за канат і павольна падцягваешся. Цела пры гэтым застаецца гарызантальным. Ты, як гімнаст, толькі трымаць на канаце цела гарызантальна табе вельмі лёгка. Ты падцягваешся, перабіраеш рукамі па канаце. Падымаешся ўсё вышэй і вышэй!

...Я выконваў падказкі Дрора і сапраўды адчуў сябе вельмі лёгкім і дужым. Такім, што без намагання здолеў трымаць цела на канаце гарызантальна. Я падымаўся ў неба. Неяк зусім незаўважна канат знік, растварыўся, а я застаўся вісець паміж небам і гарамі. Глянуў уніз і ўбачыў сярод камянёў тры целы. Алега, Уладзю і сябе. Я асэнсоўваў, што гэта я там ляжу, але не адчуваў. Я — гэта тое, што бязважка, як паветраны шар, вісіць, не — ляжыць на паветры. А тое, унізе — гэта як вопратка. Звыклая, да якой прывязаўся, але вопратка.

Побач узнік Дрор, узяў мяне за руку. І мы імкліва ўзляцелі над гарою, падобную на вулкан, той самай, з дзіркай-пячорай. Павіселі над ёю і нырнулі ў чорны правал...

...Адразу за ўваходам аказалася вялізная зала, асветленая цьмяным святлом, што лілося аднекуль з высокага скляпення. Пасярод залы знаходзілася круглае возера, у яго ўпадаў ручай, які цёк па каменным жолабе. Я прасачыў позіркам — ручай пачынаўся з-пад скалы ў дальнім куце пячоры. Сцены яе былі амаль вертыкальныя, са шматлікімі выступамі. На выступах — гнёзды з

пераплеценых галінак, падобныя на гнёзды буслоў, засланыя знутры серабрыстай тутэйшай лістотай і чорным пухам. Паўсюль з гнёздаў віднеліся галовы і хвасты варон. Стаяў моцны шум, падобны на гук тэатральнага аркестра, які настрайвае інструменты. Гнёздаў было шмат, можа некалькі соцень. Калі значка недзе ў гняздзе, то знайсці яе будзе цяжка і небяспечна — караскацца па скальнай сценцы і неяк абшукваць. Трэба абшукаць і знайсці патрэбнае гняздо зараз, пакуль бязважкі! Але як сагнаць з гнёздаў варон?

Дрор «пачуў» мае развагі, ухвальна паглядзеў і ўзляцеў да столі пячоры. Пакратаў там некалькі камянёў, знайшоў патрэбны, расхістаў і выдраў абломак. Скінуў уніз. Асколак скалы з пырскамі абрынуўся ў возера. Паверхня яго забурліла, і з вады ўсплыло масіўнае шэра-зялёнае тулава, з якога раслі, можа, дзесяць, можа, болей змей. Як на галаве ў Мядузы-Гаргоны. Змеі выгіналіся і разявалі пашчы. Вароны з грамавым «ш-ш-шух-х» зляцелі і замітусіліся ў паветры. Змеі напружыліся, пачалі кідацца ў розныя бакі, імкнучыся схапіць пралятаючых варон. Праз хвіліну яны чоранай рухавай хмарай, з крыкамі пакінулі пячору. Пачвара пакруціла яшчэ крыху шыяміземеямі і пагрузілася.

— Шукай! — загадў Дрор. — Яны хутка вернуцца!

Я ўзляцеў і пачаў даследваць гнёзды, пачаўшы з верхніх уступаў, імкнучыся не прапусціць ніводнага. У большасці гнёздаў знаходзіліся па два-тры зялёныя матавыя яйкі ў залацістыя плямы. Вялікія, большыя за гусіныя можа разы ў чатыры! І недзе на трыццатым убачыў сцізорык, а побач — маю значку, убудаваную ў чорны лямец ля борта гнязда. Крадзеныя ў нас рэчы вельмі добра выдзяляліся на чорным. Я нават паспрабаваў ухапіць іх, але марна — мае рукі праходзілі скрозь, не кранаючы нічога. «Ого! Гэтак можна праходзіць праз сцены! — падумаў я і звярнуўся да Дрора: — Дрорчык, міленькі, ты ж можаш браць у рукі прадметы — забяры значку!» Але той толькі адмоўна пахітаў галавою: «Не! Сам!»

Пачалі вяртацца і садзіцца на гнёзды вароны. Я запамятаў гняздо са значкай — трэці ярус зверху, якраз насупраць уваходу ў пячору. Пад гняздом сіняя скала мае белую прожылку. Дрор зноў схапіў мяне за руку, мы ўзляцелі пад самы верх і вылецелі праз адну з невялікіх адтулін. Відаць яны служылі тут вокнамі і вентыляцыйнымі шахтамі. Спікіравалі ўніз, дзе на каменнай пляцоўцы ля падэшвы гары спалі нашыя целы, Алега з Уладзем, і маё. Імгненне — і я ўжо не ў паветры. Ляжу на цвёрдым, і мне вельмі хочацца спаць.

## 18.

Шлях да гары заняў увесь наступны дзень. Мы караскаліся па грэбені на схіле гары, пералазілі праз вялізныя абломкі скал, пераскоквалі трэшчыны. Адна з трэшчын была такая глыбокая і шырокая, што скакаць праз яе

нам здалося небяспечным — а раптам не пераскочым і разаб'емся. І Уладзя прапанаваў звязаць у фашыну нашыя пікі і выкарыстаць як прамежкавую пляцоўку для скачка. Так і зрабілі. Перакінулі праз трэшчыну звязаныя разам палкі. Першы скакаў я. Разагнаўся, скочыў, не далятаючы да краю адштурхнуўся адной нагой ад фашыны, яна вытрымала крыху спружыніўшы, і апынуўся на процілеглым «беразе» трэшчыны. Такі «двайны скачок» атрымаўся. Другім скакаў Алег. Той з дурным крыкам «Чаму я не сокал, чаму не лятаю!...» — пераляцеў. А Уладзя доўга вагаўся, падыходзіў да краю, заглядаў уніз, разганяўся і тармазіў мо разы чатыры. Потым скочыў. На фашыну трапіў няўдала, нага саслізнула, але ён, падаючы, паспеў учапіцца далонямі за край трэшчыны. Я, відаць, назаўсёды запамятаў ягоныя вочы. У іх не было страху, а было маленне аб ратунку. Я падскочыў і схапіў за запясце. Паспрабаваў цягнуць. Гэта мне аказалася не пад сілу. Збоку падлез Алег, не ведаю, што ён там рабіў. Я, не памятаючы сябе, у думках закрычаў: «Дрор!!» І Дрор імгненна з'явіўся. Узнік, нахіліўшыся нада мною, схапіў Уладзю за руку, што ўжо трымаў я, безвынікова спрабуючы выцягнуць на край ягоную тлустую тушку, і без усялякага намагання, быццам кацяня за лапу, выкінуў таго на каменны край. Перанёс цераз мяне. Я выпусціць Уладзеву руку не здолеў, мяне нібыта сутарга скавала, упаў на спіну. Так і трымаў ягонае запясце. А Дрор адразу знік.

— Нічога сабе... — сказаў Алег. — Я толькі збіраўся табе дапамагчы, а ты перакінуў гэтага парсючка праз сябе... Адной рукою! Каб сам не пабачыў, нікому б не паверыў!

Відавочна, што Дрор паказаўся толькі мне. Ні Алег, ні Уладзя яго не бачылі, таму ім здалося, што Уладзю, які вісеў над прорвай, выцягнуў я. І што мне цяпер рабіць? Ці заставацца ў вачах сяброў супермэнам, ці распавесці пра Дрора? Не павераць жа! Хоць чаму не? Такія прыгоды — тут у што заўгодна паверыш!

Я ўжо здолеў адпусціць Уладзеву руку, і ён ціха плакаў, уткнуўшыся тварам у далоні. Відаць, з пярэпалаху. Шчыра кажучы, мне таксама хацелася заплакаць, і пад лыжачкай варушыўся вялізны камяк.

— Хлопцы! — пачаў я, калі Уладзя ўдосталь наплакаўся, а камяк пад маёй лыжачкай размяк і знік. — Гэта не я выцягнуў, гэта Дрор. Чулі пра лесавікоў, снежных людзей, Еці? Вось! Я пазнаёміўся з сапраўдным, жывым лесавіком...

...І я сцісла, без падрабязнасцяў распавёў сябрам пра тры сустрэчы з Дрорам. Слухалі, раскрыўшы раты. А калі даведаліся, што мае здагадкі пра значку не проста версія, а версія, адпавядаючая рэчаіснасці, акрыялі духам. Асабліва Уладзя. Упэўненасць, што робім правільна дадалі сілаў. Мы не елі з учарашняй раніцы, не пілі з вечара і былі гранічна стомленыя. Аднак бліжэй да канца другога дня нашай «экспедыцыі» ў горы, мы ўжо стаялі ля ўваходу ў варонавую пячору.

# 19.

Усё заставалася, як і напярэдадні, калі мы былі тут з Дрорам. Гэтак жа лілося мяккае, цьмянае святло, гэтак жа крычалі вароны. Какафонія трох соцень скрыпак, віяланчэляў, кантрабасаў. Нас птушкі не заўважылі, ці не звярнулі ўвагі. Мы назносілі на бераг возера цэлую крушню камянёў, я распавёў хлопцам пра пачвару са змяінымі шыямі, потым знайшоў вачыма тое гняздо, насупраць уваходу і палез. Сцены пячоры былі вертыкальныя, і толькі пасля апошняга яруса выступаў нахіл рабіўся непрыступны, утвараючы скляпенне. Я чапляўся пальцамі за выступы і трэшчыны, шукаў апору для ног і павольна ўспаўзаў.

Калі дасягнуў першага яруса, на якім ужо былі гнёзды, вароны захваляваліся, зашумелі мацней, пачалі круціць галовамі, некаторыя ўсталі. Тады Алег з Уладзем кінулі ў ваду каменне. Два ўсплёскі паднялі на паверхню «Гаргону», і пячора за якую хвіліну апусцела. Хлопцы пахаваліся за каменні, мне хавацца не было куды, і я проста замёр. Мінулы раз мне здалося, што галовы «Гаргоны» рэагуюць на рух. Так і здарылася. Я не варушыўся, шыі-змеі павыгіналіся, і пачвара пагрузілася. Я палез далей. Варон прыйшлося выганяць можа разоў дзесяць, пакуль я дабраўся да таго гнязда. Ножык скінуў хлопцам, а значку пабаяўся — раптам заваліцца дзе ў шчыліну між камянямі, або адскочыць і патоне ў возеры. Яна ж — адзіны спосаб вярнуцца ў нашу рэчаіснасць для Уладзі і Алега! Я так расхваляваўся, калі ўзяў яе, што ў мяне затрымцелі рукі. Каб не згубіць, я спачатку хацеў нават праглынуць яе, але ўрэшце прышпіліў да майткаў, і яшчэ закруціў пад гумку.

Шлях уніз аказаўся нашмат складанейшым. Калі караскаўся ўверх, я не бачыў, колькі мне падаць у выпадку чаго, і таму было не вельмі страшна. Апрача гэтага, усе выступы, шчыліны, за якія можна ўчапіцца, наступіць былі перад вачыма, блізка. А як прыйшлося злазіць — апора для ног была далёка ад вачэй, прыходзілася глядзець уніз, а гэта мне смеласці не дадавала. Баюся вышыні. Нават калі выглядаю з вакна свайго пятага паверха, дык ажно ў кончыкі пальцаў пакалвае. Спрабую пераадолець гэты страх, лезу паўсюль, дзе можна на вышыню, але марна. І як гэта некаторыя працуюць на вышыні? Зайздрошчу!

Якое зверху возера маленькае! Каб не «Гаргона», можна было б скокнуць туды. Лепш некалькі імгненняў панічнага жаху, чым доўгія хвіліны цягучага, густога страху. Праўда адсюль, з выступа на сцяне пячоры запраста можна не даскочыць да вады, а бразнуцца на бераг, на вострыя каменныя абломкі. Я глушыў страх такімі вось думкамі аб пачвары, аб шанцах выжыць і спускаўся. Поўз можа разы ў чатыры даўжэй, чым забіраўся. Спусціўся зусім выснажаны, з трымцячымі, ватнымі нагамі: «Усё, хлопцы. Вось ён — пароль свабоды! З ім брама прапусціць нас дадому». Уладзя па сваёй звычцы нешта бомкнуў аб сумненні, але на яго цыкнуў Алег, і той замоўк.

У пячору пачалі вяртацца вароны. Мы дачакаліся, пакуль яны рассядуцца па гнёздах, і выйшлі вонкі, на пляцоўку перад уваходам. Пад намі на бязмежным прасторы рассцілалася даліна, потым лес, а за ім — палоска мора. Вечарэла, свяціла пакрысе згасала, ператвараючыся ў карычневы дыск. Мы спусціліся крыху ніжэй пячоры, знайшлі там сярод скалаў утульнае месцейка і там паснулі.

## 20.

...Дрор сядзеў, адвярнуўшыся ад мяне. Я бачыў толькі ягоную шырозную магутную спіну, парослую густой поўсцю. Я працягнуў руку і запусціў туды пальцы. Навобмацак поўсць была пругкай і мяккай, як у паўночных сабак. Ад дотыку Дрор уздрыгнуў і замёр.

— Які ты мякенькі! — тэлепатычна «сказаў» я. Каб хоць што сказаць.

— Густое футра. — пацвердзіў Дрор. Гусцей, чым у вашага калана. Я магу спаць на снезе, і ён пада мною нават не растане. Гэта пры тым, што наша нармальная тэмпература — плюс трыццаць дзевяць. Па Цэльсію. І не трэба ні з кога здзіраць скуру ці рабаваць гнёзды гагі, забіраючы яе пух.

— Зараз у нас ёсць штучныя матэр'ялы, што не горш за любое футра і натуральны пух! — паспрабаваў я абараніць нашу цывілізацыю.

— Ну-ну! — Я не бачыў яго твару, але мне здалося, што ён усміхаецца. Тут я ўзгадаў, што Дрор выратаваў Уладзю, і змяніў тэму.

— Дзякуй табе, за Уладзю. Каб не ты... Я нават вымаўляць не хачу, што было б. Я схапіўся за руку, але адразу адчуў — не выцягну. Ну і звярнуўся да цябе...

— Вельмі правільнае рашэнне. — Дрор павярнуўся да мяне, і я ўбачыў, што ён сапраўды ўсміхаецца. — Але ж і моцна ты загарлаў! Было «чутно» ў некалькіх паралельных сусветах! Я рады, што пачуў, што дапамог. Бачу, вы вярнулі пароль свабоды, — ён кіўнуў на мае майткі. Гумка ў сне раскруцілася, і значка ззяла ў прывідным сінім святле тутэйшага свяціла. — Глядзі, не згубі другі раз. Ведаеш што — зараз, калі вы самі здабылі пароль, я дапамагу вам дабрацца да брамы. А то калі ў лесе пасееш!..

Дрор лёгка, як немаўлят падняў з пляцоўкі Алега і Уладзю, прыціснуў іх да грудзей. Яны нават не паварушыліся, толькі Уладзя заплямкаў вуснамі. Кіўком галавы запрасіў мяне на шыю. Я залез і адчуў сябе як некалі ў таты. Я сядзеў на татавай шыі і трымаўся за лоб. Зямля ўнізе здавалася далёкай.

Дрор устаў і кінуўся з гары ў прорву. Свяціла крутанулася вакол нас, і Дрор апусціў Алега з Уладзем на пясок. Я споўз сам па слізкім мяккім футры.

— Ну, бывай! — вочы Дрора былі рахманыя, як у аленя. — Я бачу, што ты засумаваў? Не сумуй, мы яшчэ будзем бачыцца. Я абяцаю!

І ён растаў. Як здань.

Я прынёс з клеткі нашу вопратку, а потым расштурхаў сяброў. Смешна было глядзець, як яны няўцямна азіраюцца.

— Апранайцеся. Зараз будзем вяртацца. — сказаў я. — Дома холадна.

## 21.

...Мы перабеглі цёмны, заснежаны двор, шмыганулі па пад'ездах. Я хацеў употай праслізнуць у свой пакой, каб хоць даведацца дату, але кватэра сустрэла мяне гамам галосоў. Была поўная людзей.

З кухні выйшла расчырванелая, вясёлая мама з разносам у руках.

— Тодарка! Дзе швэндаешся? Тату вызвалілі. Ля пастарунку сабралася мо тысячу людзей, і з выканкама далі загад адпусціць. Распранайся, ідзі павіншуй.

Быў вечар таго дня, калі мы ўвайшлі ў браму, час у нас сплывае павольней, чым там, у краіне з блакітным сонцам.

Я скінуў куртку. На швэдры зазіхацела бел-чырвона-белая значка. Пароль свабоды.



# Алена Масла

**пісьменніца, журналіст. Аўтарка кніг казак: «Каляды з хроснай», «Таямніца закінутай хаты», «Першая Прыгажуня» і інш. Заснавальніца і арганізатар праектаў «Літаратурная Масленіца», «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні», арт-студыі «Казка». Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Мілашова на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.**

# Журавінавая kроў

Не ўсе раны загойвае час. Дакладней, ты жывеш, пэўны, што некалі перажытае засталося ў мінулым, што адчай і скруху, якія выпалі на тваю долю, перамагае неабходнасць жыць — спачатку, а пасля ўжо — само жыццё з яго шчаслівымі імгненнямі і клопатам. Усё гэта складаецца ў валізу пад назвай «Жыццёвы досвед» і цягаецца за сабой, спрацоўваючы як амартызатар падчас новых удараў і выпрабаванняў. Датуль, пакуль аднойчы самае нязначнае здарэнне раптам не ўварвецца ў знітаванасць паўсядзённых спраў і не сарве струп з той самай раны, якая нібыта даўным-даўно згубілася пад новымі, свяжэйшымі — але ўраз засмыліць куды горш за іх.

Так было ў мяне. Неяк узімку несла ў слоіку журавіны для сваёй прыяцелькі ў бальніцу і паслізнулася на прыцярушанай снегам коўзанцы. Слоік звонка дзынкнуў, аскепкі шкла пырснулі ў бакі, а я сама, манеўруючы, усё ж не ўтрымалася і рухнула рукамі ў рассыпаныя ягады. Працяў не проста боль парэзаных аб пабітае шкло рук — успамін, нібы ўпіўшыся ў ранкі, імгненна расцёкся па крыві, запульсаваў у скронях. Усё было як тады — зіма, не бачны пад снегам лядок на падыходзе да бальніцы, і — як цяпер — кроў пацісканых журавінаў, перамяшаная з крывёй маіх парэзаных рук.

На аповед спатрэбіцца час, памяць жа высвеціла згаданае з маланкавай хуткасцю, аб'ёмна, нагадваючы нават адчуванні ад сцюдзёных абдымкаў золі падчас чакання аўтобуса на прыпынку ля анкалагічнага цэнтра. Праз амаль трыццаць гадоў душу працялі такія безвыходнасць і адчай, на якія тады я папросту не мела права. Бо трэба было дзейнічаць, на слёзы ж і скаргі не ставала ні эмоцый, ні фізічных сіл: стрыечная сястра Люда, прапісаная на неакрэслены тэрмін у адной з палат гэтага жахлівага анкацэнтра, штовечар чакала мяне...

Да прыяцелькі тым разам я не дайшла. Пакінуўшы дворніку клопат прыбраць расцісканыя журавіны і пабіты слоік, пакіравала ў прыёмны пакой. Там выклікалі дзяжурнага траўматолага, мае рукі агледзелі і апрацавалі ранкі. Наклалі пластыр і выправілі дамоў, наказаўшы больш не падаць.

Хацелася пабыць адной, і я пабрыла гарадскімі вулкамі ў бок дома, крок за крокам заглыбляючыся ў пару, якая так неспадзявана-пякуча азвалася ў душы і ажывіла ў памяці вобраз сястры.

***

Люда была высокая, статная — пра такіх, як яна, кажуць «кроў з малаком». Не поўная, а менавіта вялікая — як волатка з казкі, дужая і спрытная. У яе былі доўгія каштанавыя валасы з мядзяным водсветам і такога ж колеру вочы. Калі мыліся ў лазні і, распрануўшыся, Люда расплятала касу, яна станавілася падобнай да поўні, якая цудам апусцілася на зямлю і трапіла ў пастку мядзя-

на-каштанавых валасоў. Праз бялюткую скуру блакітным сяйвом прабіваўся малюнак жылак, яшчэ ўзмацняючы падабенства сястры з поўняй.

Люда мела надзвычайную для дзяўчыны сілу. Па гаспадарцы яна, калі даводзілася, рабіла навыперадкі з бацькам і старэйшым братам. Памятаю, як у сенакос звозілі сена з луга. Жанчыны заграбалі валкі, а Люда разам з мужчынамі віламі хапала вялізныя пласты і ўскідвала на высокі воз. На дакоры, што нельга так дзеўчыне рвацца, Люда толькі смяялася — відаць, цяжкой такая праца ёй не падавалася.

Больш за тое, мужчынскую працу яна любіла. Сваякі сцвярджалі, што ў гэтым Люда ўдалася ў стрыечную бабулю Анету. Тая на дух не выносіла «бабскай» работы, праз што пакутвала ўся яе сям'я. Гатавала, прыбіралася, шыла, прала праз сілу. Затое за канём хадзіла, дровы пілавала і шчапала нароўні з мужыкамі.

Люда ж ахвотна дапамагала па гаспадарцы і маці. Але было такое адчуванне, што дома, у чатырох сценах нашай волатцы цесна, і патрабавалася адкрытая прастора, моцная фізічная нагрузка, каб яе энергія і незвычайная для дзяўчыны дужасць знайшлі выйсце.

Мяне ўражвалі Людзіны рукі. Колькі б працы яна не перарабіла — на вузкіх моцных далоньках з доўгімі тонкімі пальцамі ніколі не націраліся мазалі. Не тое, што ў мяне, не звыклай да бязлітаснага тэмпу вясковага жыцця. Хапаешся за граблі ці матыгу — і ўсё збываецца, як у той прыказцы: «Гультай за работу — мазоль за палец».

Сястры лёгка давалася не толькі вясковая праца — яна выдатна вучылася. Скончыўшы школу з залатым медалём, з адным экзаменам паступіла ў інстытут — але праз два месяцы кінула яго! Наша сваячка, у якой Люда кватаравала, казала, што дзяўчына плакала штовечар і, урэшце, цішком з'ехала дамоў. Пасля яна перавялася на завочнае, вучылася і працавала, але вёску на горад прамяняць не змагла.

Я была маладзейшай за Люду на пяць год. У юнацтве такі тэрмін — цэлая эпоха, таму сяброўства ў нас было своеасаблівым. Да мяне, «малой», Люда ставілася любоўна-паблажліва. Надта не паставала ўвагай, але брала ў сваю кампанію, ідучы купацца на возера. Не выганяла з пакоя, калі збіраліся дома дзяўчаты — Людзіны сяброўкі-аднагодкі. За права быць дапушчанай да іх свету даводзілася часцяком на пасылках у старэйшых быць: такія правілы распаўсюджваліся на ўсю «дробную шляхту», як называлі меньшых. Я не была выключэннем. Бегала ў студню па ваду, шаравала падлогу, секла ахрап'е — адным словам, спраўляла за сястру нейкі мізэр у бясконцай плыні вясковых справаў, абы дагадзіць.

Памятаю, як аднойчы я дапамагала збірацца Людзе на танцы і шчыравала, прасуючы шаўковую сукенку. Менавіта тады я «удружыла» ёй — не саўладаўшы з цяжкім прасам, рассыпала вугалі на карычневую ў белы гарох матэрыю і сукенку, канешне ж, спаліла. Ох і нагарэла мне ад сястры! Яна мітусілася па

хаце і шукала, у што ўвабрацца зараз, за пару хвілінаў да прыходу кавалера: ён павінен быў заехацца за ёй на матацыкле. Люда нават выцяла мяне па спіне рушніком, а я — хутчэй ад перапалоху за незадачу, чым ад крыўды — злосна агрызалася ў адказ на яе дакоры. А што, сапраўды, хіба я вінаватая, што з іхнім прасам абыходзіцца не ўмею? Усе людзі як людзі, ва ўсіх — электрычнасць у хаце, і толькі бацькі Люды са сваёй сям'ёй жылі ў такім дзікім месцы, на такім глухім хутары, што цягнуць ім электрычнасць калгас палічыў немэтазгодным. Таму і прас тут быў на вугалях, а вечарамі замест звыклых электрычных лямпачак запальваліся вялікія газніцы — і ўсё гэта ў васьмідзясятых гадах дваццатага стагоддзя!

Ну, але ж на адсутнасць электрычнасці я наракала толькі праз няўдалы выпадак са спаленай сукенкай. Па праўдзе, менавіта глухамань і была тым магнітам, які вабіў мяне сюды, на хутар Красны Луг, з нашага невялічкага, раённага, а ўсё ж горада. Тут жыла старэйшая маміна сястра — цётка Нінка. Красны Луг быў бацькаўшчынай яе мужа, дзядзькі Міхася, і гэты маўклівы, цягавіты ў працы чалавек выявіўся настолькі прывязаным да свайго лапіка зямлі, нібыта пупавіну пры нараджэнні яму не перарэзалі, а навязалі за яе каля гэтай вось даўнейшай хаты.

Драўляную падлогу тут не фарбавалі, а па суботах дзеркачом начышчалі да залацістага бляску. Потым, па мокраму, раскідвалі аер — і яго водар толькі замацоўваў адчуванне незвычайнага свету, які цудам супрацьстаяў рэчаіснасці з яе шалёным імкненнем да тэхнічнага прагрэсу.

Хата ставілася яшчэ бацькам дзядзькі Міхася, і тут, нібы ў музеі, поўна было даўнейшага гаспадарчага начыння. Драўляныя куфры, плеценыя з лазы кашы, ступы, шуфлі, кросны, калаўроты, даматканыя посцілкі і ручнікі, шырокія лавы пры сценах, якімі, пры неабходнасці, карысталіся як ложкамі, самі ложкі на «чыстай» палавіне — аздобленыя карункамі і горамі пуховых падушак, печ, у якой строілі есці і час ад часу выпякалі хлеб, жорны ў вараўні — халоднай частцы дома, дзе захоўваліся харчы (лядоўні ж праз адсутнасць электрычнасці таксама не было!) — ды шмат чаго яшчэ, што дазваляла пачувацца тут як на машыне часу.

Пляскаты валун перад уваходам служыў хаце ганкам. А скразныя сенцы, якія аддзялялі вараўню ад жылой палавіны, нагадвалі шлях у фантастычны свет з «Хронік Нарніі», якім я тады трызніла. Казачную аповесць пра ільва, чарадзейку і шафу спрэзентавалі мне суседзі за тое, што пагаджалася пабыць за няньку ва ўнучкі, капрызулі Лізкі. У мяне быў падыход да двухгадовай пястушкі, ёй падабалася «каза» ў маім выкананні і байкі пра катка, таму Лізка ў мяне ніколі не плакала.

Вось і дастаўся мне скарб, які стаў не проста захапляльным чытвом, а нібыта сведчаннем на карысць існавання паралельнага свету, вобразамі з якога жыло маё ўяўленне. Менавіта тут, у хутарской цішы Краснага Луга, не пакідала адчуванне яго блізкасці. Асабліва ж у імгненні, калі стаяў на ганку-валуну,

піхаў ад сябе цяжкія дзверы, збітыя з шырокіх дошак і бачыў, як праз цемнату доўгіх вузкіх сенцаў ляціць насустрач табе пук сонечнага святла, а яловыя лапкі залазяць у праём адчыненых на гаспадарчы двор дзвярэй — амаль так, як было ў «Хроніках...»

Ад таго, што дзверы ў сенцах былі адны насупраць другіх, утвараўся моцны скразняк. Цётка Нінка пераймалася, каб я, гарадская даліктуся, не захварэла. А я наўмысна лезла на гэты скразняк — нібы чакала, што ён стане віхурай, падхопіць мяне і перанясе кудысьці, дзе пакуль дазволена блукаць толькі ў мроях.

Да бліжэйшай вёскі ад Краснага Луга было не меньш за пяць кіламетраў. Затое да лесу — рукой падаць. Таму ў агарод часта прыбягалі зайцы, на сенажаць побач з домам выходзілі ласі і касулі, а ўначы было чуваць, як выюць ваўкі або цяўкаюць лісіцы.

І лес тут быў не проста лесам, а подступам да балота. Апошнія гады яго называюць «лёгкімі Еўропы» і ўсяляк аберагаюць ды захоўваюць, тады ж збіраліся асушаць.

Гэта было вялізнае балота — з астравамі, азёрамі, а таксама азярынамі, зацягнутымі-замаскіраванымі раскай. Сунуцца на яго без праваднікa было згубай, бо балотныя абшары хавалі ў сабе не толькі ягадныя скарбы, за якімі ўвосень спяшаліся людзі, але і небяспеку.

Брусніцы і журавіны можна было браць з краю балота і радвацца знойдзеным нерушам, або адшукваць ягадкі на здратаваных дзясяткамі ног купінах. А можна было заглыбіцца на некалькі кіламетраў ад берага, і там ужо не збіраць, а заграбаць ягады ў вёдры, проста лежачы на баку. У такіх дальніх паходах складанасці былі не з тым, каб набраць, а каб вынесці ягады на бераг. Тут, у Красным Лузе, я аднойчы пачула гісторыю пра бабцю, якая мела славу непераўзыдзенай у спрыце ягадніцы. Аднак бабця была скупой. Ніколі і нікога не брала яна сабе ў кампанію, ідучы на мох. Ля мяхоў з журавінамі, якія была не ў стане ні вынесці на бераг, ні пакінуць у балоце, яна, казалі, і памерла.

У дальнім паходзе мне аднойчы пашчасціла быць з кампаніяй ягаднікаў з горада. І вяла нас, пракладаючы шлях праз балота са здрадлівымі азярынамі, дзе адзін няправільны крок — і багна не пашкадуе, сквапна глыне неасцярожных вандроўнікаў, Люда. Мая сястра. Балота яна ведала як свае пяць пальцаў, як панадворак ля хаты, бо разам са старэйшымі выпаўзала гэтыя вялізныя абшары адмалку і навучылася разумець іх.

Калі мы дайшлі да яе палестынкі, дзе было не ступіць у ягадным кострышчы, ягаднікі ажно пашалелі, не ведаючы, што хапаць спярша — брусніцы ці журавіны. А Люда, абапёршыся на доўгі кій, якім падчас паходу намацвала цвёрдую сцежку папераддзе сябе, спакойна стаяла і, закінуўшы галаву, глядзела ў неба. Сонца свяціла ў твар сястры, вясёлкаю зіхацела на яе мядзяных валасах, на вейках прыкрытых вачэй і рассыпалася тысячамі іскрыстых пырскаў па чырвані ягад ля яе ног. Наша праваднiца ў тое імгненне была падобнай да

багіні журавінавага свету, якая ходзіць па імхах, дзе пажадае, і з вялікай сваёй ласкі пракладае дарогу сюды простым смяротным... Кампанія ягаднікаў раптам прыціхла, не ў стане адарваць вачэй ад Люды. Тады яна засмяялася, кінула кій і гукнуўшы: «Ну, давайце напераганкі!» з такім спрытам узялася браць ягады, што, здавалася, яны самі да яе ў вядро скачуць...

Адным словам, я абагаўляла сваю сястру, а Красны Луг атаясамляла з казачным іншасветам. Відаць, таму ў свой час сталася ці не адзінай са шматлікай радні, хто зразумеў учынак Люды, яе непрыняцце горада.

Да ўсяго, я, дапушчаная да дзявочых размоў, здагадвалася пра яшчэ адну прычыну хуткага вяртання сястры дамоў. «Прычына» была мужчынскага роду. Сашка, хлопец-асілак, пад два метры ростам — нібыта адмыслова для нашай красуні, пад стаць ёй, створаны. Пасля войска Сашка вярнуўся да паджылых бацькоў, працаваў кіроўцам і завочна вучыўся ў ВНУ. Гэта ён на сваім матацыкле падвозіў Люду на танцы і з танцаў. Калі ж яна з'ехала ў горад, лепшай з сябровак (яе звалі Ванда) адразу закарцела заняць месца за шырокімі плячыма матацыкліста. І, пакуль яна не ўшчамілася ў яго думкі ды сэрца, сястра, папярэджаная прыяцелькамі, і прыляцела дамоў.

Недзе праз год яны згулялі вяселле. Бацькі ў хуткім часе памаглі маладым купіць хату на Іванаве, вёсцы пры дарозе. Там хадзіў аўтобус, рукой падаць было да цэнтральнай сядзібы калгаса. Саша з Людай загадавалі гаспадарку, панаставілі вулляў у садзе — жыццё вакол хаты круцілася-гудзела.

Замужам, пасля родаў, Люда раздабрэла, твар яе заўжды патыхаў здаровым румянцам. «Не баба — печ!» — выказвалі найвышэйшую ступень захаплення Людзіным хараством вясковыя мужыкі. Ёй ніколі нічога не балела, яна папросту не ведала стомы — складана было прыдумаць, каб і хацеў, больш пераканаўчы ўзор здароўя і жаночай дужасці.

І раптам гэтая «печ» — жыццядайная, цёплая, само ўвасабленне трываласці і спрадвечнай надзейнасці хатняга агменю — трапляе ў рэспубліканскую анкалогію... У вестку пра несуцешны дыягназ Люды не верыў ніхто!

Я не была выключэннем. Калі атрымала ад мамы ліст з жахлівай навіной, свет перавярнуўся дагары нагамі. Было так страшна, што я не адважылася суседкам па пакоі тлумачыць, куды і чаму, нанач гледзячы, еду. Толькі папярэдзіла, што не буду начаваць у інтэрнаце. І выскачыла, як апараная, за дзверы, каб ніхто не паспеў пачаць роспыты. Раптам высветліцца, што гэта — памылка?

Мне неабходна было пабачыць усё на свае вочы, пачуць саму Люду, ад яе даведацца, што кажуць дактары.

***

У тую пару я ўжо была студэнткай сталічнага ўніверсітэта, і горад моцна ўзяў мяне ў абарот. Разам з сяброўкай-аднакурсніцай мы бывалі на адкрыцці ўсіх выстаў, на ўсіх прэм'ерах у Доме кіно, хадзілі па тэатрах. Балазе, гэтаму

спрыялі нашыя выкладчыкі — кіна- і тэатральныя крытыкі, мастацтвазнаўцы, якія для зацікаўленых студэнтаў усе «закрытыя» прагляды рабілі даступнымі, арганізоўваючы культпаходы ці надзяляючы запрашальнікамі.

Да таго ж, мы пачалі актыўна падпрацоўваць на радыё. Да сарака рублёў стыпендыі і такой жа падтрымкі з дому атрымлівалі ганарары, таму маглі падарожнічаць. Вільня, Рыга, Масква, Львоў, Кіеў, Ленінград, Петразаводск — кудысьці ехалі самі, кудысьці выпраўляў нас універсітэт на студэнцкія навуковыя канферэнцыі.

Мы атрымлівалі такі феерверк новых уражанняў, звязаных з вучобай, што, да свайго сораму, нават лісты дадому адпісвалі з вялікім спазненнем. І маці са скрухай, падсалоджанай гонарам за свае дзіцятка, упікалі, што чуюць нас часцей па радыё, чымся маюць ад нас вестачкі.

Яшчэ я закахалася. Каханы мой вучыўся на мастака і нібыта адказваў ўзаемнасцю — але з зайздросным пастаянствам праз пэўныя адрэзкі часу знікаў. З'яўляўся не надоўга, каб расказаць пра свае душэўныя парывы і пошукі прыўкрасных вобразаў, запэўніць мяне ў нязменнасці і палкасці свайго пачуцця — і зноўку знікаў. Зноў з'яўляўся, і я ў каторы раз мусіла слухаць пра яго геніяльныя здольнасці і неабходнасць усё новых і новых порцый натхнення. А пасля знаёмыя некалькі разоў бачылі майго генія ў горадзе з featureрознымі «натхняльніцамі». Аднак і да мяне дарогі ён не забываўся! Галава і сэрца мае былі забітыя гэтым тлумам, і я пакуль не магла даць рады сваім пачуццям...

За ўсім гэтым жыццёвым калаўротам настальгія па родных мясцінах, якая ў першыя месяцы расстання з домам была такой моцнай, што часам не давала спаць і вымушала шалёна грукаць сэрца на пад'ездзе да роднай станцыі ад дзіцячага страху, што цягнік возьме і раптам не спыніцца — пакрысе мінала. Дакладней, яна відазмянілася, стала зрадні пачуццю безвыходнасці, падобнай да таго, калі ў маленстве праліваеш слёзы над пазбаўленай жыцця жывёлінай, што гадавалася на тваім падворку, а праз некалькі гадзінаў ужо аплятаеш свежаніну — што рабіць, есці трэба, усе так жывуць. Так і горад: захапіў, завірыў ў чарадзе падзеяў, паланіў — і я з гатоўнасцю здалася: міграцыя з вёскі была ледзь не прадпісаннем моладзі — усе так жылі.

Родныя мясціны, час ад часу нагадваючы пра сябе тугой, якая выплывала аднекуль з падсвядомасці, клікалі наведвацца. На поклічы гэтыя калі адгукаўся, але ўсё часцей аддаваў перавагу разнастайным справам, якія засмоктвалі, як багна — і ты ўжо рады быў у ёй патануць.

Дык не дзіўна, што пакрысе колішнія Людзіны ўцёкі з гораду і ў маіх вачах сталі выглядаць дзівацтвам. А зерне прагматызму, пасеянае ў душы новым ладам жыцця, знайшло і апраўданне лёсу, які напаткаў Красны Луг. Вялася меліярацыя і хутар, які падпадаў пад зону адсялення, скасавалі. Дзядзька Міхась упарціўся пераезду, не жадаў кідаць бацькаўшчыну. Урэшце, калі высяляць сталі з міліцыяй, знайшоў сабе хату паблізу вёскі, у якой жылі Люда з Сашам.

Хата стаяла воддаль ад вёскі і нагадвала непрыступны замак. З аднаго боку падходы да яе адразала рака. А ручай, які ў раку ўпадаў, абмяжоўваў подступы да хаты з боку вёскі. Разліваючыся ўвесну, ён станавіўся сур'ёзнай перашкодай на шляху і саміх гаспадароў, і кожнага, хто б хацеў іх наведаць. Але гэта зусім не бянтэжыла дзядзьку Міхася. Ён цяжка перажываў расстанне з Красным Лугам, і суцяшэннем на новым месцы яму якраз і была звыклая адасобленасць, магчымасць жыць хаця і паблізу людзей, але не церціся спіна ў спіну з суседам, пачувацца вольна.

Гэты маўклівы ад прыроды чалавек з пераездам зрабіўся нават ваўкаватым. Нікога не дапускаў да сваіх перажыванняў, ні слова скаргаў ад яго ніхто не пачуў. Адно працаваў на гаспадарцы з яшчэ большай утрапёнасцю, чым раней. А ў хвіліны адпачынку моўчкі пыхкаў сваёй самакруткай ды так тужліва глядзеў вакол, што кожны, хто трапляў пад гэты погляд, лічыў сваім абавязкам кінуцца суцяшаць яго: «Міхась, што ты сваёй выгоды не разумееш! Тут во хоць свет ё, магазін побач!»

І я аднойчы, наведаўшы сваякоў на новай сядзібе, сказала гэтыя словы дзядзьку, толькі замест выгод з «магазінам» маім жалезным аргументам на карысць новай хаты стаўся электрычны прас.

Дзядзька Міхась не адказаў, толькі працяў позіркам, у якім была нават не пагарда — не. Усведамленне сябе іншапланецянінам, які не ў стане патлумачыць хараства сваёй планеты вось гэткім, як я, прыхадням, якія жывое прамянялі на выгоднае ды яшчэ цешацца праз гэта.

***

Да анкалагічнага цэнтра, вынесенага па-за межы сталіцы, хадзіў гарадскі аўтобус. Сеўшы ў яго, я міжволі кідала позіркі на людзей, з якімі выпала ехаць разам — нібы старалася прачытаць па тварах, з кім давядзецца выйсці на адным прыпынку і пакіраваць да аднаго будынка. Падсвядома я нібы шукала салідарнасці ад тых, каго жыццё вымусіла наведваць гэтае самотнае месца і хто, магчыма, ужо засвоіў нейкія правілы, нейкую мадэль паводзінаў, якая дапамагае здароваму чалавеку не толькі трымацца годна перад застрашлівым дыягназам, пастаўленым блізкаму і быць яму падтрымкай — але марна.

Нехта з пасажыраў драмаў, нехта засяроджана ўглядаўся ў прыцемкі за вакном, нехта, занурыўшыся ў думкі, бяздумна таропіўся перад сабой. Урэшце, адчуванне безвыходнасці і безнадзейнасці адно ўзмацняліся. Толькі адна рухавая бабулька ўвесь час усміхалася і добразычліва паглядала наўкол. Хударлявая, з доўгім востранькім носам на дробным твары і выцвілымі, але вельмі жывымі вачыма-пацеркамі, яна нагадвала цікаўную птушку, якая прысела на галінку перавесці дух і круціла галавой на бакі, імкнучыся за імгненне ацаніць усе плюсы і мінусы свайго «аэрадрому»... Выглядала на тое, што адно ёй, задаволенай жыццём, сыходзіць не ля анкалагічнага цэнтра.

Атрымалася ж якраз наадварот: да канцавога прыпынку даехалі толькі мы ўдвух. Астатніх пасажыраў, абцяжараных пазбіранымі за дзень турботамі, аўтобус рассейваў ад прыпынка да прыпынка і, кранаючыся, з палёгкай уздыхаў-чмыхаў — нібыта вельмі цяжка было везці яму такую канцэнтраваную дозу кепскага настрою.

Бабулька ўпэўнена пашыбавала па дарожцы ў бок бальнічных карпусоў, і я паспяшалася дагнаць яе.

— Прабачце, я тут упершыню. Не падкажаце, як чалавека знайсці? У мяне сястра недзе тут ляжыць.

— Э, міленькая, — з гатоўнасцю адгукнулася бабулька, — каб раней прыехала, то знайсці не складана. Вунь той корпус, галоўны, бачыш? Там даведка. І ў якім аддзяленні, і ў якой палаце твая сястра — усё раскажуць, як працаваць будуць. Сёння ж усё — і наведванне хворых скончылася, і даведка не працуе. Я тут санітаркай, дык на змену прыехала. А цябе, міленькая, ужо не пусцяць!

— А што рабіць? — разгубілася я. Сапраўды, у парыве хутчэй пабачыць Люду я ні пра што не падумала. — У колькі аўтобус у горад, ведаеце?

Бабулька пляснула рукамі.

— Дык той, на якім мы прыехалі, апошні быў! Ён развярнуўся — і назад. Усё, сёння транспарту ўжо не будзе...

Я прыпынілася, ліхаманкава прыкідваючы, што рабіць далей. Восеньскі вечар, і так цёмны, неяк раптоўна пахаваў рэдкія зоры за цяжкімі хмарамі. Наляцеў вецер і пачаў вытрасаць з іх мокры снег. Хвойнік, сярод якога і стаялі карпусы анкацэнтра, пагрозліва зашапацеў шатамі дрэваў — нібы імкнуўся адгаварыць ісці цёмным лесам да шашы і чакаць спадарожную машыну.

Бабулька пашкадавала мяне.

— Куды ж ты, міленькая, нанач гледзячы? Хадзем са мной. На кушэтцы ў бакоўцы пераначуеш, калі што. А, можа, і да сястры тваёй даб'емся яшчэ сёння. Гэта ўжо ад таго, хто дзяжурыць, залежыць. Толькі паспяшай, а то я спазняюся.

Надзея здзейсніць тое, дзеля чаго ехала, і нежаданне сноўдацца па начным лесе панеслі мяне за дабрадзейкай як на крылах.

***

— Тамара Ільінічна, — знаёміліся мы з бабулькай у хуткім часе. — Вера. Хадзі сюды, міленькая, халат табе белы дам і тапачкі. У бальніцы гэта самыя лепшыя пропускі. Скажу, што санітарачка з суседняга аддзялення, хто цябе тут сярод ночы правяраць будзе? Пасядзі во, чайку папі, а я злётаю гляну, ці ёсць пільная праца — і пойдзем.

Тамара Ільінічна наліла чаю з вялікага тэрмаса, адкроіла лусту ад батона і скрылёк ад кавалка сыру.

— Еж. Захочаш болей — бяры. Сядзі тут, не бойся, я цябе звонку зачыню. Але з санітарачак на дзяжурстве я адна, ніхто не павінен у гэту баковачку сунуцца.

Ключ павярнуўся ў дзвярах, і мая ратавальніца знікла. Я стала піць чай, бутэрброд не лез у губу: хаця для мяне пакуль што ўсё складалася найлепшым чынам, было нязвыкла і неяк непрытульна. Бабулька радвала — і дзівіла сваёй нечаканай прыхільнасцю і дапамогай.

Яна і праўда «злётала» па сваіх справах — праз кароткі час з'явілася ў баkoўцы.

— Перадыхнула, міленькая? А я з дзяжурнай сястрой дамовілася, што адскочу ненадоўга. Работы ў аддзяленні поўна, усё ж нада каб чыста было, ды і ляжачыя тут ёсць, ля іх пахадзіць трэба. Ну, але ненадоўга магу вырвацца. Пойдзем у прыёмнае аддзяленне, там пра тваю сястру і даведаемся.

Я пакорліва выконвала ўсё, што казала мая апякунка. Паверх белага халата накінула куртку, бо Ільінічна сказала, што пойдзем падземным калідорам, а там дзьме; павязала галаву белай хусцінкай, як і належыць. Боты пакінула ў бакоўцы.

— Калі пусцяць, прынясу табе твае боты, ноч доўгая. А раптам не? Што торбы за сабой цягаць?

Ільінічна гаварыла і гаварыла без перастанку. Але ў душу не лезла, нічога не распытвала — нібы і так добра разумела, што ў той душы робіцца. Так мы і рухаліся падземнымі і, як падалося мне, нейкімі бясконцымі бальнічнымі калідорамі, якія злучалі паміж сабой карпусы. Цьмянае святло ад электрычных лямпачак — а дзе і яго адсутнасць, скразняк, які працінаў праз вопратку, нязвыклая форма адзення рабілі ўсё, што адбывалася, падобным да сцэнак з фантастычнага фільма пра блуканні па невядомай планеце.

— Э, міленькая, — раптам спынілася Ільінічана, якая дагэтуль усё кідала на мяне кароткія пранізлівыя позіркі. — Ты яшчэ і сястры не бачыла, а ўжо сама не свая. У рукі вазьмі сябе, чуеш? Ад таго, як ты на яе паглядзіш, можа, жыццё яе будзе залежыць. Гэта ж такія хворыя, яны надзеяй ды верай больш, чым хіміяй рознай, трымаюцца. Я табе не пустыя словы кажу. Сама тут тры гады таму ляжала. Павыразалі вантробаў палову — а во, жыву! Ды яшчэ і лётаю. Колькі мне адмерана — Бог знае, але пайшла сюды працаваць. Я адзінокая, муж даўно памёр, а сыночак загінуў у аварыі — царства ім нябеснае. Дык я во папрасілася сюды санітарачкай, хоць людзям паслужу. Хворым, міленькая, болей за пігулкі ласка ды добрае слова патрэбныя. А сястра ж, відаць, маладая? Не плач каля яе. Будзеш плакаць — дык лепей і не хадзі. Ёй і без слёз тваіх і страшна, і маркотна. Ты мне павер, я ўжо ведаю.

Я згодна заківала галавой. Адказ на мой запыт пра паводзіны, якім я сканавала пасажыраў аўтобуса, дала рухавая ўсмешлівая бабулька, былая пацыентка гэтага жахлівага цэнтра — і на душы палягчэла. Надзея, што з Людай таксама ўсё можа быць добра, зачапілася квёлым агеньчыкам. Гэ-

тага аказалася дастатковым, каб я і праўда саўладала з дрыжыкамі, якія працінялі зусім не ад скразняку — нервы разышліся так, што мяне калаціла, а язык ажно заплятаўся, калі ў прыёмным пакоі я стала называць імя і прозвішча сястры.

І хвіліны не мінула, як я ўжо трымала ў руках паперку з назвай аддзялення і нумарам палаты, дзе Люда ляжала адна.

Тамара Ільінічна не стала ілгаць дзяжурнай, што я — санітарачка. Расказала пра нашу сустрэчу як ёсць і на правах сваёй запытала:

— Паўлаўна, дык, можа, пусціш дзеўчынёшку? Я ў сябе яе прытуліла, не прападзе. Але ж сама падумай, яна да сястры ехала, што ж ёй час марнаваць? Тым больш, кажаш, сястра ў палаце адна ляжыць. Нікому не перашкодзяць, а той весялей будзе. А заўтра збярэцца — і на вучобу. Ты ж, пэўне, вучышся? — запытала мяне Ільінічна.

— Так, на журфаку, — пацвердзіла я і спахапілася. — Ой, а першы аўтобус у горад у колькі? У мяне на радыё запіс рана, зусім забылася! Трэба паспець — заўтра пра дзяцей, уцекачоў з дому, буду сюжэт рабіць.

— Студэнцкі пры сабе? — раптам зацікавілася Паўлаўна, якая, выпісаўшы дадзеныя з журнала рэгістрацыі, убілася ў свае паперы і ані не рэагавала на нас з Ільінічнай.

Паўлаўна была падобнай да айсберга. Трацiна яе постаці ўзвышалася над сталом, дзве трэці хавалі пад сабой і рабілі амаль незаўважным крэсла, на якім дзяжурная сядзела. Лавіна трох падбародкаў Паўлаўны плаўна перацякала ў сумёты высокіх грудзей, рукі-боханы аблямоўвалі магутнае тулава. Аб'ёмы дзяжурнай па прыёмным пакоі выразна тлумачылі, што без адмысловых паперак-дазволаў пратачыцца ў бальніцу нікому старонняму не наканавана, а каменны выраз твару дадаваў, што яго гаспадыні лішнія праблемы і адказнасць зусім не патрэбныя. Будзе заўтра, будуць дактары на месцы — тады і рашайце з начнымі дзяжурствамі ля хворай, пішыце заяву, як належыць, і каб загадчык аддзялення дазвол падпісаў... Аднак мае словы пра радыё нечакана ачуцілі Паўлаўну.

— Калі ласка! — з гатоўнасцю пацвердзіць, што не самазванка, падала я студэнцкі.

— О, дык вы тая самая Вера Перагуд! — усклікнула Паўлаўна. — А я вам учора ліст на адрас перадачы адправіла!

Тамара Ільінічна радасна заўсміхалася, пабачыўшы вокамгненна падабрэўшы твар Паўлаўны.

— Ой, дзяўчаткі, можа, вы тут далей без мяне? Мне ж бегчы да сваіх трэба, я і так забавілася. Паўлаўна, не пакрыўдзі ты ўжо дзеўчынёшку! Бачыш — і вучыцца во, і працуе. І за сястру перажывае. Завядзі ты яе куды трэба, не з'есць цябе той загадчык! Добра? — Ільінічна сыпала словамі, як з кулямёта, і Паўлаўна ажно рукамі на яе замахала.

— Ды бяжыце ўжо! Разбярэмся!

— Боты прынясу, не пеpажывай, — нагадала мне Ільінічна. — Ну, добрага дзяжурства! — пажадала яна Паўлаўне. — А ты, дзеўка, помні, што я табе пра настрой казала. Усё, пабегла!

І Тамару Ільінічну як ветрам здзьмула. Паўлаўна дабрадушна заўсміхалася.

— Як маладая носіцца! Казала, што у нас яе аперыравалі колькі гадоў таму? І цяжкая ж была, сярод безнадзейных... А во неяк выкарабкалася, сама не здаецца і другім не дае. Добрая бабка! І гэта ж трэба — на лаўца і звер бяжыць: мне цябе прывяла.

Высветлілася, што Паўлаўна — адданая слухачка маіх сюжэтаў пра дзяцей з дзетпрыёмнікаў-размеркавальнікаў. Былі ў тыя часы ўстановы, якія займаліся малалетнімі правапарушальнікамі. У дзетпрыёмнік траплялі дзеці, выгнаныя з дому, альбо тыя, хто застаўся без дагляду праз п'янства бацькоў. Там з імі працавалі педагогі, псіхолагі, інспектары. Там жа вызначалі далейшы лёс — вярнуць бацькам або аддаць на выхаванне ў дзіцячы дом.

У гэтых дзяцей былі такія асабістыя драматычныя гісторыі, такія прасветлыя мары пра лепшы свой час і долю, што калі ўжо даводзілася іх разгаварыць — слухаць без слёз кранальныя споведзі было не магчыма.

Быў у мяне адзін з герояў перадачы, чатырнаццацігадовы Алёша, уцякач з дому — аднекуль з-пад Даўгапілса, з Латвіі. Ён так жывапісаў сваю гаротную долю, непаразуменні з бацькамі пры іх жыцці і бадзянне па людзях пасля іх смерці, што Паўлаўна зусім сплакалася ля радыёкропкі. Пасля гэтага яна абвясціла, што хоча ўсынавіць Алёшу. Муж не пярэчыў — яны былі бяздзетнай парай. Вось і напісала ў перадачу.

Ліст, толькі адпраўлены, да радыё яшчэ не дайшоў. Але лёс узяў і звёў мяне і Паўлаўну, двух патрэбных адно аднаму людзей...

Гэтая акалічнасць і расчыніла перада мной дзверы бальніцы. «Айсберг» выплыў з-за стала, паказаўся ва ўвесь рост — а, дакладней, на ўсю шырыню — заняўшы сабой ладную частку прасторы, і пакіраваў ў бок патрэбнага аддзялення. Я паспяшалася следам: грузная Паўлаўна на дзіва лёгка і хутка рухалася. Перахапіўшы позірк, якім я, відаць, занадта шчыра паспрабавала ацаніць памеры маёй праважатай, Паўлаўна засмяялася.

— Слухай сюды, што раскажу. Я мінулым летам у Індыю трапіла. Пасля таго, як у сталіцы індыйскі горад-пабрацім з'явіўся, ад нас у Бангалор выпраўлялі дэлегацыю. Я там цудам апынулася — патрэбен быў прадстаўнік простага народа, так я і ўшчамілася сярод начальства. За ўзорную працу і як актывістка бальнічнага прафсаюза. Баялася я ў тую Індыю ляцець. Там жа гарачыня, раптам растаю? — Паўлаўна ажно закалыхалася ад смеху. — Але ж я дзеўка без комплексаў, ратавалася ад спякоты як магла. Аднойчы на прагулку па горадзе апранула адкрытую кофтачку і шорты. Я ў іх толькі на моры ўбіраюся, але ж там такая спякота была — з нашым поўднем не параўнаць. Ну і выйшла на вуліцу ў гэтым уборы! Што ты думаеш — рух на скрыжаванні паралізавала. Там жа белы чалавек — шаноўны чалавек. Поўная жанчына — красуня. А

такая, як я, — Паўлаўна прыасанілася, — ды яшчэ ў шортах, — найпершая. Ведаеш, што мне захопленыя мінакі казалі? «Ты як сла-а-ні-і-ха!!!» Гэта за найлепшы камплімент у іх уважаецца, во як! Не тое, што ў нас — худнець, Паўлаўна, трэба, худнець трэба! Трэба мне жыць у Індыі, дзе ў жаночай красе разбіраюцца! — залівалася салаўём Паўлаўна.

Ад расказа Паўлаўны і яе вясёлага настрою мне, па праўдзе, было не па сабе. Напружанае чаканне сустрэчы з Людай і гарэзлівасць, якая вылузнулася праз неаб'ёмныя формы Паўлаўны, стваралі такі моцны дысананс, што разбалелася галава. Кампанія Паўлаўны пачынала душыць мяне. Ледзь стрымліваючыся, каб не нагрубіць гэтай смяшлівай гары і не сказаць, што мы ў бальніцы, а не на канцэрце сатыры і гумару, я подскакам кіравала ўслед за праважатай.

Паўлаўна адчула мой настрой. Раптам пасур'ёзнела, запаволіла крок.

— Каб тут, Вера, мы толькі бедавалі і гаравалі ля хворых, заўтра некаму было б каля іх хадзіць ды іх лекваць. І ты не кісні. Прыйшлі, сюды вось заходзь! — сказала яна і адчыніла дзверы ў палату.

***

...Не, мне было не сюды! У ложку на колах ляжала зусім не знаёмая мне жанчына. Відавочна, яна была высокай, бо худое цела выцягнулася ледзь не на даўжыню ложка. На галаве ў яе амаль не было валасоў — нейкі рэдзенькі, нібы пафарбаваны ў чырвонае, пушок, прыкрыты хусткай. Падобныя да плётак, паверх коўдры бязвольна ляжалі рукі. Востры нос, жоўтая скура, выцвілы твар, на якім не бачна было ні броваў, ні веек, падпухлыя павекі, белыя, ажно ў сіняе, вусны... Мяне працяла думка, што на твары гэтай жанчыны — пячатка смерці, такой ужо нетутэйшэй, нежывой выглядала яна.

— Паўлаўна, мы памыліліся, гляньце вашыя запісы пільней! — зашаптала я, даючы ходу з палаты. Але жанчына на ложку зарухалася, нешта падобнае да ўсмешкі перасмыкнула яе твар, і яна гукнула мяне.

— Не пазнала, Вера?

Усё, адступаць было некуды — усё ж гэта была мая Люда, але ў целе, падмененым хваробай на нейкае чужое, незнаёмае. Яна прызнала мяне і глядзела з тугой і затоенай надзеяй.

Відаць, наказ Ільінічны і словы Паўлаўны спрацавалі — і я перадолела разгубленасць. Бадзёра адвіталася з праважатай, якая пайшла папярэдзіць паставую медсястру, што я застануся дзяжурыць у палаце. Падышла да Люды, абняла, пацалавала і пачала сакатаць пра тое, што ва ўсім вінавата цьмянае святло ў палаце, я не разгледзела яе як след. Што, канешне, без касы сястра выглядае інакш, але валасы — не зубы, адрастуць. Расказала, як трапіла да яе ў аддзяленне на ноч гледзячы. Абяцала ў наступны прыезд захапіць касметыку, бо бальніца — бальніцай, але прыгожай жанчыне і тут марку трымаць трэба.

Магло падацца, што я несла лухту. Але ж Люда так прагна лавіла кожнае маё слова, што я разумела — вось, я сталася рупарам яе надзеяў, яе жаданняў, яе квёлай пэўнасці, што ўсё абыдзецца!

— Слухай, — сказала Люда, — сукенка ў цябе прыгожая. Хачу такую!

На мне была самавязаная васільковая сукенка простага фасону, з рукавом «рэглан», аздобленым ажурным узорам. Падпярэзвалася яна касой, сплеценай з такіх самых, як і сукенка, нітак. Абнова, якую я скончыла напярэдадні і апранула ўпершыню ў той дзень, калі паехала да Люды.

— А я табе звяжу! — загарэлася я. — Гэта ніткі харошыя, прыбалтыйскія, у ЦУМе прадаюць. Хочаш, смарагдавыя куплю? Табе гэткі колер яшчэ лепш пасаваць будзе. Вось заўтра і пачнём — меркі здыму, петлі разлічу і буду вязаць! Акурат да выпіскі справімся. Калі, канешне, цябе раней чым праз месяц адсюль не выпусцяць. Хутчэй — не змагу. Я ж на вучобу павінна хадзіць.

Люда ўзрадвалася. Яна зараз жа пачала ўдакладняць, што хацела б крыху ў фасоне перайначыць і мы, дагэтуль не бачыўшыся працяглы тэрмін і сышоўшыся ў такім самотным месцы, як навіну першачарговай важнасці абмяркоўвалі будучы ўбор!

Пасля Люда сказала, што ўжо другі месяц як у бальніцы. Спачатку спадзявалася выйсці хутка, не верылася, што ўсё сур'ёзна, таму і папрасіла сваіх не распаўсюджваць вестку пра хваробу. Ну, а пасля пакуль лісты дайшлі да сваякоў, пакуль мама напісала мне — столькі часу і сплыло. Тады — не цяпер, калі мабільныя ды сеціва дазваляюць быць ў курсе ўсіх падзей імгненна.

Сказала, што двойчы яе адведваў муж, Сашка. Часцей ездзіць не выпадала — свет не блізкі, а на ім і праца, і гаспадарка, і дачка. Дачку, праўда, час ад часу забірала да сябе свякроўка. Сястра папрасіла нагледзець гасцінец ёй. Хоць і не чужы чалавек, сваю ўнучку гадуе, але ж — нагрузка такая! Карцела аддзячыць.

Людзе захацелася піць. Зрабіўшы некалькі глыткоў, яна раптоўна правалілася ў сон. Я патушыла святло і прылегла задрамаць на суседнім ложку, які пуставаў. Было ўжо блізу поўначы, сястра ціхенька дыхала ў сне, а я, акрыленая нашымі размовамі і смехам, падумала, што, сапраўды — усё абыдзецца. Паправіцца сястра, сілы вернуцца пакрысе. І валасы адрастуць, і шчокі паружавеюць — проста на ўсё патрэбен час.

Засынаючы, я ўжо была перакананая, што Людзе, як і Ільінічне, пашчасціць. Што страшную хваробу ад нашай красуні-волаткі адгоняць, ужо адагналі, спрактыкаваныя дактары, і ў хуткім часе ў новай сукенцы, якую я абавязкова звяжу ёй, Люда паедзе дамоў.

Мроі разбіліся імгненна, калі я падхапілася ад Людзінага крыку і стогнаў. Было тры гадзіны ночы. Святло з вуліцы, дасягаючы пакоя, яшчэ больш крывіла перакошаны болем твар сястры. Люда тужылася, нібы яе вось-вось званітуе, пасля пацягнула рукой стужкі невядома якога месіва, што лезлі ў яе праз глотку. Яна накручвала іх на руку, вякала, ашалелымі вачыма глядзела на тое, што выходзіць з яе. Нарэшце закашлялася і гыркнула злосна:

— Сястру кліч, што ўставілася!?

Я на злом галавы кінулася на пост, і сястра са шпрыцам у руках прыбегла ў палату. Яна ўвяла лекі, прыгаворваючы суцяшальныя словы. А Люду нібы падмянілі — яе калаціла, выкручвала, яна галасіла — пакуль упырск урэшце не падзейнічаў і яна зноў не правалілася ў сон.

У тую ноч я больш не здолела змружыць вочы. Не змагла быць і ў палаце. Вынесла на калідор крэсла і сядзела пры адчыненых дзвярах, не разумеючы, як такі доўгі час Люда вытрывала адна. Выскалы хваробы былі страшнымі, і я дала сабе слова, што буду дзяжурыць у Люды штоноч, не пакіну яе.

Калі мне трэба было бегчы на аўтобус, Люда яшчэ спала. Я ціхенька паставіла ў палату крэсла, выйшла на калідор. Убачыла Ілынічну, якая подбегам кіравала ў мой бок — несла боты.

— Ну, як пераначавалі? — запытала, і ў яе поглядзе я прачытала праўду, якую шустрая Ілынічна ўжо, відаць, разведала ў медперсанала. — Не здавайся, міленькая. Ёй, знаеш, як цяжка. А ў пятлю не палезеш — жыць трэба, колькі Бог дасць. Ну, пойдзем, выведу цябе з корпуса, аўтобус першы хутка. Калі будзеш прыязджаць, заяву на дазвол быць пры сястры пакінь на пасту — медсёстры падпішуць у загадчыка. Няхай парадак ва ўсім будзе.

Ілынічна, мой праваднік у начную дзяржаву пакутаў і болю, зноў ратавала мяне.

***

І вось пачалося жыццё, у якім бегатня па тэатрах, выставах і дамах кіно раптоўна скончылася. Першы час я старалася яшчэ паказвацца на занятках, але хутка начныя дзяжурствы выматалі мяне так, што я днямі адсыпалася ў інтэрнаце.

Закінула я і свае радыёперадачы. Адно што напісала запыт ў дзетпрыёмнік-размеркавальнік на Алёшу, ды расказала пра Паўлаўну, якая хоча яго ўсынавіць.

Адказ прыйшоў нечаканы. Супрацоўнікі выбачаліся, што праз іх недагляд на радыё прайшла ілжывая інфармацыя. Высветлілася, што ніякі Алёша не сірата і што нават бацькі ў яго не злыдні. Звычайныя нармальныя людзі. А вось ён, пута цыганскае, урадзіўся са свербам да падарожжаў і ўжо не першы раз збягае з дому.

Звычайна ў дзетпрыёмніку пра ўсіх дзяцей збіраюць звесткі, пацверджанне таму, што яны расказваюць. А з Алёшам здарылася затрымка, бо ён быў не з Беларусі, а з суседняй Латвіі, што крыху і зацягнула працэс. Аднак гаварыў хлопец так пераканаўча і выпраменьваў такое абаянне, што і бывалыя супрацоўнікі дзетпрыёмніка паверылі яму без праверак. Дзіва што я, студэнтка, купілася! Мяне запэўнілі ў лісце, што на дадзены момант уцякач ужо быў дома, у сям'і.

Што тут скажаш? Занесла я Паўлаўне ліст. Думала, яна ўгневаецца і на мяне, і на радыё, і на Алёшу, які абдурыў усіх. А яна рассмяялася! Ды расказала,

як аднойчы, падлеткам, начытаўшыся пра падарожжы, сама з дому збегла. Ад'ехала недалёка, злавілі. Але што такое прага вандровак — зведала.

— Але ж, шэльма, на бацькоў так нельга! — сказала яна пра Алёшу і папрасіла ўсё ж дастаць яго адрас: загарэлася хаця б напісаць хлопцу, на прыдумкі-жальбы якога так адгукнулася душой.

...Ад вучобы я аддалілася настолькі, што ўрэшце мяне выклікалі ў дэканат. Разглядаліся персоны прагульшчыкаў, у лік якіх трапіла і я.

Мяне ўважліва выслухалі і падказалі выйсце — напісаць заяву на вольнае наведванне заняткаў.

— А што, радні больш няма, каб даглядаць хворую? — са спачуваннем на мяне гледзячы, запыталася адна з выкладчыц. Казалі, што зусім нядаўна праз анкалогію ў яе памёр муж. Гэта яе бяда абярнулася спачуваннем да мяне, і дзякуючы заступніцтву выкладчыцы, размова з дэканатам сталася пошукам не караючых мераў, а шляхоў падтрымкі.

— Далёка ўсе. Працуюць.

— Дык і вам вучыцца трэба. Можа, нейкае дзяжурства наладзіць можна? — падказала другая.

— Так, мы паспрабуем, — паабяцала я. — Я пастараюся справіцца.

Такім чынам, у мяне з'явіўся дазвол на свабоднае наведванне. Хоць тут была палёгка, бо нельга сказаць, што я не пераймалася праз пропускі. Проста і вучоба, і ўсе астатнія «нармальныя» справы існавалі цяпер як у іншым вымярэнні, не перасякаючыся са мной. За два тыдні, што я ездзіла да Люды, выдавала, мінула жыццё — але не маё, некага чужога. Стома была маёй, перажыванні за сястру — маімі, начныя тузанні ля яе ложка з выклікамі медсястры, падаваннем судна, вады, скаканнем да форткі то адчыніць, то зачыніць яе — здзяйсняла я. Але, разам з тым, нібыта за ўсім гэтым я назірала збоку, як у кіно.

***

Прыехаў адведаць жонку Сашка. Ад яго я дазналася яшчэ адну страшную навіну — дзядзька Міхась таксама хварэў на анкалогію!

— Тужыў ён без свайго Краснага Луга, вось і занядужаў, — расказваў Сашка.— Цяпер ужо дома, радуецца, што адпусцілі з бальніцы. А яго ж паміраць выправілі! Нам сказалі, што нічым ужо памагчы не могуць. Бедная мамка Нінка звялася на нет — за адным хворым ходзячы, за другую перажываючы... Але цяпер яна ўжо цешыць сябе надзеяй, што Люду вылекуюць, раз не адпускаюць. Яна толькі прасіла не казаць пра бацьку. Мы ўсё суцяшалі мамку Нінку, падманвалі, што Люда ідзе на папраўку. Таксама лішне хваляваць не хацелі, што яна — рукі падкладзе? Во, не даруе цяпер...

Сашка спалохана абсекся ад сваёй агаворкі, ад таго, што не стрываў — выдаў сваё разуменне таго, што адбываецца насамрэч. Ён рэзка абарваў размову і стаў расказваць, што доктарцы прывёз цэлага кабана, толькі асвежаванага, і вядро журавінаў. Шкадаваў, што толькі вядро, бо ў ардынатарскай

была яшчэ доктарка, якой журавіны трэба на морсы для дачкі — тая ўвесь час прастуджваецца. А Людзіна доктарка з калегай падзяліцца не прапанавала.

— Сашка, дык у мяне ў інтэрнаце слоік журавінаў стаіць, прывязу заўтра, — адгукнулася я на Сашкава шкадаванне.

Цяжка было ад гэтых размоў. Мы ўсе — дактары, родныя, сама Люда — нібы гулялі ў нейкую гульню на тое, хто каго спрытней падмане.

Я ўжо ведала і без Сашкі, мне, як блізкай сваячцы, доктарка сказала: Людзін выпадак безнадзейны. Востры лейкоз, сістэмнае захворванне крыві.

— Яна паступіла да нас у такой стадыі, перад якой медыцына бяссільная. Мы ўсё адно схапіліся лекаваць — маладая ж! Ды, па сутнасці, проста крыху адцягнулі час, — гледзячы паўз мяне, скарагаворкай паведаміла доктарка. — Рыхтуйцеся да горшага.

Ні журавіны, ні ладны кабан, прывезеныя ў дарунак, былі не ў стане паўплываць на ход падзеяў. Але мы рады былі, што доктарка не цураецца, бярэ гасцінцы, даруючы крохкую ілюзію, што мы здатныя змяніць абставіны да лепшага.

Сашка сказаў, што хацелі ўжо выпісаць Люду дамоў. Але, даведаўшыся пра бяду з бацькам, паспагадалі і перанеслі выпіску на тыдзень.

Пра дзяжурствы па чарзе мы з Сашкам пачалі гаварыць — і кінулі. Яшчэ тыдзень магла вытрываць і я, а сваякам лепш арганізавацца на помач, калі Люду прывязуць дамоў.

***

Люда ж за час, што я была пры ёй, змянілася яшчэ. Пра яе ўжо нават нельга было сказаць — схуднела. Яна таяла, як снег, высыхаючы проста на вачах. Калі наляталі прыступы болю, стагнала, плакала, божкала і прасіла ратуначку. Уколы давалі ёй усё меншыя адрэзкі палёгкі, але штораз, калі станавілася лепш, яна шаптала, як закляцце: «Папраўлюся! Папраўлюся!»

Ільінічна часта забягалася праведаць Люду.

— Ты, міленькая, цярпі. Трывай што сілачкі, — вуркатала яна, як голуб. — Табе цяжка — але ж і з табой цяжка. Будзеш старацца, уважацца — людзі да цябе лагаднейшымі будуць. Я тут, у больніцы, на рознае нагледзелася. Хто трываць і не злавацца ўмее — таму хоць на душы прасветла. Маліцца навучаная? Калі хочаш, малітоўнік прынясу... Ой, міленькія, час такі — вучоныя ўсе, а галоўнае мала хто ведае.

Што было на душы ў Люды? Ёй, такой маладой, не маючы і дваццаці пяці гадоў, наўрад ці жадалася смерці нават у хвіліны пякельнай пакуты. Але яна не жалілася — ні на свой стан, ні на доктароў. Яна наогул гаварыла мала. У хвіліны, калі боль адпускаў, згадвала Красны Луг, балота, на якое так і не трапіла сёлета — мо, таму і выбрытацца з хваробы не можа.

— Я ж да гэтага балота як правадамі падключаная, — казала Люда. — Не магу ад яго далёка. Як губляюся. Нібы ў тыя журавіны мая кроў пераліта. Ці

іхнія сокі — у маёй крыві. Во і вучыцца ў горадзе праз гэта не змагла... Няўжо і мая Светка такой будзе? — запытала яна і дадала ціха. — Не кідай яе.

Я ажно ўскінулася ад Людзіных слоў, але яна, нібы не жадаючы ў сценах бальніцы яшчэ раз згадваць імя дачкі і гаварыць пра яе, адмоўна пакруціла галавой і здушана зашаптала:

— Грэх на мне, павінюся. Гэта ж я, калі меліярацыю весці збіраліся, дапамагла бацьку з хутара сагнаць. А што, думаю, пугай кія не пераб'еш — раз запланавана, усё адно здзейсняць. Дабрахоць з'едзе — хоць кампенсацыю атрымае! Ну, я за яго паперы і падпісала... Усё правільна разлічыла — не будзе ж ён на дачку заяўляць... Прадала я, Вера, наш Красны Луг...

У той вечар мы з Людай наплакаліся да знямогі. Яе спавядальныя словы нібы далі нам дазвол пабыць слабымі, не хавацца адна ад другой са сваімі перажываннямі і болем.

***

Праз нейкі час пасля ад'езду Сашкі Людзе палепшала. Яна папрасіла есці — я накарміла яе харчамі з вёскі.

— Едзь ты, начуй сёння ў інтэрнаце, — прапанавала мне Люда. — Хоць выспішся як чалавек, а то змучылася зусім.

Сястра пагладзіла мяне па руцэ.

— Едзь. Прывязі, што ты там звязала, глянуць хачу.

Праўда, паеду. Выканаю яе наказы — паспплю, прывязу вязанне. І захаплю, як абяцала Сашку, слоік з журавінамі.

Адвітваючыся, я пацалавала Люду. Злавіла на сабе доўгі погляд яе выцвілых вачэй, выраз якіх заўважна змяніўся. Нібыта бушавала ў іх бура — і аціхла, супакоілася. І нібыта выпраўляла сястра мяне ад сябе, каб застацца з гэтым спакоем сам-насам — бо зразумець яго ні я, ні хто іншы з людзей, абзадачаных жыццёвымі клопатамі і штодзённай мітуснёй, былі ўжо не ў стане. Люда нібыта стаяла на пераправе і глядзела на другі бераг ракі, чакаючы лодкі, якая перавязе яе ў нязнаны свет — і не хацела азірацца на тое, што заставалася за спінай.

...Той ноччу мне не спалася. Я ледзь дачакалася раніцы і першым аўтобусам прыехала ў анкацэнтр. Подбегам рушыла па прыцярушанай снегам дарожцы. Паслізнулася, слоік выпаў з рук, звонка дзынкнуў, аскепкі шкла пырснулі ў бакі, а я сама, манеўруючы, усё ж не ўтрымалася і рухнула рукамі ў рассыпаныя журавіны.

Не столькі пякучы боль парэзаных рук, як прадчуванне, разуменне — спазнілася! — працялі навылёт. Я рынулася да бальніцы, на хаду хапаючы снег, крываўлячы яго парэзанымі рукамі, выціраючы рукі аб крысо паліто.

Было рана, галоўны ўваход у бальніцу яшчэ быў замкнёны. Я пабегла ў аддзяленне праз прыёмны пакой. Мяне прапусцілі без пытанняў. Можа, ведалі ўжо тое, што праз колькі хвілінаў павінна была дазнацца і я, што дакладна

ведала дзяжурная сястрычка ў аддзяленні, якая не спыніла мой бег у палату, а толькі ўздыхнула ўслед.

Пустая палата. Пусты ложак. Прыбраная з яго і яшчэ не запраўленая свежай бялізнай пасцель.

***

Дзядзьку Міхася і Люду хавалі праз тыдзень аднаго за другім. Яго — на каталіцкае Раство, яе — пад самы Новы год.

Цётка Нінка раз пораз млела, тузала за руку ўчарнелага Сашку ды галасіла:

— Якімі ж сквапнымі вочкамі яна на цябе глядзела! А ці ж яна жыць не хацела? Ці ж любіць не хацела? Маё дзіцятка! На каго ж ты дачушку сваю пакінула?!

Пяцігадовая Светка, якая не прызнавала ў перамененай постаці нябожчыцы сваю маму, дзічылася і хавалася ад сваякоў, упіралася, калі яе вялі адвітацца.

Было зімна, мароз сцэментаваў зямлю так, што капачы ледзь выдлубалі яму на магільніку. І сняжынкі, якія залёталі над жалобнай працэсіяй на пагосце, падалі на доўгую Людзіну сукенку, на яе адкрытыя кісці рук і твар, прысыпалі-прыцярушвалі вэлюмам павязаную на галаве хустку — і ажно рваліся сэрцы ад цётчынага Нінчынага галашэння-жадання захінуць ад снегу дачку. Бо ў зямлі ёй, засыпанай снегам, будзе сцюдзёна...

***

І вось амаль трыццаць год мінула ад той пары, як не стала Люды. Вырасла, з'ехала ў горад і стала жыць сваёй сям'ёй яе дачка. Мацярынская цяга да балота Светцы не перадалася. Наадварот — з дзяцінства ў яе выявілася такая алергія на камарыныя пакусы, што да балота яна і наблізіцца не насмельвалася.

Састарэла ў журбе і скрусе цётка Нінка. Раны ў мацярок, якія перажылі сваіх дзяцей, мне падаецца, год ад году не зацягваюцца, а смыляць яшчэ мацней. І чым сталейшым станавіўся яе век, чым цяжэй хадзілі ногі, чым складаней было ўпраўляцца па гаспадарцы, тым часцей уздыхала яна: «Была б мая Люда, ці ж бы так я жыла, як цяпер...» І ўцірала слёзы, якія — як і сам уздых-жальба — адкрывалі такую прорву тугі, такую самоту, што заглядваць у яе не ставала адвагі. Кожны, хто быў сведкам такіх імгненняў, адразу пераводзіў гаворку на іншае.

Я часта праведвала цётку. Але, здаралася, разумела, што гэтым самым адно вярэджу незагойныя раны. Бо ў яе паглядзе на мяне, замілавана-любасным, зрэдзьчас пракідваўся такі адчай, што я нібыта чула ейнае: «Вось каб Люда была жывая!» — і жахалася, што цётка Нінка нібы параўноўвае нас. Мяне, жывую, і яе, якой выпала пайсці з жыцця зусім маладой...

Але ж дзіўна, як прыстасоўваецца-выжывае чалавек у свеце, дзе самота, боль і скруха замешаныя так густа, што калі не навучыцца радвацца факту самога жыцця, яно цябе расплюшчыць і зломіць сваімі бедамі і выпрабаваннямі. Тады, калі хавалі Люду, я так ужо атупела ад перажыванняў, дзяжурстваў, мітусні, што прагла аднаго — каб усё хутчэй скончылася, каб можна было пайсці ў цёплае са стылага, зімнага пагосту; з'ехаць далей ад людзей у чорных строях і хустках, не бачыць слёз — і наогул, забыцца на ўсё хутчэй. Мне выдавала, я так сышлася з Ільінічнай, што буду трымаць з ёй сувязь і пасля бальніцы... Не! І яе, і Паўлаўну, і Людзіну доктарку пасля сыходу сястры я эгаістычна павыкрэсліла са свайго жыцця, бо яны былі напамінам пра боль, які я не магла насіць у сабе. Я ніколі не тэлефанавала ім — хаця абяцала пры развітанні, а доктарцы наогул дакляравала зрабіць запіс у перадачы на радыё. Жыццё мяне з імі больш не зводзіла. І толькі праз гады, выпадкова сустрэўшы ў горадзе сястрычку з Людзінага аддзялення, я даведалася, што пасля сыходу Люды ў хуткім часе не стала і Ільінічны. А Паўлаўна такі з'ехала ў Індыю: у дзевяностых, аўдавеўшы, яна выйшла замуж у Бангалор.

Сашку пасля пахавання даволі хутка прыбрала да рук Ванда — школьная сяброўка Люды, якая, відаць, усё жыццё па ім і сохла. Дзеля таго, каб заняць «вызваленае» месца ля каханага, яна кінула сваіх дзяцей і мужа. Злыя языкі шмат пляткарылі на гэты конт, прыпісваючы былой сяброўцы варажбу і чары, праз якія нібыта Люда так раптоўна і захварэла. Ці магло быць тое праўдай? А вось што разам Сашка з Вандай жылі некалькі гадоў, нажылі агульнае дзіця, але ўвесь час грызліся, як кот з сабакам і ўрэшце разышліся, жывуць бабылямі — гэта так.

Я ж праз пэўны час пасля пахавання вярнулася да вучобы, скончыла журфак і працавала на радыё. Яшчэ ў студэнцтве выйшла замуж за свайго генія. Не знаходзячы мяне вечарамі ў інтэрнаце, ён пачаў шалёна раўнаваць, падпільноўваць мяне. На ўсіх сваіх натхняльніц забыўся! А калі даведаўся, дзе я прападаю, памагаў, чым мог. Вечарамі праводзіў на аўтобус, сустракаў. Курсавую за мяне агораў: прыдумаў тэму пра асвятленне тэмы айчыннага выяўленчага мастацтва ў СМІ і напісаў бліскучую работу. Мяне за яе дужа хвалілі!

Мне ўвесь час не давалі спакою Людзіны спавядальныя словы перад сконам. І, калі надарылася магчымасць, я стала адным з арганізатараў экалагічнага руху па выратаванні журавінавага балота, да якога калісьці туліўся хутар Красны Луг, да якога як правадамі была падлучана мая сястра і да якога, як сцвярджаюць цяпер навукоўцы, падлучана і дыхае ўся Еўропа. Меліярацыя там даўно спынена, балота аднаўляецца, і ўвосень на балотных абшарах паранейшаму запальваюцца ягадныя кострышчы.

*2014 — чэрвень, кастрычнік; сакавік 2015*



# Лявон Валасюк

паэт, празаік, мастак. Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999), «Краски души» (2000), «Под знаком Стрельца» (2001), «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006), «Знакі на валуне» (2010); кніжак прозы «Сцежкі да сядзібы» (2008), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012). Лаўрэат Берасцейскай абласной Мядовай літаратурнай прэміі (2008). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

# Гумовы шарык

Два дні Максім Косіч, малады інжынер аднаго з гарадскіх прадпрыемстваў, гуляў на вяселлі свайго сябра-аднагрупніка Аляксандра Захарчука. Здарылася так, што там пад добры настрой у першы дзень пазнаёміўся з светлавалосай прыгажуняй Ганначкай, сяброўкай нявесты Галіны. Падалося, што паспеў не толькі пасябраваць з ёю, але і нешта большае прамільгнула паміж імі...

Ужо ў нядзелю ўвечары, калі быў падзелены каравай, калі госці і радня паціху паразыходзіліся, перад тым, як адправіцца і самому дадому, Максім прысеў яшчэ раз за вясельны стол з музыкамі выпіць «аглаблёвую». Падсеў побач і задаволены канцом вяселля бацька сябра-жаніха Сцяпан Іванавіч: падзякаваў хлопцам за прысутнасць на сямейным свяце, за добрыя паводзіны, за весялосць... Потым Максім пайшоў правесці Ганначку да яе сястры, ды толькі што было далей — як адрэзала. Не памятаў... Такою моцнаю аказалася «аглаблёвая»...

***

Прачнуцца было няцяжка: начны холад пачаў працінаць цела... Акрамя пранізлівай прахалоды да маладога мужчыны прыйшло адчуванне прысутнасці ў незнаёма-незвычайным месцы, што праганяла хмель. То ўжо быў не вясельны настрой, калі наперадзе чакала застолле, гульні і танцы.

Звычайная паркавая лаўка драўлянымі брускамі непрыемна надавіла на рэбры. Седзячы ўжо і раздумваючы над тым, што адбылося раней, Максім азіраўся па баках і спрабаваў зразумець, дзе ён. Пэўна, яго разбудзіў грукат цягніка, бо непадалёку блішчэлі рэйкі ў млявым святле ліхтароў. Толькі невядома пакуль было: улева ці направа трэба рухацца, каб выбрацца адсюль. Сам сабе адзначыў, што знаходзіцца ў акружэнні старых каштанаў і ліп, што, пэўна, некалі раней і бываў у гэтым месцы, бо інакш не занесла б сюды. Так, раней тут непадалёку прыпыняліся турыстычныя цягнікі з усяго вялікага Саюза... Так, так... Было тое раней...

Пакуль Максім Косіч раздумваў пра дарогу дамоў, прыпомніліся студэнцкія гады, калі скончыў першы курс мясцовага ўніверсітэта і збіраўся ехаць на практыку ў сталіцу... Цудоўны быў час! Збоку на траве мужчына раптам прыкмеціў ружовы гумовы шарык, які павольна калыхаўся пад лёгкімі павевамі начнога ветру. «Нехта пакінуў, а мо гэта мой?» — падумаў Максім і з сумнай усмешкаю глянуў на светлую пляму гумовага шарыка ў цемры...

***

Па крутым адхоне Максім падняўся на верх моста і лавіў у начным паветры знаёмыя пахі рэек, шпал, паленага вугалю. Гэта месца было скрыжаваннем

трох напрамкаў: выбірай любы. Дамоў вяртацца не вельмі хацелася, таму вырашыў спачатку спусціцца ўніз да аўтобуснага прыпынку. Там, на лаўцы, пад навесам ад дажджу можна было няспешна падумаць пра далейшы шлях, бо да ранку яшчэ было далёка, а спаць ужо не хацелася.

На лаўцы нехта сядзеў, угнуўшы спіну. «Пэўна, такі ж як і я начны валацужнік-небарака?» — падумаў Максім і накіраваўся да прыпынку.

Мужчыне хацелася ў выпадковым чалавеку пабачыць некага з дружбакоў, але то быў маладжавы, прыстойна апрануты незнаёмец. У нагруднай кішэньцы пінжака ў слабым святле ліхтара віднелася цёмна-чырвоная кардонка. «Падобна на міліцэйскае пасведчанне,» — адразу падумаў Косіч, прыпыняючыся ля незнаёмца, які спаў, нязграбна седзячы на лаўцы. Было відаць, што ён добра пагуляў учора.

Максім прысеў побач, агледзеўся. Мясціны былі збольшага знаёмыя, толькі ў начным асвятленні бачыць іх даводзілася нячаста. Дзе-нідзе ў дамах свяціліся вокны, нібыта начныя матылі блукалі па сонным горадзе. Зрэдзьчасу праязджалі машыны: начны горад жыў сваім звычайным жыццём.

Раптам адна з міліцэйскіх машын прыпынілася побач. Максім незадаволена падумаў: «Во, яшчэ гэтага не хапала. Зараз пачнуць прыдзірацца да розных дробязяў, хаця нічога дрэннага ў тым, што ён сядзеў на прыпынку з незнаёмцам не было».

— Чаго расселіся тут сярод ночы? — запытаў мардаты старлей, выходзячы з машыны. Ён накірававаўся да мужчын, пагрозліва азіраючы наваколле.

Максім левай рукой дастаў чырвоную кардонку з нагруднай кішэнькі выпадковага суседа і паказаў міліцыянту. Яна аказалася пасведчаннем работніка міліцыі. «Трэба ж, як пашанцавала,» — падумаў Максім, трымаючы больш упэўнена перад сабою выратавальную, як яму здавалася, рэч.

— Нам недалёка, прыселі адпачыць. Вяртаемся з вяселля, — выдаў Максім.

— Дык не сядзіце тут доўга. Ноч на дварэ. Шпацыруйце сваёй дарогай, — ужо абыякава, спакайней вымавіў старлей і накіраваўся да машыны. Яна ад'ехалі ад прыпынку, а Косіч пачаў штурхаць свайго таварыша па бядзе.

— Ты дзе жывеш, куды цябе правесці, мужык? — Максім пачаў прыпадымаць мужчыну з лаўкі. Ён ужо вырашыў куды завядзе ўладальніка чырвонага пасведчання: непадалёк жыве таварыш па ўніверсітэце.

Ухапіўшы левую руку міліцыянта, Косіч закінуў яе сабе на плячо і такім чынам рушыў у бок дома, дзе жыў калега.

Сярод начной прахалоды і цішыні Максіма не пакідала адчуванне прысутнасці нейкага незнаёмца непадалёк, побач. Яно, канечне, і не дзіва, бо навокал стаялі дамы, у якіх жылі людзі. Але яму падавалася, нібыта нехта сочыць за імі: цішыня ўяўлялася насцярожанай, ненадзейнай. «Пэўна, міліцыянты ўсё роўна недзе непадалёку. Пэўна, могуць яшчэ не раз праехаць на машыне па гэтых вуліцах,» — вырашыў Косіч, рухаючыся з цяжкім «хворым». Яму не зусім зручна было такім чынам весці мужчыну на падпітку,

калі не сказаць моцна п'янага. Максім спрабаваў з ім размаўляць, але той не мог дакладна нават вымавіць, дзе ён жыве, куды яму патрэбна трапіць. Гэта больш упэўніла Максіма ў тым, што ён правільна вырашыў адвесці выпадковага сустрэчнага на стары ложак у дом таварыша: там ніхто яго не пакрыўдзіць, пакуль той праспіцца да раніцы. Ды і не зусім прыстойна міліцыянту спаць на вуліцы, хаця той не ў форме...

З правага боку абазначылася вузкаватая вулачка, дзе злева ад плоту цямнеў сілуэт старога драўлянага дома ў глыбіні гарода. Свяцілася і крайняе вакно. «Во, і дзядзька Кірыл не спіць!» — амаль не выкрыкнуў ад радасці Максім, ледзь утрымаўшы міліцыянта.

Дзядзька Кірыл не спаў, бо, можна так сказаць, ужо выспаўся: рана ўвечары задрамаў пасля чаркавання з суседам Міколам. Стомлены, ён ледзь даплёўся да сваёй хаціны і адразу на ложак, нават не распрануўся. А вось зараз падняўся, агледзеў пакой, у якім спаў асобна ад жонкі Марыі. У яго свае справы, а ў Марыі — свае...

Дзядзьку Кірыла Максім ведаў з дзяцінства, бо той сябраваў з ягонымі бацькамі.

З цяжкасцю Максім дацягнуў незнаёмца да пляцоўкі з металічным панцырным ложкам на другім паверсе, пасадзіў на ім «хрэсніка», які адразу перакуліўся. «З кім гэта я мучыўся?» — Косіч узяў у рукі пасведчанне, што вытыркалася з кішэні міліцыянера, разгарнуў і прачытаў прозвішча. Каб не згубілася раптам ці нехта не выкраў, Максім засунуў дакумент міліцыянту ў кішэню нагавіцаў так, каб не вылецела. «Да ранку праспіцца. Мо хто-небудзь і раней разбудзіць. Але ж моцна набраўся таварыш капітан... Добра, што пісталета няма з ім, а то ўвогуле дрэнь справа была б...» — Максім крыху пастаяў, прыслухоўваючыся да выпадковых гукаў у пад'ездзе, і спусціўся ўніз.

«Хутка ўжо і птушкі пачнуць падаваць галасы,» — падумаў ён. Успомніў чамусьці пра агеньчык у акне дзядзькі Кірыла і вырашыў накіравацца туды.

Веснічкі старога былі зачыненыя, і трапіць на падворак было немагчыма. Тузануўшы іх некалькі разоў, Максім вырашыў кінуць у акно каменьчык. Гэта спрацавала. Напачатку адхілілася фіранка, потым абазначыўся зацікаўлены твар гаспадара. Пэўна, пазнаўшы начнога госця, дзядзька Кірыл адчыніў дзверы, спытаў на ўсялякі выпадак: — Хто там?

— Дзядзька Кірыл, гэта я, Максім Косіч!.. — адазваўся візіцёр. — Апынуўся ў вашых мясцінах, пабачыў агеньчык у вакне, дык вырашыў праведаць.

— Ну, канечне, не лепшы час, але мне не спіцца, таму заходзь, госцем будзеш. Толькі не шумі, каб Марыя не прачнулася. Жонцы не ўсё патрэбна ведаць, што ў доме адбываецца, тым больш уначы...

Максім следам за гаспадаром прайшоў у яго пакой, прысеў да стала. Дзядзька Кірыл нешта пачаў шукаць па пакоі. Праз адзінае акно прабівалася начное святло ад бляклага ліхтара. Максіму было ўтульна ў дзядзькі Кірыла: узгадаліся паездкі да дзеда ў вёску...

— Вы прабачце мне, дзядзьку, за тое, што патурбаваў вас, але вельмі ўжо захацелася пабачыцца. Я тут непадалёк на вяселлі гуляў, дык крыху стаміўся, дабіраючыся да дому, прысеў адпачыць на лаўку ды і задрамаў.

— Дык то ж добра, што ты завітаў да мяне зараз: сумнавата аднаму. Жонка спіць, сын у другой палавіне. Я таксама ўчора гасцяваў. Вось прачнуўся, дык шукаю чаго-небудзь, каб здароўе паправіць. Табе, відаць, таксама няблага было б асвяжыцца... — дзядзька Кірыл падміргнуў Максіму, дастаючы бутэльку з нейкім напоем: — На травах. Лекі...

На стале з'явіліся чаркі, талерка з сырам, яблыкі. Дзядзька напяваў сабе пад нос нешта: у яго быў добры настрой.

— А як бацькі пажываюць? — пацікавіўся ён, наліваючы чарку да краёў Максіму, потым — крыху менш — сабе.

— Пенсіянеры, адным словам... Кожны заняты сваім. Бацька яшчэ падпрацоўвае, а маці толькі па гаспадарцы...

— Ты ім перадай прывітанне, а бацьку асобна скажы, што запрашаю. Вып'ем за нас, за тваіх бацькоў... — Дзядзька Кірыл павольна кульнуў чарку, крахтануў, нібыта скінуў з плячэй мех з мукою.

— Добрая атрымалася, — дзядзька Кірыл выцер вусны, — табе таксама павінна спадабацца.

У Максіма па целе разлілося цяпло. Ён прыкусіў яблыкам, узяў кавалачак сыру. Пра тое, што зранку трэба на працу, зараз не думалася.

— Гэта ў мяне медыцынскі спірт з травамі. Я так даўно ўжо практыкую. А як жа!.. — дзядзька Кірыл пачаў зноў нешта шукаць у сваім пакоі.

Ад дзядзькі Максім выправіўся ў далейшую «вандроўку»: трэба было ісці да чыгуначнага вакзала, мінаць пешаходны мост... Але дадому ўжо і не хацелася: хутка раніца, а там на працу...

Малады інжынер быў у добрым настроі: нават лётаць хацелася. Пэўна, лекі дзядзькі Кірыла таму паспрыялі. Вуліца, на якую ён выйшаў, называлася Рэспубліканскай. Гэты раён увогуле лічыўся старым прадмесцем горада. Ён меў неафіцыйную назву «Граеўскі бок вакзала», а другі бок вакзала быў Маскоўскім.

Рэспубліканская вуліца не здалася Максіму ціхай і ўтульнай. Насустрач нехта крочыў няцвёрдаю хадою. Малады чалавек, што абазначыўся ў скупым святле ліхтароў, злёгку пакачваўся ва ўсе бакі: было відаць, што ён на добрым падпітку. «Яшчэ адзін небарака вяртаецца з вяселля...» — з гумарам адзначыў сам сабе Максім, даючы дарогу. Але хлопец усё ж такі зачапіў яго сваім плячом і раптоўна прыпыніўся, нібыта аслупянеў. Максім азірнуўся, глянуў з усмешкай на хлопца: той некаторае імгненне моўчкі пастаяў і рушыў далей...

Праз некалькі дамоў на самай дэмакратычнай вуліцы горада Максім прыкмеціў ля веснічак постаць мужчыны, які моўчкі паліў цыгарэту. «Мо і сабе закурыць?» — падумаў Косіч. На вялікую радасць, то быў яго даўні знаёмы Васіль, з якім раней працавалі разам.

— Мужык, дай закурыць! — папрасіў Васіля, не ўпэўнены, што яго пазнаюць.

— Мужыкі ў полі працуюць, — зласліва адказаў Васіль і прыадчыніў веснічкі. — А-а, дык гэта ты, спадар інжынер! — вымавіў з настроем, выстаўляючы далaню для прывітання. У яго чорных вачах непрыемна адбівалася святло ліхтара, а натапырананыя вусы нагадвалі паразу пры Ватэрлоа. — Ты як тут апынуўся?

— На вяселлі быў. Крыху перабраў ды прыблудзіў у цемры.

— Дык заходзь да нас: добрая кампанія сабралася. Хопіць і табе месца за сталом. І дзяўчаты прыгожыя ёсць! Заходзь! Пабудзеш колькі пажадаеш. Ніхто цябе не кране і пальцам. Тут я праўлю балем! Вось паслаў ганца за падмацаваннем.

Васіль заўсміхаўся. Цыганскага выгляду твар пасвятлеў.

— Ну, калі ненадоўга, то зайду, пагляджу на тваю кампанію. Мо і чаем пачастуеце. Максіму і сапраўды хацелася папіць гарбаты.

У вялікім пакоі драўлянага дома, што з «польскіх» часоў прытуляў работнікаў чыгункі, было чалавек восем маладых людзей, сярод якіх і тры дзяўчыны. Усе добра апрануты. Калі Васіль зайшоў з Максімам, некаторыя нават прыўзняліся ад нечаканасці.

— І што ты нам прынес? — адазваўся чарнявы хлопец, бліснуўшы залатым зубам. — Мо шампанскае з марозівам? — Ён быў на добрым падпітку і чамусьці вельмі агрэсіўна настроены.

— Памаўчы, Анатоль, пакуль не выгнаў адсюль. Гэта свой. Ён пабудзе ў нас нядоўга. Адпачне пасля ўчарашняга. А ганец хутка прыйдзе і з шампанскім, і з марозівам, і з гарэлкаю. Усім хопіць, толькі трэба крыху пачакаць... — Васіль па-гаспадарску распарадзіўся зварыць госцю каву і адна з дзяўчат з мілаю ўсмешкай адправілася на кухню, зірнуўшы ласкава на Максіма.

«Добрая кампанія», — адзначыў малады інжынер, седзячы ля акна і разглядаючы прысутных.

Прыгажуня прынесла кубачак з каваю. Яе прыемны водар адразу пачаў казытаць нос, і так добра стала ад гэтага непаўторнага паху кавы, нібыта дома апынуўся. Косіч павольна стаў піць, а прыгажуня (яна назвалася Святланаю) прысела побач, распытваючы пра вяселле і пра яго самога. Маладому мужчыну гаваркая дзяўчына спадабалася адразу, але ён паспеў заўважыць касыя позіркі чарнявага хлопца з залатым зубам у іхні бок.

Нарэшце вярнуўся і «ганец» з вялікім пакетам бутэлек і каробак. Усё выклалі і выставілі на стол. Бяседа пачалася з новай сілаю: усе загаманілі, як растрывожаны вулей, падселі да стала, пачалі наліваць шампанскае, гарэлку. З'явілася і бутэлька каньяку. Максім папрасіў Святлану пачаставаць яго каньяком, бо адчуваў, што выпіць усё роўна давядзецца. Дзяўчына, пакуль ён піў, прытрымлівала далікатна яго руку, каб выпіў да дна. Хутка Святлана папрасіла яго дапамагчы прынесці закуску з кухні, што знаходзілася праз доўгі калідор. Як толькі дзверы за імі зачыніліся, Святлана раптам выключыла святло і апынулася побач з Максімам.

— Заставайся тут, у мяне. Хутка ўсе разыдуцца, а я адзіная гаспадыня. Васіль — мой стрыечны брат. — Дзяўчына паклала руку на плячо Максіму, чакаючы ў адказ пацалунку. Максім абхапіў яе талію, прыціснуў да сябе, адчуваючы як моцна калоціцца яго сэрца, як Святлана становіцца для яго жаданай-жаданай...

— Вось вы чым тут займаецеся! — раптам нехта выкрыкнуў за спінаю Косіча.

— Мы рыхтуем закусь! — няспешна адказала Святлана, павольна адхіляючыся ад Максіма. — Ты ж не дапамагаеш сястры! — Дзяўчына ўзяла талеркі і панесла ў пакой.

— Косіч, ты сястру не крыўдзі: яна ў мяне адна. Калі што, дык будзеш мець справу са мною! — пасміхнуўшыся, Васіль падштурхнуў Максіма ў напрамку да кампаніі. — Хадзем, трэба ж і па чарцы кульнуць, калі яшчэ давядзецца сустрэцца...

***

Максім так і не трапіў дамоў. Нават пераапрануцца не атрымалася. Ды што зробіш: былі і раней часы, калі адразу з-за стала ехаў на працу.

На гэты раз усё выйшла крыху інакш. Падыходзячы бліжэй да працы ні з таго ні з сяго вырашыў заглянуць яшчэ і да свайго сябра-аднакласніка Віктара Шнецкага.

Ідучы ў адзіноце па ранішняй вуліцы, Максім быў, можна сказаць, атакаваны чорнымі крумкачамі, якія ляцелі насустрач, нешта галасна выкрыкваючы. Толькі цяпер Косіч заўважыў, якія ў іх вялізныя крылы. Крумкачы праляталі зграя за зграяй.

«Во навала! Яшчэ іх не хапала! Нібы ў містычнай кінастужцы. Але ж і відовішча!» — Хлопец здзіўлена праводзіў поглядам птушак. Наперадзе з'явіліся жанчыны- прыбіральшчыцы. Горад ажываў пасля ночы.

Сябар Віктар якраз снедаў, бо самы час быў збірацца на працу.

— Сядай да стала, — запрасіў як заўжды добразычліва.

Максім з задавальненнем прысеў.

— Ты адкуль зараз такі прыгожы? — запытаў сябар.

— На вяселлі быў, і цяпер адразу на працу.

— Сёння табе будзе не да працы.

— Нічога, да абеда пратрымаюся, а там адпрашуся... — Максім дапіў каву, пасядзеў яшчэ хвілінку і падзякаваў сябруку за сняданак.

— Калі што дык заходзь пазней, — прапанаваў Віктар, — я перад абедам буду ўжо дома. А зараз пагаліся крыху, памыйся. Гэта якраз табе пойдзе на карысць. Кашулю маю свежую вазьмі...

...Перад будынкам роднага прадпрыемства Максім яшчэ здалёк заўважыў прывабную светлавалосую дзяўчыну на прыступках ля бакавога ўваходу. Тая сядзела ў ружовай блузцы і белай спадніцы з барвоваю ружаю ў руцэ, апус-

ціўшы галаву долу. Непадалёку, бліжэй да сцяны, на бетоннай пліце калыхаўся павольна белы гумовы шарык. Максіму падалося, што ў ім была вада: шарык нікуды не адкочваўся, не адлятаў. Адчуванне адзіноты і тут сустрэла маладога інжынера, які толькі што быў у неблагім ранішнім настроі.

«Нешта тут зусім сумна...» — разважыў Косіч, набліжаючыся да дзяўчыны. А тая нерухома працягвала сядзець, агаліўшы прыгожыя ногі. Адно з кален было абдзёртае, калготы на ім парваныя.

«Ну, гэта ўжо зусім абы-што», — падумаў Максім, падыходзячы бліжэй. У гэтае імгненне дзяўчына падняла галаву і крыва ўсміхнулася...

Пад Косічам нібы прагнулася бетонная пліта. Перад ім на прыступцы сядзела Ганначка...

Выпадковы вецер нечакана пагнаў белы гумовы шарык уздоўж сцяны ў невядомым накірунку.



# Вінцэсь Мудроў

празаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

# Песні піянерскага лета

Дзіўна, але я ніяк не магу заснуць, калі знадворку гуляе вецер. Вось і цяпер — ляжу з расплюшчанымі вачыма і слухаю, як ён шуміць у старых ліпах, зласліва шамаціць па даху, гойдае ліхтар на слупе, што стаіць пад вокнамі. Кволае святло ліхтара блукае па супрацьлеглай сцяне і варушыць вусны Хрушчова — яго партрэт вісіць пад столлю. Здаецца, Хрушчоў нешта кажа. Я нават наструньваў слых, але чую толькі шум знадворку ды лёгкі звон шыбаў, у якія б'ецца няўрымслівы вецер.

Лямпачку ў ліхтар укруціў учора наш баяніст. Дзеўкі — яны спяць за сценкай — наслухаліся адна ад адной розных страшных аповедаў: пра «чорную руку», пра крывавую пляму на шыфаньеры, пра вужа, што выпаўзае ноччу з падвала, — і баяцца выйсці сярод ночы ў прыбіральню. Вось Іван Іванавіч, дырэктар летніка, і загадаў баяністу на слуп узлезці ды лямпачку ў ліхтар укруціць — каб цёмнай парой на двары святлей было. Дзядзька Коля, так завуць баяніста, спачатку палез на слуп, у зубах лямпачку заціснуўшы, але толькі да сярэдзіны і дапяў — долу паехаў ды стрэмак у далоні набіў. Слуп жа стары, збуцьвелы. Нават шкада стала баяніста. Але знайшлі каго шкадаваць. Дзядзька Коля, на парэпаныя далоні папляваўшы, выцягнуў са штаноў рэмень, абвязаў вакол слупа і зноўку палез. Падцягне нагой зашмаргу, схопіцца рукамі за слуп, потым зноў рэмень падцягне. І так на самы вяршак залез ды лямпачку ўкруціў. Мы нават у ладкі ўдарылі. Законны дзядзька. Што хочаш можа сыграць. Калі дзерык у горад за харчамі едзе, мы яго заўжды просім песню пра Уругвай збацаць. Дзядзька Коля спачатку адмаўляецца, маўляў, пачуе хто з выхавальнікаў — будзе яму на арэхі. Але, паслухаўшы, як мы ўмольна канькаем: «Ну дзя-адзька Коля-а», — расцягвае мяхі і стоена, зыркаючы на бокі, спявае: «Раз мы шли по Уругваю...», — мы гамузам туруем: «Ваю!», «Ночь — хоть выколи глаза», — і мы, ужо зусім шалёна, выдыхаем: «За!»...

Летнік месціцца ў вясковай школе-васьмігодцы. Наш пакой маленькі, у яго ўлезла толькі чатыры ложкі. Гэта кабінет дырэктара школы. Дарэчы, сам дырэктар працуе ў летніку старэйшым выхавальнікам. Завуць яго Іванам Гаўрылавічам, але міжсобку мы яго называем Гарынычам.

Поруч са мной спіць Мішка Касач. Ён з першага атраду, на год за мяне старэйшы, ды пасялілі з намі, бо ў класе, дзе месцяцца ягоныя аднагодкі, няма дзе паставіць ложак. Наша важатая (мянушка Кірпа) спачатку ўзрадавалася, думала Мішка будзе нас выхоўваць, а цяпер скардзіцца дзерыку. Маўляў, Касач другі атрад разбэшчвае і дысцыпліну парушае. З важатай нам наогул не пашанцавала: кірпатая, непрыгожая, і тхне ад яе нейкай агідай. А вось у першым атрадзе... тут я нясмела ўздыхаю... важатая сапраўдная прыгажуня. Русявыя валасы ў тоўстую касу сабраныя, вейкі падфарбаваныя і спадніца зусім кароткая. І імя ў яе на дзіва рэдкае: Дана; і прозвішча на дзіва прыгожае: Харуцкая.

У сталовай насценгазета вісела — «Юныя гвардзейцы». Яшчэ з першай змены засталася. І там Данін фотаздымак быў: важатая на ім глядзела некуды ўгору і шчасліва пасміхалася. Дык я аднойчы, па абедзе, лязом той здымак выразаў. Увечары дзерык, калі сцяг спускалі, загадаў выйсці з шыхта таму, хто сапсаваў газету. Я, вядома, увесь схаладнеў, але з шыхта не выйшаў. Доўга потым думаў — куды схаваць фотку. Піхні ў валізу, дык знойдуць — ёсць у нас аматары ў чужых рэчах поркацца. Можна было, вядома, дзе-небудзь у лесе ў дупле схаваць, але хацелася, каб Данін партрэт заўсёды пад рукой быў. Вось я і прыдумаў: адсунуў ложак, надарваў каля самай ліштвы шпалеру і туды, за шпалерыну, запіхнуў фотаздымак. Цяпер, сярод ночы, не ўстаючы з ложка, магу выцягнуць, зірнуць на яго ў паўзмроку і зможыць вочы, згадваючы Даніну ўсмешку.

Апрача мяне і Мішкі ў пакоі яшчэ Лёшка Лубчонак. Мы з ім вучымся ў адным класе і нават летась сядзелі за адной партай. Але потым мяне падсадзілі да Нінкі Беглік. Нінка таксама тут, у летніку. Гэта страшэнная выскачка і даносчыца. Мішка Касач хацеў яе нават пабіць — пасля таго, як яна сказала Кірпе, што мы з дзядзькам Колем у кустах «Уругвай» спявалі.

Ля супрацьлеглай сценкі, пад партрэтам Хрушчова, спіць стрыжаны вясковы хлопец з дзіўным імем Здзіслаў, якое я ўчора, пад рогат сяброў, перарабіў на Бздзіслава. Здзіслаў ні з кім не сябруе, і ніхто не ведае ягонага прозвішча.

... Я страсянаю галавой, адганяючы начныя думкі, і заўважаю, што вецер, падобна, пачаў аціхаць. Вунь і Хрушчоў ужо не варушыць вуснамі і прыхаваўся ў змроку. Бацька мой, дарэчы, яго не надта любіць. Вершыкі, падпіўшы, чытае — пра Хрушчова ды Гагарына: «Паляціш ты на арбіту, прыхапі з сабой Мікіту». Маці потым лаецца і кажа, што бацьку за такія вершы хутка пасадзяць, а наш Джэк, ірландскі тэр'ер, уголас падтрымлівае маці ды залівіста дзяўкае.

Я згадваю Джэка — як ён ляжыць, скруціўшыся абаранкам, на сваім каберцы, і ўздыхаю.

Вецер яшчэ раз, але ціхенька, наастачу, дзынкнуў у шыбах і заціх. Пашчэнкі крывіць салодкі позех, я хачу перад сном зірнуць у кволым святле ліхтара на Дану, піхаю руку пад ложак, ды раптам чую, як дзесьці непадалёку, гэтак жа ціхенька шморгаюць носам і плаксіва енчаць. Патыліца мая міжволі адрываецца ад падушкі. Думаў, што ва ўсім свеце не сплю толькі я адзін, а тут пад бокам, дакладней, пад партрэтам Хрушчова, хтосьці здушана плача. Я прыслухоўваюся, вызначаючы — хто гэта румзае пасярод ночы, — і бачу, як Здзіслаў выцірае ражком прасціны вочы ды куляецца на левы бок.

Учора ўвесь дзень было пахмурнае надвор'е, вецер шумеў у ліпах, а сёння цяплынь і сонца сляпіць вочы.

Адразу пасля зарадкі ў летніку пад'ём сцяга. Стаім, мружачы вочы ад сонца, і паныла глядзім, як па трубе — яе злёгку перакасіла ад ветру — паўзе-дрыгаецца чырвоны сцяжок. Мішка Касач кожнага разу пытаецца ў Кірпы: навошта яго кожнай раніцы ўздымаць? Ну, прыехалі ў летнік, узнялі той сцяг, і хай вісіць да канца змены. А ў апошні дзень урачыста спусцілі долу. На што важатая кожнага разу выдыхае: «Касач, я буду ставіць пытанне аб тваім выключэнні з

піянерскай арганізацыі». Кажа так, нібыта Мішка нейкія там піянерскія законы парушыў. І яшчэ ўвесь час Ваську Чыжыка згадвае, якога з летніка выгналі. Быў такі на першай змене. Любіў вужоў лавіць на беразе возера: зловіць, у бутэльку запусціць і пужае ўсіх. А аднойчы даўмеўся прынесці вужа ў клас, дзе дзеўкі жылі. Можна ўявіць, які там пачаўся вэрхал! За Чыжыкам на наступны дзень маці прыехала, забрала да хаты. Але на гэтым вужачыя жарсці не скончыліся. Мішка Касач жартам паведаміў Нінцы Беглік, што вужа таго не злавілі, што ён цяпер жыве ў падвале і ноччу выпаўзае праз дзірку ў падлозе ды поўзае па школе. Нінка, вядома ж, распавяла пра тое сяброўкам, і аднойчы сярод ночы за сценкай раздаўся страшэнны віскат. Мы ўсе, у адных трусах, кінуліся ў суседні клас. Туды ж і дзерык прыбег. Аказалася, у куце кавалак вяроўкі ляжаў, а нейкай дурніцы прымроілася, што гэта вуж поўзае.

Мяне злёгку нудзіць. Відаць, ад недасыпу. Ды і есці ахвота. А тут яшчэ трэба песню спяваць: «Взвейтесь кострами, синие ночи». Я, праўда, не спяваю. Так, адкрываю рот дзеля прыліку. А вось Нінка Беглік, што стаіць перада мною, тая надрываецца. Ды яшчэ і ў ладкі б'е. І не проста так, а ляпаючы далонямі над галавою. Дзядзька Коля таксама, як бачна, не выспаўся. Грае на баяне з заплюшчанымі вачыма і галаву на мех кладзе. Вось і зараз паклаў, ды, відаць, зашчаміў вуха, бо страсянуў галавой і, развейваючы сон, таксама заспяваў: «Кл-лич пионера «Всегда будь готов!»

Мы ўжо збіраемся бегчы ў сталоўку, ды тут Гарыныч падымае руку.

— Сёння ўпершыню прагучыць піянерская радыёгазета! Вы пачуеце навіны нашага летніка, пачуеце галасы сяброў і шмат чаго цікавага і пазнавальнага. Так што а пятай гадзіне ўсім быць ля другога корпуса — там будзе працаваць піянерскі радыёвузел.

Другі корпус — гэта пахілая будыніна, дзе месцяцца школьныя майстэрні, а цяпер жыве малеча з трэцяга атрада. Шыбуючы на сняданак, зыркаю ў бок другога корпуса і дзівуюся: ніхто дагэтуль не раскручваў ніякага дроту, не ўсталёўваў рэпрадуктара, а вось жа а пятай гадзіне павінна загучаць піянерскае радыё. Цікава, што думае аб гэтым Мішка Касач? Мішка ідзе наперадзе, прытоеным голасам размаўляе са сваім сябруком — Пецькам Іздрыкам з першага атрада. Хоць і напружваю слых, але чую толькі асобныя фразы: «Калі ўсе паснуць... вылезем у вакно... завешана, ды не ўсё... шчыліна засталася». Я прагну даведацца — навошта лезці ў вакно, — кранаюся вухам Пецькавага плечука і Іздрык балюча пстрыкае мяне па носе.

Пасля сняданка ідзем з Мішкам у свой пакой, мне карціць спытаць — куды гэта яны збіраюцца з Іздрыкам лезці сярод ночы, — але побач сунецца Лёшка Лубчонак, а пры ім пытацца не выпадае. І таму я пытаюся зусім пра іншае.

— А чаму гэта Бздзіслаў па начах плача?

— У яго ўвесну маці памерла, — кажа Мішка, зганяючы з майго твару блазнаватую ўсмешку.

— Як памерла? — пытаюся я, на момант аслупянеўшы.

— Ты што — не ведаеш, як людзі паміраюць? — азываецца Мішка, не паварочваючы галавы.

Душа злёгку абмірае і ў ёй нараджаецца і набірае моцы пачуццё вінаватасці.

Здзіслаў ужо сядзіць на ложку і тупа пазірае на падлогу. Мне карціць сказаць яму штосьці прачулае, але патрэбныя словы не йдуць у галаву і я проста сядаю поруч і з вінаватай гіморай на твары тыцкаю Здзіслава ў бок. Маўляў, выбачай за мянушку; я ж не ведаў, што ў цябе такое гора. Здзіслаў ківае ў адказ, але ўрачыстасць моманту псуе дружны смех пад вакном і залівістая хуткагаворка Нінкі Беглік:

— Ой, дзяўчынкі, давайце вось гэтую: «Детство наше золотое...» — і дзяўчынкі гамузам падхопліваюць: «... всё счастливей с каждым днём, под счастливою звездою мы живём в краю родно-ом...»

Пад вакном стаіць даўжэзная лава, якую ўпадабалі дзеўкі нашага атрада. Надумаліся зладзіць канцэрт для вяскоўцаў, і цяпер дзень да дня збіраюцца ды спяваюць розную лухту.

Мішка прачышчае горла, адчыняе вакно і, перабіваючы дзявочыя галасы, галёкае песню пра Уругвай:

— Что б вы, черти, подавились, хоть одним моим ребром... только дикий смех гориллы нарушает джунглей сон!

Мы падбягаем да вакна. Нінка Беглік круціць пальцам ля скроні, і Мішка, зарагатаўшы, як гарыла, крычыць ёй наўздагон:

— У каго, у цябе?

Дзеўкі ідуць убок сталоўкі, Мішка задаволена пацірае рукі, а Здзіслаў, пачухаўшы стрыжаную макаўку, пытаецца:

— А што такое Уругвай?

— Горад такі, — рашуча выдыхае Лёшка Лубчонак.

— Які яшчэ горад? Гэта краіна... у Паўднёвай Амерыцы, — тлумачыць Мішка Касач, плюхнуўшыся на ложак. — У іх футбольная дружына моцная. Летась, на чэмпіянаце свету, з нашымі гулялі.

Мішка аматар футбола і хварэе за менскае «Дынама». У дзядзькі Колі ёсць кішэнны радыёпрымач, дык Мішка, калі гуляюць менчукі, увесь час каля баяніста абціраецца — каб футбольны рэпартаж паслухаць. Слухаюць на пару, гарлаюць, калі дынамаўцы гол забіваюць, ды ўсё нейкага Эдзіка нахвальваюць.

У расчыненыя вокны ўрываецца зычны воклік:

— Дзяўчынкі, хадзем на рэпетыцыю!

Мішка Касач падхопліваецца на ногі.

— Трэба іх апярэдзіць!

Мы гамузам вылятаем у калідор. Сёння серада, дзерык паехаў у горад, а таму ёсць шанец пачуць улюбёную песню пра Уругвай.

Дзядзька Коля выходзіць на ганак з баянам пад пахай, і яго адразу ж атачаюць пяюхі. Дзеўкі апошнім часам надумаліся рэпеціраваць у лесе — каб іх ніхто не чуў і не бачыў. Бо калі рэпеціравалі ў сталоўцы, мы прыліпалі да вокнаў, рагаталі і строілі гіморы.

— Спазніліся, — уздыхае Мішка Касач і, стукнуўшы кулаком па далоні, мармыча: — Трэба дзядзьку Колю ў лесе перахапіць, калі рэпетыцыя скончыцца.

Мы ўчатырох — Мішка, Лёшка, Здзіслаў і я — перабежкамі, сюд-туд хаваючыся за кустамі, бяжым за пяюхамі. Хочам пасля рэпетыцыі перахапіць дзядзьку Колю, каб збацаў «Раз мы шли по Уругваю». Бо ў летніку ён гэтай песні граць не будзе. Увязаўся яшчэ недаростак з трэцяга атрада — увесь час каля нас круціцца, — але Мішка даў яму ў карак ды загадаў ісці на заняткі гуртка «Умелыя рукі».

Пяюхі дарма часу не марнуюць: на хаду рэпеціруюць «Песеньку паштальёна». «Есть много профессий, хороших и важных, но я ни на что не сменяю свою. Со всеми я в дружбе, и ждёт меня каждый, и всюду я песенку эту пою», — заліваецца Нінка Беглік, і дзеўкі хорам падпяваюць: «Отворите скоре-эй, почтальон у двере-эй»... У гэтым месцы дзядзька Коля з шумам зводзіць мяхі.

— Дзяўчынкі, пасля «отворите скорей» гучыць рэфрэн у больш высокай танальнасці, — ну... — дзядзька Коля трасе галавой, рашуча расцягвае баян, дзеўкі голасна выдыхаюць: «Отворите скорей...», і Мішка Касач, вытыркнуўшыся з-за куста, спеўна гарлае: «Я вам дам пи...лей!»

Я ляжу пад кустом і зацкавана гляджу на Мішку. За такія словы могуць і з летніка выгнаць.

Цэлую гадзіну блукаем па лесе ды збіраем у рот чарніцы, прыслухоўваючыся да баянных перабораў. Усё ж такі вырашылі дачакацца канца гэтай чортавай рэпетыцыі.

— Слухай, а табе хто-небудзь з дзевак падабаецца? — далятае да маіх вушэй стоены Мішкавы голас. — Пытанне гэтае Мішка, на шчасце, адрасуе не мне, а Лёшку Лубчонку.

Лёшка маўчыць, бо рот набіты чарніцамі.

— А табе? — ківае Мішка ў мой бок і я спалохана выдыхаю: — Не-а.

— А мне падабаецца, — Мішка выцірае далонню счарнелыя вусны, разважаючы, ці варта дзяліцца сваёй тайнай, і рашуча выдае: — Дана Харуцкая.

— У-уу... дык гэта не дзеўка, — няўцямна азываецца Лёшка Лубчонак.

— А хто? — з абурэннем у голасе перапытвае Мішка.

— Як хто... важатая. А да таго ж, яна тут усім падабаецца, — Лёшка яшчэ штосьці кажа, але я не чую, бо слых поўніцца густым звонам і кроў прылівае да твару. Заўсёды, калі чую імя важатай, мяне працінае дрыготка і потым доўга гарась вушы.

... Я адразу заўважыў Дану — яшчэ тады, у першы дзень, як ехалі ў летнік. Больш за ўсё ўразіла тугая русая каса, перакінутая праз плячо і позірк яе шэрых вачэй. Цэлы дзень потым хадзіў ачмурэлы, шукаючы вачыма важатую першага атрада, а ўвечары мне надарылася шчасце патрымаць Дану адразу за абедзве рукі. А ўсё дзякуючы вальсу дружбы. Прыйшлі ў той першы дзень на вячэру, а яна яшчэ не гатовая. І Гарыныч, каб нас чымсьці заняць, пляснуў у далоні і загарлаў: «А зараз усе танцуем вальс дружбы!»

Я дагэтуль ніколі не танцаваў, і хацеў было ціхенька куды-небудзь прыхавацца, але тут сам Гарыныч схапіў за каршэнь і паставіў у кола. Колаў было два — у адным стаялі дзеўкі, а ў другім, які яго атачаў, мальцы. Уласна кажучы, гэта быў ніякі не вальс. Проста дзеўка з мальцам браліся за рукі, матлялі імі ўбокі, затым паварочваліся на 180 градусаў, ляпалі адно другога далонню ў далонь і мальцы пераходзілі да суседняй дзеўкі. Напачатку ў мяне кепска атрымлівалася. Ногі запляталіся, круціўся не ў той бок, змакрэў увесь, а потым пайшло, мне нават спадабалася матляць рукамі, але тут заўважыў, што хутка перада мной паўстане важатая з русявай касой. І вось гэты страшны момант наспеў. Важатая ўзяла мае потныя, мляўкія ад хвалявання пальцы, павяла ў адзін бок, потым у другі. «Раз, два, тры — на дыбачкі; раз, два, тры — на дыбачкі; пляснулі і разышліся...» — спявала важатая, а я стаяў ёлупнем, неадрыўна пазіраючы на два грудкі, што пукаціліся на напятай дзявочай кашулі. Мяне пхнулі, я таксама некага пхнуў, і малады дзядзька — тады яшчэ не ведаў ягонага імя, — які граў на баяне, жартаўліва крыкнуў: «Дана Юр'еўна, кіньце зачароўваць моладзь!» Той хвіляй мне здалося, што ўвесь летнік глядзіць у мой бок. Я гатовы быў кінуцца, шукаючы ратунку, у кусты, ды тут, на шчасце, на ганку сталоўкі кухарка заляскатала лыжкай па рандолі, і ўсе кінуліся на вячэру. Ад той пары, калі чую пра Дану, вушы мае гараць пякельным агнём — ад сораму, які зазнаў тады, першым днём летніка.

Мішка прыслухоўваецца, падымае ўгору палец. У лесе ўжо не чуваць баяна, адно шчабечуць птушкі.

Мы бяжым напярэхваткі, і Мішка Касач яшчэ здалёк запабежліва гамзае:

— Дзядзька Коля, вы ж абяцалі...

Баяніст махае рукой.

— Ідзіце, дзяўчаты... мне тут пагаманіць трэба... з адным таварышам.

Дзеўкі з неахвотаю, азіраючыся, ідуць па сцяжыне, а дзядзька Коля, крыкнуўшы ім услед: «А сёмай гадзіне генеральны прагон!» — хапае Мішку за чупрыну і хвацка тузае.

— Гэта табе аванс.

Тузанулі Мішку балюча, бо небарака войкнуў, потым шморгнуў носам, і дзядзька Коля, зразумеўшы, што тузануў задужа моцна, ускінуў на плечы баянныя рамяні.

— Ну, што там табе сыграць?

— «Раз... (усхліп) мы шли... (усхліп) по Уругваю», — пакрыўджана выдыхае Мішка.

— Не, «Уругвай» больш граць не буду, а то мяне з-за тых песень таксама з летніка папруць. Як таго Ваську Чыжыка.

Дзядзька Коля керхае і, адкінуўшыся крыху назад, спявае: «Давным-давно на дальнем севере, где человек сидел на дереве, под ним стоит толпа голодная, бьёт мослами в барабан. Посиневшие от холода, зубами ляская от голода, под барабанный бой и дикий свист, они танцуют твист..»

Дзядзька Коля яшчэ ніколі так шырока не расцягваў мяхі, у яго ніколі так не бліскалі вочы, і ніколі дагэтуль не спяваў ён з такім натхненнем. Я на момант забыўся пра ўсё на свеце, і ў апошнім куплеце далучыў свой голас да імпэтнай песні: «Ну, укуси меня за талию, ну укуси меня за грудь!» І падалося, што я кусаю за талію Дану, і сэрца маё гатова было вырвацца з грудзіны і ляцець за небакрай.

Мяне абудзілі непрыемныя, натужліва-адрывістыя зыкі. Ну, вядома, гэта салагі з трэцяга атрада апанавалі лаву пад вакном і вучацца трубіць на горне. Я задаволена пацягваюся у ложку. За ўвесь час, што знаходжуся ў летніку, упершыню заснуў па абедзе. Час гэты называецца «ціхай гадзінай», і мы мусім, калі ўжо не спаць, дык прынамсі ляжаць у ложках.

«Ціхая гадзіна», падобна, даўно скончылася, бо Лёшкі і Здзіслава няма ў пакоі і іх ложкі шчыгульна запраўленыя. Поруч варушыцца Мішка Касач. Мішку, відаць, таксама абудзілі гарністы. Ён здушана крэкае, падымаецца на ногі, ідзе да адчыненага вакна.

— Харэ пярдзець! — крычыць Мішка, і надрыўныя зыкі аціхаюць.

Сябар плюхаецца на ложак, мы разам пазяхаем, і ў гэты момант у пакой залятае Нінка Беглік.

— Чаго ляжым? Ужо ўсе на месцы, вас чакаем...

— «Отвалите скоре-ей, почтальон у двере-ей...» — жартам спявае сябар, і Нінка з грукатам зачыняе дзверы.

Пасля «ціхай гадзіны» мы звычайна рыхтуемся да агляду строю і страявой песні. Ідзем на пустку за школай, ходзім шыхтом па коле, і ў адказ на Нінчын покліч: «Наш дэвіз!» — бязладным хорам адказваем: «Сам памірай, а таварышу дапамагай!». Потым яшчэ, ужо зусім бязладна, спяваем «нашу» песню, ад якой я запомніў толькі першы радок: «Мы — пионеры советской страны, нас — миллионы!». Вось калі б дзядзька Коля збацаў пра чалавека, які сядзіць на дрэве і вакол якога стаіць галодны натоўп — тут бы мы заспявалі на ўсе застаўкі.

Дзвярныя завесы гучна рыпаюць, і ў пройме паўстае ўскудлачаная Кірпа.

— Вам што, індывідуальнае запрашэнне трэба? Зараз жа прыбірайце ложкі і выходзьце на шыхтаванне!

— А мы ў ложках будзем рэпеціраваць, — азываецца Мішка і, махаючы ў паветры нагамі — нібыта ён ідзе, — галёкае: «Мы идё-ом за дружиной дружина, мы идёт за отрядом отряд!»

Я гляджу на Мішкавы жылаватыя лыткі, таксама дрыгаю нагамі ў паветры і чую дакорлівы голас Даны, ад якога ў мяне халаднее сэрца і перахоплівае дыханне.

— Хлопчыкі, ну, што гэта такое? Другі атрад ужо маршыруе, а вы ляжыце... І важатую да слёз давялі...

Мы скочваемся з ложкаў, роспачна, не патрапляючы ў калашынне, нацягваем порткі, — Мішка пры гэтым ліхаманкава плюе на пальцы, прылашчвае чупрыну, — і выбягаем у калідор, дзе яшчэ не аціх стук Данчыных туфлікаў.

Цэлую гадзіну ходзім па лузе і спяваем пра піянераў савецкай краіны. Нарэшце Кірпа б'е ў ладкі, сарваным ад спеваў голасам абвяшчае:

— А зараз ідзем слухаць піянерскую радыёгазету!

Касач таксама б'е ў ладкі, але глуха, складзенымі карцом далонямі. Усе смяюцца, я таксама, але пры гэтым не цямлю — што тут смешнага, — і запытальна гляджу на Лёшку Лубчонка.

— Карова ляпехі кладзе, — тлумачыць Лёшка, што тут незразумелага, — і таксама глуха ляпае далонямі.

...З форткі вакна другога корпуса паволі вытыркаецца пакарабачаны рупар. Той самы, у які гарлае Гарыныч на беразе возера, калі хто далёка заплывае.

Вакно спрэс завешана пажоўклымі газетамі і толькі на самым доле маецца шчыліна, праз якую бачныя нечыя ногі.

Рупар кашляе і азываецца голасам галоўнага выхавальніка.

— У эфіры піянерскі летнік «Гвардзеец»! Пачынаем нашу перадачу...

Мне смешна тое чуць. Ну, якое гэта радыё, калі проста прамаўляюць у бляшаны рупар. На вялікім пальцы правай нагі ў выхавальніка — ён стаіць на падваконні — вялізны жоўты пазногаць. Мне робіцца сумна, бо згадваю свой дом, Джэка, маці і матчын аповед пра тое, як яна, яшчэ зусім малая, хадзіла глядзець на павешаных здраднікаў.

«Адзін быў бургамістрам пры немцах, нават у нашу хату заходзіў, — казала яна аднойчы суседцы, цётцы Серафіме. — І вось бачу, боўтаецца на вяроўчыне, а на пальцах, на нагах, вялізныя жоўтыя пазногці». «Кажуць, яны ў мёртвых растуць», — адказала тады суседка і мне, памятаецца, ад тых слоў нават сцягнула скуру на лбе. На кароткае імгненне здаецца, што і небарака-выхавальнік боўтаецца на вяроўчыне, але тут жа пераводжу дых, бо выхавальнік ажывае і пераступае з нагі на нагу.

— Піянерскія дружыны ўключыліся ў барацьбу за атрыманне годнасці «Спадарожнікі сямігодкі». Імі сабраныя сотні тон металалому, дзясяткі тон макулатуры, пасаджаны паркі і скверы ў родных гарадах і пасёлках... — прамаўляе бляшаны рупар і пракурана кашляе.

Я паглядаю на сталоўку. Ахвота есці, а да вячэры яшчэ дзве з паловай гадзіны.

— А зараз Ніна Беглік з другога атрада пачытае нам вершы, — крахтае рупар, і пальцы з жоўтымі пазногцямі знікаюць з відавоку.

Рупар варушыцца ў фортцы — падаецца наперад, потым назад, — і няўцямна мармыча: «Ты толькі не хвалюйся».

— Нас называют пионеры... — дрогкім голасам азываецца Нінка, рупар ізноў падаецца наперад і падае на галаву недаростку з трэцяга атрада — таму самаму, які за намі ўвесь час бегае.

Усе выбухаюць смехам, пазіраючы на стрыжанага небараку: недаростак стаіць з нацубленым на галаў рупарам і спалохана лыпае вачыма. З форткі цягнецца валасатая рука выхавальніка.

— Нікога не стукнула? — пытаецца Гарыныч, падхапіўшы рупар.

Неўзабаве піянерскае радыё ледзь чутна шапоча: «Ты кажы, я сам буду трымаць», — і Нінка Беглік, ужо без дрыготкі ў голасе, дэкламуе:

— Нас называют пионеры, мы для других — всегда примером, и нашей дружбы крепче нет! Ребята, что шагают в ряд и гордо носят...

Што там яны носяць засталося тайнай, бо Мішка Касач кінуў у рупар каменьчык, Нінка папярхнулася, і мы, утуліўшы галовы ў плечы, чарговым разам падумалі: «Цяпер ужо Мішку дакладна выганяць з летніка».

Адвячоркам мы сядзім на партах ля сталоўкі і чакаем, калі скончыцца генеральны прагон — апошняя рэпетыцыя перад канцэртам. Парты свойчас вынеслі з класаў, і цяпер яны стаяць даўгім шыхтом пад адкрытым небам.

«Сла-авен Павлик Моро-озов, жив он в наших сердцах, презирая угрозы он за правду стоял до конца...» — вырываецца з прачыненых сталоўскіх вокнаў і шматгалосую песню перарывае ляпанне далоняў.

— Дзяўчынкі, ну што вы, далібог, як сонныя мухі... больш агню!

Гэта крычыць дырэктар летніка. Дзерык нікому не дае спяваць — увесь час пляскае ў ладкі і чагосьці там патрабуе.

Мы дарэшты згаладалі, а таму і размовы нашы выключна пра ежу.

— Хто з вас еў бананы? — пытаецца Мішка Касач, прыхоўваючы пяцярнёй зяхлівы рот.

— Я! — азываецца Лёшка, і Мішка свідруе сябра іранічным позіркам.

— Еў, кажаш? А якога яны колеру?

Лёшка панурвае вочы, шморгае носам і няўпэўнена прамаўляе:

— Зялёныя...

— Зялё-оныя... — перадражнівае Мішка Касач, заўважаючы, што ўсе наўкол аціхлі, бо відавочна ніхто тут бананаў у вочы не бачыў. — Яны жоўтыя... толькі па краях крыху зеленаватыя.

— Ты і сам іх, відаць, толькі на карцінцы бачыў, — падае голас Здзіслаў.

— Я?! — Мішка ад абурэння нават падскочыў на ногі. — Ды мне бацька з Масквы іх кожнага разу прывозіць... — Мішка хоча яшчэ нешта сказаць, але ў сталоўцы адчайна рыкае баян,і дзеўкі надзіва суладнымі галасамі спяваюць: «Гори, костёр, подольше, гори не догорай. А завтра лагерю скажем — прощай, прощай, прощай!»

— Апошняя, — выдыхаем усе разам і саскокваем з партаў. — Дзеўкі рэпеціруюць не першы дзень, таму мы даўно вывучылі іхны рэпертуар.

— Цікава, а ці будуць бананы пры камунізме? — пытаецца, ні да каго не звяртаючыся, стрыжаны недаростак — гэта яму надоечы на галаў нацубілі рупар. — Недаростак ад самага ранку круціцца каля нас ды слухае нашы размовы.

Пазаўчора ладзілі піянерскі збор ля вогнішча, і дырэктар летніка распавядаў — як добра будзе жыць пры камунізме. Казаў, што ў кожнага з нас будзе па пяць касцюмаў, па дзесяць, а то і болей, кашуляў, што ў крамах будзе поўна рознай смакошы, а вось пра бананы нічога не сказаў.

— А ты вазьмі ды спытай у дзерыка, — кажа, вядома ж, жартам, Лёшка Лубчонак, і ў гэты момант сам дырэктар летніка выходзіць на сталоўскі ганак.

Дзерык, былы ваенны лётчык, выцягвае з кішэні пачак «Казбека», дастае папяросіну, стукае ёю па пачку, збіраючыся прыпаліць, і пад ягонай рукой узнікае стрыжаная галава недаростка.

— Іван Іванавіч...

— Што, гвардзеец, — дзерык сціскае зубамі папяросу.

— А пры камунізме будуць бананы?

Дзерык выцягае папяросіну з рота, уважліва глядзіць на гвардзейца.

— Ну, жоўтыя такія... іх з Масквы прывозяць.

Што адказаў Іван Іванавіч, мы не пачулі, бо ўгледзелі, што пяюхі ўжо даўно сядзяць за сталамі і, піхаючы адно другога, кінуліся ў сталоўку.

На вячэру далі амлет з макаронай ды яшчэ цётухна-кухарка хадзіла між сталоў ды падлівала малака ў шклянкі. Амлет я глытаю адным махам, а вось макарона збілася камяком, не лезе ў глотку.

— Хутчэй бы ўжо, — кажа стрыжаны недаростак, які сядзіць насупраць.

— Што, малака налілі? — пытаюся я, перастаўшы жаваць.

— Ды не... хутчэй бы камунізм прыйшоў. Тады, казаў Іван Іванавіч, на вячэру будуць бананы даваць.

— Ты што думаеш, ён яшчэ да канца нашай змены прыйдзе? — мармычу, падстаўляючы шклянку пад струмень малака, і ўпотай пагядаю ў той бок, дзе сядзіць Дана Харуцкая.

Уночы я ізноў не сплю. Выспаўся ўдзень, ды і цікую — калі Мішка Касач палезе ў вакно. Мішка таксама не спіць, круціцца ў ложку, раз-пораз уздыхае.

Нечакана дзверы пакоя прачыняюцца, і ў пройме дрогкага святла — у канцы калідора ўсю ноч гарыць лямпачка — паўстае ўстрывожаны твар Пецькі Іздрыка. Пецька ўзіраецца ў цемру, тузае падбароддзем і ў адказ яму трывожна рыпае ложак. Мішка падхопліваецца, махае сябру рукой і сцярожка, на цырлах, ідзе да вакна. Просвы гучна ляскаюць, Мішка ўтульвае голаў у плечы, азіраецца, выглядаючы — ці не прачнуўся хто з нас.

Ну, вядома — сябрукі хочуць неўпрыкмет патрапіць на двор. Праз дзверы не выйсці — там сядзіць дзерык. На мінулым тыдні да дзевак, што спяць за сценкай, лезлі мясцовыя мальцы, вось Іван Іванавіч і сядзіць да дванаццатай ночы на ганку ды смаліць папяросы. А то яшчэ замест сябе дзядзьку Колю пасадзіць ці каго з выхавальнікаў. Таму Мішку з Пецькам і даводзіцца лезці ў вакно.

Я вылажу з-пад коўдры, бягу, пацепваючыся ад начнога халадку, да разнасцежанага вакна. Мішка з Пецькам стаяць, прыціснуўшыся спінамі да сцяны, а ўбачыўшы мяне, крывяць твары і махаюць рукамі. Маўляў, без цябе абыдземся. Але я лезу ў ваконную пройму, ступаю босымі нагамі па расянай траве.

— Толькі ціха! — пагрозліва шапоча Пецька Іздрык, прыклаўшы палец да вуснаў.

Прыгнуўшыся, мальцы бягуць да сталоўкі. Там, у крайнім акне, гарыць затуманенае прасцінай святло.

«Ці не надумалі прасіць дзядзьку Колю што-небудзь сыграць? — думаю я, паспяваючы за Пецькам, — але як той будзе расцягваць мяхі сярод ночы?»

У сталоўцы, у невялічкім катуху, што месціцца ля ўвахода, жыве наш баяніст. Вакно спрэс завешана прасцінай; на самым версе прасціна правісла і з адтуліны ліецца зыркае святло.

Мішка з Пецькам падхопліваюць бліжэйшую парту, цягнуць да вакна. Першым на парту лезе Мішка. Выцягнуўшы шыю і раскрыўшы рот, Мішка зазірае ў адтуліну і, адхінуўшыся, раскрывае рот яшчэ шырэй. Я хапаюся за голыя Мішкавы лыткі, лезу на парту, станаўлюся на дыбкі і бачу Дану. Важатая сядзіць на каленях у дзядзькі Колі і, абхапіўшы рукамі ягоную галаву, цалуе ў вусны. У вушах маіх пачынаюць біць званы, кроў прылівае да твару, па целу прабягае дрыготка, пальцы ног з'язджаюць па спусцістай паверхні і я валюся на Пецьку, які таксама пнецца зазірнуць у вакно. Вечка парты гучна ляскае і мы ўтрох кідаемся ўпрочкі. Я першым залажу ў вакно, драпаю чэрава, б'юся каленам аб падаконнік і, ужо непрытомны, валюся на ложак і з галавой накрываюся коўдрай.

Мне млосна. Ці то ад таго, што пабачыў, ці то ад болю ў калене. Ложак круціцца пада мною, я вытыркаюся з-пад коўдры, са стогнам удыхаю паветра. На шчасце, сэрца, якое ўжо збіралася вырвацца з грудзіны, паволі сунімаецца, і званы ўжо не б'юць у скронях. Па калідоры хтосьці прабег, за сценкай пстрыкнуў выключальнік, бразнулі ўваходныя дзверы. Усё ж такі мы нарабілі шуму.

Нечакана вочы мае поўняць гарачыя слёзы.

«Як яна можа... вось так... сесці абы-каму на калені і абы з кім цалавацца?» — віруе ў галаве неадчэпная думка. Слёзы казычуць шчокі, збягаюць па скронях, цёплым струмком ліюцца ў вушы. Мішка Касач круціцца на ложку, цяжка дыхае пасля беганіны, штосьці мне шапоча, але я яго не слухаю: сціскаю зубамі коўдру, каб не выдаць сябе. Бо калі Мішка пачуе, што я плачу, мне тут, у летніку, месца не будзе. Мішка пстрыкае мне пальцам у пятку, і я прыслухоўваюся да перарывістага шэпту: «А што ты думаў, яна нам, смаркачам, будзе на калені сядаць?» Я ўбіваю галаву ў падушку, доўга ляжу нерухома, потым, пашнарыўшы рукой пад ложкам, выцягваю са схову Данчын фотаздымак і, прыхаваўшы пад коўдрай, пачынаю дзерці на дробныя кавалкі.

«Праз тыдзень закончыцца змена, мы з'едзем з летніка і я больш ніколі не ўбачу Дану», — думаю я, і ўжо шкадую, што падзёр фотаздымак. І нават усхліпваю з тае нагоды, і бачу раптам, што Здзіслаў, падняўшы галаву, неадрыўна глядзіць у мой бок. Гэты хлопец ведае: калі хтосьці плача ўночы, значыць яму вельмі цяжка. Мне робіцца сорамна. Цяпер ужо перад Здзіславам. Бо мая маці жывая і чакае майго прыезду. І віславухі Джэк — таксама чакае, прыслухоўваючыся да крокаў на лесвічнай пляцоўцы. Я пераводжу дых, закідваю далоні за патыліцу, і Хрушчоў на партрэце падміргвае мне вокам, пазіраючы, як я — ужо ў сне — танцую з Данай вальс дружбы.



# Ліна Кастэнка

украінская паэтка. Аўтар паэтычных кніг: «Промні зямлі» (1957 г.), «Ветразі» (1958 г.), «Над берагамі вечнай ракі» (1977 г.), «Маруся Чурай» (1979 г.), «Непаўторнасць» (1980 г.), «Берасцечка» (1999 г.) і інш. Нарадзілася ў 1930 годзе ў горадзе Ржэшчаў на Кіеўшчыне. Жыве ў Кіеве.

# Я не служу чужому каралю...

***

Ціхая раскоша шчодрых вод.
Сонечна-зялёныя прычалы...
О Дняпро, ты, як і мой народ,
велічны, лагодны і трывалы.
Віру смех іскрысты, дзе чарот.
Глыбіня сцюдзёная ля кручы...
О Дняпро, ты, як і мой народ,
жартаўлівы, мудры і пявучы.
Плыні наравісты разварот.
Хваль бурлівых пляск далёкачутны...
О Дняпро, ты, як і мой народ,
горды, вольналюбны і магутны.

***

Я прысніла бабулю, бы яна йшчэ жыве.
Ля мяне засвяціла словы, нібы ў царкве.

Кот у ботах мурлыкнуў, пакланіўся і знік.
Мыш зайшлася ад смеху. Пазяхнуў дамавік.

Глянуў пільна Архангел на святога Іллю, —
Сон прысніцца ўжо хоча, але я ўсё не сплю.

Ціха-ціхенька ў хаце. З печы дыхае жар.
Месяц інкруставаны ў ночы дзіўны абшар.

***

Вяртаюся крадком у тыя дні,
Што ўсходзяць сонцам з сэрца глыбіні.
Там ёсць наш дом, абдымкі тваіх рук,
Душа яшчэ не ведае разлук.

І на сяброў ёсць час, і на гасцей.
І шчасце ёсць. І доня ў нас расце.
І сын малюе красачку зары,
Як той Маленькі Прынц Экзюперы.

## Гюго ў старым маяку

Не верыцца. Ён вырваўся і знік!
Хай там Парыж жыве сабе, як хоча.
Ахоўвае тут цішу вартаўнік,
І мора аб стары маяк плюскоча.

Нікуды не спяшаецца ён тут:
Ані ў цянёты славы, ні любові.
Стамлёная душа знайшла свой кут
І зможа ўрэшце выявіцца ў слове!

Бо, так ці сяк, усё-ткі тут маяк.
А у Парыжы неяк і ніяк.
Прыхільнікі, палітыкі, радня —
Усе цябе задурваюць штодня.

А тут хіба што пройдзе нездалёк
Караблік нейкі, пасігналіць дзеду.
А за акенцам — мора і пясок,
Пясок, пясок і ні людскога следу.

Вунь невад. Паўзатоплены прычал.
Нішто прытулак для анахарэта.
Ды днямі вартаўнік быў закрычаў:
— Масье Віктор, імчыць сюды карэта!

Ідуць ужо, гукаючы: — Го-го!
Мы ўсё-ткі тут знайшлі цябе, Гюго!
Ну што сказаць?! Зрабіў з сябе пачвару,
Хапком сабе намыліўшы паўтвару.

— Ты ім скажы, што нельга да Гюго!
Ён... розум страціў. Ён ужо — таго.
І, выставіўшы мыльную шчаку,
Прыскаліў вока і сказаў: — Ку-ку!

Ад мызы той шарахнуліся людцы.
Як індыкі, стараліся надзьмуцца.
І селі. І паехалі — куды ж?
Сенсацыю павезлі у Парыж.

***

Такі звычайны міг. З абсадай хата. Раніца.
І бэз, што п'е расу ды сонечны настой.
А заўтра гэты міг ужо ўспамінам станецца,
Пазаўтра — казкай з казак залатой.

А там, праз паўжыцця, калі ты ўжо здарожаны,
Той нерэальны міг — як сон у цені дрэў.
І ціша, і акно, і позірк заварожаны,
І нават вожык той, які ў лісці шамрэў.

***

Дзесь, кажуць, ёсць гара, дзе птаства не спявае.
О гора той гары, і гора дрэвам там!
Дзесь, кажуць, раз ішлі стральцы ў тым краі
І птушку адшукаць загадвалі хартам.

І кажуць, што адзін такую збіў пяюху,
Што анямелі ўсе, і змоўклі ўраз лясы.
І кажуць, што павук цяпер снуе там скруху.
О гора, о гара, аддай ім галасы!

***

Стаяць лясы ў канцлагеры. Асотам
Заткала ўсё. Відаць, на вечны час.
Казулечка, прабач, што ты за дротам.
І я за дротам. Проста ён між нас.

## Мадонна ўсіх дарог

Машыны, шыны, смог, спалох,
Вярні, спыні ўсутыч, з-за рога!
Стаіць Мадонна Ўсіх Дарог,
Дабраслаўляючы дарогу.

Таксі, аўтобусы, аўто
І матаролеры, і буды.
Усе на свеце ўсім ніхто —
Ні хто адкуль, ні хто нікуды.

Маршруты ганьбаў і трывог.
Сусвет гады свае прымножыў.
Стаіць Мадонна Ўсіх Дарог,
Ці ўжо Мадонна Бездарожжа!

Імчаць, імчаць без асцярог.
Куды дарога — невядома.
Стаіць Мадонна Ўсіх Дарог,
Дабразычлівая Мадонна.

## Людзі з Табулена

Як плыў кароль якойсьці там дынастыі,
Дык, покуль шчэ відаць было карму,
Ягоныя падданцы прыдунайскія
Не пакідалі кланяцца яму.

Адныя табуленцы вольнаплечыя —
І як такіх трымае шчэ зямля?! —
Не толькі разам з іншымі не ўкленчылі,
А нават не віталі караля.

Ні ў служках не служылі, ні ў эскортах,
Лічыўшы ўсіх папіхачоў за тлю.
Кароль жа недалюбліваў іх, гордых,
Ну й дзёрзкасць — не скарыцца каралю!

Пры ім вяльможы з радцамі і войскі,
Кругом мундзіры — ў золаце крыссё.
А гэтыя — асобныя, нясвойскія,
І маюць думку ўласную пра ўсё.

Але ў часы няшчасцяў найпрыкрэйшых,
Дзяржаўных найскладанейшых праблем
Ні радцаў ён пытаўся, ні старэйшын,
а пасылаў ганцоў у Табулен.

Бо пры двары народ жыве рахманы,
І смех ці сум тут толькі паказны.
Паклічце табуленцаў — без падману,
Усё праўдзіва выкладуць яны.

## Амаль пераклад з правансальскай

Я рыцар і паэт, далёкі ад ханыгаў.
Я не служу чужому каралю.
У водбліску мяча бяру я мудрасць з кнігаў
І даму сэрца зводдалі люблю.

І хоць дзялю з сябрамі таямніцы,
Ды, зведаўшы сапраўдную любоў,
Не стану ім хваліцца у піўніцы,
Як да яе залазіў у алькоў!

А наш кароль, а мы яго васалы,
А, чорт бяры, і я яго васал.
Усе яму ўжо оды напісалі,
І толькі я адзін не напісаў.

І хоць мне з каралём не пагадзіцца,
Бо прысвячаць не звык нікому од,
Сябрам я не падміргваю ў піўніцы —
Маўляў, які кароль наш ідыёт!

Мяне купляць і прадаваць не раджу,
Маю душу не стрэць на кірмашы.
А не клянуся, бо павек не здраджу,
Не раз я ў сечах подзвігі вяршыў.

І хоць кагосьці вабяць заграніцы,
Я тут жыву, бо гэты край люблю.
І не баюся шпегаў у піўніцы,
Бо гавару ўсё ў вочы каралю!

**З украінскай мовы пераклаў Дзмітро Шчарбіна**



# Стэфан Грабіньскі

Стэфан Грабіньскі (1887—1936 г г.) — польскі пісьменнік, прадстаўнік неарамантычнай плыні канца XIX — пачатку XX ст ст. Нарадзіўся і правёў большую частку свайго жыцця ў Львове. Як чалавек вельмі таленавіты і бліскуча адукаваны, пісьменнік аб'ездзіў амаль усю Еўропу, але сэрца сваё аддаў роднай Львоўшчыне, назаўсёды закахаўшыся ў гэты цудоўны край на памежжы некалькіх народаў.

Вытокі еўрапейскага неарамантызму і авангарду канца XIX — пачатку XX ст ст. — у крызісным стане культуры, філасофіі, маральнасці. У чаканні рэвалюцыйных выбухаў ствараецца мара аб надзвычайных, «звышчалавечых» вымярэннях жыцця. Волаты новай філасофіі — Артур Шапенгаўэр, Фрыдрых Ніцшэ, Анры Бергсон, Освальд Шпенглер ды іншыя — бачаць падставу чалавечага існавання ў сляпой ірацыянальнай волі. І мастацтва хоча быць сродкам незалежнай ад свету душы; самадастатковай, бязмежна вольнай у сваёй высокай самотнасці. Узнікае і развіваецца думка аб надзвычайнай пазіцыі мастака, аб ягоным выключным праве крытычна даследаваць як чалавека, так і грамадства. Бо мастак у сваім творчым высілку здольны распазнаць найбольш глыбокія — экзістэнцыяльныя — якасці жыцця. Спальваючы сябе ў гэтай пякельнай глыбіні, мастак пашырае межы ўласнай асабовасці, абшар сваёй душы, каб убачыць «крэсы» быцця — жахлівыя і цудоўныя — недасяжныя для іншых.

Зычлівай увазе чытачоў прапануецца навэла Стэфана Грабіньскага «Абшар душы», прысвечаная таямніцам літаратурнай творчасці. У творы — водгукі літаратурных спрэчак, філасофскіх дыскусій, культурніцкіх пазіцый на зломе вякоў. Паэт Вжэсьмян, галоўны герой, — празрыстая алюзія на асобу і творчасць Баляслава Лесьмяна, знакамітага польскага паэта. Ягоная паэзія, надзвычай вобразная, загадкавая, нібы сон наяве, уражвае сваёй глыбінёй, трывожна-дрыготкай пачуцёвасцю. І, да таго ж, яна вельмі сугучная нашым сённяшнім духоўным настроям і мастацкім пошукам.

Вжэсьмян-Лесьмян — шукае прычыну, падставу, выток паэтычнай творчасці. Ён хоча засяліць жыццё вобразамі, ачалавечыць яго. Паэт звяртае асаблівую ўвагу на памежныя, скрайнія станы быцця...

Творы Стэфана Грабіньскага — высока-трагічныя, трывожна фантастычныя, вельмі блізкія да «літаратуры жахаў». Але жах у Грабіньскага — не самамэта. Гэта, хутчэй, бязмернае, высокае трымценне перад неабсяжнасцю быцця. Вострасюжэтныя творы пісьменніка — узор той інтэлектуальнай прозы, якая, пры ўсёй яе даступнасці, вытрыманая ў межах добрага мастацкага густу.

# Абшар душы

Прайшло ўжо больш за дваццаць гадоў, як Вжэсьмян зусім кінуў пісаць. Выдаўшы ў 1900 годзе чацвёрты том сваіх арыгінальных, дзіўных, як шаленства, твораў, знік з літаратурнай арэны. Ад той пары не паварушыў пяром, не праявіў сябе нават нікчэмным радком. Не вырвалі яго з маўчання галасы сяброў, не збудзілі зацікаўленыя крытыкі, якія, бачачы, што перапынак доўжыцца, выказвалі здагадкі аб ягоным новым, шырокамаштабным творы. Надзеі і чаканні, аднак, не здзейсніліся, і Вжэсьмян так ніколі і не азваўся.

Неўзабаве аб ім усталявалася думка простая і ясная як дзень: вычарпаў сябе чалавек заўчасна. — Так-так — згодна схілялі галовы літаратурныя гурманы, — выгаварыўся ён занадта хутка. Бо не ведаў — што такое эканомная творчасць: столькі праблемаў хацеў узняць у адным творы! Літаральна здзіўляў агромістасцю думак, якія, збітыя ў сціслыя словы, знясільвалі чытача гушчынёй зместу. Трунак аказаўся занадта моцным; ці не лепш было яго даваць у лягчэйшых дозах, трохі разбавіўшы? Сам сабе зашкодзіў: не хапіла тэмаў...

Абгаворы гэтыя дайшлі да Вжэсьмяна — і зноў ніякай рэакцыі. Тады ўжо канчаткова далі веры, што ён без пары спісаўся — і свет кінуў ім цікавіцца. Паўсталі новыя таленты, на даляглядзе з'явіліся новыя постаці, — і яго, нарэшце, пакінулі ў спакоі.

Праўду кажучы, большасць была нават задаволеная з такой праявы, бо Вжэсьмян ніколі не меў гучнай папулярнасці. Творы гэтага дзіўнага чалавека, прасякнутыя буйнай фантазіяй, напоеныя выключным індывідуалізмам, стваралі ўражанне не на карысць аўтара, бо яны выварочвалі і перакульвалі традыцыйныя літаратурна-эстэтычныя погляды, раздражнялі навукоўцаў, бязлітасна здзекваліся з упарадкаваных, дагледжаных псеўда-ісцін. З цягам часу творчасць яго сталі лічыць плёнам хворай фантазіі, дзівачным спараджэннем маньяка ці нават вар'ята. Вжэсьмян не мог быць зразуметым з розных прычын і пунктаў гледжання, таму што ўносіў лішні неспакой, каламуцячы ціхую ваду грамадскай думкі. І таму ранні адыход яго ад творчасці быў сустрэты з прытоеным задавальненнем: усе ўздыхнулі з палёгкай.

І ніхто нават на хвіліну не дапускаў, што прысуд гэты ў аснове сваёй памылковы, што прычынай сыходу са сцэны не абавязкова могуць быць вычарпанне тэмаў і духоўны скон. Але Вжэсьмяну было, відаць, усё роўна, якая будзе жыць аб ім легенда; ён лічыў гэта справай выключна асабістай і не спяшаўся ісці да крытыкаў і штосьці папраўляць у іхніх разважаннях.

Ды навошта? Калі тое, чаго ён так прагнуў апошнімі гадамі, здзейсніцца, — будучыня адкрые праўду і мур, якім адгарадзіўся ад яго свет, абрынецца; а калі тое не здзейсніцца, пагатоў нікога не пераканаеш. Таму навошта выстаўляць сябе на кпіны і паклёпы? Застаецца толькі маўчаць і чакаць.

Бо хапіла б яму й духу, і размаху, каб запаўняць старонкі выданняў, але новыя, нязвыклыя прагненні авалодалі ім. Вжэсьмян шукаў новыя выяўленчыя сродкі, імкнуўся да больш дасканалых формаў творчай рэалізацыі. Слова ўжо здавалася яму бедным і недасканалым: ён прагнуў нечага больш пластычнага, больш непасрэднага для ўвасаблення сваіх задумаў.

Сітуацыя была складанай у тым плане, што творчы ўзровень, якога ён дасягнуў, быў значна вышэйшы ад традыцыйнага, вытаптанага ўздоўж і ўпоперак.

Апошнім часам мастацкая творчасць звярталася пераважна да рэчаў больш ці менш рэальных, адлюстроўваючы ці фармуючы з'явы жыцця. Здарэнні, старанна ўкшталтаваныя, гэта толькі яго аналогіі, узмоцненыя, штопраўда, пафасам альбо экзальтацыяй, але ўсё адно аналогіі, у пэўны момант жахлівыя; падобныя вобразы маглі калісьці атабарыцца ў мінулым, з'явіцца калі-небудзь у будучыні; нічога не перашкаджала верыць у іх верагоднасць; розум не ўзнімае бунту супраць зразумелых і даступных вымыслаў. Нават творы большасці фантастаў не выключаюць дапушчальнай рэалізацыі, калі, зрэшты, у іх не закладзеная гульня альбо нядбалая ўсмешка жанглёра.

Што да Вжэсьмяна, дык у яго ўсё выглядала крыху інакш. Уся яго дзіўная, таямнічая творчасць здавалася адной вялікай фікцыяй. Дарэмна зграя пранырлівых, як лісы, крытыкаў намагалася прасачыць так званыя «літаратурныя ўплывы», «аналогіі», «замежныя плыні», якія хаця б прыблізна маглі служыць ключом да недаступнага замку вжэсьмянавай паэзіі, дарэмна спрытныя рэцэнзенты прыцягвалі вучоных-псіхіятраў да аналізу вершаў, праглядалі стосы розных кніг, заглыбляліся ў энцыклапедыі — творы Вжэсьмяна пераможна ігнаравалі спробы іх інтэрпрэтаваць, застаючыся яшчэ больш таямнічымі, ашаламляльнымі, пагрозлівымі, незразумелымі. Нейкае змрочнае хараство прамянілася з іх, яны вабілі сваёй глыбінёй — прыцягальнай, галавакружнай, небяспечнай...

Так, творчасць Вжэсмяна ні якім бокам не сутыкалася з рэальным жыццём, была безумоўным, абсалютным вымыслам, нават містыфікацыяй. Але Вжэсьмян ашаламляў, прымушаў думаць, здзіўляў — і людзі не маглі, не наважваліся да іх не прыслухацца.

Бо штосьці было ў гэтых творах — кароткіх, але з выбуховай унутранай напружанасцю. Нешта прыкоўвала да іх увагу, каламуціла душу; гіпнатычная сіла ішла ад гэтых уступаў, знешне халодных, як справаздача ці навуковы аналіз, але гэта была халоднасць, пад якой пульсавала гарачае сэрца апантанага чалавека.

Бо Вжэсьмян верыў у тое, пра што пісаў, з цягам часу набыўшы цвёрдае перакананне, што любая, нават самая адчайная думка, самая шалёная фантазія можа здзейсніцца, дачакацца свайго ўвасаблення ў прасторы і часе.

— Чалавек нічога не думае марна. Ніякая думка, нават несусветна дзівачная, не гіне бясплённа, — любіў паўтараць ён сябрам і знаёмцам.

Здаецца, менавіта вера ў ажыццявімасць вымыслу напаўняла нябачнай жарсцю артэрыі ягоных твораў, якія, пры ўсёй іх знешняй халоднасці, уражвалі да глыбіні...

Толькі сабою ён ніколі не быў задаволены. Як кожны сапраўдны творца, паэт шукаў усё новых і новых сродкаў самавыяўлення, дасканалай знакавасці, якая б перадала ягоную думку найбольш дакладна. І нарэшце ён развітаўся са словам, пагрэбаваў ім як занадта крохкай, ненадзейнай формай экспрэсіі, каб з трывожным сумам чакаць надыходу чагосьці больш непасрэднага — таго, што сваёй пластычнасцю і матэрыяльнасцю перасягнула усе ранейшыя вобразныя сродкі.

Не, гэта не было проста маўчанне, «адпачынак слова» сімвалістаў — занадта бледнае, імглістае і замала шчырае. Яму хацелася зусім іншай рэалізацыі.

Што гэта магло быць, ён дакладна не ведаў, але непарушная вера ў магчымасць такой рэалізацыі не пакідала яго. Вера мацавалася ўсім тым, што надарылася прамінулым часам, калі ён яшчэ пісаў і выступаў з дэкларацыямі. Паэт ужо тады пераканаўся: ягоныя творы, пры ўсёй іх уяўнасці, маюць нейкую асаблівую сілу, бо ўплываюць на свет і людзей. Шалёныя фантазіі Вжэсьмяна, вырваўшыся з распаленага горна творчасці, мелі, здавалася, апладняльную моц, бо стваралі новыя, дагэтуль нязнаныя віры, нейкія надзвычайныя манады, якія выяўляліся нечаканымі ўспышкамі ў руках і ўчынках пэўных асобаў, у драматургіі пэўных здарэнняў.

Але гэтага было яму замала. Бо ён прагнуў увасаблення, цалкам незалежнага ад законаў рэчаіснасці; увасабленне павінна было мець тую ж меру свабоды, што й яго крыніца — вымысел, што й яго пачатак — уяўнасць. Гэта было б ажыццяўленне ідэалу — найвышэйшая рэалізацыя, поўнае самавыяўленне, без недабору, без рэшты...

Але Вжэсьмян разумеў, што такая рэалізацыя магла стацца пагібельнай для яго самога. Цалкавітае, безумоўнае здзяйсненне задумы было б абсалютным самавыяўленнем, адданнем сябе. А гэта — смерць ад непасільных, празмерна цяжкіх высілкаў...

Бо ідэал, як вядома, — у смерці; дасканалы твор павінен цалкам і дарэшты вычарпаць творцу, прыціснуць яго сваім цяжарам. Думкі, рэалізаваныя да канца, могуць стаць небяспечнымі і помслівымі, асабліва калі гэта думкі хвараблівага розуму. Атрымаўшы самастойнасць, не абапіраючыся на рэчаіснасць, яны могуць пагражаць таму, хто іх пусціў у свет.

Вжэсьмян прадчуваў нешта падобнае, але не вагаўся і не лякаўся. Бо прагнуў самарэалізацыі і гэтае прагненне было мацнейшае за ўсё...

Між тым гады праходзілі ціха і спакойна, не прыносячы жаданага здзяйснення мары. Вжэсьмян зусім адышоў ад таварыскага жыцця, ад людзей і са-

мотна пасяліўся на гарадской ускраіне, на прыгараднай вуліцы, што выходзіла на лугі і палі. Тут, замкнуўшыся ў сваіх двух пакойчыках, адрэзаны ад сяброў, праводзіў ён месяцы і гады — аддадзены кнігам, роздуму і сузіранню.

Паступова ён абмежаваў сябе ва ўсім, звёўшы да мінімуму кантакты з рэальным жыццём, на якое амаль не звяртаў увагі, выконваючы толькі пэўныя неабходныя фармальнасці, — нібы плаціў аброк. Увесь астатні час ён засяроджваўся на сваіх думках, паглыбляўся ў мары, сам у сябе, чакаючы ў смутку і тузе іх здзяйснення. Ідэі, не адданая паперы, не ўтаймаваныя слоўнай формай, набіралі моцы, жывой крыві. Набрынялыя нявыказаным сэнсам, яны, здавалася, былі гатовыя жыць самастойна.

Часам ён адчуваў, што думае не абстракцыямі, а нечым матэрыяльным, густым навобмацак. Руку толькі працягні — і вось яно, жывое. Кранай, бяры! Але ілюзія хутка знікала, каб ператварыцца ў горкае расчараванне.

Аднак надзеі ён усё ж не губляў. Каб дэталі знешняга свету не рассейвалі ўвагі, ён звёў абсяг свайго штодзённага ўспрымання да знікомай колькасці вобразаў, якімі жыў пастаянна, нязменна, год за годам, і яны ўвашлі паволі ў замкнёны свет чыстых ідэй, утварылі сумернае ім падложжа, зліваючыся са светам мараў у адзіны своеасаблівы дзіўны прасцяг.

Так паступова ўтварылася нейкае асяроддзе, якое нельга было зразумець ці акрэсліць, нейкі таямнічы аазіс, куды ніхто не меў доступу, апрача Вжэсьмяна — караля, уладара нябачнай выспы. Гэтае milieu, прасякнутае асабовасцю летуценніка, насычанае ягоным «Я» па самыя берагі, уяўляліся ўсім не абазнаным як звычайнае месца ў прасторы; людзі маглі бачыць яго знешні бок, фізічнае існаванне, — але ўнутранага пульсавання, руху сканцэнтраванай думкі, недасяжнай лучнасці, якая яднала гэтую мясціну з асобай Вжэсьмяна, ніхто не быў здольны адчуць...

І трэба ж было здарыцца, што прасторай, асвоенай мысленнем фантаста, месцам, якое ён ператварыў у абшар сваіх фантазіяў, была не ягоная кватэра. Аазіс, дзе жылі ягоныя думкі, месціўся насупраць ягоных вокнаў, на другім баку вуліцы: гэта была двухпавярховая віла.

Змрочная вытанчанасць вілы прыцягнула ягоную ўвагу адразу, як ён заняў сваю новую кватэру. У канцы чорнай алеі невысокіх кіпарысаў, што раслі па баках выкладзеных каменнымі плітамі ходніка, была бачная тэраса, пабудаваная ў некалькі ўступаў; з тэрасы быў уваход — цяжкія стылёвыя двухстворкавыя дзверы — у вілу.

Палацык гэты з усіх бакоў атачала агароджа з жалезных слупоў, што давала магчымасць бачыць абодва крылы дома. Калісьці пафарбаваныя ў бледна-зялёны колер, сцены мелі выгляд няўцямны, хвараблівы. Вільгаць, што паздрадніцку хавалася ў садзе, выпаўзала там і тут цёмнымі плямамі. Куртыны, некалі старанна дагледжаныя, адмыслова скампанаваныя відарысы кветнікаў страцілі з часам выразнасць ліній. Толькі два фантаны былі такімі ж, як калісьці; яны ціха сачылі слёзы, крапаючы вадой з мармуровых чашаў на пукі

чырвоных ружаў. І мускулісты трытон па левы бок алеі цягнуў руку, вітаючы дзяўчыну-наяду, якая, гнутка выпнуўшыся з мармуровага басейна, ужо каторы год вабіла яго сваім боскім целам; і ўсё дарэмна — бо назаўжды падзялілі іх жалобныя шыхты кіпарысаў...

Усё гэта разам стварала ўражанне змрочнага запусцення, прытулку адзіноты, месца, даўно пакінутага людзьмі і ізаляванага ад суседніх будынкаў. Гэтай вілай вуліца заканчвалася; далей не было ўжо аніводнага дома — толькі шырокія палосы ўзгоркаў, разараныя палі, папар, далей — чорныя ўзімку і жоўта-іржавыя ўвосень — букавыя лясы...

У гэтай шэра-зялёнай віле ужо некалькі гадоў ніхто не жыў. Гаспадар, заможны арыстакрат, даўно з'ехаў за мяжу, пакінуўшы дом без дагляду.

Вось і стаяў ён, цалкам занядбаны, сярод здзічэлага саду, даўшы працы знішчальнаму дажджу, разбуральнай моцы калючаму ветру і зімовым завірухам.

Змрочнае хараство гэтага зацішнага кутка дзіўным чынам вабіла душу. Віла стала для Вжэсьмяна ўвасабленнем, сімвалам таго настрою, якім была працятая ягоная творчасць. Заглыбіўшыся ў яе позіркам, ён глядзеў так доўгія гадзіны, адчуваючы, што гэты свет — ягоны, што гэта той самы свет, якога ён шукае...

Шмат часу праводзіў ён ля вакна, і прытуліўшы скронь да рамы, ішоў павольным позіркам у бок маркотнага дома. А месячнымі начамі ён любіў назіраць казачныя эфекты, народжаныя зіхценнем святла ў фантастычнай прасторы. Яна, гэтая прастора, толькі ноччу і жыла, здавалася, сваім сапраўдным жыццём. Удзень віла стаяла, нібы здранцвелая ў сне; увесь чар яе таямнічага нутра, яе сутнасці выяўляўся толькі пасля заходу сонца. Тады дом ажываў; нейкі няўлоўны рух лёгкай сутаргай прабягаў па соннай пустцы і ўскалыхваў застылыя ў жалобе кіпарысы, зморшчваў хвалістай лініяй выветраныя фрызы ды франтоны.

Вжэсьмян глядзеў на ўсё гэта — і жыў жыццём закінутага дома. Абуджаліся выразныя, яскравыя думкі, гарманічна злітыя з домам насупраць, нібы сцэнічнымі падмосткамі. З іх нараджаліся паэтычныя трагедыі, магутныя, як смерць і грозныя, як наканаванне. Іх змянялі нейкія няўцямныя, быццам імжа, думкі, пакрытыя, нібы пацінай, месячным срэбрам.

Кожны куток мог адгукнуцца на позірк паэта, даць прытулак скандэнсаваным, напаўматэрыяльным думкам, якія чапляліся да падвальнняў, блукалі, нябачныя, па самотных і пустых залах, рыдалі на сходах тэрасы.

Дрыготкія напаўсонныя туманы мрояў калыхаліся згусткамі дажджу, туліліся да сцен, падалі, не маючы апірышча. Але прытулак знаходзілі і яны. Раздражнёная капрызнай зменлівасцю гэтых зданяў, фантазія з пагардай іх выракалася, спіхвала за межы свядомасці. Спалоханыя і дрыготкія, яны ўрэшце падалі і сцякалі мутным ручаём у вялікую замшэлую кадзь, укапаную на рагу дома; сачыліся з яе чорнага чэрава — сонныя, нудныя, нібы дажджавая вада

ў восеньскую непагадзь. Марныя, іржавыя шматкі думак, да канца не зазнаўшыя стваральнай ферментацыі...

Вжэсьмян упіваўся змрочнай гульнёй фантазіі, надаваў разнастайнае жыццё яе стварэнням — то змяняючы кірунак іх развіцця, то зганяючы са сцэны, то зноў, праз хвіліну, запаўняючы іх месца новымі натоўпамі дзіўных вобразаў...

Ніхто яму не перашкаджаў. Бязлюднай была вуліца на самым ускрайку горада — не назалялі мінакі, не псаваў таксама настрой грукат колаў.

Так пражыў ён некалькі гадоў, нічым не вызначаных вонкава, але напоўненых дзіўным і змрочным жыццём душы.

І раптам аднаго дня ў доме насупраць штосьці адбылося, і гэта рэзка змяніла яго ўнутраны рух, які пры ўсёй сваёй бурлівасці, набываў ужо сталыя формы дзякуючы навыку і спрытнаму ўмельству.

Было гэта пагодным ліпеньскім вечарам. Вжэсьмян сядзеў, як заўсёды, каля адчыненага вакна, падпёршы галаву рукой, і слізгаў позіркам па віле насупраць і па яе агароджы. І тут, глянуўшы на вакно правага крыла, ён сцепануўся. Праз шыбу на яго ўпарта глядзеў твар мужчыны. Погляд незнаёмца быў поўны пагрозы.

Вжэсьмяна ахапіў невыразны страх. Ён працёр вочы, прайшоўся некалькі разоў па пакоі і зноў паглядзеў у вакно: суворы твар не знік — позірк вачэй быў такі ж нерухомы.

— Ці не гаспадар вілы вярнуўся? — няўпэўнена спытаў ён сам сябе напаўголаса.

Панурая маска ў адказ скрывілася ў дзікунска-іранічнай усмешцы. Вжэсьмян апусціў штору і запаліў святло, бо не мог больш трываць гэтага позірку.

Каб пазбыцца непрыемнага ўражання, ён заглыбіўся ў чытанне і так праседзеў аж да поўначы. Каля дванаццатай ён стомлена адсунуў ад сябе кнігу і, паддаўшыся ўсеперамožнай спакусе, адхінуў край заслоны. І зноў трывога сутаргай прайшла па ўсім яго целе: бледны мужчына ўсё стаяў нерухома там, у правым крыле, за шыбай і, ясна асветлены нібыта ўспышкай магнію, гіпнатызаваў яго сваімі вачыма. Занепакоены, Вжэсьмян апусціў штору і паспрабаваў заснуць.

Але дарэмна. Таямнічы твар ускаламуціў страхам душу, не даваў спакою, раздражняў неміласэрна. Толькі блізу раніцы Вжэсьмян праваліўся ў кароткі, нервовы сон, поўны пачварных прывідаў.

Назаўтра, каля поўдня, ён адарваў ад падушкі цяжкую галаву. Першая думка была — зірнуць у вакно. Ён зірнуў і ўздыхнуў з палёгкай: упарты твар знік.

Цэлы вечар ён быў спакойны, але пад вечар убачыў за шыбай на другім паверсе твар-маску нейкай кабеты. Вочы яе, не міргаючы, глядзелі на яго. Раскудлачаныя валасы атачалі твар — бляклы, але са слядамі надзвычайнай

прыгажосці. Гэта быў твар вар'яткі з нерухома-пранізлівым позіркам. Яна цікавала за ім такімі ж шалёнымі зрэнкамі, што й прывід з правага крыла. Здавалася, абодва яна былі адно з адным незнаёмыя, і злучала іх толькі аднолькавая грозная пастава ды скіраваны, нібы нож, позірк.

І зноў пасля бяссоннай ночы, пасля шматгадзіннага пераследу чужых позіркаў — дзень, вольны ад кашмару. Але як толькі змрок увайшоў у тайную змову з ноччу — новая постаць паўстала ў трэцім ужо вакне і не пакінула яго да самай раніцы.

Так на працягу некалькіх дзён усе вокны вілы апанавалі злавесныя твары. З-за кожнай шыбы глядзелі нечыя роспачныя вочы, нейкія бледныя авалападобныя твары, скажоныя болем ці шаленствам.

Дом глядзеў на яго вачыма маньякоў, гіморамі шаленцаў, шчэрыўся ў вар'яцкім смеху. Нікога з гэтых людзей ён у жыцці не бачыў, але ўсе яны здаваліся нібыта знаёмымі. Але дзе ён з імі пазнаёміўся — невядома. Кожны з іх меў свой адметны выгляд, і ўсіх іх яднаў рух пагрозы, скіраваны ў яго бок. Ды што там! — тыя, у вакне, — лічылі яго сваім агульным заклятым ворагам....

Нянавісць гэтая ўражвала і адначасова прыцягвала, як магніт. І — дзіўная рэч! — у самых глыбінях душы гнеў іхні быў Вжэсьмяну зразумелы, ён прызнаваў за імі нейкае права...

А яны, нібыта здалёку аб гэтым здагадваючыся, рабіліся ўсё больш пэўнымі, і маскі іхнія штодня набывалі большую выразнасць і бязлітаснасць...

Аднойчы жнівеньскай ноччу Вжэсьмян прыпаў да вакна і вытрымаў, па старой завядзёнцы, скіраваныя на яго ненавісніцкія позіркі. Раптам нерухомыя твары ажывіся і ў іх бліснула адно і тое ж памкненне. Сотні худых, як косткі, рук загадна ўзняліся і бледныя далоні паманілі яго рухамі сагнутых пальцаў...

Вжэсьмян зразумеў, што яго запрашаюць зайсьці на вілу. Нібыта ў гіпнозе, ён скочыў праз падвоконне, перайшоў вуліцу і пайшоў прысадамі да дома...

Была чацвёртая гадзіна ночы і світанак толькі збіраўся прачынацца. Месяц ліў свой магній, плавіў дом у срэбным святле і адусюль паўзлі даўгія цені. Дарога была светлая, асляпляльна белая, атачоная жалобнымі кіпарысавымі сценамі. Глухія і разам з тым выразныя, нібыта ўнутрана адчувальны пульс, гучалі крокі па каменных плітах: ціха шумелі фантаны, таямнічым дажджом выгіналіся струмені вады... Вжэсьмян узышоў на тэрасу і з сілай пацягнуў клямку. Дзверы адчыніліся. Ён пайшоў доўгім калідорам з шыхтом карынфскіх калонаў па баках. Начны змрок расступаўся перад трыумфам поўні. Белае святло, што лілося праз вітраж у канцы галерэі, баяла зялёныя казкі на тле чырвонай падлогі...

Раптам у праходзе з-за калоны слізганула чыясці постаць і рушыла за ім. Ён задрыжэў, але працягваў ісці наперад. Праз некалькі крокаў з нішы паміж

слупамі выслізнуў новы цень, потым — трэці... дзясяты. І цені ўсё шлі і шлі за ім. Ён хацеў павярнуць назад, але яны заступілі дарогу. Тады ён прайшоў, мінуючы калоны, направа і апынуўся ў круглай зале. У бліках белага святла было відаць, што тут поўна нейкіх людзей. Вжэсьмян, шукаючы выйсця, хацеў прайсці паміж імі, але марна. Яго атачылі шчыльным колам і пачалі сціскаць. З бледных, бяскроўных вуснаў выпаўз пагрозлівы шэпт:

— Гэта ён! Гэта ён!

Вжэсьмян замёр і з выклікам кінуў у натоўп:

— Чаго вы хочаце ад мяне?

— Тваёй крыві! Крыві тваёй хочам! Крыві! Крыві!

— Навошта яна вам?

— Хочам жыць! Жыць хочам! Навошта ты выцягнуў нас з хаосу нябыту і загадаў весці нікчэмнае напаўжыццё? Навошта асудзіў на вечнае тулянне? Ці доўга нам так бадзяцца? Глядзі, якія мы змучаныя і бледныя!

— Злітуйцеся! — прастагнаў ён, у роспачы кінуўшыся да вінтавой лесвіцы ў глыбіні залы.

— Трымайце яго! Атачайце! Атачайце!

Як шалёны, уздзёрся ён па лесвіцы на другі паверх і ўляцеў у нейкі сярэднявечны пакой. Следам за ім уварваліся і людзі-здані. Дрыжачыя, флюідныя, як імгла, халодна-вільготныя рукі злучыліся вакол яго ў жахлівым карагодзе. Выйсця не было.

— Што ж я вам зрабіў?

— Мы хочам жыць! Хочам жыць напоўніцу! Ты замкнуў нас у гэтым доме, мы хочам на шырокі свет! Хочам вызвалення, свабоды! Чуеш? Крывёю сваёй ажыві нас дарэшты, дай нам моцы!.. Задушыць яго! Задушыць!

І пацягнуліся да яго тысячы галодных ратоў, тысячы бледных мацакоў...

З апошніх сіл кінуўся ён да вакна. — Выскачыць! — Але тысячы аслізлых, халодных рук схапілі яго, клюшні пальцаў ушчаперыліся ў валасы, сціснулі шыю... Ён ірвануўся. Вострыя пазногці ўшчаперыліся ў горла, хціўыя вусны прыпалі да скроняў...

Яго хітнула. Абапёршыся спінай на падваконне, ён сагнуўся і паляцеў долу. Сутаргава сціснутыя рукі раскінуліся, як на крыжы, а збялелыя вусны кранула стомленая ўсмешка.

І ў момант, калі ў спохватах агоніі астывала цела Вжэсьмяна, перадсвітальную цішыню парушыў глухі плёскат: штосьці абрынулася ў кадзь, якая стаяла на рагу дома. Пакрытая зялёнай цвіллю вада скалыхнулася, у прагнілых, сціснутых іржавымі рэхвамі кадзі абудзіліся віры, з дна ўзнялася каламуць, забулькацеў адстой. Некалькі вялікіх бурбалак-пухіроў вырваліся на паверхню, потым на паверхні з'явілася бясформенная кукса рукі, частка тулава, нарэшце цела вынырнула з глыбіні, ацякаючы вадой, пакрытае цвіллю і трупнай сліззю... Нейкае стварэнне — ні чалавек, ні жывёліна, ні корч... Пачвара ўтаропілася ў неба здзіўленымі вачыма, тлустыя вусны расплыліся ў дурнава-

та-загадкавай усмешцы. Пакручаныя, нібыта каралавыя адросткі, ногі атрэсваліся ад вады, намацвалі зямлю. І вось стварэнне пайшло — крокам хісткім, валюхастым...

Ужо днела, і фіялетавыя блікі святла плылі па бяскрайнім абшары.

Дзіватвор ішоў да гэтых даляў, што на небакраі згушчаліся ў сінечу. Ён штурхнуў садовыя весніцы на другім баку дома, прайшоўся, няўклюдны як калода, па сцежцы і, абліты аметыставымі струменямі досвітку, рушыў па дрымотных палях і лугах. Постаць ягоная рабілася ўсё меншай, раставала, гасла... пакуль не растала дарэшты ў бляску золаку.

**Прадмова і пераклад з польскай мовы Алены Ніякоўскай**

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

# Э С Э

таццяна мацюхіна валерыя кустава
ніл гілевіч таццяна грыневіч-матафонава
сяргей чыгрын альдона мартыненка
дзяніс тарасенка вітаўт мартыненка



# Таццяна Мацюхіна

крытык, паэтка. Кандыдат філалагічных навук. Вершы друкаваліся ў «ЛіМе», «Маладосці», «Верасні», «Скрыпторыі-4»; навуковыя артыкулы — у «Родным слове», «Полымі», «Народнай асвеце». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# «Я зачэрпнула сягоння жменю сонечных праменняў»:
## праявы імпрэсіянізму ў творчасці Н. Арсенневай

Як вядома, імпрэсіянізм у беларускай літаратуры XX ст. сфарміраваў новы погляд на мастацтва і, у прыватнасці, на паэзію. Беларуская паэтка Н. Арсеннева адна з першых раскрыла магчымасці імпрэсіяністычнага пісьма, выявіла незаменнае значэнне каларыту ў мастацкіх характарыстыках.

Пейзажная лірыка ў сваёй эвалюцыі ўвасобіла шлях ад жывапісных малюнкаў — у выяўленчым мастацтве, да «пейзажу душы» — у паэзіі. З цягам часу дэталь, фон як элементы пейзажнай лірыкі сталі пашыраць змест элегічных замалёвак. Духоўны свет асобы і прырода паядналіся, каб у каларыце, гукавой танальнасці твораў выразіць гуманістычную сутнасць імпрэсіянізму. Дзякуючы гэтым асаблівасцям мастацкіх твораў у беларускай літаратуры назіраецца «напластаванне» вобразаў, характэрных для нацыянальнага пейзажу, на вобразы свету. Яркі таму прыклад — паэзія Н. Арсенневай з яе глыбока лірычнай мысленча-роздумнай скіраванасцю.

Беларуская паэтка Н. Арсеннева працягнула развіваць адраджэнскую лінію ўпоравень з У. Дубоўкам і Я. Пушчам, але ва ўмовах Заходняй Беларусі. Яна фарміруе імпрэсіяністычнае ўяўленне пра свет згодна з такімі паняццямі, як «светлае сіняе мора», «нябёсныя сінія далі» (верш «Летуценні»), «сонца залатое» (верш «Люблю я сонца залатое»), «ночы белыя» (верш «Ночы й думкі»). У паэтычным свеце Н. Арсенневай, як і ў М. Багдановіча, шмат народна-язычніцкіх элементаў — вера ў балотніц, русалак, лесуноў; вера ў прыроду і яе волатаў — дрэвы, расліны; вера ў міфічныя сілы сусвету (вершы «Балотніца», «Лясун», «Сонца вяснянае ў золаце косаў...»).

Вершаваная спадчына Н. Арсенневай адметная сваёй індывідуалізаванай вобразнай палітрай, яскравасцю характарыстык з'яў прыроды, нейкай таямніча-загадкавай мяккасцю пачуццяў і глыбінёй ідэй у кожным малюнку прыроды. Паводле меркавання паэта і перакладчыка М. Мішчанчука, «гэта паэзія сцішаная <...> па інтанацыі, у цэлым нягучная, мінорная, роздумная. Сваёй агульнай танальнасцю яна блізкая паэзіі ўсё таго ж Максіма Багдановіча. Элегізм — вось яе вызначальная рыса ў многія гады, у розныя перыяды» [8, с. 38]. Элегізм пейзажных замалёвак вынікае з уплыву беларускага фальклору і, у прыватнасці, народнай песні на мысленне і ўспрыманне Н. Арсенневай.

Н. Арсеннева лічыцца паэткай зор, ночы і месяца, хоць яе лірыка па сваім змесце пяшчотна-сонечная, вытанчаная, далікатна-ўзнёслая. «Так, безумоўна, «сонечнасць» і нябесна-сіняя яснасць, — адзначыла ў кнізе «Апалогія

красы» літаратуразнавец Л. Тарасюк, — уласцівы светаадчуванню маладой паэтэсы, але перадусім яе паэзія не сонечна- купалаўская, а зорная, астральная, як у Багдановіча» [13, с. 6]. Вялікае значэнне ў пейзажных замалёўках, у якіх апяваецца лес (вершы «У лесе», «Лес шумеў...»), сонца (вершы «Сонца вяснянае ў золаце косаў...», «Люблю я сонца залатое...»), «жамчужынкі-зоры» (верш «Я ішла...»), восень і яе праявы (вершы «Восень», «Жоўтыя клёны», «Сыплюцца з клёнаў лісты...», «Асенняю цішай»), надаецца колеравай метафары.

Сярод трох груп колеравых лексем метафары — паводле сэнсаўтваральнай функцыі [6, с. 8] — у паэзіі Н. Арсенневай пераважаюць метафары-каардынатары: ...***Ласкай залатою*** // *залівае сонца поле і мяне* [1, с. 39]. Дэкадзіраванне інфармацыі ў метафары-каардынатары дасягаецца дзякуючы пераносу якасцей прадмета, з'явы на рэчаіснасць паводле кардынацыі колеру ў прасторава-часавым вымярэнні. У дадзеным выпадку пад «ласкай залатой» падразумяваюцца вясеннія промні сонца, якія пяшчотным, негарачым цяплом саграваюць зямлю і ўсё навокал.

Сустракаюцца ў пейзажных замалёўках Н. Арсенневай і метафары-колераідэнтыфікатары. Паводле беларускага мовазнаўцы С. Лясовіч, «група метафар-колераідэнтыфікатараў з найменнямі камянёў і металаў вызначаецца пераважна станоўчай канатацыяй тропаў, што звязана з дэкаратыўнай функцыяй аб'ектаў і з бытаваннем іх як эталона каштоўнасці. Самы распаўсюджаны каларонім-ідэнтыфікатар гэтай групы — «золата» — ілюструе выказаную думку апісаннем з'яў і спалучальнасцю з лексемамі, якія маюць для чалавека жыццёвую каштоўнасць» [6, с. 8]. Беларуская паэтка Н. Арсеннева, каб увасобіць прыгажосць наваколля і раскрыць культ сонца ў лірыцы праз асацыяцыі, якія ўзнікаюць пры згадцы дзённага свяціла, звяртаецца да метафары-колераідэнтыфікатара: ...*красуні-пралескі, // неба вас песціць, вам сонейка шле //* ***золата кос*** <...>[1, с. 39].

Часам Н. Арсеннева змяшчае ў мастацкім вобразе дадатковы кампанент, каб узмацніць якасць узгаданага ёю прадмета. Яна вызначае ступень афарбоўкі прадмета ў пэўны колер паводле колеравых асацыяцый, звязаных з ім, ва ўзаемаадносінах з вышэйузгаданай залатой фарбай: ...***цэркваў*** *блішчаць* ***залатыя галовы*** <...> [1, с. 40]. Так, дзякуючы звароту да чыстага залатога колеру падкрэсліваецца «насычанасць» афарбоўкі гмаху рэлігійных пабудоў. Боскі пачатак усяго існага на зямлі сімвалічна ўвасоблены ў колеравай характарыстыцы, кампанентам якой з'яўляецца паняцце «золата». Такім чынам Н. Арсеннева выяўляе ў літаратурным творы жыццёва важныя каштоўнасці, сярод якіх — духоўнае самаўдасканаленне, натхненне, вернасць Радзіме, любоў да свайго краю, народа і мовы.

У замалёўках Н. Арсенневай відавочная антыномія такіх паняццяў, як «месяц—сонца», «ноч—дзень», «агонь (пажар)—снег». Звяртае ўвагу на сябе той факт, што ў малюнках прыроды месяц і сонца ўвасабляюць сабой адзінства

колазвароту, калі на змену зіме прыходзіць вясна: *...Яшчэ раз у жыцці пералётным // бачу чары вясны маладой, несмяротнай, // вечна новай і вечна жывой* [1, с. 74]. Вобраз сонца — дамінантны ў творчасці беларускай паэткі. У яе мастацкіх творах закадзіраваны прыкметы сонца, якое характарызуецца наяўнасцю гаючых якасцей («сонца залатое» — у вершы «Люблю я сонца залатое...»), здольнасцю надаваць людзям пэўныя станоўчыя рысы характару ці ўплываць на іх эмацыянальны стан (вера — у вершы «Крыніца»; шчасце — у вершы «Шчасце»).

У сваю чаргу вобраз месяца выступае ў лірыцы Н. Арсенневай больш апасродкавана, ускосна: *Месяц мокры і срэбны вылазіць з балота...* [1, с. 91]. Начное свяціла ў дадзеным выпадку асацыіруецца з вадзяніком ці з нейкай містычнай істотай, што жыве ў вадзе. Месяцу надаюцца наступныя чалавечыя якасці і ўласцівасці: «месяц глядзеў» — у вершы «Я ішла...»; «плыў месяц» — у вершы «Ціха плыў месяц...». Месяц выступае як медыятар або свяшчэнны сімвал ночы: *...спляла [ноч. — Т. М.] сіняватыя сцені // між цёмных кляновых камлёў, // і месяца косы-праменні // сыпнула у цемру палёў* [1, с. 72]. Яго выява асэнсаваная і зрокава ўспрынятая ў святлопаветраным асяроддзі, дзе «сіняватыя сцені» пад уплывам ночы набываюць звышрэальныя магчымасці (верш «Ноч»: здольнасць ахутваць імшары імглою, туманам і адмыслова ўплываць на эмоцыі, успаміны асобы). Незвычайна тое, што месяцу надаецца нерэальная колеравая характарыстыка, якая актуалізуецца-дзейнічае ў малюнку прыроды ў спалучэнні са з'явай адухаўлення: *Ўгары, праз хмараў рэдкіх шчэрбы, // зіркае месяц круглатвары, //* ***зялёна-сіні*** [1, с. 95].

У імпрэсіяністычных замалёўках Н. Арсеннева выкарыстоўвае фальклорна-казачныя элементы, дзякуючы якім у пейзажы раскрываецца значэнне абагаўлення, нават сакралізацыі маці-зямліцы і яе асяроддзя праз рух ад знешніх абрысаў прадмета да ўнутраных якасцей з'явы наваколля («жыццядайная вадзіца», «зялёная лагчына» — у вершы «Крыніца»). Беларуская паэтка кажа пра сябе: *«як паганін, <...> разумею палёў васільковых размовы»* [1, с. 99] — і надае раслінам гаюча-лекавыя якасці. Менавіта восень, якая *«павучынне пляце над мяжой»* [1, с. 100], становіцца сімвалам звароту ў мінулае, калі прыходзяць згадкі-напаміны, калі вяртаецца здагадак сум па страчаным, забытым, занядбаным і роздум выклікае ўспамін...

Відавочна, стыхія паветра — дамінуючая не толькі ў творчасці М. Багдановіча, але і Н. Арсенневай. Як бачым, эфект пленэрнасці ў малюнках прыроды дасягаецца дзякуючы выкарыстанню выразаў, звязаных з уяўленнем пра наваколле ў ззянні і пералівах промняў сонца: «неба фарба залатая», «сонечнае святло» — у вершы «На парозе»; «тонкае прадзіва сонечных, ясных праменняў» — у вершы «Узноў вясна».

Аўра паветра пранізвае прастору ў вобразных малюнках Н. Арсенневай і набывае канкрэтныя абрысы ў павевах ветру (*«вецер крыніцай пад небам*

*плюскоча»* — у вершы «Родны край»), у прыгожым танцы асенняй залацістачырвонай лістоты (*«лятуць, купаюцца ў паветры, <...> лісты, што ўвосень носяць ветры <...>»* — у вершы «Вячорны абразок»), у шуме-напеве калосся (*«зашумяць, запяюць у акордзе мядзяныя хвалі калосся»* — у вершы «Лебядзіная песня»). Безумоўна, паэтка праз разнастайныя нюансы колеру «выяўляе» на імпрэсіяністычнай палатніне вялікую галерэю адухоўленых вобразаў, якія існуюць у рэальнасці, эвалюцыянуюць у прыродзе.

Н. Арсеннева маляўніча перадае стан наваколля ў размаітасці фарбаў, пры гэтым трэба адзначыць непераўзыдзеную ролю ўзгаданых вышэй каларонімаў у яе пейзажных замалёўках: «жоўтыя клёны», «сіняе неба» — у вершы «Жоўтыя клёны»; «ясна-зялёны блакіт» — у вершы «Туга»; «фасфарычна-зялёны туман» — у вершы «Ночныя гадзіны».

Паэзія Н. Арсенневай вызначаецца многаўзроўневасцю ва ўспрыманні тэксту. Лаканізм у выражэнні думкі і «пранізлівы» лірызм надаюць яе вершам адзнакі медытатыўнасці і экспрэсіўнасці. Як слушна адзначыў паэт і перакладчык М. Мішчанчук, «паэзія Арсенневай пачыналася з адкрыцця прыроды — светлай, мяккай і цёплай, трошкі засмучонай, але гарманічнай у аснове» [8, с. 47]. Сімвалічна тое, што паэзія названага аўтара поўніцца вечарова-начнымі згукамі, калі «чыстым золатам заліта ціхіх палёў далечыня» [1, с. 67] і «ноч агарнула свет сіняй тугою, і сціхлі ў той сіні апошнія гукі...» [1, с. 56]. Н. Арсеннева, сузіраючы хараство наваколля, асэнсоўвае і багаты духоўны свет чалавека. Так, у пейзажнай замалёўцы «Няўжо» яна супрацьпастаўляе цішыню і гоман у надыходзячых кроках ночы і задае пытанне, якое змяшчае ў сабе адначасовае сцвярджэнне факта жыццёвай трываласці і адмаўленне негатыву быцця: *Дык няўжо ж нас жыццё так стаміла, // што не знойдзем хацення ці сілы // усміхнуцца праз слёзы і мы?* [1, с. 57].

Вечар ва ўяўленні Н. Арсенневай поўніцца не толькі гукамі, але і праявамі чалавечых мараў, памкненняў (верш «Увечары»); выклікае сум па нечым светлым, трапяткім, калі глядзіш на зоры — «вочы малых засмучоных анёлаў» [1, с. 69]; выклікае жаль па няспраўджаным і жаданне ўдасканальваць свет ідэй (вершы «Асенні вечар», «Узноў вясна», «Зімовая ноч»). Ноч жа ўяўляецца Н. Арсенневай больш загадкавай, таямнічай, чым вечар. Ночка-начаніца знікае ў цемры, якая паглынае ўсе прадметы, выявы дрэў (верш «Ночныя гадзіны»). Паэтка падкрэслівае суладнасць сваіх думак згодна з часам-прастораю гэткай часіны, калі «хочацца выцягнуць, выкінуць рукі у ноч, што накрыла свет сіняй тугою...» [1, с. 56].

У творчасці Н. Арсенневай сустракаецца вобраз «калматай ночы», якая ў кантэксце вобразнага малюнка супрацьпастаўляецца святлу: <...> *расступіся, **калматая ноч**, і пусці маё сэрца на волю, // **да жыцця, да святла, да натхнення, да шчасця без болю!*** [1, с. 85]. Тут дзякуючы прыёму ампліфікацыі раскрываецца своеасаблівая шкала каштоўнасцей паэтэсы (жыццё-радасцьтворчасць-шчасце-Боскае самавыражэнне). А пры дапамозе сінтаксічнага пе-

рыяду Н. Арсеннева перадае ўласны светапогляд на кардынальныя змены ў прыродзе ў адзінстве акрэсленых ёю пачуццяў і рэальных падзей: ***Я люблю*** *выйсьці ў час,* ***калі*** *хмары // Дагараць,* ***калі*** *захад загас, //* ***Калі*** *цені агорнуць абшары // І змяркання зімовага час...* [1, с. 46]. Сінтаксічны перыяд задзейнічаны тут у сінтэзе паняццяў *час* і *ўмова выканання дзеяння*, калі асоба лірычнай гераіні знаходзіцца на адкрытай прасторы.

Аднатыпныя па сваёй структуры і сэнсе канструкцыі (ампліфікацыйныя) перадаюць засяроджанасць увагі Н. Арсенневай на такім паняцці, як дзень: *Мае* ***дні*** *// над аржоннем цвітуць туманом // і плывуць серабраным удаль павучыннем* <...> [1, с. 101]. У кантэксце пейзажнай замалёўкі слова дзень набывае прыкмету працягласці часу (дзень-наступленне ночы).

Паэтку хвалююць пытанні, звязаныя з пазнаннем таямніцы жыцця і Бога, з выбарам жыццёвай дарогі (вершы «Няўжо», «У небе палаюць чырвоныя хмары...»), а таксама хрысціянская філасофія свету [5, с. 121]. Як заўважае даследчык літаратуры беларускага замежжа Л. Савік, «у вершы «Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве» аўтар раскрывае сваё бачанне і разуменне прыроды, яе неперасягальную ролю ў жыцці чалавека» [11, с. 59] дзякуючы хрысціянскім матывам. Менавіта пленэр, паэтызацыя паветра і святла перадаюць своеасаблівы стан прыроднага свету: *Вечар неба фарбуе ў гарачыя тоны, // чыстым золатам густа залоціць рабіны, // і здаецца паветра густым і зялёным, // бы вада ў вазёрах, зялёных ад ціны* [1, с. 69].

Хрысціянскія матывы гучаць у многіх пейзажных замалёўках Н. Арсенневай, але яны нярэдка завуаліраваныя і суаднесеныя з язычніцкімі першавобразамі, міфалагемамі (вершы «Вяселле», «Зоры Сітца»). У творчасці паэткі спалучаюцца дзве лініі — малітоўны зварот да Бога і язычніцкае апяванне-абагаўленне пушчы, нівы, палёў, зялёнай дубровы (вершы «Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве...», «Ярылаў конь»), бору, першых зораў (верш «Перад ночай»). У свой час навуковец М. Мішчанчук зрабіў вывады аб тым, што «традыцыйна ў сусветнай паэзіі ноч паказалася як час маўклівы, змрочны, трывожны, напоўнены бязгучнай цішынёй» [8, с. 44]. А вось для Н. Арсенневай ноч — час роздуму, падвядзення пэўных вынікаў у жыцці: *Ты гэта, [ночка. — Т. М.] вечна чароўная, // Ў соннае сэрца ўвайшла — // Думкі мае невымоўныя // Ўсе зразумела, знайшла...* [1, с. 74].

Вобраз ціхай ночы характэрны і для М. Лермантава (вершы «Выходжу адзін я на дарогу...», «З Гётэ»), творчасцю якога цікавілася беларуская паэтка. Узвышана-напеўная лірыка Н. Арсенневай сугучная лірыцы рускага класіка ў плане вобразна-асацыятыўнай тыпалогіі, матываў, ключавых і знакавых тэм. Як адзначае А. Макмілін, «па жаночай лініі яна [паэтка. — Т. М.] мела сваяцтва з рускім паэтам-рамантыкам Міхаілам Лермантавым (1814—1841)» [7, с. 107]. У вершаванай спадчыне абодвух аўтараў пераважае залаты колер («луч солнца золотой» з верша М. Лермантава «Ветразь» і «сонца залатое» з верша «Люблю я сонца залатое...» Н. Арсенневай). Тут выкарыстоўваюцца

тыпалагічна родныя вобразы — месяца, зорак, нябёсаў (верш «Анёл» М. Лермантава і «Я ішла...» Н. Арсенневай), зялёнага дуба (вершы «Выходжу адзін я на дарогу...» М. Лермантава і «Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве...» Н. Арсенневай).

Згодна з класіфікацыяй разнавіднасцей пейзажу беларускага літаратуразнаўцы і крытыка А. Бельскага [3, с. 26], паэтка звяртаецца да лірыка-псіхалагічнага (вершы «Недасяжнае», «Я ішла...», «Шчасце») і да лірыка-філасофскага (вершы «Красавік», «Вячорнаю парою», «Вечар») пейзажу. Пейзажы Н. Арсенневай па сваёй эмацыянальнай дамінанце — лірычна-настраёвыя, з элегічнай афарбоўкай: *Ціхі вечар, маркотны, ласкавы, // так паволі, паволі зышоў, // і зліліся ў змрочнасці лавы // пад прысадай густых каштаноў* [1, с. 79].

У большасці замалёвак беларуская паэтка перадае спакойны стан прыроды (вершы «Восень», «Ціха плыў месяц»), аднак часам звяртаецца і да бурнага пейзажу: *Мкне у месце, // мкне у полі, // беліць вочы белай беляй // гнеўна-спеўная завея* <...> [1, с. 81]. Н. Арсеннева выкарыстоўвае велічна-элегічную (вершы «У лесе», «Восень у Вільні») і журботна-элегічную (вершы «Восень у гаі», «Перад ночай», «Толькі ўчора») мадэлі верша. Яна маляўніча ўвасабляе лясны (вершы «Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве...», «Лес шумеў...») і палявы (вершы «Напрадвесні», «Тае вечар») пейзажы. Паэтка вітае вясну, якая прыносіць радасць і абнаўленне (вершы «Вясна», «Май»), і чароўную восень (вершы «Асенні вечар», «Восеньскія чары»); з замілаванасцю аглядае бязмежныя прасторы Радзімы (вершы «Выйдзі ўночы у чыстае поле...», «Красавік», «Напрадвесні»). Згодна з крытыкам А. Сямёнавай, «Наталля Арсеннева аддае перавагу вясне, восені, вечару, ночы. <...>. Звычайнае, здаецца Арсенневай, бліжэй да скону дня пераўтвараецца, прырода адкрывае свой патаемны сэнс, выяўляе сябе ў душы і відавочным вобразе мастацтва <...>» [12, с. 17]. Заход сонца ўспрымаецца паэткай як таямнічае, казачнае дзейства, калі сэрца імкнецца ў невядомую цудоўную краіну і поўніцца надзеямі на цуд: *...сонца за вёскай знікае, // ніткай густой, залатой падтыкае // крыж, і людзей, і палі... // Верай магутнаю, светлаю сілаю // вее над гэтай грамадкай пахілаю, // надзіць прыгожасцяй май...* [1, с. 67].

Тонкі псіхалагізм «пейзажаў душы» Н. Арсенневай перадаецца праз жывапісную палітру, якая складаецца з разнастайных — пераважна жоўтай і чырвонай — фарбаў. Так, уяўленне пра залатую восень складваецца з асацыяцый: маўклівы пышны клён у пазалоце (верш «Восень»); асенні вецер, што «гайсае па жоўтым лянішчы палян» (верш «Асенні вецер»); жоўтыя лісты клёна і чырвоныя лісты асіны (верш «Сыплюцца з клёнаў лісты»). Цэласнасць успрымання прыроды найбольш ярка выяўляецца ў вершы «Выйдзі ўночы у чыстае поле...», у якім Н. Арсеннева сузірае поле, бераг лясісты, ніву няспелую і задае пытанні: *Скуль усё, хто стварыў нашу долю, // І каму*

*нам маліцца уноч?* [1, с. 45]. Паводле гісторыка і літаратуразнаўцы А. Навіны, «як і Багдановіч, яна з малюнкамі прыроды заўсёды злучае той ці іншы глыбейшы настрой, тое ці іншае асабістае перажываньне, рэфлексію, думку — разважаньне» [9, с. 111].

Як адзначалася раней, паэтычнае ўспрыманне Н. Арсенневай вызначаецца шырокім дыяпазонам у выкарыстанні колераў і адценняў. Пры афармленні ўзнёсла-журботнага і радаснага пейзажу яна ўжывае ў асноўным залаты (вершы «Восень», «Вячорнаю парою», «Восень у Вільні») і сіні (вершы «Пралескі», «У сонечны дзень», «Калыханка») колеры. Паэтка звяртаецца да вобразаў — «сіняй тугі» (верш «Перад ночай»), «чырвонага пажару» (верш «Развітанне»), «срэбнай, снежнай імглы» (верш «Уначы»). Як правіла, маляўнічыя замалёўкі Н. Арсенневай пазначаны прыкметамі лірызму, эстэтычнага перажывання прыгажосці: *Дзень устаў яснай цішай // над сцішаным полем асеннім, // усміхнуўся пажоўклым асінам // праз сіні настылы туман* <...> [1, с. 92]. У той жа час у малюнках прыроды Н. Арсенневай відавочная рэфлексія, якая ніякім чынам не перабівае аналітычны пачатак вершаў, іх скіраванасць да рацыянальнага, разумовага.

Відавочная паэтычная з'ява ў пейзажным малюнку Н. Арсенневай — поўная антанімія (антонімы *дзень-ноч* — у вершы «На парозе»; антонімы *зямля-нябёсы* — у вершы «Ішла вясна...»; антонімы *ўчора-сягоння* — у вершы «Толькі ўчора»). У адной з самых яркіх замалёвак — «Выйдзі ўночы у чыстае поле...» — сустракаецца некалькі пар антонімаў з рознымі радамі лексічнай спалучальнасці. Тут «...вертыкальная [спалучальнасць. — Т. М.] праяўляецца ў семантычнай «пераклічцы» слоў на адлегласці» [10, с. 249] (антонімы *ўночы-ўранні; удзень-увечары*). Часам у вершах Н. Арсенневай ўжываецца і частковая лексічная антанімія: «<...> неба *весняга* павець» — «змрок *зімовы*» [1, с. 70].

У творчасці Н. Арсенневай сінонімы сустракаюцца ў пэўнай ступені нават часцей, чым антонімы. Так, у пейзажнай замалёўцы пад назвай «Вугорскія скрыпкі» якасці блізкіх па значэнні слоў узмацняе градацыя: «<...> *вугорскіх скрыпак плач, зыркі, гарачы↑, дзікі* <...>» [1, с. 96]. У дадзеным выпадку сінанімічнай дамінантай з'яўляецца слова *гарачы*.

Варта пазначыць і той факт, што ў шэрагу сэнсава роднасных па значэнні слоў Н. Арсенневай кантэкстуальна акцэнтуецца ўвага на ўзгаданай вышэй сінанімічнай дамінанце. Гэта сведчыць пра багацце лексічнага запасу мастацкіх сродкаў пры ўжыванні ўстойлівых выразаў, сінтаксічных канструкцый у паэзіі першай паловы XX ст. Так, у вершы «Вугорскія скрыпкі» гарачы плач скрыпак параўноўваецца з навальніцай: *«скрыпкі — ўсё пяюць гарачай, шчырай нотай...»* [1, с. 96].

Лірыка Н. Арсенневай — пры параўнанні з такімі аўтарамі, як Я. Пушча, А. Коршак — у найвышэйшай ступені характарызуецца выкарыстаннем слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі (*вадз**іц**а* — у вершы «Крыніца»; *жам-*

*чужынкі-зоры* — у вершы «Я ішла...»; *ветрык* — у вершы «Выйдзі ўночы у чыстае поле...»; *хвойкі* — у вершы «Я люблю песні ветра у полі...»). Не трэба пераменшваць і ролю паэтызмаў у імпрэсіях-«імгненнях» Н. Арсенневай, паколькі малюнкі прыроды названага аўтара грунтуюцца пераважна на тэрміналогіі ўзнёсла-ўзвышанай лексікі (*зямля-пястунка* — у вершы «Вясною»; *пешчы* — у фальклорным вершы «Балотніца»).

Як і М. Багдановіч, Н. Арсеннева часта ўжывае такія сродкі мастацкай выразнасці, як псіхалагічны паралелізм (верш «Перад ночай»), сталы эпітэт (верш «Зоры»), складаную метафару (верш «Асенні вечар»). Яна шматстайна і выразна акрэслівае межы духоўных пошукаў сваёй лірычнай гераіні пры раскрыцці стану яе душы (намеры, уражанні, пачуцці і інш.). Нездарма беларуская паэтка Л. Тарасюк падкрэсліла: «Істотнай прыкметай паэтыкі Арсенневай з'яўляецца багацце эпітэтаў у мастацкай сістэме твора. Метафарычна яркія і рупліва адшліфаваныя, яны нанізваюцца ў адзін зіхоткі ланцужок <...>» [14, с. 44]. У творах Н. Арсенневай назіраецца шматразовае выкарыстанне колеравага эпітэта як сродку выразнасці пры характарыстыцы прыроднай з'явы ці прадмета, названага раней у замалёўцы: *Таялі плямы туманныя сценяў, // срэбра снягоў залівалі зімовых. // Светла было мне ад белых праменняў, // шчасна было мне ад думак тых новых* [1, с. 31]. Сустракаецца колеравы эпітэт і ў загалоўку вершаў, сярод якіх — «Люблю я сонца залатое...», «У небе палаюць чырвоныя хмары...», «Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве...».

Па назіраннях брытанскага філолага-славіста А. Макміліна, «у паэзіі Н. Арсенневай шчасьце ўраўнаважваецца маркотай, аптымізм — песімізмам. Ант. Адамовіч вызначыў гэтую рысу як чаргаванне мажорных і мінорных тонаў <...>» [7, с. 110]. Вызначальнай прыкметай творчасці паэткі з'яўляецца наданне з'явам прыроды ўласцівасцей і здольнасцей чалавека (здольнасць гаманіць, спяваць і інш.).

Пейзажы Н. Арсенневай — тонкі сплаў колеру і гуку, яны ўяўляюць сабой жывапісна-музычныя імпрэсіі. Менавіта песня раскрывае незвычайную паэтычную рэальнасць. На думку А. Бельскага, «гукавыя фарбы і рытмічная сугучнасць слоў, складаючы музыкальную аснову пісьма, прыдаюць паэтычным карцінам і малюнкам прыроды незвычайную мастацкую сілу выразнасці і выяўленчасці <...>» [3, с. 70]. Меладычнасць гучання песень-вершаў знаходзіць сваё выражэнне ў градацыі вобразаў, іх гукавой, танальнай «скандэнсаванасці»: *Змярканне... // З яснага блакіту // знікаюць фарбы, бліскі дня, // і чыстым золатам заліта // ціхіх палёў далечыня* [1, с. 67].

Карціны прыроды Н. Арсенневай уражваюць глыбінёй выяўлення зрухаў у наваколлі: вячэрні вецер, які прабег па верхавінах дрэў, пакінуў услед за сабою «палатніну пахаў зялёных» (верш «Вечар»); заход сонца абвастрае своеасаблівае бачанне паэткай жытніх ніў, садоў, вяршалін бору (верш «Вячорная містэрыя»). Мастацкія вобразы, ужытыя Н. Арсенневай ў элегічных

замалёўках, вызначаюцца тым, што «...паэтэса карыстаецца метафарычнай іншасказальнасцю, карункавай вобразнасцю і мілагучным рытміка-інтанацыйным меласам вершаў <...>» [15, с. 67].

Менавіта восень для Н. Арсенневай — той час, калі «родзіцца песня і ў небыт сплывае разам з лістамі» [1, с. 60]. Н. Арсеннева ўжывае прыём кантрасту, калі супрацьпастаўляе восень і вясну (вершы «Восень», «Вясна»). Працягваючы віталістычную тэндэнцыю М. Багдановіча, яна сцвярджае неперарыўнасць смерці і нараджэння (верш «Узноў вясна»), надзею на шчасце і абнаўленне (верш «Напрадвесні»). Пры звароце да такога мастацкага сродку выразнасці, як эпітэт, Н. Арсеннева перадае каларыт восеньскага пейзажу, які складаецца з традыцыйных і ў той жа час індывідуалізаваных вобразаў прыроды: ***Лёгка-замглёныя*** *восені* ***далі*** *// ў* ***ясна-зялёным блакіце*** *стаялі. // <...>. //* ***Чырваняй кволай старой акварэлі*** *// клёны й асіны у лесе гарэлі* [1, с. 77].

Паводле трапнай ідэі даследчыка беларускай паэзіі ХХ ст. Л. Тарасюк, «спеўнасць і мілагучнасць радка дасягаецца таксама шматлікімі паўторамі. Нечакана моцна і арыгінальна выяўляецца такі характэрны для народнай песні, але вельмі рэдкі, амаль унікальны для лірыкі ХХ стагоддзя прыём паэтычнага сінтаксісу, як стык, або падхват <...>» [13, с. 19]. Так, у пейзажнай замалёўцы «На парозе» Н. Арсеннева звяртаецца да лексічнага стыку, каб падкрэсліць значнасць паняцця «дзень» пры аналізе эмацыянальна-ацэначнай афарбоўкі слова: *На парозе ночы затрымаўся* ***<u>дзень</u>****, //* ***<u>дзень</u> ціхі, зімовы, спавіты ў ліловы // далікатны сцень****...*[1, с. 75].

Актуальнай з'явай творчасці Н. Арсенневай — у рэчышчы паэтычнага сінтаксісу — можа лічыцца падваенне (прыслоўе *нізка* — у вершы «Завея»; назоўнік *вясна* — у імпрэсіі «Люблю я сонца залатое...»; прыслоўе *усё* — у вершы «Вясною»). У вершах гэтага аўтара відавочнае і паралельнае ўжыванне градацыі і ампліфікацыі, калі ўвага чытача засяроджваецца на адухаўленні з'явы наваколля ці самога дзеяння: *<...> ўсё ён, дзень, // у палёх пагартаў, // расцягаў, разварушыў↑, // пахам восеньскім, моцным, // урочным↑ упіўся, відаць [*1, с. 92].

Значнае месца ў мастацкіх творах Н. Арсенневай займае лексічная анафара (паўтор назоўніка *развітанне* — у вершы «Развітанне»; шматразовы паўтор назоўніка *словы* — у вершы «Часта ўвечары...»; паўтор займенніка *я* — у вершы «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю...»; паўтор дзеяслова *сыплюцца* — у вершы «Сыплюцца з клёнаў лісты...»; паўтор часціцы *хай* — у вершы «Восень»). Зрэдку ў эмацыянальна-пранізлівых замалёўках ужываецца і эпіфара (верш «Восень»). Каб надаць дзеянню пэўную мэтанакіраванасць, вызначыць яго напрамак, Н. Арсеннева звяртаецца да такой схемы пабудовы мастацкага выразу, як «дзеяслоў+назоўнік у форме Accusativ»: *...[пралескі. — Т. М.]* ***будзіце сілы****, што ўзімку драмалі, //* ***будзіце думкі****, што скутыя спалі, //* ***будзіце шэпты*** *надзей* <...> [1, с. 38]. Нярэдка паэтка

выяўляе стан душы асобы дзякуючы звароту да прыслоўяў катэгорыі стану: ***Светла было мне*** *ад белых праменняў, //* ***шчасна было мне*** *ад думак тых новых* [1, с. 31].

Для літаратурнай спадчыны Н. Арсенневай у найвышэйшай ступені характэрная шматзлучнікавасць. Як сцвярджае даследчык беларускай песеннай лірыкі І. Бароўская, «яна [шматзлучнікавасць. — Т. М.] дапамагае звязаць аднародныя словы і сказы ў сінтаксічнае адзінства, запавольвае тэмп мовы, павышае яе экспрэсіўнасць <...>» [2, с. 148], — што і адзначаем ў пейзажных замалёўках беларускай паэткі. Н. Арсеннева шматразова выкарыстоўвае ў вершах падпарадкавальныя і злучальныя злучнікі (падпарадкавальны ўмоўны злучнік *калі* — у вершы «Калі людзі пакрыўдзяць цябе...»; злучальны спалучальны *і* — у вершы «Недасяжнае»; злучальны супраціўны *а* — у вершы «Толькі ўчора...»; злучальны размеркавальны *ці* — у вершы «Летуценні»).

У вершах Н. Арсенневай важную ролю адыгрывае парадак слоў у страфе ці іх паўтор. Звяртаюць на сябе ўвагу з'яднаныя па сэнсе і фармальна назоўнікі з прыназоўнікамі. Так, у малюнку прыроды «Калі ноч запануе...» прыназоўнік *аб* у спалучэнні з назоўнікамі кантэкстуальна яднае такія паняцці, як «нацыянальная годнасць беларусаў» і «гісторыя»; надае вершу рысы маніфеста. Гэта абумоўлена строгай і адначасова ўзнёслай формай выражэння думкі вялікай групы людзей, нават суполкі, праз «я» аўтара: *Любяць [людзі. — Т. М.] песні* ***аб*** *славе,* ***аб*** *долі, //* ***аб*** *асілках вялікіх, магутных, //* ***аб*** *братох, што каналі ў няволі, //* ***аб*** *часінах старонкі пакутных* [1, с. 36]. Н. Арсеннева гаворыць тут ад імя народа. А прыназоўнік *па* сэнсава «ўздзейнічае» на лірычны, элегічны характар верша «У лесе» ў суаднесенасці з яго прасторава-часавымі характарыстыкамі: ***Па*** *узгорках,* ***па*** *травах уквечаных // косы сонца нізкога туляліся, // у аўсох запыняліся нечага, // адплывалі, із ценем зліваліся...* [1, с. 43].

Н. Арсеннева ўжывае трохгукавую эўфанію як прыём, каб падкрэсліць шматэтапнасць ва адухаўленні нежывых істот ці абазначыць рысы чалавека («***ціш****ыня уздыхае* ***ціш****ком*» — у вершы «Прывіды»). Эўфанія выконвае і эматыўную функцыю, калі перадае эмацыянальны стан лірычнага героя (*«І так лёгка душою — вячорнай парою — зразумець свету* ***сум****ы,* ***сум****левы й жалобы!»* — у вершы «Вячорнаю парою»). Бясспрэчна, гукавая экспрэсія раскрываецца ў суадносінах з семантычным зместам вобразаў Н. Арсенневай. У яе мастацкіх творах шматбакова выяўлены музычны пачатак, песенна-лірычная плынь дзякуючы гукавой прасодыі: *Тае вечар, пачаты на росных лугох. // Ціша... ціша... // З даляў выліўся вецер, пайшоў па кустох, // ледзь калыша...* [1, с. 78].

Каб падкрэсліць актыўнасць актанта — ўтваральніка дзеяння — і назваць асобу, звязаную з гэтым дзеяннем, Н. Арсеннева звяртаецца да лексічнага і страфічнага кальца (вершы «Увечары», «Шэпты ночы») ці яго элементаў

(верш «Сыплюцца з клёнаў лісты»). Адметна тое, што прыродаапісальная лірыка Н. Арсенневай наскрозь прасякнутая выразнымі гукавыяўленчымі асацыяцыямі («срэбра гукаў» — у вершы «Пытанне»; «шэпт-шэлех густое травы» — у вершы «Ноч»).

Важна тое, што «на радзіме паэтэсы вецер пахне мятай, начное неба абсыпана зіхатлівымі, нібы срэбра, зорамі, туманы бярозавыя» [4, с. 89]. Узіраючыся ў неба, Н. Арсеннева кожны раз вітае новы дзень. У алегарычным плане яна звязвае паняцце «дзень» з вясною, а не летам. Надыход вясны з яе магутнай сілай абнаўлення ўсяго жывога перадаецца — у гукавыяўленчым ракурсе — у творчасці Н. Арсенневай праз паўтор гука і. Гэты гук падсвядома асацыіруецца з сінім колерам і сімвалізуе бесклапотны час, юнацкую веру ў лепшае, падтрымку старэйшых сяброў (*«Неба с**і**няе, с**і**няе, с**і**няе...»* — [1, с. 53] ), нягледзячы на тое, што *«с**і**рац**і**най ф**і**ялка цв**і**це»* [1, с. 53], а паэтка адчувае адзіноту ў натоўпе.

Відавочна, «многія вершы, у якіх паўстаюць карціны вясновага абуджэння прыроды і яе зімовага замірання, з'яўляюцца своеасаблівымі рэфлексіямі, роздумам лірычнай гераіні пра месца чалавека на зямлі як часткі прыроды <...>» [11, с. 63]. Адметны ў творчасці Н. Арсенневай і зімовы пейзаж — з ягонай самабытна-чароўнай, спрадвечнай красой у «срэбры снягоў» [1, с. 31] — выяўляецца ў асанансным паўторы галосных я, а, о. Акрамя таго, ускосна паэтка адзначае ў вершы настрой лірычнай гераіні: *Та**я**лі пл**я**мы туманны**я** сцен**я**ў <...>. // Нейк**а**я дзіўн**а**я сіл**а** ўст**а**в**а**л**а** // ў сэрцы, да сяння пак**о**рліва-хв**о**рым, // месяц, зд**а**ецц**а**, рук**о**ю б д**а**ст**а**л**а**, // з**о**ры б зрыв**а**л**а** з п**а**днебн**а**й пр**а**ст**о**ры* [1, с. 31]. Паўтор галосных а, о перадае тут адначасова і пэўнае здзіўленне асобы ад раптоўных зменаў у наваколлі, і захапленне гэтаю ж асобаю небам, Космасам.

Узнёслы вобраз восені ўвасабляецца Н. Арсенневай ва ўпрыгожанні шатаў з жоўта-чырвонага лісця клёну і шматгранна ўспрымаецца ў вобразна-асацыятыўным ракурсе дзякуючы паўтору санорнага *н*: *Як **н**е любіць м**н**е восе**н**ь зала**ту**ю, // калі **н**а **н**іву зжа**ту**ю, пус**ту**ю //ліецца у**н**ачы, як малако, **ту**ма**н** // і павучы**нн**е скрозь на хмыз**н**яку паля**н*** [1, с. 40]. У працытаваных радках да паўтору санорнага зычнага н далучаецца эўфанічны паўтор двухгукавога спалучэння — ту. Так Н. Арсеннева падкрэслівае той факт, што ўраджай сабраны, а палі і нівы пустуюць.

Пейзажныя замалёўкі Н. Арсенневай заснаваныя на містыка-рэфлексійным і аналітычным пачатках. Аднак, каштоўнасць красы, хараства перадаецца ёю дзякуючы інтуітыўнаму спасціжэнню свету пры асэнсаванні псіхалогіі мыслення вытанчанай, духоўна багатай асобы. Відавочна, Н. Арсеннева найперш «праз апісанне красы прыроды <...> імкнецца раскрыць радасныя, светлыя бакі жыцця чалавека <...>» [11, с. 46]. Адначасова раскрыццё вобразаў у «пейзажы душы» дае магчымасць асэнсаваць агульнавядомыя ісціны аб звычайных, нічым не адметных на першы погляд назіраннях з жыцця

паэткі. І таму асэнсаванне нацыянальнай ментальнасці выяўляецца ў адмысловай беларускай лексіцы. Так ствараецца рэальнасць, дзе цэнтральнай тэмай з'яўляюцца краявіды, свет прыроды і фарміруецца геасофія — філасофія зямлі.

У аснове ўспрымання рэчаіснасці Н. Арсеннневай — сузіранне падзей вачыма відавочцы, — таго, хто сузірае свет упоравень з аўтарам («мера відавочцы»). Н. Арсеннева пераняла ў М. Багдановіча тэндэнцыю да эстэтызацыі, індывідуальнай псіхалагізацыі, прадэманстравала падабенства поглядаў на свет у разнастайных жанрах (медытацыі, элегіі, песні і інш.) У той жа час беларуская паэтка стварыла абагулены сімвалічны вобраз роднага краю (вершы «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю...», «Недасяжнае») і надала яму выключна музычную ролю. Цэласная карціна свету аформілася ў яе свядомасці згодна з музычнай і жывапіснай дамінантамі.

## Літаратура

1. Арсеннева, Н. Выбраныя творы / Н. Арсеннева. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2002. — 592 с.

2. Бароўская, І.А. Беларуская песенная лірыка (моўна-выяўленчая сістэма вобразнасці): вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей устаноў, якія забяспечваюць атрыманне вышэйшай адукацыі / І.А. Бароўская. — Гомель: УА «Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны», 2004. — 186 с.

3. Бельскі, А.І. Жывая мова краявідаў: пейзаж у беларускай паэзіі / А.І. Бельскі. — Мінск: БГАКЦ, 1997. — 136 с.

4. Вярбіцкая, Н.Т. Мастацкі эпітэт у паэзіі Наталлі Арсенневай / Н. Т. Вярбіцкая // ТРУДЫ МОЛОДЫХ СПЕЦИАЛИСТОВ ПОЛОЦКОГО ГОСУДАРСТВЕННОГО УНИВЕРСИТЕТА. Выпуск 21. Гуманитарные науки. — Новополоцк: ПГУ, 2007. — С. 87—90.

5. Гніламёдаў, У. Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск: Маст. літ., 2001. — 246 с.

6. Лясовіч, С.М. Сістэма колераабазначэння ў мове твораў Уладзіміра Караткевіча: структурна-семантычны, функцыянальны і кагнітыўны аспекты: аўтарэф... дыс. канд. філал. навук. / С.М. Лясовіч. — Мінск, 2006. — 21 с.

7. Макмілін, А. Беларуская літаратура дыяспары: манаграфія / Пер. з англ. В. Бурлак, В. Жыбуля / А. Макмілін. — Мінск: УП «Тэхнапрынт», 2004. — 440 с.

8. Мішчанчук, М.І. Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў: вучэб.-мет. дапам. для студ. ВНУ / М.І. Мішчанчук. — Мінск: МДПІ імя А.М. Горкага, 1993. — 89 с.

9. Навіна, А. Адбітае жыцьцё: лекцыі і стацьці з беларускае адраджэнскае літэратуры / А. Навіна. — Вільня: Выданьне Беларус. выд. т-ва, 1929. — Кн. 1. — 147 с.

10. Ралько, І.Д. Верш і мова: праблемы тэорыі і гісторыі беларускага верша / І.Д. Ралько. — Мінск: Навука і тэхніка, 1986. — 263 с.

11. Савік, Л.С. Пакліканыя: літаратура беларускага замежжа / Л.С. Савік. — Мінск: Тэхналогія, 2001. — 479 с.

12. Сямёнава, А. На шляху сусветаў / А. Сямёнава // Н. Арсеннева Выбраныя творы. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2002. — С. 5—24.

13. Тарасюк, Л.К. Апалогія красы: кніга пра беларускую паэзію / Л. К.Тарасюк. — Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2003. — 141 с.

14. Тарасюк, Л.К. Арсеннева Наталля Аляксееўна / Беларуская мова: энцыкл. / Беларус. энцыкл.; пад рэд. А.Я. Міхневіча; рэдкал.: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелЭн, 1994. — С. 43—45.

15. Чыквін, Я.А. Па прызванні і абавязку / Я.А. Чыквін. — Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Bialymstoku, 2005. — 236 с.



# Валерыя (Валярына) Кустава

паэт, літаратарка. Аўтарка кніг паэзіі: «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2009 г.). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Не бойцеся рызыкаваць...

***Творчы лёс маёй суразмоўцы — яркі доказ таго, што паэтамі не становяцца, а нараджаюцца... Сваю першую кнігу вершаў яна выдала ў 11 гадоў... А блаславілі юную паэтку на шчаслівую паэтычную дарогу, напісаўшы прадмову да яе першай нізкі вершаў у 6 гадоў, Алесь Разанаў, а да другой кнігі паэзіі «Каб неба сагрэць...», ніхто іншы, як сам Рыгор Барадулін. Але, калі творца таленавіты, ён таленавіты ва ўсім. Знаёмцеся — паэт, эсэіст, тэлевядоўца, кінасцэнарыст — Валерыя Кустава, або проста — Валярына.***

**Эдуард Акулін**: — *Валярына, кажуць, што ты пачала пісаць вершы, яшчэ да таго, як навучылася чытаць... Тваё захапленне паэзіяй — гэта заслуга бацькоў, настаўнікаў, Госпада-Бога?..*

**Валярына:** — Хіба што гэта не заслуга, а дадзенасць. Хутчэй не я захапілася паэзіяй, а паэзія захапіла мяне. Ад пачатку, колькі сябе памятаю, жыццё навокал мысліла і ўяўляла вобразамі, толькі не так даўно пачала яго больш здзяйсняць, чым думаць, прыдумваць ды фантазіраваць. Бацькі мне заўжды шмат чыталі, нават калі я яшчэ ў чэраве была, ненароджаная. Калі казаць пра школьных настаўнікаў — не, хутчэй я сама абірала ў каго вучыцца — гэта былі найлепшыя аўтары і няпростыя людзі. Я веру ў тую сілу, якую называю Космас, у маленстве называла яе Богам, ён рытмуе маю душу, праз яго я раюся з сабой найлепшай, ідучы да Самасці.

**Э. А.** — *А хто і калі паспрыяў твайму паэтычнаму дэбюту?*

**В.** — Мама. Бабуля. І Алесь Разанаў, калі выпадкова даведаўся, што яго вершы любіць маленькая чатырохгадовая дзяўчынка. Ён захацеў пачытаць тое, што яна піша. У выніку — праз тыдзень перадаў разам з маімі вершамі назад і сваю прадмову да маёй першай публікацыі. Таму, дзякуй Алесю Сцяпанавічу, чыю думку і чые тэксты бязмежна абажала ўсё маленства, перадусім паэмы, кнігі «Вастрыё стралы», «Шлях-360».

**Э. А**. — *Хто твае літкуміры? Ці маеш ты свайго духоўнага настаўніка?*

**В.** — Куміры — штука непастаянная і юначая. У розныя перыяды розных любіла, хтосьці заставаўся, хтосьці сплываў — Купала, Караткевіч, Багдановіч, Жылка, Панчанка — засталіся. Барадулін, Някляеў, Сыс, Дранько-Майсюк... Гэта, калі казаць пра юначыя беларускія захапленні. Потым больш еўрапейскай літаратурай зацікавілася — французамі: Віёнам, Апалінэрам, Бадлерам, Верленам, Рэмбо, Както; палякамі: Лемам, Тувімам, Мілашам, Шымборскай, Галчыньскім, Міцкевічам нашым... Ну і іншымі.

**Э. А.** — *Ці магчыма беларускаму паэту сёння быць цалкам апалітычным? Займацца толькі літаратурай?*

**В.** — Было б клёва. Але, на жаль, немагчыма. Я ўвесь час спрабую адасобіцца ад сацыяльнага, палітычнага. Але перыядычна ўсё ж зрываюся. Бо — ба-

ліць. Калі натуральна не кранае — ок. Але калі змушаеш сябе не глядзець, не адчуваць — гэта ўжо штучная такая абыякавасць, ненатуральная. Але ў любым выпадку — няўлобава, а метафарамі, сімваламі, знакамі паэты гавораць пра тое несправядлівае і трагічнае, што адбываецца тут і цяпер... Я адчуваю нацыянальную адказнасць — таму, магчыма, мае метафары, што датычна сучаснай вайны — зусім не празстрыстыя, як хацелася б. Адна маладая крытык Марына Яўсейчык нават у мяне нядаўна спыталася, з якога года я пачала пісаць свае «ваенныя вершы». Я паглядзела — і праўда, ёсць у мяне такія. Нават цыкл. І вырашыла, што няхай тое акрэсленне і застанецца — «ваенныя вершы». Бо ў нас не палітыка — а вайна — унутры, што перыядычна выліваецца вонкі. З галоваў — на вуліцы. Генералы маёй краіны, дзе вы, дзе вашы мундзіры?

**Э. А.** — *У адным са сваіх інтэрв'ю ты сказала, што «Беларускасць — гэта вірус...» Дзе ты падхапіла «вірус беларускасці» ? Што значыць — «быць хворай на Беларусь»?*

**В.** — Ад бабулі Валі (бабуля па кудзелі). Яна гадавала нас з братам беларусамі — на народных песнях і казках, на паганскіх рытуалах, на вершах Геніюш і Сяргея Новіка-Пеюна, на крэмнях і медзі Алеся Белакоза, на куцці Дзядоў, на зорцы Калядаў... Значыць, успрымаць беларускасць унутры сябе не столькі абавязак, як натуральнасць твайго быцця. Уласным жыццём паўсюль нястомна даводзіць радасць і перавагу беларускасці.

**Э. А.** — *Ці праўда, што беларуская мова стварае праблемы ў жыцці?*

**В.** — Не, няпраўда. Наадварот — дае больш нагодаў для новых камунікацый і знаёмстваў.

**Э. А.** — *З тваіх слоў, «каб аднавіць беларускую мову, трэба зрабіць усяго некалькі крокаў»... Якія гэта крокі? Твой удзел у моўным праекце «Мова ці кава» — адзін з такіх крокаў?*

**В.** — Хутчэй, працяг дарогі, пражытай да таго... Мне быў цікавы ўдзел у гэтым праекце, бо ён прыводзіць да канчатковай беларускасці тых, хто яе прагнуў. І перадусім — гэта крэатыўная моладзь. Я люблю сваю аўдыторыю, тых цудоўных маладых асобаў, што наведвалі нашыя курсы, што прыносілі свае ідэі і надзеі. Якія гатовыя былі браць нашыя напрацоўкі — і ўвасабляць іх у жыццё. Гэта цудоўна. Так сказаць — практычная беларускасць. Беларускасць робіцца віруснай. Ужо самі людзі пачынаюць самаарганізоўвацца на базе беларускага — мовы, музыкі, моды, тэлебачання, кіно... І гэта файна.

**Э. А.** — *У свой час ты выступіла ініцыятаркай моладзевага фэсту «Кахай па-беларуску, жыві па-еўрапейску...» Што гэта для цябе — гучны лексічны брэнд, ці жыццёвы дэвіз?*

**В.** — Я проста так раблю і так жыву. Жыву як беларуская еўрапейка. Нашу якасную вопратку, падарожнічаю, вучу замежныя мовы, ляжу на газонах і іду да сваёй мэты. І кахаю па-беларуску. І толькі беларускі хлопец стане маім абранцам. Гэта мой брэнд. Беларускасць — гэта эратычна, модна, натуральна і сваё.



*Падчас перадачы «Чорным па белым»*

**Э. А.** — *Адна з формаў тваёй творчай рэалізацыі — праца на незалежным тэлеканале «Белсат». Хто з'яўляецца аўтарам тэм для перадачы «Чорным па белым», якую ты вядзеш?*

**В.** — Я сама прыдумляю тэмы, шукаю гасцей і пішу сцэнары. Я і мая новая сувядоўца — рэкламістка Юлія Рымашэўская. Таксама нядаўна прайшло два сезоны маёй другой праграмы «Фітнес-Шмітнес». Гэта першае беларускамоўнае забаўляльна-аздараўляльнае шоу з элементамі буфанады і лёгкай эротыкі, якое вялі мы разам з выдатным музыкам Паўлам Аракелянам.

**Э. А.** — *Нядаўна рэжысёр Андрэй Куціла разам з Вячаславам Ракіцкім у цыкле «Пераемнікі» зняў пра цябе дакументальную стужку, дзе ты іграеш самую сябе. А ці ўзнікала ў цябе жаданне паспрабаваць свае сілы ў мастацкім кіно?*

**В.** — Так, мне прапаноўвалі некалькі разоў. Пакуль — не выпадала. Думаю, у будучыні я пагаджуся, калі будзе сапраўды цікавая прапанова. А стужка ў Андрэя і Вячаслава атрымалася вельмі займальная!

**Э. А.** — *У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ты больш за тры гады выкладала сярод іншых такія дысцыпліны як «тэорыя драмы» і «драматургія сучаснага фільма»... Можа настаў час перайсці ад тэорыі да практыкі... Я маю на ўвазе — напісанне тэатральнай п'есы ці кінасцэнарыя?*

**В.** — Я даўно пішу п'есы і кінасцэнары. Сёлета, напрыклад, адзін з іх заняў першае месца на нацыянальным конкурсе сцэнароў — і па ім быў зняты фільм «Крыніца часу. Рака часу» (рэжысёр Іван Пінігін). Прэм'ера фільма адбылася на нацыянальных каналах. Цяпер працую яшчэ над сцэнарамі двух мастацкіх фільмаў сумесна з рэжысёрамі.

**Э. А**. — *Памятаю тваё апантанае захапленне аўтарскай песняй. Але апошнім часам вельмі рэдка ўдаецца ўбачыць цябе з гітарай на сцэне...*

*Не магу паверыць, што твая цікавасць да беларускай песні прайшла. Можа яна набыла новыя формы? Калі так, то якія?*

**В.** — Даўно супрацоўнічаю з музыкамі як аўтар тэкстаў да песень. Але перыядычна і сама граю. Весела: нават увайшла ў 50 абраных бардаў Свабоды. Правільна, што не верыце — яшчэ спяю! Апошняя мая праца — супольная песня «Казкі» з найлепшым гуртом мінулага года «Bosae Sonca» (сумесна з гуртом Zui, Hurma, Navi), кліп на якую выйшаў у сеціве акурат на Каляды і адразу набраў каля 6 000 праглядаў, што не так і кепска, калі ўлічыць, што рабілі мы яго папросту для ўласнай радасці. Музыку на яе напісаў мой сябар — выканаўца і кампазітар, саліст гурта Алесь Кот-Зайцаў. Мы з ім часама пішам разам.

**Э. А.** — *У цябе шмат літаратурных узнагарод. Якая з іх табе найдаражэйшая?*

**В.** — «Залаты апостраф» ад «Дзеяслова» ў намінацыі «Паэзія» і перамога ў конкурсе вершаваных твораў, які праводзіла ЮНЭСКА ў Парыжы. Таксама журналісцкія ўзнагароды (за інтэрв'ю і культурніцкія рэцэнзіі) — перамога на «Тваім Стылі» і ў «Вольным слове».

**Э. А.** — *Ці праўда, што твая паэтычная формула «Дзеўка-паэт—неба» нядаўна дзівосным чынам урэчаіснілася... Як і дзе гэта здарылася?*

**В.** — Летась. На выспе Родас. У старым горадзе, заблукаўшы між вузенькіх грэчаскіх вуліцаў (каб спазнаць месца — там трэба заблукаць), трапіла ў ма-

*На здымках фільма*



ленькую крамку старасветчыны... За столікам пад мядзяным гадзіннікам сядзеў дзядок з абветранай земляной скурай і густымі сівымі бровамі, смуглявая, белавалосая бабулька падносіла яму кветкавую гарбату ў белым парцаляным кубку з сінімі кветкамі. Яны ўсміхнуліся мне, дзядуля падміргнуў і хітнуў галавой да правай паліцы. Там стаяла дзеўка-паэт з лірай-вянком і з крыламі. Яе падножжа нат крыху ззелянела ад часу. Як я даўно яе шукала?! А знайшла — на радзіме Паэзіі, у Грэцыі...



Статуэтка «Дзеўка-паэт-неба» з Грэцыі

**Э. А.** — *Ты любіш падарожнічаць... Самыя яркія ўражанні тваіх падарожжаў — гэта экзатычныя мясціны, архітэктурныя дастапомнасці ці нечаканыя сустрэчы з незвычайнымі людзьмі?*

**В.** — Новыя гарады — гэта перадусім людзі. І менавіта яны адкрываюць для мяне сэрцы краінаў — музеі, архітэктуру, кавярні, сады, ночы і дні... З апошніх месцаў, дзе я пабывала, і пачувалася абсалютна ўтульна — гэта Рым, Іерусалім, Парыж і выспа Родас у Грэцыі.. На Родасе жыла некалькі месяцаў, частку часу — у манастыры... Атрымала там неверагодны духоўны досвед, які змяніў мяне. Мяркую, вярнуцца зноў у гэтыя мясціны, хаця раней мне асабліва нікуды не хацелася вяртацца. Таксама падабаюцца Кіеў, Львоў, Стакгольм, Берлін... У Варшаве пачуваю сябе абсалютна камфортна. Верагодна, таму, што за апошні час моцна падцягнула свае замежныя мовы і сустрэла блізкіх мне людзей тамака, што сталіся маімі сябрамі.

**Э. А.** — *Аднойчы ты заявіла, што прызнавацца ў каханні патрэбна вершамі беларускіх паэтаў? Чыімі б вершамі прызналася ў каханні ты?*

**В.** — Мне здаецца, каханне патрабуе не столькі вершаў, колькі ўчынкаў, якія могуць быць і без словаў спакойна. Ведаю, дастаткова гісторый, як іншыя прызнаваліся ў каханні менавіта маімі вершамі. І як прасілі імі пра першы пацалунак, і нават завесці раман ці дзіця. Зазвычай у каханні вершамі прызнаюцца — мне. Я веру ў сілу слова і ў паэзію, якая матывуе, натхняе на жыццё. Але ў жыцці — я веру ў паэзію жыцця, то бок ва ўчынкі, а не ў словы... Напрыклад,

словам «кахаю» па-мойму папросту нельга раскідвацца, абясцэньваць яго пастаяннымі прызнаннямі розным людзям. Тады яно страчваецца — і можа не знайсціся ўжо. І прызнавацца ў ім больш чым двойчы за жыццё — дзіўна. Першы раз — першаму свайму каханню (таму, якое кахаеш, бо маеш неадольны лішак юначай пяшчоты). І другі раз — апошняму (то бок сапраўднаму) свайму каханню. Гэта аптымальна — але не ўсім так шанцуе. Спадзяюся, што мне пашанцуе менавіта так. Гэта я да таго, што каханне — гэта ўжо паэзія пачуцця і жыцця, тут і вершы меркнуць.

**Э. А.** — *У кожнага паэта ёсць свой улюбёны куток. Твой паэтычны Менск — гэта...*

**В.** — Найперш — мой пакой, а таксама раён Сухарава — з ляском, крынічкай, царквой... Затым — раён Сцяпянкі з тамтэйшым лесам. Там, сосны, гледзячы на якія, я вырасла... Гэта Дом Літаратара, на Фрунзэ, 5, у якім я гадавалася, бо там працавалі мая бабуля і мая мама, пакуль яго не аднялі... Гэта маленькі дворык на Данілы Сердзіча, дзе прайшло маё маленства, і дзе я хадзіла ў тэатральны ліцэй, адкуль ездзіла ў музычную школу і на фігурнае коўзанне... Гэта вуліца Чачэрына, дзе я выкладала амаль чатыры гады, там, за Оперным, дзе восенню так неверагодна кружляюць лісты і што шалёныя кідаюцца пад ногі, а зімою строі яжынак высвечваюць ліхтарні...

**Э. А.** — *Калі чакаць тваю новую паэтычную кнігу?*

*Самой не верыцца... з пярсцёнкам*





*З мужам Васілём Дранько-Майсюком*

**В.** — Яна гатовая. Засталося, каб яе прачытаў рэдактар, аформіў мастак. І можна здаваць у друк...

**Э. А.** — *Чаго табе не стае ў жыцці?*

**В.** — Усё клёва. Што мусіць быць — будзе.

**Э. А.** — *Што ты пажадала б перадусім маладым творцам?*

**В.** — Жадаю, каб сілаў ставала на ўсе жаданні. І не бойцеся рызыкаваць!.. Найлепшы ўзрост для памылак — гэта маладосць. Потым можа быць позна памыляцца. Рабіце як мага болей памылак да 30 гадоў. Асабіста я акурат гэтым цяпер і займаюся...



# Ніл Гілевіч

Народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, празаік, драматург, перакладчык, фальклярыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг: «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Переразвоны», «Святлынь», «Родныя дзеці», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску

# На гэта звалі...

## Палескі падгалосачак

У першы дзень нашай вандроўкі па прыпяцкім Палессі, мы — Мікола Арочка і я — заначавалі ў вёсачцы Раеўскае, — гэта па дарозе з Мазыра на Ельск. Вечарам, па запрашэнні дачкі гаспадыні, дзе спыніліся, пайшлі на вясковую вечарынку. Паглядзелі, як танцуюць, — нічога адметнага, танцы тыя ж, што і ў нас на Лагойшчыне. А вось спевы... О, які гэта цуд, палескія спевы!.. Калі скончылася вечарынка, дзяўчаты высыпалі з хаты на начную вуліцу, трохі пагаманілі і рушылі грамадой уздоўж вёскі. І праз хвіліну загучала песня.

*А ў гародзе ве́рба расла,*
*А ў гародзе ве́рба ра-асла-а-а,*
*Там стаяла дзеўка красна-а-а...*

Божа, што гэта было! Што пачало рабіцца ў душы маёй! Куды яна, у якую высь услед за падгалосачкам ляцела! О, гэты палескі падгалосачак! Ужо ён ніколі не замоўкне ўва мне! Уся істота мая напружылася ў адной невымоўнай мальбе: каб хаця песня не скончылася, хаця б не абарвалася! Калі ж, нарэшце, скончылася — яшчэ мацней узмалілася мая душа: хай хутчэй, хутчэй пачнецца новая — гэткая ж!.. Нешта загаварыў да мяне Мікола — я рэзка перапыніў яго: не замінай! Дай пабыць з песняй, у песні, у яе мелодыі!..

*1954*

## І ўсе пад пылам...

Купіў у кнігарні «Дыялектны атлас беларускай мовы» (1963). Велічэзны шыкоўны фаліянт. Выдатнай паліграфічнай якасці. Маёй філалагічнай радасці не было мяжы. У 1966 годзе завёз адзін паасобнік «атласа» ў Славенію. Помню, як захапляўся ім знакаміты філолаг прафесар Францэ Безлай: «Якая каштоўная навуковая праца! Якое дасягненне вашага мовазнаўства! Нам, славенцам, яшчэ далёка да такога!..»

І вось гэты цуд нашай акадэмічнай навукі і паліграфіі нікому ў Беларусі не патрэбны. Яго не купляюць. Стаіць і пыліцца на паліцах кнігарань. «Мудры» кнігагандаль нічога лепшага не прыдумаў, як уцаніць гэтае неацэннае выданне. І «Атлас» уцанілі. У дзесяць разоў! Праз тры гады пасля выхаду ў свет ён стаў каштаваць... адзін рубель! Уяўляеце? Адзін рубель! Фаліянт, якому цаны няма!..

Але што дзівіцца? Будучы ў колішнім райцэнтры Свір, заглянуў — па звычцы — у кнігарню. І во ўдача: на ніжняй паліцы стаіць, абкураны пылам, чатырохтомны збор твораў Змітрака Бядулі! У свой час у Мінску я, не помню чаму і як, не набыў яго. І ўжо доўгі час шкадаваў, што не маю. А ён — вось! Як назнарок чакае мяне. Чатыры тоўстыя, у каленкоравых вокладках, тамы!

Схапіў, абцёр хусцінкаю пыл. Глянуў на цану. Што такое? 10 капеек том? Ну так: каштаваў рубель, а цяпер, пасля ўцэнкі, каштуе ў дзесяць разоў менш — усяго 10 капеек! Але і па такой цане — лічы бясплатна — ніхто не купляе. Ні аднаму беларусу ў Свіры не патрэбны! На тых жа паліцах стаяць, уцэненыя, томікі Купалы, Коласа, Куляшова, Танка, Дуніна-Марцінкевіча... Усе пад пылам. Усе — даўно негладжаныя чалавечай далонню... Глядзеў я на іх — і сэрца сціскалася ад крыўды, ад абразы, ад пачуцця сваёй нікчэмнасці. Давялі — клапатліўцы-рупліўцы пра родную літаратуру. Давялі! Дык часцей пасылайце ў Крэмль пафасныя рэляцыі пра небывалы росквіт нацыянальнай культуры, панове!..

*1969*

## Руская і рускамоўная

З пэўнага часу я пачаў адрозніваць рускую паэзію ад рускамоўнай. Скажам, амаль усе пераклады еўрапейскай паэзіі на рускую мову я ўспрымаю як паэзію рускамоўную. Хоць, на добры лад, і гэта паэзія павінна быць рускай — павінна быць арганічнай часткай паэтычнага цэлага, бо яна перастворана сродкамі рускай мовы — лексікай, фразеалогіяй, сінтаксісам, на ёй павінна сказацца душа рускага паэта, праз якую яна прайшла, — яго менталітэт, яго эмацыянальныя адносіны да свету, да чалавека, да жыцця. Ну, але тут пэўную яе «нярускасць» можна вытлумачыць большай ці меншай залежнасцю ад зместу і духу нярускага арыгінала, што адбіваецца і на стылістыцы верша, на мове. А калі перад табой не пераклады, а арыгінальныя творы рускага паэта, — чаму яны ўспрымаюцца іншы раз менавіта як рускамоўныя? Чаму? Дзе тут загадка? Ну нібыта ж усе словы рускія, і паводле рускай граматыкі ўсё напісана. Што ж адрознівае адны вершы ад другіх? На маё разуменне, галоўная прычына адрознення ў тым, што руская мова многіх паэтаў не з'яўляецца іх роднай мовай. Яна, — я сказаў бы, не ад зямлі, не жывая, яна — літаратурная, кніжная мова. Як правіла — гарадская, але не фабрычна-завадскога асяроддзя, а чыноўніцкага і культурна-асветніцкага. Наглядны, пераканаўчы прыклад для мяне — руская мова вершатворцаў, хлопцаў і дзевак, якія нарадзіліся і выраслі ў беларускіх вёсках, беларусы па крыві і духу, але ўсё жыццё пішуць сцішкі па-руску. Нават і талент не ратоўвае: іх паэзія ўсяго-наўсяго — рускамоўная.

*1970*

## Здраўка Пятроў пра паэзію і паэтаў

Вядомы балгарскі літаратуразнаўца і крытык Здраўка Пятроў на старонках газеты «Литературен фронт» (1.1.1971) выказаў цікавыя, на мой погляд, думкі пра паэзію, пра паэтаў і іх творчую працу, пра адметнасці, якія накладае на іх працу час.

Зніклі «мукі слова». Бяздушны тэхніцызаваны верш у тэхніцызаваны век.

Інфляцыя слова. Паэта параўноўвалі з парадзіхай, каля якой павінна быць багамольная цішыня. Цяпер жа ніхто не разглядае паэзію як свяшчэнны рытуал. Гэта вынік прафанацыі верша, забойчага рацыяналізму, «абяскосцення» верша (без касцей), позы заўчаснай «стомы», страты музыкі, адсутнасці цэласнай паэтычнай канцэпцыі свету, празаізацыі, бездапаможнай манернасці, чыстай гульні інтэлекту, бясплоднай «алхіміі» слова і г.д.

Словы не старэюць, не трацяць сэнс і значэнне. Старэе спосаб іх выкарыстання, шабланізуюцца прыёмы. Калі за словам не стаіць рэальны змест і хваляванне — усё дарэмна.

Не ведаюць паэты, калі пачаць і калі кончыць. Знікла з'ява — таленавітае творчае маўчанне.

*1971*

## Мудры Мігель дэ Унамуна

У артыкуле «Быць грамадзянінам» («Известия» за 23.7.1971 г.) Нікалас Гільен цытуе вядомага іспанскага паэта Мігеля дэ Унамуна, а менавіта — яго ацэнку пэўнага роду літаратуры. «Ёсць літаратура, якую я назаву прафесіянальнай гімнастыкай лялечнікаў, акрабатаў і канатаходцаў славеснага цырку. Сярод іх ёсць чалавек-птушка, чалавек-малпа, чалавек-кажан, чалавек-змяя, а таксама несканчоны легіён жанглёраў. Літаратура для іх — пустая словатворчасць, бессэнсоўны палёт фантазіі, а не сур'ёзная барацьба за ідэалы. Іх больш за ўсё турбуе тое, што было ўласціва наёмнаму гладыятару, — прыгожы жэст і прыгожая манера...»

Божа, да чаго ж справядліва, трапна і забойча сказана! А сказана яшчэ 82 гады назад (значыць, у 1889-м?).

*1971*

## Аб мове фальклору

Фальклор дае нам адчуванне свабоды і натуральнасці маўлення, прастаты і яснасці слова і фразы, бо народ ніколі не выказваўся рэбусамі, галаваломкамі, гугнявымі і штучна сканструяванымі выразамі. Высокае пачуццё густу, вернасці сэнсу і прыроднаму гучанню слова — вось чым заўсёды даражыў і даражыць творца мовы і руплівы захавальнік яе скарбаў — Народ.

*1973*

## Нават у гэтых маленькіх...

Сярод пісьменнікаў тых народаў, мове якіх нішто не пагражае, мне было цяжка знайсці разуменне і спагаду свайму болю за становішча беларускай мовы ў Беларусі. Яны бачылі толькі адсутнасць у нас саміх, у беларусаў, належнага клопату, каб ратаваць яе, сваю родную, ад пагібелі. Менавіта па гэтай

прычыне не знаходзілі водгуку мае скаргі ні ў Балгарыі, ні ў Славеніі. Нават у гэтых маленькіх краінах, якія калісьці самі жылі перш за ўсё гэтым — праблемай захавання сваёй мовы, але выйшлі з-пад улады чужацкага засілля: балгары — з-пад турэцкага, славенцы — з-пад нямецкага.

*1977*

## Дзякаваць Богу — не позна...

Яшчэ недзе на пачатку 1960-х прыйшло разуменне, што не толькі лёс нашай нацыянальнай культуры, але і лёс самой нацыі, лёс нашага народа залежыць ад школы. Так, для мяне гэта здарылася не запозна, бо было мне каля 30-ці гадоў і я, натуральна, разлічваў, што наперадзе ў мяне яшчэ багата часу, які я прысвячу змаганню за беларушчыну, за годнае, раўнапраўнае ў свеце жыццё беларускага народа. Ад школы — і толькі ад школы! — залежыць наша будучыня. Будзе беларуская школа — будзе ўсё: і мова, і культура, і нацыянальная свядомасць. Будзе Беларусь! Не будзе беларускай школы — загіне ўсё!

*1979*

## З думак пра Твардоўскага

***

Яго «адкрылі», пра яго загаварылі пасля «Краіны Муравіі»; а між тым: было апублікавана 307 вершаў да «Краіны Муравіі». Гэта вельмі многа! З іх толькі некалькі ўключаны ім у першы прыжыццёвы збор твораў.

***

Кожная паэма Твардоўскага — вяха на творчым шляху паэта, крок наперад, кожная — непаўторная, і разам з тым — у іх шмат агульнага: почырк, аблічча, («нечуваная прастата»).

***

Не ведаю іншага, хто б у творчасці быў так знітаваны з народам, з яго лёсам, хто б так браў да сэрца жыццё народа, у каго б была такая гранічная ступень ужывання ў долю яго, сустрэражывання ўсяму, што баліць народу, што яго хвалюе, трывожыць. Хто б быў такі паслядоўны ў гэтай сваёй пазіцыі, у гэтай сваёй вернасці: ніякага адхілення ўбок, у дробнае, у другараднае, у штонебудзь накшталт позы, гульні-забаўкі, самалюбавання, у тое, пра што можна сказаць: гэта не ад Бога. Унікальная цэласнасць народнага характару!

***

Твардоўскі — вялікі ўрок для творчай моладзі. Галоўны ўрок: як трэба жыць і працаваць у літаратуры. Не трэба пісаць, як Твардоўскі, яго стылем, яго почыркам, а трэба вучыцца жыць, думаць, працаваць у Твардоўскага.

*1980*

# Вялікая наша загана...

***(З прамовы на пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі).***

Набліжаюцца стагадовыя юбілеі нашых духоўных бацькоў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. У святле гэтых вялікіх падзей — самы раз падумаць пра некаторыя з'явы нашага літаратурнага жыцця, якія надта ж не ўпрыгожваюць нас і зусім не робяць нам гонару. Адна з іх — гэта наша ганебнае беларускае самаедства. Пра наша самаедства я гаварыў яшчэ з трыбуны VI з'езду пісьменнікаў у 1971 годзе. З таго часу прайшло дваццаць гадоў — і ні на адну цалю наперад у пераадоленні гэтай нашай заганы мы не зрушыліся. Хутчэй — наадварот. Звярнуся да фактаў.

Выйшаў у свет энцыклапедычны Слоўнік літаратуры і мастацтва Беларусі — і ў ім нават не ўпамінаецца імя Алеся Гаруна — выдатнага паэта-рэвалюцыянера, паплечніка Купалы і Коласа. Калі ў праспекце Слоўніка я ўбачыў гэты ганебны пропуск — я напісаў І. Шамякіну, галоўнаму рэдактару Энцыклапедыі, адмысловае пісьмо, у якім прасіў: давайце збярэм рэдкалегію і калектыўным рашэннем вернем у нашу літаратуру імя выдатнага паэта-дэмакрата, а спачатку канкрэтна — паставім яго імя ў энцыклапедычнае выданне. Не! — Не можам! І намёк на нешта ці на некага. Нехта лепш ведае паэзію Гаруна — і не дазваляе. Хто не дазваляе? Наша самаедства. Гэта — адна з самых відочных прыкмет амаральнасці грамадства. Так, норавы самаедаў — далёкія ад сумлення, ад культуры, ад цывілізацыі наогул.

Выказаўся пра Гаруна, скажу і пра сёе-тое яшчэ, што мяне вельмі засмучае і чаго я, шчыра кажучы, проста не магу зразумець. Напрыклад, сцверджанне пра варожыя ўзаемаадносіны Купалы з кіраўнікамі «Нашай нівы». Калі верыць напісанаму, дык не царысты-імпершавіністы, якія душылі Беларусь, былі найбольшымі ворагамі Купалы, а браты Луцкевічы і Ластоўскі. Падумаць толькі! І вершы Купалы падбіраюцца-падганяюцца пад гэту задуму, пад гэту аўтарскую канцэпцыю — аналізуюцца як творы, скіраваныя супроць Луцкевічаў і Ластоўскага.

Да гэтай агульнай бяды самаедства прыкладаюцца і спробы патурання абывательскай маралі. Маю на ўвазе выпадкі, калі наверх у творы вылазіць плётка, калі аўтар проста не можа выцерпець, каб не падаць натоўпу чытачоў надта ж цікавую плётку. Напрыклад, пра Купалу, які нібыта зрабіў дзіця жонцы свайго калегі і паплечніка, або чутка пра макаёнкаўскія мільёны, або пра што іншае... І ці выпадкова, што аўтар разлічанай на абываталяў аповесці пра Макаёнка безагаварочна блаславіў у свет, забяспечыў сваёй прадмовай кнігу пра Купалу, у якой, побач з удалымі старонкамі, столькі абразлівай для памяці паэта няпраўды.

*1981, кастрычнік*

## Наша вялікая кніга

Кожны народ мае сваю Вялікую Кнігу. У беларусаў — гэта «Новая зямля» Якуба Коласа. Кожны з нас, хто яе чытае, — адчувае сябе часцінкай гэтага народа, гэтага жыцця, гэтай гісторыі, гэтай культуры, гэтай мовы. Менавіта таму яна і Вялікая.

*1982*

## Чамусьці ўспомнілася...

Чамусьці ўспомніліся знакамітыя радкі з М.А. Някрасава:

*Ты и убогая,*
*Ты и обильная,*
*Ты и могучая,*
*Ты и бессильная,*
*Матушка Русь!*

Якая страшная паэзія! А мне кажуць: паэзія — гэта метафара. Паэзія, дарагія мае, гэта голас сумлення, гэта боль або радасць душы. А ці ёсць метафара? Ну хай будзе, калі ёсць. Але, але...

*1985*

## Чытайце і перачытвайце!..

Калі хто з сучасных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва лічыць, што ён на гэтым свеце вялікі пакутнік, што яму выпала надта суворая доля, — чытайце і перачытвайце, шаноўны, Кабзара — і вам стане сорамна за гэтыя свае думкі, за такое сваё самапачуванне.

Калі хто з сучасных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва лічыць, што ён ужо ўсё, што мог, зрабіў для Беларусі, для свайго народа, каб яго доля стала лепшаю, — чытайце і перачытвайце, шаноўны, Кабзара — і вам стане сорамна за гэтыя свае думкі, за такое сваё самапачуванне.

Калі хто з сучасных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва лічыць, што ён прыйшоў на зямлю толькі для таго, каб славіць красу прыроды, радасць жыцця, слодыч кахання і ласкі, і супакойвае сябе гэтаю думкай, і апраўдвае гэтым сваю абывацельскую пазіцыю, сваё ціхае мышынае сядзенне пад венікам, — чытайце і перачытвайце, шаноўны, Кабзара — і вам стане сорамна за гэтыя свае думкі, за гэты свой душэўны спакой, за гэтае апраўданне сваёй грамадзянскай бяздзейнасці, за такое разуменне прызвання творцы.

*1989*

## Чым ёсць для нас «Новая зямля» Якуба Коласа?

«Новая зямля» Якуба Коласа — гэта не паэма, як дагэтуль пішацца ва ўсіх падручніках па літаратуры. Гэта — звод паэм. Гэта — наш нацыянальны

эпас, — як у фінаў «Калевала», як у калмыкаў «Джангар». Гэта — вялікая кніга нашай духоўнасці. Гэта — Біблія нашай нацыянальнай славеснасці. Гэта — невымерная па сваіх багаццях скарбніца нашай роднай мовы. Гэта — беларуская ўсім сваім ладам-складам, самім духам сваім лексіка і фразеалогія, крылатыя выслоўі, ідыёмы, прымаўкі і прыгаворкі.

Каб ведаць наша мінулае і сучаснае, нашу нацыянальную ментальнасць, характар і душу беларуса, нашу народную педагогіку, ведаць амаль усё пра нашу прыроду, пра наш клімат, нашы поры года, пра асаблівасці гаспадарання на гэтай небагатай, але вельмі любай сэрцу селяніна зямлі, — каб ведаць усё гэта — трэба грунтоўна засвоіць «Новую зямлю» Якуба Коласа. На добры лад, гэтая кніга павінна быць настольнай у кожнай беларускай сям'і. Скажу больш: калі б усе кіраўнікі нашай дзяржавы належна засвоілі «Новую зямлю» — мы жылі б сёння намнога лепш. Намнога лепш!

*1993*

## Пра гумар — без гумару

Узровень гумару, іроніі і самаіроніі — гэта ступень узняцця над першабытнасцю, над тым станам чалавечага агульнажыцця, калі гумару, іроніі і самаіроніі не было, калі ўсё было сур'ёзна і занадта сур'ёзна. Чалавек стаў чалавекам, калі ён засмяяўся. («Сказаў не я, але і я скажу» — Пімен Панчанка.) Гумар — сведчанне свабоды духу, дэмакратызму ў пачуццях, у думках, у настроях, першы і найдакладны знак адрыву ад догмаў, ад схаластыкі, ад шаблону, ад руціны, коснасці і мерцвячыны.

*1999*

## Аб народных прыкметах і павер'ях

Пры нашым бальшавіцкім сацыялізме (г.зн. не сапраўдным сацыялізме) мы іх, на жаль, адкідвалі як забабоны, — не толькі павер'і, але і прыкметы. Як быццам чалавек ужо так вызваліўся ад усяго ірацыянальнага ў сабе, як быццам ужо так пазнаў сябе, сваю натуру і неабсяжны свет жывой прыроды. І космас, космас! — рух, ход свяціл, зорак, прыроду і заканамернасці стыхій!.. О, не! Ой як далёка нам яшчэ і сёння да гэтага пазнання! Павер'і нам тут наўрад ці дапамогуць, а вось прыкметы — спаўна.

У прыкметах і павер'ях — свайго роду засцярога ад бяды-няшчасця, павучанні, чаго трэба асцерагацца, чаго нельга рабіць. І ў гэтым была мудрасць. Напрыклад, прыкметы, якія датычаць цяжарнай жанчыны. Ці маюць яны сэнс? Ці не звязаны яны з псіхалагічнымі працэсамі, што адаб'юцца на дзіцяці, на яго здароўі? А хіба не пра пэўныя засцярогі гаворыць сучасная медыцынская навука? У штодзённым жыцці прыкметы і павер'і неслі і дарадчую, і перасцерагальную, і нават забарончую функцыю. Вядома, былі і павер'і, пра якія мож-

на сказаць: чаго толькі людзі не прыдумлялі — у сваіх жыццёвых клопатах! Напрыклад, як хацелі ратаваць свае палеткі і гароды ад засухі, якая заўсёды была страшнай бядой для селяніна. Спрабавалі магічным спосабам выклікаць дождж. Сыпалі ў студню мак і галасілі: «Макарка ўтапіўся! Макарка ўтоп!» Гэта сімвалізавала дождж.

*2002*

## А вам, сяброчкі запраданцы...

У верасні мінулага года ўпершыню пад уласным прозвішчам я апублікаваў у «Народнай волі» свой усенародна любімы «Сказ пра Лысую гару». У тым жа нумары газеты быў змешчаны і мой вялікі артыкул, у якім я гранічна шчыра распавёў, як была напісана паэма. І што ж? Якое было рэагаванне маіх сяброў-паэтаў на гэта вымушанае прызнанне? (Прымусіў мяне гэтак зрабіць адзін нахабны прэтэндэнт на аўтарства «Сказа».) А было яно такое: адны — ні словам, ні гукам не адазваліся на гэты факт — як на не вартую ўвагі дробязь у літаратурным жыцці Беларусі. Ні слова, ні гуку мне — ні пры сустрэчы, ні па тэлефоне. Другія — абвінавацілі мяне ў літаратурным зладзействе: прысвоіў чужую працу. І гэта — публічна, у друку!

За паўгода, што прайшло з часу той публікацыі ў «Народнай волі», я вельмі многа зразумеў. Я зразумеў, што верных сяброў-паэтаў у мяне няма. Няма, бо іх і не было. Ну што ж? Праглынём! Як бы крыўдна і горка ні было — праглынём! А для сяброў-паэтаў працытую тут апошнюю страфу «Сказа» — з заменай першага радка:

*А вам, сяброчкі запраданцы,*
*Як і раней, я гавару:*
*Чытайце, з розумам чытайце*
*Мой «Сказ пра Лысую гару»!*

*2004, красавік*

## З думак пра Багдановіча

***

Творчасць Максіма Багдановіча яшчэ раз — і найлепшым чынам — даказвае, што вялікі талент можа здзейсніцца толькі ў вялікай асобе, здольнай на глыбокія і моцныя перажыванні, здольнай спазнаць невымерныя мукі-пакуты на шляху пераадолення жыццёвых нягод і выпрабаванняў.

***

Сваім чуйным сэрцам і праніклівым розумам ён здолеў ахапіць самае галоўнае ў тагачасным сацыяльным і грамадска-палітычным жыцці беларускага народа, пранікнуць у глыбінную сутнасць найбольш актуальных праблем часу,

дакладна «прачытаць» і зразумець самыя гарачыя, самыя запаветныя мары ў душы працоўнага беларуса. І ў той жа час — з невядомай да яго псіхалагічнай праўдзівасцю, дакладнасцю і пераканаўчасцю — здолеў сказаць пра сябе, пра сваё асабістае, індывідуальна-непаўторнае перажытае і спазнанае ім, — і сказаць так чалавечна, так шчыра, так даверліва, што чытачу ў адказ нічога іншага не застаецца, як адказаць яму гэтаксама чалавечай шчырасцю і даверам, і прасякнуцца пачуццём найглыбокай удзячнасці.

***

Пра крытыку М. Багдановіча ў беларускай прэсе канца 1920-х — 1930 х гадоў можна сказаць адно: калі да паэзіі прыкладаюцца вульгарызатарска-дагматычныя меркі, то асабліва трацяць ад гэтага такія паэты, як Максім Багдановіч — паэты з кроветачывым сэрцам.

*2010*

## Калі не ўзяцца ад калыскі...

Калі не ўзяцца за выхаванне пачуцця нацыянальнай годнасці ад калыскі, ад дзіцячага садка (праз песенькі, праз забаўлянкі, пацешкі, заклічкі, казачкі), ад школы (праз творы мастацкай літаратуры, праз кнігі па гісторыі Бацькаўшчыны), мы ніколі не створым нацыю гаспадароў сваёй зямлі, якія і думкі не дапускаюць, што мы тут не гаспадары і што нехта тут будзе намі камандаваць. Так не дапускаюць гэткай думкі нашы суседзі: палякі, літоўцы, латышы, эстонцы... Яны пачынаюць ад калыскі, ад дзіцячага садка, ад школы... На вялікі жаль, мы з іх прыкладу не бярэм.

*2014*

## Але якая мова! Якая мова!..

Вядомы наш гісторык, літаратар і публіцыст Лявон Баршчэўскі адшукаў у рукапісным аддзеле кракаўскай бібліятэкі князёў Чартарыйскіх невядомы дагэтуль беларускім даследчыкам паэтычны твор пачатку XIX стагоддзя «Верш аб рэлігіі і абычайнасці». Паводле жанравых крытэрыяў гэта невялікая, на 206 радкоў, паэма. Мяркуючы па тым, што ўсе дакументы тэчкі, у якой знойдзены «Верш», належаць да перыяду 1812-1824 гадоў, і знаходку Баршчэўскага трэба датаваць гэтым часам. Значыць, пачатак 19-га стагоддзя. Значыць, твору 200 гадоў «ад роду». Аж хочацца паўтарыць: дзвесце гадоў!

Літаратуразнаўца М. Хаустовіч мяркуе, што знойдзены твор можна лічыць варыянтам вядомай вершаванай гутаркі «Вось цяпер які люд стаў» (запісанай у 1848 годзе), бо мае тэкстуальныя супадзенні. Даследчык нашай старой літаратуры Я. Янушкевіч схіляецца да думкі, што гэта ўсё ж твор самастойны, хоць пэўная пераклічка з «гутаркай» і ёсць.

Ну, спадзяюся, навукоўцы да нейкай адной пэўнай дэфініцыі прыйдуць. Мяне ўразіла — вельмі ўразіла! — іншае: мова твора. Якая цудоўная, каларытная беларуская мова! Дзвесце гадоў таму! Значыць, якія былі магчымасці развіваць літаратуру на жывой народнай мове! Вось толькі некалькі прыкладаў:

*Як мы з Богам, так Бог з намі*
*Паступляе, з гультаямі...*

*Свет згарнуць адзін хацеў бы,*
*Калі столькі сілы меў бы...*

*Добры пойдзе ў Боскі рукі,*
*А лядашчы — ў Пекла мукі...*

*Такі, хто чужому хцівы,*
*Хрысціянін непраўдзівы...*

*Але з чым, браце, быў у калысцы,*
*З тым быць прыйдзе і ў магілцы...*

*Як у фляшку хто зазвоніць —*
*Там цябе як ліха гоніць.*

*Піеш многа, аж па горла —*
*Не дармо назад папёрла...*

*Як сам на свеце бязбожны,*
*Хочаш, штоб такі быў кожны...*

Якая мова! Лексіка, фразеалогія, сінтаксіс! Дзвесце гадоў таму! Дык думайма, браточкі, думайма!..

*2015*

## Пра педагогаў і педагогіку

Яны лічаць сябе педагогамі, настаўнікамі дзятвы, моладзі. Яны разважаюць пра мэты і задачы педагогікі, пра ролю настаўніка ў выхаванні маладога пакалення. Яны выпрацоўваюць тэарэтычныя асновы навучання ў сучаснай пачатковай, базавай і сярэдняй школе. Яны ўпэўненыя, што званне педагога носяць заслужана. Яны — гэта ў Беларусі. У Беларусі яны не ведаюць, што і тысячы, і сотні гадоў назад, і яшчэ зусім нядаўна сапраўдная педагогіка пачыналася з педагогікі Роднага слова, што па-за Родным словам ніякай педагогікі няма і быць не можа. Як жа сталася, што нейкія нелюдзі вытруцілі з іх свядомасці гэтую святую ісціну?

*2015*

## На гэта звалі...

«Ну вось і ўсё, на гэта звалі». Так любіла казаць адна мудрая і вельмі дасціпная беларусачка, паставіўшы на стол — для гасцей або для сямейнікаў — апошнюю запланаваную страву. Для гасцей — блізкіх сяброў, вядома, якія ўжо даўно ведалі пра гумарыстычны талент гаспадыні. Вось і ўсё, на гэта звалі — значыць: больш нічога не дам, а то, можа, вы яшчэ на што спадзяецеся, яшчэ чаго чакаеце.

*2015*



# Таццяна Грыневіч-Матафонава

спявачка, музыка. Скончыла Маладзечанскую музычную вучэльню і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Працуе ў Белдзяржфілармоніі. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Ашмянах. Жыве ў Мінску.

# Адкрыць у сабе Беларусь...

***Пра тое, як філарманічную сцэну яна змяніла на рамантыку бардаўскага жыцця, пра ўплыў песні і танца на фармаванне нацыянальнага характару, а таксама пра тое, што без веры не адродзіцца Беларусь — гутарка з вядомай спявачкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай.***

**Верасень:** — *Спадарыня Таццяна, якую падзею ў сваім жыцці вы лічыце знакавай, лёсавызначальнай?*

**Таццяна Грыневіч-Матафонава:** — Мне было тады два гады. Дзядзька, пачуўшы, як я, бегаючы па хаце, напяваю сабе песенькі, сказаў: «Будзе мая пляменніца спявачкай. «Гэтыя словы, як зярняткі, прараслі з маёй падсвядомасці, калі мне споўнілася 16 гадоў. З таго часу ўсё жыццё было аддадзена спевам.Такі ж лёс раздзяляе са мной сыночак Адась, які спявае з самага маленства.

**В.** — *Чаму менавіта нараджэнне сына, а не нейкая іншая падзея, падштурхнула вас размаўляць і спяваць па-беларуску?*

**Т. Г.-М.** — А што застаецца маці, калі нараджаецца беларус? Толькі размаўляць і спяваць па-беларуску. Яшчэ за некалькі гадоў да нараджэння сына пачалося маё звяртанне да мовы праз захапленне архітэктурай, гісторыяй, літаратурай, культурай Беларусі... Але толькі з нараджэннем дзіцяці я нарэшце адкрыла Беларусь у сабе, бо бацькоўскі прыклад заўжды мусіць граць галоўнейшую ролю ў выхаванні чалавека.

**В.** — *Як вы, філарманічная артыстка, прафесійная спявачка апынуліся ў сябрыне выканаўцаў аўтарскай песні?*

**Т. Г.-М.** — Неяк так сталася, што два Зміцеры — Бартосік і Сідаровіч прынялі мяне ў сваю бардаўскую кампанію, і мы ездзілі на сустрэчы з дзецьмі па школах, дзе я спявала вядомыя беларускія песні «Мой родны кут», «Спадчыну», «Зорку Венеру». Але вядома, каб бардам звацца, трэба пісаць песні самому. А каб трапіць у залатую сотню бардаў свабоды, то трэба і не адну песню напісаць, ды яшчэ і на ўласны верш. Так з лёгкай рукі Зміцера Бартосіка я прыбілася да берага бардаўскай песні...

**В.** — *Ведаю, што вам асабліва падабаецца спяваць рамансы. Як бы вы ацанілі сённяшні стан беларускага раманса?*

**Т. Г.-М.** — Вось думаю, ці за дзесяць год працы ў філармоніі сустракаўся мне ў афішы «Вечар беларускага раманса»? Баюся, што не. Адзінае, хочацца верыць, што гэта я такая няўважлівая .

**В.** — *З гэтай прычыны і ўзнікла ідэя запісу альбома «Шыпшына»? Што сабой уяўляе гэтая кружэлка?*

**Т. Г.-М.** — Так. Вітаўт Мартыненка на працягу некалькіх гадоў мне казаў, што трэба запісаць кружэлку рамансаў, бо ў нас такой няма. Вось за гэтыя




*З сынам Адасем і Тамашом Сідаровічам*

некалькі гадоў, дзякуючы сябрам, і сабраўся адпаведны матэрыял. Кірыл Насаеў параіў звярнуцца да творчасці Элы Зубковіч і Канстанціна Галкоўскага. Аляксей Крукоўскі, з якім мы граем народныя танцы, сказаў, што абавязкова трэба праспяваць песню з кінафільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Канешне, я не магла абысці ўвагай і творчасць цудоўнага беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Таксама на кружэлцы прадстаўлены некалькі маіх рамансаў.

**В.** — *У суаўтарстве са Зміцерам Сідаровічам вы спрычыніліся да выхаду ў свет «Дзіцячага альбома»? Колькі слоў пра гэты праект. Каму належала ідэя запісу дзіцячых песень? Як ішла праца над кружэлкай? Хто прыняў непасрэдны ўдзел у запісе?*

**Т. Г.-М.** — Дзіцячы альбом складаецца з дзвюх частак, у першай — беларускія народныя дзіцячыя песні, якія, як пасля аказалася, ужо 100 год таму Антон Грыневіч уклаў у свой дзіцячы спеўнік, у другой — падборка калядных і школьных песень. Ідэя такога праекта прыйшла да нас адначасова са Зміцерам Сідаровічам падчас адной з размоваў пра выхаванне нашых дзяцей — Адася і Тамаша. У той жа вечар дома знайшлася кніга з народнымі дзіцячымі песнямі і пачалася праца, якая цягнулася добрых сем гадоў. Галоўнымі выканаўцамі песень былі Адась і Тамаш, якім на момант першых запісаў у студыі было 5 і 8 гадоў. Дарэчы, яны і зараз працягваюць спяваць разам, толькі ўжо дарослымі галасамі. Спадзяюся, некалі гэтыя маленечкія зорачкі заззяюць напоўніцу...

**В.** — *Большасць беларускіх выканаўцаў аўтарскай песні падыходзяць да*

*сваёй дзейнасці спантана... Выхад іхніх альбомаў, як правіла, эклектычны і непаслядоўны. У вашай жа дыскаграфіі назіраецца цэльная канцэпцыя. Вы выдалі некалькі тэматычных альбомаў. Сярод іх альбомы з дзіцячымі, каляднымі і школьнымі песнямі. Якой будзе тэматыка наступнай кружэлкі?*

**Т. Г.-М. —** Так, плюс быў яшчэ аўдыёдапаможнік для настаўнікаў і дзяцей па беларускай літаратуры, у якім можна знайсці ўсе вершы з 4 па 11 клас, якія вучацца на памяць, а зараз ужо амаль падрыхтаваны да выдання працяг аўдыёдапаможніка, у якім сабраны вершы для выразнага чытання, якія праходзяць у школе цяпер, і тыя, якія былі з розных прычынаў скарочаны са школьнай праграмы. Зараз у працэсе рэалізацыі маюцца яшчэ два вялізныя праекты. Гэта «Галасы паэтаў», ды кружэлка з беларускімі народнымі танцамі. Ну і, вядома, не губляю надзею дарабіць зноў жа распачаты працяг «Паспевак» — песні ды пераклады Сержука Сокалава- Воюша. Яшчэ я абяцалася, што буду займацца жаўнерскімі песнямі, дык і займаюся. Але, на жаль, не ўсё рабіцца так хутка, як хочацца.

**В. —** *Каго з беларускіх музыкаў вы лічыце сваёй «раднёй па духу»? Чыя паэзія кладзецца на музыку вашай душы?*

**Т. Г.-М. —** Усіх, з кім я калісьці супрацоўнічала, можна лічыць роднымі па духу, бо без духоўнага адзінства ці атрымалася б супрацоўніцтва? Тое ж скажу і пра паэзію. Музыка маёй душы ўжо пакладзена на вершы Сержука Сокалава-Воюша, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Рыгора Барадуліна, Ніны Мацяш, Генадзя Бураўкіна. А паэзія Міхася Скоблы, праўда пакуль што без музыкі, вельмі натхняе мяне ў кожны наш сумесны выступ.

*На філарманічнай сцэне*





*З Міхасём Скоблам ля музея М. Багдановіча ў Гародні*

**В.** — *Цягам трох гадоў вы супрацоўнічалі з хорам праваслаўнага сабора Гайнаўкі. Зварот да царкоўных песнаспеваў — чыста прафесійнае ці духоўнае памкненне?*

**Т. Г.-М.** — Калі прафесіяй займаешся ад душы, то рана ці позна духоўнасць прыйдзе, тым больш, калі твая прафесія звязана з харавымі спевамі.

**В.** — *Якое ў вашым жыцці месца займае вера? На якой мове вы звяртаецеся да Бога?*

**Т. Г.-М.** — Ужо доўгі час я, звяртаючыся да каго б то ні было, ужываю беларускую мову. А да Бога сам Творца загадаў звяртацца на роднай мове. У жыцці я кожны дзень малюся за родных, блізкіх, сяброў і ворагаў. Лічу, што без веры не адродзіцца Беларусь...

**В.** — *Аднойчы вы сказалі, што песня і танец фармуюць беларускі характар... А што тады рабіць абдзеленым голасам і слыхам людзям? Ці існуе ў Мінску народная школа танца, і як туды трапіць?*

**Т. Г.-М.** — Навошта ж так бязлітасна казаць пра абдзеленасць? Кавалак дрэва, калі над ім добра папрацаваць, можа ператварыцца ў скрыпку... Калі ж доўга пасядзець і папрактыкавацца ў музыцы, то й скрыпка нарэшце загучыць. Хто паверыць, што я сама калісьці была абдзелена голасам? Так што наведвайце вечарыны народнага танца разам з капэлай «На таку» і клубам «Сіта» і забудзьце пра тое, што хтосьці чымсьці абдзелены. Пакуль што вечарыны праходзяць у верхнім горадзе кожную нядзелю з 18-й да 21-й гадзіны, але неўзабаве пяройдуць на закрытую пляцоўку. Больш дакладную інфармацыю можна знайсці ў фэйсбуку, адкрыўшы старонку «Сіта», ці ў кантакце — суполка «Беларускія народныя танцы».

**В.** — *Ці згодны вы з тым, што «каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць»? Дзе вам пашчасціла прадстаўляць беларускую песню за мяжой? Дзе беларуская песня больш запатрабаваная — на Радзіме ці за межамі Беларусі?*

**Т. Г.-М.** — У 2009 годдзе мы са Зміцерам Сідаровічам прадстаўлялі ў Нью-Ёрку і Кліўлендзе не толькі беларускую песню, але й беларускі народны танец. Склалася такое ўражанне, што беларусы, якія жывуць за акіянам з большай цеплынёй нясуць Беларусь у сваіх сэрцах, чым тыя, хто ні разу не выязджаў з Беларусі. Таму сапраўды, «каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць», толькі б не забываць вяртацца...

**В.** — *Як актыўная ўдзельніца кампаніі «Будзьма беларусамі», вы частая госця беларускай глыбінкі. На вашу думку — кампанія вычарпала сябе? Ці ў яе наперадзе вялікія перспектывы? Якую форму дзейнасці кампаніі вы лічыце найбольш запатрабаванай?*

**Т. Г.-М.** — На маю думку, у кампаніі «Будзьма беларусамі!» наперадзе працяг вялікай працы, якая ўжо колькі год паспяхова вядзецца.

**В.** — *Кажуць, што асабліва хваляўніча і адказна выступаць перад землякамі... Ці бываеце вы з канцэртамі на малой Радзіме? Як беларускую песню ўспрыймаюць у Ашмянах?*

**Т. Г.-М.** —Канешне, бываю. А беларускую песню ўспрымаюць выдатна не толькі ў Ашмянах, але паўсюль, дзе адбываюцца мае выступы.

**В.** — *Гледзячы на манеру вашага выканання, вы вельмі трапяткі і эмацыйны чалавек... Ці можна пачуццё, якое вы перажываеце на сцэне, назваць шчасцем?*

**Т. Г.-М.** — Так. Гэта сапраўднае шчасце...



# Леанід Клён

паэт. Удзельнік беларускага патрыятычнага руху моладзі ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў. За гэта сядзеў у польскіх турмах. Нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Юхнавічы Слонімскага павета. Памёр ад сухотаў 16 сакавіка 1931 года.

# Жыў на Слонімшчыне Клён...

Калі ў 1920-х—1930-х гадах Заходняя Беларусь апынулася пад Польшчай, амаль у кожнай беларускай вёсцы дзейнічалі падпольныя моладзевыя ячэйкі. Сябры ячэек, а гэта ў асноўным былі юнакі і дзяўчаты ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў, выступалі супраць вялікіх непасільных падаткаў, дамагаліся ад польскіх уладаў адкрыцця беларускіх школ, пісалі ці друкавалі на шапірографе лістоўкі і распаўсюджвалі іх па вёсках і хутарах, адкрывалі бібліятэкі-чытальні і г.д. Сярод актывістаў ячэек на Слонімшчыне ў той час быў і 17-гадовы юнак з вёскі Юхнавічы Леанід Бялькевіч.

Хлопец быў малапісьменны, бо не хапала грошай на вучобу. Таму самаадукацыяй займаўся сам. Вельмі шмат чытаў, асабліва любіў творы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Менавіта яны натхнялі юнака самому паспрабаваць пісаць. Ён браў паперу, аловак і знікаў на некалькі гадзін. На ўлонні роднай прыроды, каля аднаго выгоністага клёна, пісаў паэтычныя радкі. А потым іх акуратна перапісваў у асобныя сшыткі. А каб ніхто не здагадваўся, пад вершамі ставіў подпіс: Леанід Клён.

У той час па ўсёй Заходняй Беларусі пашыраўся патрыятычны рух, асабліва сярод беларускай моладзі. Пачала дзейнічаць легальная арганізацыя — Беларуская сялянска-рабочая грамада. Каб стрымаць яе рост, урад Пілсудскага ў студзені 1927 года разграміў Грамаду. Пачаліся масавыя арышты грамадаўцаў і актывістаў.

У 1928 годзе на Слонімшчыне арыштавалі і Леаніда Бялькевіча. Спачатку яго прывезлі ў Міжэвіцкі пастарунак паліцыі, а потым у Слонімскую дэфензіву. Там юнака моцна катавалі. Паліцыянты стараліся біць Леаніда так, каб яму моцна балела і нідзе не было відаць знаку катаванняў. Яму клалі на грудзі дошку і па дошцы білі цяжкай жалезнай гірай. Вязень кашляў крывёй, а вонкавых прыкмет пабояў не было.

Пасля ўсіх здзекаў Леанід хутка захварэў на сухоты. Але турэмшчыкі датэрмінова яго выкінулі з турмы, каб не памёр за кратамі. Пазней дэфензіўшчыкі так зрабілі і з другім слонімскім юнаком —змагаром за беларускасць Уладзімірам Бялько (1911-1933). Ён выдаваў падпольную газету «Піянер», пісаў вершы. Юнака з вёскі Мялканавічы таксама катавалі ў турме, а потым адправілі дамоў, дзе неўзабаве і памёр. На жаль, «Піянера» і вершаў Уладзіміра Бялько не захавалася.

Вярнуўшыся з-за кратаў у родную вёску Юхнавічы, Леанід Бялькевіч радаваўся вясноваму сонцу, радаваўся, што паліцыя дома не змагла знайсці некалькі яго сшыткаў з вершамі, якія ён хаваў пад саламянай страхой. А там былі напісаны вершы, прысвечаныя роднай прыродзе, вёсцы, сябрам, а таксама актывістам Грамады Максіму Бурсевічу і Браніславу Тарашкевічу. І хай яны не вельмі дасканалыя ў мастацкіх адносінах, але для гісторыі літаратуры

яны маюць сваё гістарычнае значэнне, таму іх нельга выкінуць, як словы з песні. Вось некалькі радкоў, напрыклад, з верша, прысвечанага Браніславу Тарашкевічу:

*Вельмі гоняць цябе часта,*
*Не даюць казаць прамоў,*
*Бо ты есць адзін з найлепшых*
*Беларускіх змагароў...*
*Гонар, гонар табе, браця,*
*Ад усіх тваіх братоў...*
*Ад усіх, што плачуць слёзна*
*Пад няволяй у паноў.*

Пасля зняволення, Леанід Бялькевіч з кожным днём слабеў, сухоты грызлі яго цела. А 16 сакавіка 1931 года юнака не стала.

Пасля смерці Леаніда, яго старэйшы брат Іван шмат гадоў зберагаў сшыткі з вершамі Клёна. А калі не стала і Івана — сшыткі з рук у рукі перадаваліся жыхарамі вёскі Юхнавічы.

А потым яны наогул зніклі. І толькі гадоў пяць таму, адна з вясковых жанчын прынесла ў рэдакцыю «Газеты Слонімскай», дзе я працаваў, некалькі асобных спісаных атрамантам лістоў з вершамі юнака. Аказалася, што гэта лісты з тых самых вершаваных сшыткаў паэта, якія ён захоўваў. На адзінаццаці ўцалелых лістах паперы прыгожым почыркам напісана шмат вершаваных радкоў. Яны вельмі розныя ў мастацкіх адносінах, але тэматыка іх даволі адметная. Гэта вершы «Зімняя ноч у вёсцы», «Школа ў Мяльканавічах», «Беларуска», «Раб» і іншыя. Пад некаторымі стаяць гады, пачынаючы з 1926-га і да 1931-га. Лежачы хворы ў ложку, Леанід Клён працягваў пісаць паэтычныя радкі і занатоўваць іх у свае сшыткі. Некалькі лепшых вершаў Леаніда Клёна прапаную чытачам «Верасня».

## У турме

Ледзь сонца часамі загляне
І вецер праз краты ўляціць,
Успомніцца дзень на паляне,
Як ярка раса зіхаціць.
Як птушка пад неба ўзлятае,
Вясёлую песню пяе.
О сэрца! Пара залатая —
Далёкія мары твае.
Пакінь успаміны на потым,
Хоць дні прад вачыма ўстаюць.
А мур прыціскае, каб з потам
Асесці на душу маю...

Смяюцца паганыя каты
Над доляй працоўных людзей.
На нашай крыві вы багаты, —
Расплата настане, прыйдзе!
*1928*

## Мы чакаем лепшых дзён

Неба бровы свае хмурыць,
Рассцілаецца імгла,
Адным словам, дзень пануры,
Нібы восень залягла.
Жыць без сонейка не міла,
Нібы цісне цяжкі сон,
Жыццё збліжана з магілай —
Мы ж чакаем лепшых дзён.
І таму ў душы надзея
Узнялася, узрасла.
Чую: дух мой маладзее,
Хачу ветру просьбу слаць.
Падзьмі, ветрыку, з дубровы
Нам — пакутнікам зямлі,
Памажы сарваць аковы,
Каб свабодна зажылі...
*1929*

## Будзе прабуджэнне

Усё маўчыць наўкола,
Як бы паўмірала.
Што цвіло учора —
І таго не стала.
Але што жывое
З таго сну прачнецца,
Ветрам над зямлёю
Вольна пранясецца.
Траўку закалыша,
Хмаркі ў свет пагоніць.
Пыл рване на полі,
Ў лесе загамоніць...
То не сон-дрымота

Нас апанавала,
Гэту цемру сее
Панская навала.
Народ, узнімайся,
Разбівай кайданы!
Выпрамляйце плечы,
Хто быў закаваны!
Забурляць зноў рэчкі,
Зашумяць раслінкі,
Туманы рассыплюць
Дробных слёз расінкі.
Як у цёмных хатах
Жыццё марнавалі,
Ў гады маладыя
З голаду ўміралі.
Як гналі ў астрогі,
Каб думку скаваці,
Слёзы пралівалі
І сёстры, і маці.
Як над нашай песняй
Кпілі бессардэчна,
Як тапталі мову,
Каб знішчыць навечна.
Як свістала пуга
Па сялянскіх спінах,
Як хлеб забіралі,
А нам — еж мякіну.
Як мы ад хваробаў
Лячыліся самі,
Як мы з адным грошам
Ішлі ва ўсе крамы...
Ўсё складзем у песню,
Заспяваем смела,
Каб няслося рэха,
Над зямлёй грымела.

*1929*

## Развітанне

Усе лепшыя думкі і мары
Я у сшытак пасеяць хацеў,

Душою у творчым разгары
Усё ахапіць летуцеў.
Ды мала мне часу і сілы
Ўдзяліла ў змаганні жыццё.
Ў палёце апошні раз крылы
Свае я яшчэ распасцёр.
Не скажа ніхто, што я здрадзіў,
У бітве пакінуў сяброў.
Я гасну, як сонца у садзе,
Як промні, распырскваю кроў.

*1931*

**Прадмова і публікацыя вершаў Сяргея Чыгрына**



# Дзяніс Тарасенка

вакаліст і гітарыст гурта «Разбітае сэрца пацана». Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Паўгадзіны з меламанам

***Гурт «Разбітае сэрца пацана» існуе з канца 90-х гадоў. Зараз цяжка нават уявіць беларускую музычную культуру без іх насмешлівых, часам сумных, але заўсёды праўдзівых балад пра сутнасць нашага жыцця. Аб тым, што творыцца ў галовах музыкантаў «РСП» нам распавёў лідар гурта Дзяніс Тарасенка.***

**Альдона Мартыненка:** — *Пачнем з самага пачатку: аб чым ты марыў у дзяцінстве? Было канкрэтнае ўяўленне таго, чым ты хочаш займацца ў жыцці?*

**Дзяніс Тарасенка:** — Можна сказаць, што дзяцінства ў мяне яшчэ не скончылася і, я спадзяюся, ніколі не скончыцца. А так, калісьці я марыў стаць Віктарам Цоем, потым Куртам Кабэйнам (усміхаецца).

**А.М.** — *Калі б табе тады расказалі аб тым, чым ты будзеш займацца зараз, што б ты падумаў?*

**Д.Т.** — Я б падумаў «Ёлкі-палкі, стары хрыч, а сэнсу няма аніякага» (смяецца).

**А.М.** — *Чым ты цікавішся акрамя музыкі?*

**Д.Т.** — Жыццём, усім, што адбываецца навокал. Натуральна, мяне цікавіць кіно, фатаграфія, тэатр, літаратура, розныя мастацкія з'явы. Але больш за ўсё я зараз цікаўлюся сваім дзіцём. Ён кожны дзень расце, кожны дзень з'яўляецца нешта новае. Назіраць за ім, быць часткай яго свету — гэта і ёсць сапраўднае жыццё. Гэта самае цікавае, што зараз са мной адбываецца.

**А.М.** — *Як удзельнікі гурта сышліся разам? Шукалі каго-небудзь спецыяльна?*

**Д.Т.** — Не, спецыяльна нікога не шукалі. Ёсць проста такі чалавечы рэзананс. Лёс так склаўся, што мы, так бы мовіць, рэзануліся (усміхаецца). З Пашкам Гарадніцкім мы аднакурснікі, вучыліся разам. З басістам Эндру (Эндру Осіпчык) мы наогул знаёмыя са школы. А Саня Кавалёў — гэта чалавек, які проста не мог не апынуцца ў нашым складзе. Мы граем ужо столькі гадоў разам, адзін аднаго дапаўняем. Натуральна, я дзякую лёсу. І спадзяюся, што яны мяне яшчэ пацерпяць (смяецца).

**А.М.** — *Калі вы толькі пачыналі, вы асэнсоўвалі, у якім стылі плануеце развівацца? Была канкрэтная канцэпцыя?*

**Д.Т.** — Канцэпцыя выходзіла з назвы «Разбітае сэрца пацана». То бок, шчымлівыя песні пра няшчаснае каханне.

**А.М.** — *Што вас прывабіла ў гэтай тэме?*

**Д.Т.** — Па сутнасці, гэта самая важная тэма, самая галоўная. Таму што ўсе мы жывем каханнем. Так прыродай дадзена. Пакуль чалавек знойдзе сваю другую палавінку, ён праходзіць праз вялікі шэраг расчараванняў і няўдач. Гэтая тэма невычарпальная. Пра што яшчэ спяваць, як не пра каханне? Пра якое

каханне спяваць, як не пра няшчаснае? Усё гэта ў нашым жыцці ёсць. Трэба толькі быць смялейшым і не хаваць у сабе, а, наадварот, выцягваць і дзяліцца з публікай. А публіка ўжо знаходзіць з чаго смяяцца, а з чаго плакаць...

**А.М. —** *Памятаеш свой першы выступ? Як успрымала публіка? Якія ўражанні засталіся?*

**Д.Т. —** Я цудоўна памятаю свой першы выступ! Гэта было фенаменальнае шоу! Аж дагэтуль я смяюся, калі ўспамінаю (*смяецца*). Гэта было нешта тыпу студэнцкага капусніка. У нас было тры песні. Прычым усе тры на абсалютна аднолькавую мелодыю. Зараз мы пакінулі яе толькі ў песні «Розавы закат». На той час мы гралі пад баян і фартэпіяна. Матэрыял у нас быў зусім свежы, для нас саміх усё было цікава і смешна. Нам настолькі падабалася выконваць гэтыя песні, што, калі мы выйшлі на сцэну перад студэнцкай аўдыторыяй, мы проста не змаглі ніводную дайграць да канца. Мы пачыналі граць, спыняліся і проста рагаталі па дзесяць хвілін. Адзін радок праспяваем і рагочам, не можам стрымацца. І, натуральна, ад нашага смеху рагатала ўся зала. Нас не адпускалі са сцэны, прасілі даспяваць хаця б адну песню, каб даведацца, чым жа скончылася гісторыя, які фінал. Такім чынам, мы так і не дайгралі тыя тры песні да канца. Гэта быў самы першы наш выступ, дэбют. А ўжо праз месяц мы давалі сольны канцэрт ва ўніверы, на які прыйшло чалавек 150 у невялічкую аўдыторыю. За месяц мы насачынялі песень дзесяць. І з такім небывалым трыумфам адыгралі, што зразумелі: усё нармальна, людзям падабаецца, трэба пускаць у масы (смяецца).

**А.М. —** *Песні «РСП» адлюстроўваюць вашыя рэальныя думкі, пачуцці, здарэнні ў жыцці? Ці ўсё гэта прыдуманыя гісторыі?*



**Д.Т.** — Усё гэта абсалютна рэальныя рэчы, усе гісторыі праўдзівыя, усе імёны сапраўды існуюць. Вось, напрыклад, падзея з жыцця: чалавек прыйшоў дахаты, а яго дама сэрца ўжо з іншым. У каго не здаралася? Проста на гэта можна глядзець, як на трагедыю, а можна — як на трагікамедыю... Мне здаецца, з боку трагікамедыі глядзець на такога кшталту падзеі нашмат цікавей. І весялей.

**А.М.** — *Чаму вырашылі спяваць на трасянцы?*

**Д.Т.** — Я табе хачу сказаць, што я трасянку не выбіраў. Гэта яна мяне выбрала. А як па-іншаму? У любой краме, аптэцы, тралейбусе, дзе заўгодна гучыць трасянка. Аднойчы быў выпадак: размаўляю з маці, і яна кажа: «Вот ён сядзіць і жджэ». А ў мяне ж вуха ўжо заточанае на такія выразы (*смяецца*). Я перапытваю:

— Што?

— Ну вось ён сядзіць і жджэ.

— Што ён робіць??

— Ну жджэ, жджэ!

— Але ж, мама, чаму не «Ждёт» ці не «Чакае»?

— Ну дзе ж ён чакае, ён жджэ.

**А.М**. — *Суровая рэальнасць...*

**Д.Т.** — Абсалютна. Таму, калі раней я вагаўся, то пасля фразы, што «ён сядзіць і жджэ», пытанне адпала.

**А.М.** — *Якія накірункі ў музыцы ты хацеў бы паспрабаваць?*

**Д.Т.** — Напэўна, джаз... Было б цікава ім авалодаць. Усё жыццё я імкнуся наблізіцца да гэтай музыкі, але нешта мне замінае. Магчыма, адсутнасць спецыяльнай музычнай адукацыі альбо нейкага пачуцця джазу, практыкі.

**А.М.** — *Ты сам часта праслухоўваеш свае песні?*

**Д.Т.** — Па асабістай волі — не (*смяецца*). Мне жыццё зараз само падкідвае нашы песні кожную раніцу. Таму што мой дзіцёнак з немаўляцтва падсеў на музыку «РСП». Сур'ёзна, ён цягне мяне за руку і крычыць: «Камон, камон! Муніку, тата! Камон, камон! Ці-ці-ці!». А я эксперыментаваў, ставіў іншыя песні — не, толькі «РСП» падавай. І мне таксама даводзіцца слухаць... Я гэтыя паўгадзіны называю «Паўгадзіны з меламанам». Была такая перадача раней на маладзёжным радыё. А так, нашы песні я слухаю толькі на канцэртах у асабістым выкананні. Але гэта не зусім тое, што іншыя чуюць. Ёсць такая спецыфіка артыстычнай працы: ты выконваеш нешта адно, а слухач чуе іншае. Калі я спяваю, мне здаецца, што я такі «ваааааў», а потым слухаю на тэлефоне мабільным і думаю: «Госпадзі, што гэта такое?! Гэта ж не джаз!» (смяецца). А мне ўсё здаецца, што я граю джаз.

**А.М.** — *Вядома, што вы граеце канцэрты не толькі ў Беларусі. Шмат дзе выступалі за мяжой?*

**Д.Т.** — Мы выступалі ў Польшы, Літве і Расіі.

**А.М.** — *На твой погляд, чым замежная публіка адрозніваецца ад беларускай?*



**Д.Т.** — У прынцыпе, нічым. Толькі тым, што беларусы ведаюць словы лепей, чым слухачы за мяжой. Замежная публіка больш услухоўваецца ў музыку. Бо гэта ўніверсальная мова. Карацей кажучы, яшчэ не было людзей, якія б не пранікліся.

**А.М.** — *А ёсць месца, дзе хацелася б сыграць канцэрт?*

**Д.Т.** — Ёсць. Гэта ўсе месцы, дзе мы гралі і, дзе мы не гралі. Мне заўсёды хочацца вярнуцца і яшчэ раз сыграць канцэрт. Мне вельмі падабаецца Віцебск, бар «Чердачок». Там такая цудоўная атмасфера, як у «Графіці». Віцебская публіка проста цудоўная.

**А.М.** — *Музыканты часта заўважаюць, што ў такіх гарадах як Віцебск, Магілеў, іх вельмі добра прымаюць.*

**Д.Т.** — Так, так! Там ёсць своеасаблівая музычная культура. І людзі харошыя жывуць (*усміхаецца*).

**А.М.** — *Можаш узгадаць самую дзіўную рэч, якая здарылася за час існавання «РСП»?*

**Д.Т.** — Самы вялікі наш кур'ёз — гэта той факт, што мы дагэтуль існуем (*смяецца*).

**А.М.** — *Заўсёды было цікава, як нараджаюцца менавіта вашы тэксты? Як у галаве ўзнікаюць новыя ідэі?*

**Д.Т.** — Гэта немагчыма растлумачыць, усё само сабой атрымоўваецца. Вось уяві, што ў нашых галовах творыцца (смяецца). Чаго там толькі не намешана. Але абсалютна ўсё прыходзіць з жыцця, толькі з жыцця. Можна зачапіцца за адзін радок, за адну маленькую падзею, за што заўгодна. І ўсё! Песня гатовая!

**А.М.** — *Падчас стварэння кампазіцыі вы задумваецеся аб тым, ці спадабаецца яна слухачам, ці зразумеюць яе?*

**Д.Т.** — Так, мы задумваемся аб гэтым. На жаль, ёсць не толькі добрыя слухачы, якім усё падабаецца, але і такія, якім наша музыка недаспадобы. Ну што ж, свет шматпалярны. Мы, канешне, стараемся максімальна папсовыя і збітыя хады выкарыстоўваць у песнях, каб з першых акордаў зачапіла. У нас выключна матэматычны падыход да музыкі. Мы ўсё разлічваем на кампутары: якое слова ўставіць, якую нотку сыграць. Пад шаблончык усё.

**А.М.** — *Як тры песні на адну мелодыю?*

**Д.Т.** — Абсалютна так. Першы раз праэксперыментавалі — музыка закаціла. Вось і ўсё. А што яшчэ мяняць? Гэта ж не джаз табе.

**А.М.** — *Над чым вы на дадзены момант працуеце?*

**Д.Т.** — Над новым альбомам. Мы яго ўжо амаль запісалі. Працэс нялёгкі, расцягнуты ў часе, дарагі. Дзякуй Богу, матэрыял на гэты альбом ужо напрацаваны, прыдуманы. Апошнія тры гады мы яго апрабіруем на канцэртах. Публіцы падабаецца. Натуральна, як і ўсё новае, людзі насцярожана спачатку ўспрымаюць, потым пачынаюць ненавідзець. Ці, наадварот, любіць. Любяць у асноўным нашу музыку харошыя людзі, дзеці. Дзеці ж не могуць быць дрэннымі людзьмі. Для мяне гэта паказальнік.

**А.М.** — *Відавочна, усім прыйдзецца палюбіць новы альбом «РСП».*

**Д.Т.** — Абсалютна дакладна.

**А.М.** — *Ваша музыка істотна змянілася ў параўнанні з першым альбомам?*

**Д.Т.** — Мы стараемся пакрыху адыходзіць ад яго. Нам ужо ўпоперак горла гэты першы альбом! Калі мяне на канцэртах просяць сыграць «Палюбіла гапара», я ўжо, сціскаючы зубы, граю яе і пяю. Альбо проста паварочваю мікрафон у бок публікі і кажу: «Рэбята, пойте. А я вам проста сыграю». На самой справе, шмат адрозненняў можна знайсці. Магчыма гэта новае канцэптуальнае гучанне, іншая па настроі музыка, больш філасофская. Знаўцы зацэняць. Нас зусім не палохае, што мы будзем выступаць не для паўтары тысячы чалавек, а для тысячы трыста. А астатнія 200 чалавек... Гэта проста не іх.

**А.М.** — *Яны проста дрэнныя людзі...*

**Д.Т.** — Хутчэй за ўсё.

**А.М.** — *І напрыканцы, якую ўніверсальную параду ты даў бы нашым чытачам?*

**Д.Т.** — Любіце адзін аднаго. І беражыце сябе.



# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**

# 13, або Спроба аўтавівісекцыі...

***Кудласевіч А. Трынаццаць дзён: зборнік духоўнай прозы і паэзіі. Мінск: Галіяфы, 2014. 318 с.***

На Беларусі ў Анатоля Кудласевіча адна за адной выйшлі 2 кнігі — «Пераход» («Мастацкая літаратура», 2013) і разглядаемыя тут «13 дзён» («Галіяфы», 2014). Акрамя таго, адзначым два таўшчэзныя замежныя выданні гэтага Аўтара: двойчы выдадзеную рускамоўную раман-хроніку «Переписка с миллионерами» (Таронта, Канада, 2015, 418 с.; Саарбрукен, Германія, 2015, 500 с.), разлічаную хутчэй на масавага чытача, дынамічную ў развіцці сюжэта і прыцягальную для многіх лейтматывам узбагачэння, і зборнік вершаў і прозы «Тройчы адзіны» (Таронта, Канада, 2015, 333 с.).

«Беларускія» ж кнігі вельмі падобныя паміж сабой. І... вельмі розныя. Падобныя перш за ўсё па душэўнай узрушанасці многіх твораў, з якой яны напісаны. Розныя, бо ў першай з названых кніг Аўтар ужываўся ў душы герояў (яны — адчуваецца вельмі востра — мелі сваіх прататыпаў)[1], а творы другога выдання выплаўлены, за некаторым выключэннем, з асабістай душэўнай субстанцыі, у прынцыповым існаванні якой пісьменнік не толькі не сумняваецца, але і пераконвае чытачоў. Прычым А. Кудласевіч не саромеецца паралельна раскрываць сакрэты асабістай пісьменніцкай кухні (прынамсі ў «Трынаццаці днях з дзённіка Антона Кудлатага»), ледзь не тэхнічна паказваючы, якім чынам адбываецца творчы працэс, па-эксгібіцыяністку выварочваючы сваё душэўнае нутро. Такія свайго роду спробы аўтавівісекцыі. Возьмем пачатак:

«Я не ведаю, што гэта: аповед ці пераказ, споведзь ці пропаведзь, адкрыццё ці духоўны вопыт? Я нічога не выдумаў, а ўсё, што апісваецца, перажыў на самай справе. Не напісаць гэта я не мог, але пытанне: ці я пісаў? Дакладней, я проста запісваў — гэта мой выратавальны круг, кінуты вышэйшай Сілай, каб я змог выплысці да людзей.

Таго, хто сумняваецца, што гэта чысцюткая праўда, адсылаю да людзей, якія сутыкаліся са мной з 26 кастрычніка па 7 лістапада мінулага года, або да тых літаратараў, якія штодзённа запісваюць свае ўражанні і думкі. Колькі ні прымушаў сябе, не мог рэгулярна весці такія запісы, а толькі тады, калі нейкія Сілы абступаюць мяне з усіх бакоў сцяною і ў мяне застаецца вузенечкі віхлясты калідор, па якім я выбягаю да сябе нармальнага, — вось у такія часы я і хапаюся за «дзённік» і запісваю ўсё, што са мной адбываецца.

Наколькі гэта магчыма для чалавека, захаваў усё так, як было ў маіх абрывістых і ліхаманкавых запісах: штосьці згубілася, штосьці я парваў і выкінуў ці спаліў — яго ўжо ніколі не вернеш, як нельга павярнуць назад нават

[1] Гл. падрабязней: Трафімчык А. Пераход? Ракіроўка душ // Народная воля, 2014, 23 снеж.

імгненне нашага жыцця. Я захаваў усе словы, думкі (нават недарэчныя), якія прыйшлі ў «тым» стане, захаваў паслядоўнасць запісаў і храналогію датаў, калі гэта адбывалася. Адзінае, што прыўнёс ад сябе, — гэта архітэктоніка. Безумоўна, лепш было б надрукаваць так, як было ва ўрыўках, напісаных маёю рукою: на пачках цыгарэт, на старонках кніг, газет і часопісаў (што траплялася пад руку), нават на шпалерах і на далоні сваёй рукі, — але гэта немагчыма таму, што мой почырк магу чытаць толькі я і пішу іншы раз не толькі словамі, а і знакамі, «меткамі», вядомымі толькі мне «вузлякамі на памяць». Безумоўна, рукапісны варыянт лепей пераконваў бы ў тым, што я не ўмею хлусіць у такіх рэчах» (с. 3—4).

Прабачце за аб'ёмнасць цытаты, але лепей адзін раз убачыць напісанае Аўтарам, чым сто разоў перачытаць інтэпрэтацыю крытыка.

Галоўнай тэмай твораў А. Кудласевіча становіцца сэнс жыцця. Гэта — калі глянуць павярхоўна. Таму падаецца банальным. Насамрэч — не толькі, а часам і не столькі жыцця, але і смерці. Яна вісіць над чалавекам (memento mori!), падштурхоўваючы мыслячых жыць — годна, узважваючы кожны крок, кожнае слова. Паміраць збірайся, а жыта сей — у адрозненне ад лацінскага афарызма беларуская прымаўка больш важкая і больш ясная. На тое і нацыянальны характар культуры. А творы А. Кудласевіча вельмі добра, можна сказаць, паказальна ўпісваюцца ў матрыцу беларускага нацыянальнага Слова.

«На маю думку, гэтая рэч без пашкоджанняў будзе існаваць толькі ў беларускім літаратурным сусвеце, яе нельга перакласці на іншую мову, хаця б таму, што ў беларускай мове слова «Ісус» складаецца з чатырох літар, а ў рускай з пяці; што слова «вось» у роднай мове гэта і ўказальная часціца, і стрыжань, на якім штосьці круціцца, што «справа» — гэта значыць з правага боку і, калі сказаць па-руску, то гэта яшчэ і «дело» і г. д., што яшчэ раз пераконвае: беларус, паляк, (латыш, іспанец...) можа вытлумачыць і спазнаць сябе, спасцігнуць нейкія ісціны толькі той мовай, якую даў Бог, таму што перад тым Ён даў яму душу беларуса або іспанца, а ўжо потым ён пачаў вучыць СВАЮ мову як адэкватнае адлюстраванне беларускай ці іспанскай душы, замацаванае ў слове. Вывучаючы мову — спазнаеш сябе, а спазнаваць сябе праз іншую мову — тое ж самае, што калоць дровы хірургічным скальпелем. Мова не цацка, мова — Дух!» (с. 5).

Такое пацверджанне знаходзім у тых жа «Трынаццаці...», якія далі наймення ўсяму зборніку, як сказана ў анатацыі, духоўнаму. Але не толькі смерць «адухаўляе» прадстаўленыя ў кнізе творы. Побач з праблемаю часовасці чалавека, у цеснай сувязі з ёю Аўтар спрабуе вырашыць і пытанне пра ісціну — калі не абсалютную, дык хаця б практычна жыццёвую. А яна не даецца лёгка.

Герояў А. Кудласевіча, відавочна, не проста турбуюць — вярэдзяць! — розныя нюансы ў сувязі з галоўнымі, тут намі абгаворанымі аспектамі. Уздымаемая праблематыка не абыходзіць нікога. Асабліва яна выспельваецца ў чала-

веку на зары яго свядомага, самастойнага шляху, калі навальваюцца пытанні living рознага плана — ад бытавога ўзроўню да філасофскага. На іх патрэбна адказаць. Каб жыць, мінімізаваўшы той верад (цалкам яго ліквідаваць сапраўднаму homo sapiens'у наўрад ці магчыма). Вось і Аўтар адказвае. Прычым якраз у сваім раннім, яшчэ «дахрыстовым» узросце. Адказвае для сябе (калі фармулюе адказы), але і для іншых (калі публікацыяй апрылюднівае іх). Адказвае не фармальна — перад сваім сумленнем, смела гледзячы ў вочы людзям, баючыся Бога.

З азначанай прычыны кніга А. Кудласевіча будзе запатрабаванай у студэнцкім асяродку. Асабліва так званы дзённік. А калі ж ён трапіць да філолага, дык будзе яшчэ і добрым практыкумам у літаратурных фарматах, якія для Аўтара, такім чынам, сталі вынікам выкрышталізацыі-сублімацыі пошукаў. Бо тут — не толькі традыцыйная проза, але і графічныя творы рыхтык Сімяон Полацкі, як, напрыклад, на с. 28:

«— Што мы ведаем пра сябе і пра сусвет?... І для чаго? І як?..

Усё зразумела з самім сабою: вельмі проста тут, адзін на адзін; вельмі складана там, з людзьмі — дзе ісціна: тут? Там? Пасярэдзіне, паміж людзьмі і мною? Дзе? — ісцін не можа быць дзве. Мяне зноў уразіла трыадзінства ў пытаннях і ў адказах. Зноў трыадзінства Божае, якім прасякнута ўсё! Я вырашыў паказаць гэта графічна і сеў за машынку:

**Чаму вельмі проста тут адзін на адзін?**
**І чаму вельмі складана там?....**
**Дзе ж можа быць**
**І**
**С**
**Ц**
**І**
**Н**
**?А?**
**Ці тут? Ці там?**
**Ці яна пасярэдзіне?**
**І тут ісціна. І там яна. І пасярэдзіне».**

Увогуле калі чытаць з максімальнай сур'ёзнасцю «Трынаццаць дзён з дзённіка Антона Кудлатага» (а іначай хіба і немагчыма), трэба рыхтавацца да сумесных перажыванняў з героем. Аўтар здолеў стварыць адпаведны ўзровень сугестыі. Але чытанне таго варта. Таму што разам з носьбітам *раскудлачанай* жыццёвымі сумневамі і экзістэнцыйным неспакоем душы чытач мае выйсці ачышчаным: «...і таму перад тым, як пастаўлю кропку, кажу вам свой запавет, здабыты і зразуметы на краі бездані: бойцеся зачараваных кругоў і не ганяйцеся за Сатаною па чортавым коле, не рабіце яму клеткі і не намагайцеся смяяцца з яго, а то пасмяецца ён з вас, як пасмяяўся некалі з Гогаля, які спаліў вае рукапісы...» (с. 60).

Тая ж праблемная звязка прысутнічае ў апавяданні «Сустрэча з Ярасветам». На прыкладзе галоўнага героя, які, па ўсім відаць, перажыў нешта накшталт клінічнай смерці, чытач вучыцца не паўтараць чужых памылак. Канечне, як сведчыць бясконцае мноства падобных сітуацый, вучоба тая праходзіць дарэмна. Але нават кропелька чысціні, прыўнесеная ў гэты свет, — гэта каштоўны ўнёсак у перавагу шаляў святла над цемрай. Фабула наступная: маладому чалавеку, цела якога спала, паказалі яго жыццёвы шлях, мінулы і будучы — ад пачатку да канца, з усімі добрымі і прыкрымі ўчынкамі, а пасля прадаставілі выбар вяртацца або не — у сваё цела.

«— Я не хачу паміраць так нечакана! — запратэставаў чалавек. — Я хачу яшчэ жыць! Хачу прывычнага.

— А навошта? І дзеля чаго? Каб стаць яшчэ горшым, чым ты ёсць зараз? Ты ж бачыў, што будзе далей. І запомні: смерць заўсёды будзе нечаканасцю. І табе ўсё будзе мала і мала, і заўсёды будзеш прасіць адтэрміноўкі і не нажывешся ніколі, не надыхаешся... І чым болей будзеш жыць, тым цяжэй табе будзе, тым больш пачнеш загрузаць у пазыкі, якія трэба сплочваць... тым цяжэй табе будзе потым адарвацца ад свайго свету... і гэтага не мінеш. І зноў будзеш стаяць перада мною, перад выбарам далейшага, і зноў будзеш прасіцца. Трэба адважыцца! Адзін раз, пасля будзе лягчэй. Усё адно не пазбегнеш выбару: днём раней, днём пазней — але гэта нічога не зменіць, да гэтага прыйдзеш! Сёння ты малады, моцны, а пасля...» (с. 72).

Здавалася б герой скараецца перад гэтай жалезнай логікай — і вырашае сысці з жыцця ў той момант. Але — раптам успомніў: «Маці! А як жа маці? Яна не перажыве маю смерць!» (с. 73). Гэта становіцца паваротам да працягу існавання і згадаецца толькі напрыканцы зямнога шляху: «Чалавек успомніў сваё — і яму стала прыкра і балюча: як жа так? Ён забыўся на самае важнае і галоўнае — жыў, як давядзецца, не думаючы ні аб чым, а недзе там, у чорным космасе, яго ўжо даўно чакаюць» (с. 76). Моцная дыдактыка. Але ці ўспрымецца яна? Тут Аўтар сам даволі скептычны. Аднак і не без патаемнай надзеі — той, стральцоўскай, з «эпітафіі апавяданню», якое тым не менш працягвае ланцужок рэінкарнацый у іншых аўтараў: «О, вядома, не шмат логікі ў ім (у апавяданні. — А. Т.), але ж не шмат логікі і ў стратах, што прыносяць нам лета ці вясна, зіма ці восень. Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг».

Сюжэты твораў А. Кудласевіча нібыта выдуманыя. Прынамсі яны не могуць быць рэалістычнымі. Разам з тым ці ж мала невытлумачальнага рацыянальна ў жыцці кожнага з нас? Таму дапушчальна, што ў творцаў ступень ірацыяналізму па жыцці значна большая і яны могуць насамрэч перажываць некаторыя пераўвасабленні — калі не «за ўсе мільярды двухногіх» (У. Караткевіч), дык

хаця б за некаторых. Так, у апавяданні «Ад Крыжыка да крыжа» караткевічаўскай «бяздоннай трывогай» за чалавецтва пачынае жыць галоўны герой Віктар: «...і ў няшчасці, у горы, і ў смерці ўсякага чалавека кожны з нас вінаваты асабіста. Няма чужой бяды. Калі мы пад адным сонцам — няма! Усе зніталваны паміж сабой, як пупавінай, звязаны крэўнай і роднаснай сувяззю...» (с. 88). У той жа час развіццём падзей даказваецца, што клапаціцца варта перадусім пра сваіх родных, дакладней, менавіта з іх пачынаючы дарыць свету сваю любоў і па-караткевічаўску «распятае сэрца».

Да лепшых твораў разглядаемай кнігі А. Кудласевіча аднясём яшчэ два — «Вазоны» і «Жэзл Жалезны, або Глядзіце, такога не бывае!». Першае апавяданне — пра фрагмент будзённасці з пераменамі настрою героя, які прыходзіць да не новай, але пазітыўнай і патрэбнай кожнаму высновы: «Аказваецца, падораная аднойчы чалавеку радасць абавязкова вяртаецца назад. А мы так часта сумняваемся ў гэтым» (с. 97). Другое — «фантастычная навела з перасцерагаючай рэальнасцю» — «аб незвычайным феномене Пятровіча», які раптоўна адчуў здольнасць лятаць.

Можна лічыць гэты опус А. Кудласевіча пэўным літаратурна-мастацкім водгукам на аповед вядомага сучаснага пісьменніка Барыса Пятровіча «Неба пад нагамі і вакол». Канкрэтыку адказу, аднак, без дадатковых тлумачэнняў Аўтара нам хіба не спасцігнуць. У цэлым абодва творы розныя. Хоць іх і можна назваць сучаснай інтэрпрэтацыяй класічнага *«отчего люди не летают так, как птицы?»*: «Чаму Бог не даў чалавеку крылаў? Магчыма, адрываючыся ад зямлі, хоць зрэдку ён пераконваўся б у сваёй нікчэмнасці і мізэрнасці, убачыў бы, што свет, у якім жыве, — хісткі, кволы і нетрывалы, і ўсё ж такі, прыгожы! Да болю ў ваччу прыгожы! Глядзець і не наглядзецца. Няўжо гэтага мала? Усім хапіла б месца пад сонцам. Чаму ж людзі ніяк не прыйдуць да згоды і суладдзя хаця б паміж сабою, не гаворачы пра іншых жывых істот, што насяляюць зямлю. І трапляюцца вылюдкі, якія намагаюцца захапіць і сваё, і чужое месца — адсюль і ўсе беды, усе войны» (с. 113—114). Можна было б вырашыць, што А. Кудласевіч закладае нейкую іранічнасць у адрас творчасці калегі па пяры, але ж яшчэ ў «Трынаццаці...» аўтар дзённіка прызнаецца: «Уключыў святло. Зноў ухапіў «Крыніцу». Знайшоў «Планіду» Пятровіча... Чытаю... Тое ж самае... І ён ведае! У яго тое ж кола, з якога трэба вырвацца. Тыя ж праблемы: зачараванае кола, кругаварот жыцця, замкнуты ланцуг падзей і здарэнняў, кругавая парука людзей і дзеяў, парука ў хлусні і няшчырасці — словам, квадратура круга, і для таго, каб выжыць, трэба рашыць гэтую задачу. Я плакаў...» (с. 21). Таму пакінем аналіз Кудласевічавага кагнітыўнага дысанансу іншым, размясціўшы пры гэтым у сістэме ўмоўных пісьменніцкіх каардынат названых твоцаў дзесьці поруч.

Другая палова кнігі (як у сэнсе аб'ёму, так і колькасці твораў), шчыра кажучы, надала выданню літаратурна-мастацкай вартасці не шмат. Апавяданне «Здымай боцікі!» яшчэ-такі можна прыняць і пахваліць Аўтара за ўдалае, ар-

ганічнае сумяшчэнне камізму і драматызму ў разыгранай па ролях сітуацыі драматурга Ягорава і рэжысёра Зубчыка. Апошні лічыць: «Творчасць — гэта гульня! Чалавек па натуры сваёй гулец. Спачатку ён гуляецца з соскаю, потым з цацкамі, затым у футбол гуляе, валейбол... Хто на што майстар. Адзін гуляецца шахматамі, а другі — жанчынамі. А твае пісьменнікі проста гуляюць у літаратуру. Ёсць такая гульня па сваіх правілах» (с. 137). З ім не пагаджаецца служачы Слова і даказвае на практыцы, як так званая гульня становіцца жыццём.

Аднак «раман у жанры палітычнага памфлета» «Халасты», які разгортвае сюжэт яшчэ адной амерыканскай трагедыі, хоць і мае «правільную» мараль, але больш нагадвае «мыльную оперу», дзе кіпяць, фантаніруюць пачуцці ад кахання да нянавісці з дамешкам крымінальнага чытва.

Больш прываблівае «сучасная містэрыя» «Сонкус», у якой дзейнічаюць (на беларускай зямлі!) побач з людзьмі нашай з вамі рэчаіснасці (некаторыя персанажы — напрыклад, адзін палітык — маюць рэальных, лёгка ўгадваемых прататыпаў) і асобы з далёкага мінулага (Кірыла Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая), і архангелы. Завязкай твора становіцца з'яўленне на небе (толькі над Беларуссю ўзору 1995 года) двух сонцаў. Улада прадпрымае меры, каб сітуацыя ў сувязі з гэтым не выйшла з-пад кантролю, і ўвогуле асэнсоўвае, што рабіць пры такіх акалічнасцях. Даходзіць да ўвядзення «прагрэсіўнага падатка на дабаўленае сонца» (с. 286).

Неабходна высока ацаніць характарастварэнне ў «Сонкусе», пачынаючы з рэпрэзентацыі персанажаў. Праводзіцца іх своеасаблівая, але вельмі сімвалічна-характарыстычная градацыя па адзенні — ад «залатога аблачэння» архангелаў да чорных і чорна-шэрых строяў міністраў і кіраўніка дзяржавы. Паэт, напрыклад, апрануты ў «сярэбрана-белае, з залатымі крапінкамі і чорна-шэрымі лапікамі» (с. 241). Адпаведна выпісаны і дзеянні ды выказванні асоб (Кірыла Тураўскі і Еўфрасіння Полацкая гавораць вершавана рытмізаванаю моваю). Атрымаліся, як адмыслова паводле энцыклапедыі, вобразы людзей, акрэсленыя з вядомай паўнатой і індывідуальнай вызначанасцю, праз якія раскрываюцца як гістарычна абумоўлены тып паводзінаў (учынкі, думкі, перажыванні, мова), так і характэрная для аўтара маральна-этычная канцэпцыя чалавечага існавання[2].

У п'есе ўздымаюцца праблемы сацыяльна-палітычнага характару. Яны, дарэчы, за 20 гадоў з часу напісання твора аніяк не прытупіліся. На вялікі жаль для Беларусі і яе народа. Таму сутнасна містэрыя набывае выразныя рысы сатыры і трагіфарсу.

Завяршаецца дзейства судом:

ТУРАЎСКІ. Каму больш дадзена, з таго і запыт большы, хто быў апошнім — стане першым.

---

[2] Литературный энциклопедический словарь / под общ. ред. В.И. Кожевникова, П.А. Николаева. М.: Совет. энцикл., 1987. С. 481.

ПОЛАЦКАЯ. Каб розную і ўсякую на свеце спраўдзіць праўду.

ПАЭТ. Яшчэ дадам. Да прэзідэнта, помню, не дастояцца ў чарзе, няхай сягоння пачакае.

ТУРАЎСКІ. Пачнём? Хто першы? А ты куды? Назад! Ты сёння, прэзідэнт, адным з апошніх будзеш, каб зведалі нарэшце людзі, што й прэзідэнтаў судзяць. (с. 299)

Трэба прызнаць, аднак, што тэхнічна не ўсё ўдалося Аўтару, які ці не ўпершыню выступае драматургам. У разгортванні дзейства назіраецца пэўная разбэрсанасць. Адчуваецца, што рэалізацыя зместу ўзяла верх над формай. Магчыма, нехта знойдзе і перабор у фарбах. Зрэшты, гэта справа густу, у тым ліку патэнцыяльнага рэжысёра, бо штука яўна просіцца на сцэну.

У «Трыпціху «Снегавікоў»» і «Вертыкаліях» А. Кудласевіч даў волю свайму памкненню да авангардных форм, якія часам пракідваліся ў яго іншых творах. Нягледзячы на прэваліраванне гэтым разам формы над зместам, апошні яўна не надуманы, абумоўлены пераажытым самім Аўтарам. Аднак гэтыя творы саступаюць у мастацкім плане класічнаму фармату прозы пісьменніка.

Напрыканцы для больш зразумелага тлумачэння назвы нашай рэцэнзіі заўважым, што жыццё А. Кудласевіча суправаджае лічба «13». Ён пры гэтым не лічыць яе энергетыку негатыўнай. Наадварот. Думаецца, уяўная ці не, але магічнасць гэтай лічбы сапраўды ўплывае на мастацкія тэксты творцы, у тым ліку разгледжанай кнігі. Лепшыя апавяданні маюць невытлумачальную сілу прыцягнення, прычыны якой не паддаюцца асэнсаванню, літаратуразнаўчаму аналізу. Менавіта такая метафізіка і павінна быць у мастацкіх тэкстах. Гэта тое, што называюць душой. Яе надзіва шырока, экстравертна і адкрывае А. Кудласевіч у прадстаўленым выданні.



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## Культурны абмен in rock

***Николай Арутюнов & «The Blues Barbarians» — «Live in Minsk», М., 2014, «DVD-Club».***

Рок-музыку часам залучаюць у сферы далёкія ад нацыянальных культур, але ў эпоху лакалізацыі рынкаў сучаснага маскульта не толькі выявіліся адметнасці пэўных нацыянальных школ рока, але й больш дэмакратычна пайшло ўзаемаўзбагачэнне і ўзаемапранікненне розных плыняў. Мой даўні сябра й калега музыказнаўчай стыхіі Анатоль Мяльгуй пісаў неяк: «Вядома, што беларуская гітарная школа — адна з найпрагрэсіўнейшых на ўсёй постсавецкай прасторы. Такія майстры электрычнай гітары як Лявон Вярэніч, Янка Маркаў, Уладзімір Угольнік, Уладзімір Ткачэнка, Вячка Корань былі сярод тых ейных заснавальнікаў, што стваралі традыцыі, якія радуюць слухачоў і выдатнымі выканаўчымі магчымасцямі, і мноствам таленавітых паслядоўнікаў» (часопіс «Смотри и слушай» №1, сакавік, 2003). Выступіць з такімі кітамі на адной сцэне за гонар лічылі многія больш раскручаныя зоркі шоўбізу. Падчас фестывалю «Блюз жыве ў Мінску'2000» лідар маскоўскага гурта «Лига блюза» спявак Мікалай Аруцюнаў упершыню ўзяў удзел у джэм-сэйшне з беларускімі музыкамі, а з цягам часу гэты джэм (супольнае гранне) спарадзіў сталы склад гурта, які атрымаў назву «The Blues Barbarians». Гэта не «Лига блюза», не «Крама», не «Ulis», а ўсе разам. Іхні жывы альбом, дзе беларусы спяваюць па-руску, расіяне па-беларуску, а разам і па-англійску (то дуэтам, то сола) склалі лепшыя канцэртовыя запісы перыяду 2006-2012 гадоў. Ён выдадзены маскоўскай фірмай «DVD-Club» (хоць не пра DVD гаворка) пры садзейнічанні айчыннай грамадскай кампаніі «Будзьма».

Ну дык адразу пра склад: асноўныя вакалісты Мікалай Аруцюнаў ды Ігар Варашкевіч, гітарысты таксама два — аксакал беларускага блюзу і нават герой класічных блюзавых стандартаў Лявон Вярэніч (прыгадайце песню «Сябра мой Вярэніч Лёнік») і ягоны паслядоўнік ды сам ужо прызнаны майстар гітары Сяржук Трухановіч («Крама», «Палац»). На бас-гітары, клавішных і бубнах граюць звыклыя нам «крамчукі» Андрэй Лявончык, Андрэй Філатаў і Аляксандр Ванькевіч, а часам далучаецца й бубнар легендарнага «Ulis'а» Кірыла Шэвандо ды знакаміты студыйны клавішнік Кастусь Гарачы.

Выдавецкая цяганіна з гэтай кружэлкай маркоцілася так доўга, што не кожны ўдзельнік запісу ўжо й напоўніцу парадуецца гэтаму стылёва аздобленаму дыгіпаку: прэса неяк абмінула ўвагай, што легендарны Лявон Вярэніч страціў роднага брата Анатоля, які памёр, ледзь дажыўшы да пенсіі. Сэрца, апынулася, не каменнае... Добра хоць маэстра яшчэ жывы, а то ж, як няслушна спявалася ў папулярнай ненароднай песні, «маладым не ўсюды ў нас дарога,

а старых чакае ўжо труна». Бо гэта рок-н-рол, і ягоныя куміры, нягледзячы на талент, не становяцца тут народнымі артыстамі, ім не наканаваны ніякія дзяржпрэміі, затое вечна «чорныя спісы» й «белыя плямы» тэлерадыёэфіру. Што ж яны спяваюць такога страшкога?




Так ненавісны ў колісь нерытмічнай краіне рок доўгі час быў выключна аўтарскім жанрам творчасці, не падзяляючы выканаўчае й кампазітарскае амплуа, як у традыцыйнай эстрадзе, але ўжо да сямідзясятых гадоў практыка пераасэнсаванняў апанавала й рокам, стварыўшы адмысловы жанр кавэр (cover), дзе чыйсьці вядомы твор мог гучаць зусім па-новаму. Калі ў 1990-х з'явіўся нават адмысловы выдавецкі фармат трыб'ютаў, дык і беларускія рок-музыкі ўжо гатовыя былі пастаўляць свае версіі ў міжнародныя трыб'юты («Troitsa» ў «Deep Purple», «Vir» у «Blind Guardian» і г.д.). А на канцэртах такая практыка дазваляла віртуозна сыграцца нават колісь незнаёмым музыкам, што заглыбляліся ў апантаны джэм-сэйшн. Дык вось і створаны праз супольны джэм-сэйшн міжнародны гурт «The Blues Barbarians» (ніякіх зняваг, проста назву дала абрэвіятура з прозвішчаў двух блюзавых вакалістаў Вар-Ар) многія гады цешыў аматараў блюза й блюз-рока сваім пераасэнсаваннем сусветнай рок-класікі.

«Rock Me Baby» (B.B.King), «Thrill Is Gone» (R.Hawkins — R.Darnell), «Suzie Q» (D.Hawkins — S.Lewis — E.Broadwater) «Cocaine» (J.J.Cale), «Sweet Home Alabama» (E.King — G.Rossington — R.Van Zant), «Simple Man» (G.Rossington — R.Van Zant), «Riders On The Storm» (J.Morisson — R.Manzarek — R.Krieger — J.Densmore), «Sympathy For The Devil» (M.Jagger — K.Richards), «It's Only Rock&Roll» (M.Jagger — K.Richards) — хто толькі не выконваў гэта па ўсім свеце! Бо гэта ж сапраўдныя стандарты, створаныя легендарнымі «Lynyrd Skynyrd», «The Doors», «The Rolling Stones», аксакаламі Бі Бі Кінгам, Робертам Лероем Джонсанам і Джэй Джэй Кэйлам, іншымі пачынальнікамі-рэвалюцыянерамі электрычных гукаў, на гэтым вучыліся ўсе авалодваць азамі новай тады музычнай плыні. А як новае асэнсаванне вяртае саму атмасферу незабыўных часоў музычнай рэвалюцыі, калі здавалася, што музыка дасягнула дасканаласці й застанецца такой назаўсёды!

Каментатар маскоўскага сайта «MuseCube» Андрэй Ардальёнаў пісаў у траўні 2013-га: «Адкрывае альбом кампазіцыя «Выпі са мной да дна», якая разам з «Падае дождж» — найбольшая нечаканасць кружэлкі. Гэта блюз-

рок на беларускай мове. Першую спявае Аруцюнаў, другую — Варашкевіч. Каб не было апошняга альбома «Крамы», на якім колькі гадоў таму ўжо была выпушчана песня па-беларуску ў выкананні Мікалая Аруцюнава, быў бы ўвогуле гром сярод яснага неба. І, тым не менш, гэта выдатная дэманстрацыя таго, што блюз-рокавая стылістыка здольная ўвабраць і ператварыць, давёўшы да кандыцыі, і рускую, і беларускую мовы. А яшчэ дуэт Аруцюнаў—Варашкевіч выконвае кавэр «Ночной пловец» — з рэпертуара ранняй «Лиги блюза», фактычна дагістарычнай, чым і каштоўнае ягонае з'яўленне на «Live in Minsk». Твор, нібы дыназаўр ці мастадонт, узнік з пылу часоў. Гэта істотны крок у мінулае, позірк, які дазволіў азірнуцца й тут жа вярнуцца ў цяперашні час».

Ну вось такі погляд на нас збоку: Мікалай Аруцюнаў бездакорна выканаў па-беларуску класічны твор беларускага блюза «Выпі са мной да дна» з альбома «Хворы на рок-н-рол» (1991-1993) гурта «Крама», а кшталту нацыянальна незгаворлівы Ігар Варашкевіч выдаў па-руску «Ночной пловец» з рэпертуара «Лиги блюза» (1992). Таксама без акцэнту:

*Он верит, что теченье быстро и дно глубоко,*
*Но даже дети переходят ту реку легко.*
*С факелом в руке ночью — он пророк,*
*И зовёт он всех в чистый поток.*

Гэта й называецца культурны абмен, а не татальна аднабокія шлак-фарматы нашых FM-радыёстанцыяў. Ну а «Падае дождж» Варашкевіча з бэкамі Аруцюнава — гэта ўвогуле ўсім стандартам стандарт. Толькі выдаўцы памылкова прыпісалі аўтарства тэксту традыцыйнаму «крамаўскаму» тэкставіку Змітру Лукашуку, а якраз гэты твор пісала Наста Гулак (зірніце ў рэквізіты «Хавайся ў бульбу» — лепшага альбома «Рок-Каранацыі'2001»).

Варта адзначыць і густоўную мастацкую аздобу кружэлкі, якую зрабілі Дзяніс Шарамецьеў з Ігарам Куставым. А дадатковым прыемным момантам, які нагадвае яшчэ адзін міжнародны праект «Крамы» (брытанскі альбом «Гарэлка на лёдзе», 1993), сталі сяброўскія шаржы самога Ігара Варашкевіча на бачынах дыгіпаку, а ў гэтым ён сапраўдны майстар, як і ў рок-н-роле.

## Пра што пяюць вайскоўцы?

***Сяргей Макей «Айчыны нашай сцяг» (ваенна-патрыятычная лірыка), Мн., 2013, «БМАgroup»/»Vigma».***

Вось жа дзіўная рэч: шмат што раз'ядноўвае людзей (кан'юнктура, густы, палітычныя погляды), але ўсё гэта нішто перад найвялікшай уз'яднаўчай сілай — пачуццём патрыятызму, пра якое яшчэ вялікі першадрукар Францішак Скарына пісаў: «Також і людзі, дзе ўскормлены суць по бозе, к тому месту вялікую ласку імають».

Акурат жа незалежна ад сваіх поглядаў або прафесійнае прыналежнасці вызначальным стымулам гераічнага чыну з'яўляецца пачуццё патрыятызму. Асабліва ў вайсковай прафесіі. Палкоўнік беларускай арміі Сяргей Макей акрамя важкіх прафесійных якасцей (мужнасць, трываласць, вернасць слову свайму) атрымаў у дар і боскія таленты да спеваў, напісання музыкі, вершаў. І нарадзіліся ў ягонай творчай душы добрыя, светлыя, палымяныя песні ваенна-патрыятычнай лірыкі. Канцэптуальны музычны альбом «Айчыны нашай сцяг» выдалі вядомыя беларускія фірмы «Vigma» і «БМAgroup».

Паўнафарматная калекцыя ваенна-патрыятычнай лірыкі, трэба сказаць, зусім не абавязкова будзе аднастайнай ці зацыкленай на нейкіх выключна маршавых або чыста шыхтавых музычных тэмах і настроях. Прынамсі ў альбоме, створаным палкоўнікам Сяргеем Макеем, ёсць і так званыя love songs «Яначка», і жартоўныя песні «Ой ты, каша», і чуллівы зварот да каранёў сваіх «Чакай мяне, матуля», «Горад мой Валожын», «Наша мова». Знайшлося месца і танцавальным рытмам.




Усю музыку на гэтай кружэлцы Сяргей Макей напісаў сам, скарыстоўваючы часам і пазнавальныя цытаты з савецкай кампазітарскай класікі, а вось у песеннай паэзіі яму часам дапамагала зямлячка з Валожыншчыны Ніна Захарэвіч «Адслужу Беларусі», «Армейскі вальс», а нярэдка аўтар звяртаецца і да знакамітых паэтаў старэйшага пакалення, класікаў («Наша мова» на вершы Алеся Ставера, «Яначка» на вершы Алеся Пісарыка). І гэта пры тым, што трапнымі ўласнымі рыфмамі Бог яўна не пакрыўдзіў палкоўніка Макея:

*Хто казаў: афіцэры*
*Толькі робяць кар'еру? —*
*Службу сам не адведаў, не стаяў у страю.*
*І бясконцыя ночы,*
*І бяссонныя вочы —*
*Ўсё аддаць мы гатовы за Радзіму сваю.*

Працытаваная тут песня «Афіцэры» трапіла ў альбом двойчы — з уласнай музыкай аўтара і ў аранжыроўцы паводле стылістыкі Алега Газманава.

Да такіх запазычанняў можа быць featureзнае стаўленне, але факт: стварэнне новай традыцыі беларускай ваенна-патрыятычнай лірыкі не можа грунтавацца на поўным руйнаванні папярэдняга досведу, бо акурат пераасэнсаванне

звыклага выглядае тут выразна больш канструктыўным. Таму нядзіўна ў новым кантэксце маршавых песень пазнаваць традыцыйныя мелодыі «У солдата выходной» з спадчыны ВІА «Пламя» (музыка Уладзіміра Шаінскага, тэкст Міхаіла Таніча), «Товарищ старшина» з рэпертуару Дынара Абракава (музыка Эдуарда Калманоўскага, тэкст усё таго ж Міхаіла Таніча) і г.д. Нездарма ж і сёння ў інтэрнэце можна адшукаць такія каментары да гэтых песень: «Utp (26.10.2012 у 19:32): Мая родная песня! Яшчэ ў войску маршыравалі пад яе»; «DeMancheg (10.01.2013 у 18:23): Афігенны твор... Проста сябе прыгадаў у 2001 годзе, калі дадому вяртаўся па парадзе... Аж сляза нагарнулася!!!». А дадатковым сведчаннем шчырасці гэтых выказванняў з'яўляецца і стабільная папулярнасць гастрольных выступаў у Беларусі сучаснага гурта Міхаіла Таніча «Лесоповал».

Дый не адзіная гэта крыніца натхнення Сяргея Макея. Лідар папулярнейшага беларускага медыевальнага гурта «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі, які засведчыў і супольную творчасць, і жыццёвыя ды вайсковыя агульныя сцяжыны сваіх музыкаў і палкоўніка Макея, піша ў сваёй прадмове да альбома «Айчыны нашай сцяг»: «Традыцыя паэтаў-рыцараў на нашых землях пачынаецца з XVI ст. Усе яны былі адданымі патрыётамі свайго краю: Мацей Стрыйкоўскі («рыскун»-разведчык віцебскага гарнізона на чале Аляксандра Гваньіні), Андрэй Рымша (рыцар асобнага атрада гетмана Мікалая Радзівіла «Перуна»), Васіль Цяпінскі (малодшы афіцэр коннай роты аршанскага старосты Ф. Кміты-Чарнабыльскага). Традыцыя паэтаў-рыцараў працягвалася праз усю гісторыю і дайшла да нашых дзён. І вось лёс падараваў мне знаёмства з сучаным паэтам-рыцарам — выдатным чалавекам, шчырым патрыётам, улюбёным ва ўсё беларускае і роднае, таленавітым спеваком, апантаным паэтам і кампазітарам, прафесійным вайскоўцам, які ўсё жыццё аддаў абароне нашай Беларусі. Гэта палкоўнік Сяргей Макей».

Большасць песень гэтай кружэлкі аўтар спявае сам, але ён і ў творчасці не самотны, бо дапамагае яму і гурт «Гвардзейскі голас», і творча адораныя спеўнымі талентамі саслужбоўцы — Васіль Дзем'яновіч, Павел Скрыцкі. Яны таксама нашчадкі рыцарскіх традыцыяў беларускай песні.

Падкрэсліваючы такую пераемнасць традыцыяў рыцарскай песні, выдаўцы дадалі ў праграму альбома і некалькі бонусаў — гістарычныя ваярскія балады беларускага сярэднявечча ад гурта «Стары Ольса»: «Рыцар Байда», «Ліцвін», «Багародзіца».

Яшчэ адным дадаткам — відэабонусам — стаў кліп адной з альбомных песень «Армейская сям'я», базаваны на відэаматэрыялах з жыцця 120-й гвардзейскай Рагачоўскай брыгады, мантажом якога займаўся той жа Зміцер Сасноўскі, прафесійны музыка і рэжысёр. Такім чынам, з выдання атрымаўся цудоўны набытак для армейскага клуба на ўсялякі адмысловы выпадак: дзеля танцаў, дзеля развучвання беларускіх маршавых песень, дзеля культурнага адпачынку.

## «N.R.M.» — новае, як зусім яшчэ незабытае

***«N.R.M.» — «Д.П.Б.Ч.», Мн., 2013, «Global CD» etc.***

Гурт «N.R.M.», як і ягоны першавыток «Мроя», сталі настолькі культавымі персанажамі белшоўбіза 80-х, 90-х, 00-х, 10-х, што гутаркі пра іх не сціхаюць нават у часіны глыбокіх крызісаў, калі амаль цалкам спыняецца творчы працэс. Гісторыя «найбольш плённага беларускага рок-праекта» сапраўды пачалася ажно напачатку 1980-х, калі Лявон Вольскі, Уладзя Давыдоўскі, Алег Дземідовіч, Юрась Ляўкоў урэчаіснілі сваю запаветную «Мрою» — першы беларускамоўны рок-гурт у Беларусі (калі нехта будзе называць іншых першынцаў, папрасіце іх паказаць жывыя сведчанні, як у «Мроі» — уласны LP-альбом на фірме «Мелодия», удзел у вінілавых складанках там жа, паўнавартасныя «Greatest Hits» на касетах таго часу, архіўныя кампакты, плакаты, відэа...) З адыходам Давыдоўскага ў сціплы камерны музпраект «Вялікае Княства» і маштабны літаратурны бізнэс (дэтэктывы Влада Давыдова — гэта ён), гурт з новым гітарыстам Пітам Паўлавым трансфармуе назву ў «N.R.M.» («Незалежная Рэспубліка Мроя») і адраджае імклівы творчы працэс, дзе і ўласныя кружэлкі, і каронныя супольныя альбомы з іншымі топ-калегамі сцэны. Паралельна ўдзельнікі калектыва ініцыююць г.зв. дачэрнія праекты (панкаўскі «Zet» і рока-попсавая «Крамбамбуля» Вольскага, фолькавы «Pete Paff» і хардкоравыя «Garadzkija» Паўлава...) Здаецца, нішто не прадказвала бяды, але... часу на «N.R.M.» у Вольскага бракуе. Калегі прагнуць маштабных рок-канцэртаў, да якіх звыкліся, а Вольскі выпускае бардаўскія альбомы, супрацоўнічае з каралямі дзярж-попса. У адзін цудоўны момант музыкі йдуць на крок без «блуднага сына» (ці бацькі). Гэта толькі падвышае рэйтынг пагалосак пра «N.R.M.» у мас-медыя. І гурт падтрымаў іх чаканым альбомам «Д.П.Б.Ч.».

Рэйтынг брэнда засведчаны самой мастацкай аздобай: вонкавы выгляд зграбнага дыгіпака ўвасабляў знакаміты мастак-авангардыст Уладзімір Цэслер. І ў рукі прыемна ўзяць, і захоплена ўсклікнуць: — «Канцэптуальна!!!» Але...

На вокладцы і склад музыкаў (цяпер трыа, гэткі беларускі «Rush»: Піт Паўлаў — вакал, гітара; Алег Дземідовіч, які чамусьці стаў Алесем — бубны, вакал; Юрась Ляўкоў — бас-гітара, вакал), адмыслоўцы гукарэжысуры (Алег Даманчук, Піт і Сяргей Паўлавы — не родзічы), адмыслоўцы дызайну (Цэслер, Аляксандр Кобзараў, Андрэй Шчукін), але пра аўтараў музыкі і тэкстаў — ані слова. І хоць тэксты не такія выразныя, як у Вольскага, але й не пустапарожнія:

*Калі сцены сціскаюць пусты пакой*
*І тэлеэкран паралізуе волю,*
*За гарамі, за пушчай, за сінім полем*
*Я прымрою сабе краіну Мрою.*

Меламаны памятаюць, што раней аўтарамі тэкстаў праекта акрамя Вольскага былі й Давыдоўскі, і Дземідовіч, але механічна пралічыць імя не выпадае, бо і Піт нешта папісваў у «Garadzkich». І спісаць усё на ўсіх няправільна. Перасцярогі ў сеціве, што новы «N.R.M.» надта нагадвае «Garadzkija», усё ж не слушныя, бо выніковы прадукт выявіў плён пошукаў: і дзяўчынак на вакал падбіралі, і самі трэніраваліся па-рознаму. Прынамсі хардкорам тут ані пахне. Дый ад гранджу амаль ні следу. Скарыстаюся ўражаннямі дачкі, якая неяк вярнулася з Магілёва пасля канцэрта «Akute», кажучы: «У N.R.M., які выступаў там, зусім новы саўнд, так упісваецца ў сучасную плынь! Амаль не падобны на слуханае ў 90-х».

І што ж кепскага, што «N.R.M.» зноў новы модны брэнд? Каб на дыску не было ніякіх імёнаў, спажывец бы наўрад ігнараваў у краме навінку, бо прафесіяналізм так і прэ, тэмы не фармальныя — жывыя, актуальныя, манера выканання сягае да набыткаў найбольш папулярнай цяпер пост-поп-панк плыні. А сумуеш па сацыяльна-палітычнай вастрыні былой публіцыстыкі гурта, дык і тут нешта такое знойдзеш:




*Прывітанне, дружа!*
*Як справы? Каму служыш?*
*А ў нас усё па-ранейшаму:*
*адкладаюцца на потым*
*Мэты, мары, спадзяванні.*
*Прывітанне, прывітанне,..*
*да пабачэння,*
*У кожнага ёсць сваё прызначэнне.*
*Да пабачэння, светлая мроя майго пакалення.*

Гэта загалоўная песня альбому, хоць мала каму зразумела, паводле якіх алюзіяў беларускае «да пабачэння» зашыфравана ў не надта выразную форму «Д.П.Б.Ч.»? Але сучасны слэнг і больш стромую эквілібрыстыку дапускае, таму адкінем дакоры. Лепш пагаварыць пра музыку новага «N.R.M.».

Найперш кідаецца на слых светлы настрой здаровага песімізму. Парадокс? Але «N.R.M.» заўсёды быў такім. Гэта прафесіяналы, якія граць навучыліся ў любым стылі, маюць што сказаць людзям.

Памятаеце шумную раскрутку песні «Прамень», калі музыкі па ўсёй Еўропе бегалі ў сонечных камбінезоніках ды нават арэндавалі сонечны самалёт? Вось і тут на вокладцы — каналізацыйны люк Цэслера, які вядзе да неба, ззяе золатам сонечных фарбаў. Дый што казаць — сам дыск, выраблены лепшым постсавецкім заводам кампакт-дыскаў «UEP» на Урале, ззяе не срэбрам металічнага пакрыцця, а золатам. Канцэпцыя датрымана на ўсё 100%.

Мне, сапраўднаму калекцыянеру розных музычна-выдавецкіх рарытэтаў, асабліва прыемна параўноўваць з іншымі падобнымі залатымі асобнікамі: Johann Sebastian Bach «4 Concerto per violini» нямецкай вытворчасці «Point Productions», Ignacy Jan Paderewski «Polonia» symphony in B-minor ад польскіх выдаўцоў «S1» і вось цяпер наш «N.R.M.» — «Д.П.Б.Ч.» ад вядомых раней выдаўцоў беларускай класікі «Global CD». Напрошваецца выснова, што золата — яно ўсюды золата, хоць і ў кожнага сваё: для палякаў — польскае, для немцаў — нямецкае, для беларусаў — беларускае.

Гэты альбом «N.R.M.» можна назваць посткрызісным, бо ў ім адчуваецца адначасовы клопат не паўтарыць пройдзены шлях, але й не адарвацца ад яго. Ну вось хоць бы працытаваная песня «Мроя мая» — нібыта музыкі паўсталі перад праблемай асэнсаваць зробленае раней, зразумець сутнасць. Але ніякага вяртання да былой стылістыкі «Мроі». А стартавая пазіцыя песні стварае вабны стымул для неафітаў рок-калекцыянавання. Рэальна ўдарны хіт!

Яшчэ адна алюзія ў песні «На далоні». Фаны гурта «Garadzkija» памятаюць такі загаловак на фінале дэбютнага альбома калектыва (2003). І гэта той самы твор, які акурат у альбоме «Garadzkich» быў стылістычна чужым, а тут упісаўся гарманічна, дый настрой у версіях не аднолькавы, істотна дапрацаваны тэкст.

Знаёмы загаловак «Хрусць і папалам» адсылае ўспаміны да каронных «Трох чарапах» (2000), але да чарговага самакаверу не даходзіць: была пад гэтай назвай кароткая інтрадукцыя між трэкамі, а тут тэма кардынальна распрацавана ў песні:

*Трымаліся за рукі, адно аднаму глядзелі ў вочы,*
*Скакалі праз вогнішча, падганялі аблокі.*
*Мы ўжо амаль былі ТАМ,*
*Але лёс склаўся так, што хрусць... і папалам.*

Песня цяжкавацістая, але пазітыўная (калі не лічыць злобных асабістых нападак на былых сяброў: «Сістэмны крызіс, сярэдні ўзрост —/Адно да аднога лягло дакладна: /Чыстая-светлая з іншым лягла, /А ці ты не ведаў? Сядай, выдатна!»). Гэткі поп-гранджык з традыцыйнай для «N.R.M.» процьмай цытат сусветнай рок-класікі. І чапляе ж!!! Дый такая прастора для аматараў розных гітарных фішак. Такі й агульны настрой альбома.

Новыя загалоўкі — новыя адкрыцці («Ты маўчыш — я маўчу» стала ледзь не гімнам выміраючага FM-радыё; «Нектар», дзе «я пяю пра тое, што не разумею і не люблю», «на кожны выпадак адзіны рацэпт: мажорны прыпеў, мінорны куплет»). Толькі не спяшайцеся вінаваціць артыстаў у нечым, а лепш задумайцеся над цвярозым асэнсаваннем рэчаіснасці. Гэта ж наш агульны стыль жыцця, калі прагнучы салодкага смаку, мы нават недапалак не данясем да сметніцы, пад ногі кідаючы.

Ну а фолькавую «Кузнічку» ўжо ўсе ведаюць, бо з ёй «N.R.M.» спрабаваў прабіць беларускія кардоны «Еўрабачання» — пашумеў, але подзвіг Матроса-

ва паўтарыць не ўдалося: дзот дзяржпопса не захлынуўся, прадэманстраваўшы каменную глыбу насупраць беларускай культуры.

Не менш знакаміты праз адмысловую раскрутку і «Прамень», напачатку якога, да таго ж, гартаваныя бітламаны пазнаюць і цытату сваіх куміраў у тэму («Here Comes the Sun» — песня Джорджа Харысана з бітлоўскага альбома «Abbey Road», 1969). Ох, як яна ў гранджы!!! Толькі варта б і кліп «Прамень» уключыць у гэты не надта доўгі альбом (30 хв.). Праўда, кароткі ён не ад нястачы матэрыялу, а ад фарматаў выдання: не толькі CD, але і модны цяпер вінілавы LP, зроблены ў Галандыі.

Калі вам скажуць, што «N.R.M.» страціў канцэптуальнасць з адыходам Вольскага, дык не верце: вось вам альбом страчанага пакалення, якое чакае сонца, не губляючы аптымізму.

